УДК 811.161.3’373.21(476.5)
ББК 81.2(4Беи)-3
П69

Рэцэнзент
*кандыдат гістарычных навук* К. А. Цвірка

Аўтар выказвае падзяку
дактаранту Інстытута літоўскай мовы, выкладчыку Віленскага педагагічнага ўніверсітэта **Алесю Адамковічу** за парады пры падрыхтоўцы матэрыялаў;
супрацоўніцы бібліятэкі ў горадзе Рокішкіс **Надзеі Івановай**
за кансультацыі па літоўскіх назвах.

**Пракаповіч, І.**
**П69** Назвы нашых мясцін / Ігар Пракаповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 192 с.
ISBN 978-985-7057-48-1.

У новай кнізе пісьменніка і краязнаўцы Ігара Пракаповіча тлумачыцца паходжанне і сэнс назваў рэк, азёр і населеных пунктаў Пастаўскага раёна (каля 700 назваў), а таксама назваў вуліц г. Паставы. Падаецца іх класіфікацыя, размеркаванне па групах і тэрыторыі, прапануюцца слоўнікі: гідранімічны, айканімічны, урбанімічны.

Кніга будзе карыснай усім, хто цікавіцца тапанімікай і гісторыяй роднага краю.

**УДК 811.161.3’373.21(476.5)**
**ББК 81.2(4Беи)-3**

**ISBN 978-985-7057-48-1**

# ПРАДМОВА

У мовах розных народаў значную частку лексікі ўтвараюць назвы геаграфічных аб'ектаў. Чалавек, жывучы ў пэўнай мясцовасці, настолькі прызвычайваецца да тых найменняў, якія гучаць у гаворках, па радыё, тэлебачанні і ў прэсе, што нават рэдка задумваецца пра тое, адкуль пайшла назва, што яна азначае, чаму менавіта так гучыць. Калі ён чуе слова «Полацк», то разумее, што гэта горад у цэнтры Віцебскай вобласці, калі яму ўзгадваюць пра Мядзелку, то ён ведае, што гэта рака ў Пастаўскім раёне. Пачуўшы назву якога-небудзь геаграфічнага аб'екта, чалавек успрымае яе як кропку на геаграфічнай карце або як шэраг краявідаў, якія засталіся ў памяці з часу наведвання гэтай мясціны.

Зразумела, назвы не існавалі заўсёды. Быў такі момант, калі нейкі чалавек сказаў другому чалавеку пра раку, гару або возера, назваўшы іх па імені. Відавочна, для таго, каб утварылася назва, павінна быць дзве, так мовіць, «дзеючыя асобы»: аб'ект, які мае нейкія пэўныя прыкметы, і суб'ект — чалавек, які сваёй мовай выкажа яго адметныя асаблівасці. З гэтага вынікае, што на Пастаўшчыне, дзе галоўныя кампаненты прыроды прадстаўлены ўзгоркамі, лагчынамі, балотамі, рэкамі, азёрамі, лугамі і лясамі, пераважная большасць назваў так або інакш будзе звязана з асаблівасцямі менавіта гэтых элементаў ландшафту. Найменні паселішчаў, акрамя прыродных характарыстык, будуць заключаць у сабе імёны і прозвішчы першапасяленцаў, характарыстыкі пабудоў, віды заняткаў насельніцтва, этнічны і сацыяльны статус жыхароў.

Падрабязна пра найменні геаграфічных аб'ектаў дазваляе даведацца тапаніміка — навука, якая вывучае геаграфічныя назвы, іх паходжанне, сэнсавае значэнне, развіццё, сучасны стан, напісанне і вымаўленне. Тапаніміка з'яўляецца інтэгральнай навуковай дысцыплінай, якая знаходзіцца на памежжы трох галін ведаў: геаграфіі, гісторыі і лінгвістыкі. Тапонімы ж — гэта ўласныя імёны прыродных аб'ектаў на Зямлі, а таксама аб'ектаў, створаных чалавекам. Сукупнасць тапонімаў на якой-небудзь тэрыторыі складае яе тапанімію. Па характары аб'ектаў вылучаюцца наступныя асноўныя групы тапаніміі: *айканімія* — назвы населеных пунктаў; *гідранімія* — назвы водных аб'ектаў; *аранімія* — назвы асаблівасцяў рэльефу.

Кожная з названых груп падзяляецца на драбнейшыя. Напрыклад, назвы гарадскіх аб'ектаў утвараюць групу урбанонімаў, сярод якіх вылучаюцца *агаронімы* — найменні гарадскіх плошчаў, рынкаў; *антрапонімы* — найменні вуліц, плошчаў, мастоў, утвораныя ад уласных

прозвішчаў і імёнаў людзей; *гадонімы* — найменні лінейных аб'ектаў у горадзе, у тым ліку вуліц, завулкаў, праспектаў, трактаў; *урбанагідронімы* — найменні гарадскіх водных аб'ектаў; *эклезіёнімы* — найменні месцаў адпраўлення абрадаў любой рэлігіі, у тым ліку назвы сабораў, цэркваў, касцёлаў; *эргонімы* — найменні ўласных імён дзелавых аб'яднанняў людзей, у тым ліку ўстаноў, прадпрыемстваў і да таго падобнага.

Тапаніміка развіваецца ў цесным узаемадзеянні з геаграфіяй, гісторыяй, этнаграфіяй і служыць каштоўнай крыніцай для даследавання гісторыі мовы, дапамагае аднавіць рысы гістарычнага мінулага народаў, вызначыць межы іх рассялення.

Для таго, каб вывучыць тапонім або групу тапонімаў, даследчыку даводзіцца карыстацца рознымі слоўнікамі і даведнікамі, праводзіць тапанімічны аналіз з сістэматызацыяй і класіфікацыяй назваў.

Пытанні любой навуковай класіфікацыі нярэдка спрэчныя і супярэчлівыя. Стварэнне ўніверсальнай тапанімічнай класіфікацыі, якая б задавальняла разнастайныя патрабаванні, здаецца малаверагодным і нават немагчымым. І тым не менш, нягледзячы на мноства геаграфічных назваў, можна знайсці нямала агульнага і таго, што паўтараецца.

Існуе некалькі тапанімічных класіфікацый. Адна з асноўных — моўная. У яе аснове ляжыць прынцып прыналежнасці тапонімаў да той ці іншай мовы. У гэтай групе класіфікацый адрозніваюць: 1) назвы роднай мовы, сэнс якіх абсалютна зразумелы; 2) назвы, што паходзяць з другой мовы, але трывала ўвайшлі ў актыўны тапанімічны слоўнік; 3) назвы іншамоўныя, якія захавалі структуру і сэнс другой мовы.

Фарміраванне назваў Пастаўскага раёна адбывалася пад магутным уплывам трох моўных хваляў: фіна-ўгорскай, балцкай і славянскай. Адна ад адной яны адрозніваюцца часам распаўсюджвання і прасторай, якую калісьці займалі. Лічыцца, што самай старажытнай сярод іх была фіна-ўгорская, якая займала ў асноўным паўночную частку раёна. Крыху маладзейшая — балцкая моўная хваля, якая займала ўвесь Пастаўскі раён. Таму і сустракаецца даволі шмат назваў, значэнне якіх можна знайсці ў мовах суседніх народаў. Вядома, паўтаратысячагадовае панаванне славянскай моўнай стыхіі прывяло да таго, што абсалютная большасць назваў мае славянскае паходжанне (славянскія назвы складаюць каля 80 %, а рэшта прыпадае на фіна-ўгорскія і балцкія). Некаторыя папярэднія назвы былі зменены, некаторыя перароблены, асобныя былі моцна скажоныя. Таму бывае вельмі складана растлумачыць першапачатковы сэнс назвы, у выніку чаго ўзнікае некалькі варыянтаў тлумачэння. Невялікая частка назваў Пастаўшчыны пакуль што не мае больш-менш грунтоўнай расшыфроўкі.

Другім відам класіфікацыі з'яўляецца этымалагічная. Заснавана яна на сапраўдным (першапачатковым) сэнсе тапоніма. Яна блізкая да моўнай, і ў ёй таксама выдзяляюцца тры групы назваў: 1) этымалагічна яўныя, сэнс якіх цалкам зразумелы (напрыклад, Пятровічы, Пагарцы, Ракіты, Тарасаўка); 2) этымалагічна празрыстыя, сэнс якіх становіцца зразумелы пры этымалагічным аналізе (напрыклад, Паставы, Русіны, Разлогі); 3) этымалагічна непразрыстыя, сэнс якіх яшчэ дакладна не раскрыты (Чычалі, Інтока, Вайшкуны і іншыя).

Вызначана, што этымалагічна яўныя назвы Пастаўскага раёна складаюць каля 60 % ад агульнай колькасці, этымалагічна празрыстыя — каля 30 %, а этымалагічна непразрыстыя — каля 10 %.

Трэці від класіфікацыі — семантычная. У ёй назвы падзяляюцца на групы і падгрупы па сэнсавым значэнні.

Да 90-х гадоў XX стагоддзя тапанімія Пастаўшчыны амаль зусім не вывучалася. Паасобныя назвы геаграфічных аб'ектаў раёна згадваліся ў працах В. Жучкевіча, Г. Рылюка, Л. Лыча, Я. Рапановіча. Аўтарская зацікаўленасць паходжаннем назваў роднага краю з'явілася ў першай палове 80-х гадоў дзякуючы лекцыям па тапаніміцы, якія чытаў на геаграфічным факультэце БДУ ўжо згаданы Вадзім Жучкевіч. Менавіта гэтым вядомым вучоным былі закладзены асновы беларускай навукі пра назвы. І хоць зараз некаторыя варыянты тлумачэння шэрагу найменняў, якія ён прапаноўваў у свой час, аспрэчваюцца, усё ж метадычныя асновы навукі застаюцца каштоўнымі для любога даследчыка.

У канцы 90-х гадоў мной была падрыхтавана і выдадзена невялікая брашура «Адкуль паходзяць назвы. Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна», у якой давалася агульная характарыстыка гідронімаў нашага краю і прапаноўваўся «Гідранімічны слоўнік», які ўключаў тлумачэнні варыянтаў паходжання 82 водных назваў. На той час гэта было першае выданне па тапаніміі Пастаўшчыны.

Пасля той публікацыі прамінула больш за дзесяць гадоў. За гэты час назапасілася значная частка новых матэрыялаў як з літаратурных і картаграфічных крыніц, так і з экспедыцый і паведамленняў мясцовых жыхароў. Усё гэта дало падставы для перапрацоўкі публікацыі, што і ўвасобілася ў новы рукапіс, які стаў часткай гэтай кнігі.

Вывучэнне назваў паселішчаў Пастаўскага раёна пачалося таксама ў другой палове 90-х гадоў. Тады навуковую працу «Класіфікацыя назваў паселішчаў Пастаўскага раёна» пад маім кіраўніцтвам падрыхтавала вучаніца 9-га класа сярэдняй школы № 1 горада Паставы Аксана Марозава. Ёй была праведзена групоўка айконімаў па розных

крытэрыях, складзены шэраг тапанімічных схем, частка якіх падаецца ў гэтым выданні. З матэрыяламі даследавання А. Марозава выступала на абласной і рэспубліканскай навуковых канферэнцыях, дзе была адзначана дыпломамі І ступені.

Пазней матэрыялы па тапаніміі Пастаўшчыны апрацоўвала мая старэйшая дачка Юлія, якая займалася вызначэннем паходжання і значэння назваў населеных пунктаў. Некаторыя звесткі па тапаніміі дапамагала ўпарадкаваць і малодшая дачка Вольга.

Дзякуючы працы юных памочнікаў, мной да 2009 года быў складзены тапанімічны слоўнік «Назвы нашых вёсак», у якім у алфавітным парадку падаюцца найменні сельскіх паселішчаў Пастаўскага раёна з варыянтамі тлумачэння іх паходжання і сэнсавага значэння. Гэтыя матэрыялы друкаваліся ў газеце «Пастаўскі край» і ў «Краязнаўчай газеце». Публікацыя выклікала цікавасць з боку як мясцовых жыхароў, так і людзей з мясцін далейшых. Некаторыя дасылалі лісты з удакладненнямі і прапановамі, іншыя ванілі па тэлефоне. З улікам усіх дадатковых звестак айканімічны слоўнік Пастаўшчыны таксама ўключаны ў гэта выданне.

Яшчэ адзін цікавы напрамак тапанімікі — вывучэнне назваў гарадскіх аб’ектаў. Даследаванні урбаніміі горада Паставы ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам аўтара з 2006 года вучнямі — удзельнікамі навуковага краязнаўчага таварыства «Ювента» сярэдняй школы № 1. Частка работы была выкана Яўгенам Сірковічам, з 2011 года гэта тэма распрацоўвалася Віталіем Літвіновічам. Навуковая праца В. Літвіновіча называлася «Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы». На раённай канферэнцыі навукова-даследчых работ школьнікаў яна была адзначана дыпломам ІІ ступені. Некаторыя матэрыялы гэтага даследавання ўвайшлі ў кнігу «Назвы вуліц горада Паставы» (аўтары — І. Пракаповіч, В. Літвіновіч), якая пабачыла свет у 2012 годзе.

Такім чынам, кніга, якая прапануецца ўвазе чытачоў, з’яўляецца вынікам шматгадовай працы па вывучэнні тапаніміі Пастаўскага раёна і будзе добрай крыніцай для тых, хто цікавіцца родным краем. Аўтар удзячны сваім настаўнікам і навукоўцам, якія зацікавілі і навучылі працаваць з назвамі, сваім вучням, якія бралі ўдзел у тапанімічных даследаваннях, сваім сябрам і знаёмым, якія дапамагалі ў зборы матэрыялаў, а таксама ўсім людзям, якія выказалі свае парады, заўвагі і ўдакладненні да маёй працы.

# 1. НАЗВЫ ПАСЕЛІШЧАЎ ПАСТАЎСКАГА РАЁНА

## 1.1. Айканімія Пастаўшчыны

На Пастаўшчыне існавала каля тысячы населеных пунктаў: вёсак, мястэчак, хутароў, гаподскіх двароў, засценкаў, фальваркаў, леснічовак. Ёсць звесткі, што ў міжваенны час, пры Польшчы, у Пастаўскім павеце, які быў троху большы за сучасны Пастаўскі раён, налічвалася 1,3 тысячы паселішчаў. На пачатак 1939 года, паводле матэрыялаў кнігі «Памяць. Пастаўскі раён», мелася 3 мястэчкі, 170 вёсак, 14 маёнткаў, 28 фальваркаў, 72 хутары, 100 засценкаў. Такім чынам, усяго налічвалася 387 населеных пунктаў. На 2002 год у раёне быў 1 горад (Паставы), 2 гарадскія пасёлкі (Варапаева і Лынтупы) і 516 сельскіх населеных пунктаў.

З кожным годам колькасць паселішчаў змяншаецца. Моладзь не застаецца ў бацькоўскіх хатах, выпраўляецца «ў свет», і вёскі паступова старэюць і паміраюць. Разам з імі паміраюць і назвы. Яны, як помнікі, застаюцца ў гістарычных дакументах, у матэрыялах перапісаў, у статыстычных даведніках. І назвы зніклых паселішчаў утвараюць ужо сваю вялікую, вартую спецыяльных даследаванняў, групу.

У гэтым выданні разглядаюцца найменні вёсак, якія да нядаўняга часу мелі жыхароў і ўпэўнена трымаліся на тапаграфічных картах. Усяго іх 480. Яны розняцца па паходжанні, сэнсавым значэнні, спосабах утварэння, слоўных канструкцыях.

Паспрабуем вызначыць і акрэсліць некаторыя характэрныя рысы назваў паселішчаў Пастаўшчыны. Калі разглядаць іх па алфавітных групах, то бачна, што найбольш найменняў (54) пачынаецца на літару «К». За ёй ідуць літары «С» (44 назвы) і «П» (42 назва). Даволі многа найменняў пачынаецца на «М» і «В» (па 35), «Р» (31), «Л» (30). Не больш як пяць назваў пачынаецца з «Е, Ё», «О», «Ф», «Х», «Ш», «Ю».

Каля 80 % паселішчаў Пастаўскага раёна маюць назвы славянскія, астатнія паходзяць з балцкіх і фіна-ўгорскіх моў. Па сэнсавым значэнні іх можна падзяліць на некалькі груп.

1. *Назвы, якія адлюстроўваюць прыродныя ўмовы мясцовасці*. Да іх адносяцца найменні, якія паказваюць адметнасць геаграфічнага становішча (Загацце, Куцішкі, Пад'ясенка, Падкамаі, Падсосна, Забалацце, Заброддзе); адлюстроўваюць характар рэльефу (Казіная Гара, Логавінцы, Гурніца, Гараноўшчына, Гумбяны, Верацеі, Высокія); сведчаць пра грунтова-глебавыя ўмовы мясцовасці (Гліншчына, Пяскарышкі, Жвірынка, Жарсцвянка); звязаны з раслінным светам (Сасноўшчына, Ракіты, Волься, Асіннікі, Дубрава, Ольшнева, Алешына, Лазовікі, Баравое, Калінаўка); адлюстроўваюць жывёльны свет (Шпакі, Казлы, Салаўі, Барсучына, Жукі, Ваўкі, Барсучы Мох).

*2. Назвы, якія звязаны з працоўнай дзейнасцю і сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі жыцця людзей*. Да іх адносяцца найменні, якія адлюстроўваюць умовы жыцця і быт людзей (Старчуны, Стонішкі, Бядункі); звязаны з працоўнай дзейнасцю людзей і з іх старажытнымі промысламі (Агароднікі, Перавознікі, Муляры, Лаўцы, Паташня, Скураты, Пушкары); адлюстроўваюць прававыя адносіны (Баяры, Валькі, Даравое); сведчаць пра асаблівасці транспартных шляхоў (Крывы Мост, Масцішча, Разлуцішкі).

Даволі многа тапонімаў звязана з працэсам апрацоўкі зямлі. Размяшчэнне такіх паселішчаў мае заўважную заканамернасць: пераважная іх большасць знаходзіцца на поўдні раёна. І гэтаму ёсць тлумачэнне. Паўднёвая частка Пастаўшчыны ўзвышаная, адносна сухая, мае прыдатную для апрацоўкі глебу, на поўначы ж у часы засялення тэрыторыі славянамі ляжалі моцна забалочаныя землі Дзісенскай нізіны, дзе каля рэчышчаў знаходзіліся невялікія паселішчы фіна-ўграў, якія зямлю не апрацоўвалі, а займаліся паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам.

*3. Назвы рэлігійна-культавага значэння* (Няверышкі, Папоўцы).

*4. Назвы, што паказваюць тып паселішчаў, тып пабудоў* (Асінагарадок, Паставы, Паставішкі, Дамуці, Станчыкі, Гродзі,

Свіраны, Навасёлкі, Стары Двор, Дашкі, Хацілы, Дзеравянкі, Будзева).

*5. Назвы, якія звязаны з прозвішчамі і імёнамі людзей*. Магчыма, першапасяленцаў ці заснавальнікаў. Гэта група самая вялікая па колькасці, да яе адносіцца амаль трэцяя частка ўсіх назваў паселішчаў раёна (Адамова, Мікулкі, Багданава, Васе-



*Размеркаванне тапонімаў, звязаных з апрацоўкай зямлі*



*Размеркаванне антрапаайконімаў*

вічы, Аліхверы, Сергі, Сяргеевічы, Лявонавічы, Пятровічы, Абрамаўшчына, Андрушышкі і іншыя). Размешчаны яны па тэрыторыі раёна даволі раўнамерна: гэтыя вёскі з'явіліся на месцы хутароў, выселак, леснічовак, у якіх жыла спачатку адна сям'я, быў адзін гаспадар-першапасяленец.

*6. Назвы, якія адлюстроўваюць знешнія асаблівасці паселішча* (колер, велічыню) (Чорнае, Вялічкі, Белыя, Сіўцы, Рудзі).

*7. Назвы, якія адлюстроўваюць найменне плямёнаў, народаў ды іншых этнічных груп* (Ляхаўшчына, Маскалішкі, Русіны, Русакі, Ліцвінкі, Прусы, Мазурка, Гудэлішкі, Сакуны). Размеркаванне такіх этнонімаў па тэрыторыі раёна мае пэўную заканамернасць. Можна заўважыць, што найбольшая іх колькасць знаходзіцца ў цэнтры Пастаўшчыны, што пацвярджае наяўнасць тут у старажытнасці мяжы паміж рознымі народамі. Так, назвы Русакі (2 вёскі), Русіны, Маскалішкі ўказваюць на пражыванне русічаў (маскалёў) або праваслаўных у мясцовасці, якая была заселена не рускімі, а, верагодна, балтамі. Да гэтага ж раду можна аднесці і назву Крэўні (крывічы). Найменні іншых этнічных груп сустракаюцца ў розных частках раёна.

*9. Назвы, якія звязаны сваім паходжаннем з воднымі аб'ектамі, у тым ліку з назвамі рэк і азёр* (Юнькі, Янкішкі, Камаі, Лучай, Лодасі, Голбія, Ласіца, Лынтупы).

Складанымі для разумення з'яўляюцца назвы, якія паходзяць з іншых моў. Толькі шляхам грунтоўнага аналізу і вывучэння можна дазнацца пра іх сэнс. Напрыклад, вёска Ажуройсці на Лынтупшчыне. Назва мае балцкія карані і складаецца з дзвюх частак: у літоўскай мове «*ažu*» азначае «за», а «*raistas*» — «забалочаны лясок». Такім чынам, назва вёскі ўказвае яе месцазнаходжанне «за забалочаным ляском». Або назва вёскі Васіліны. Мясцовая легенда тлумачыць яе паходжанне ад імён першапасяленцаў Васіля і Лены, але, верагодна, назва з'яўляецца старажытнай фіна-ўгорскай. Яна складаецца з дзвюх асноў: «vesi» — «вада» і «linna» — «умацаванае месца», «замак». Такім чынам, атрымліваецца зразумелае тлумачэнне: «замак каля ракі». Параўнаем з назвай эстонскай сталіцы «Таллінн», дзе «лінн» — «замак».

Цікавыя вынікі дае вывучэнне тапанімічных фармантаў — словаўтваральных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца пры ўтварэнні слова (прыставак, суфіксаў, канчаткаў). Яны нясуць розную сэнсавую нагрузку і надаюць пэўную адметнасць утворанай назве.

Адметнасцю Пастаўшчыны з'яўляецца наяўнасць групы найменняў паселішчаў з пачатковым спалучэннем *св-*, *шв-*, *жв-*: Свіркі, Свірдуны, Свіраны, Свірплішкі, Свяцішкі, Свідна, Жвойрышкі. Існуе таксама і група водных аб'ектаў з такімі



*Размеркаванне этнонімаў*



*Размеркаванне айконімаў з фармантамі св-, шв-*

пачаткамі: Швакшты Вялікія і Малыя, Світа, Світка, Свідна, Сміла. Акрамя «Свідна», усе падобныя назвы размяшчаюцца ў заходняй частцы раёна, што можа сведчыць пра іх балцкія або фіна-ўгорскія карані.

Каля 60 назваў населеных пунктаў раёна маюць фарманты *-ова*, *-ава*, *-ева*, *-ёва*, якія характарызуюць прыналежнасць і адказваюць на пытанне «чыё?»: Варапаева, Багданова, Лукашова і іншыя. Асаблівасцю размяшчэння такіх назваў з'яўляецца



*Размеркаванне айконімаў з фармантамі -ова, -ава, -ева, -ёва*



*Размеркаванне айконімаў з фармантам -ічы*

тое, што яны маюць даволі высокую шчыльнасць на ўсходзе і ў цэнтры раёна, а на захадзе яны зусім не сустракаюцца.

Падобны характар распаўсюджання маюць і назвы з фармантам *-ічы* (каля 40 аб'ектаў), якія амаль усе з'яўляюцца антрапаайконімамі — найменнямі, утворанымі ад імён або прозвішчаў жыхароў: Пятровічы, Гаўрылавічы, Манькавічы і да таго падобнае. Варта заўважыць, што назвы з такім канчаткам амаль не сустракаюцца і на поўначы раёна, бо паселішчы ўзнікалі на



*Размеркаванне айконімаў з фармантам -шчына*



*Размеркаванне айконімаў з фармантам -ішкі*

месцах выселкаў і хутароў, што было немагчыма на забалочанай Дзісенскай нізіне.

Фармант *-шчына* характэрны для славянскіх назваў і адносіцца да значных па памерах тэрыторый, урочышчаў, былых уласніцкіх земляў. На Пастаўшчыне такія назвы размешчаны пераважна на поўдні і ўсходзе раёна — мясцовасцях, дзе апрацоўвалася зямля. На поўначы, зноў жа з прычыны забалочанасці, такія айконімы амаль адсутнічаюць.

На арэал распаўсюджвання балцкіх або збалтызаваных славянскіх назваў указвае фармант *-ішкі*, які ўваходзіць у склад больш чым 50 тапонімаў нашага краю. На схеме «Размеркаванне айконімаў з фармантам *-ішкі*» добра бачна, што амаль усе вёскі з такімі канчаткамі знаходзяцца на захад ад Паставаў і канцэнтруюцца ў ваколіцах Лынтупаў.

У 60-я гады XX стагоддзя ў Беларусі прайшла хваля масавых перайменаванняў немілагучных назваў. Закранула гэта і Пастаўшчыну. У 1964 годзе дзве вёскі змянілі свае гістарычныя назвы: Паздзюткі сталі Радугай, а Цуцкі — Васточнай.

Такім чынам, айканімія Пастаўшчыны вызначаецца вялікай пярэстасцю і разнастайнасцю, шматлікасцю варыянтаў утварэння з розных моў і, з прычыны гэтага, цяжкасцю вызначэння сапраўднага сэнсу і паходжання значнай долі найменняў.

Варыянты тлумачэння назваў паселішчаў Пастаўскага раёна прапануюцца ў «Айканімічным слоўніку».

## 1.2. Айканімічны слоўнік

### *Назвы нашых вёсак*

#### А

**Абрамо́ўшчына** — вёска за 27 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8,5 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў, за 1 км на захад ад возера Саранчаны. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета як маёнтак Антановіча. Назва паходзіць ад прозвішча *Абрамаў*, якое ўтварылася ад

уласнага імя *Абрам* — формы кананічнага праваслаўнага *Авраам*, *Авраамий*, каталіцкага польскага *Abraham*, што азначае «бацька шматлікіх народаў». Фармант *-шчына* сведчыць пра тое, што першапачаткова назва абазначала мясцовасць, а потым перайшла на паселішча. Ад гэтага імя на Пастаўшчыне ўтварыліся прозвішчы *Абрамаў*, *Абраменкоў*, *Абрамовіч*, *Аўрамаў*, *Аўраменка*, *Аўрамчук*.

**Агаро́днікі** — вёска за 12 км на поўдзень ад Паставаў каля шашы Вільня–Полацк. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, уладанне Хлявінскай. Назва паходзіць ад гістарычнага тэрміна *агароднік* — так называлі сялян у ВКЛ, якіх сялілі на невялікіх дзялянках і абавязвалі выконваць пэўныя правіннасці. Паводле «Уставы на валокі» 1557 года агароднікам давалі па 3 маргі (1 морг — 0,71 га) зямлі і ссялялі ў вёскі па 10–20 двароў паблізу фальваркаў. Гэта акалічнасць дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што вёска ўтварылася ў XVI стагоддзі, бо ў суседняй вёсцы Манькавічы маёнтак вядомы якраз з гэтага часу. Агароднікі — радзіма вядомага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі.

**Адамо́ва** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў, за 7 км на поўдзень ад Варапаева. Вядома як засценак у Лучайскай воласці Вілейскага павета з 1905 года. Назва паходзіць ад кананічнага хрысціянскага імя *Адам*, што на іўрыце азначае «чалавек». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Адамчык*, *Адамовіч*.

**Ажа́рава** — вёска за 14 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 1 км на поўнач ад Груздава. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Назва, верагодна, утворана ад асновы *жар* у значэнні «гарэлы лес», «лясны пажар». Растлумачыць яе паходжанне можна і з літоўскай мовы, дзе *ažu* азначае «за», *ravas* — «роў, канава». Такім чынам, вёска ўзнікла ў мясцовасці «за ровам». Магчыма паходжанне назвы ад імя *Ажар*.

**Ажа́рцы** — вёска за 13 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Назва ўтворана ад асновы *жар* у значэнні

«гарэлы лес», «лясны пажар». Тэрмін «жар» характэрны для падсечна-агнявога земляробства ў Заходняй Беларусі. Ажарцамі называлі невялікія выпаленыя ўчасткі лесу і паселішчы, якія ўзнікалі на гэтых месцах.

**Ажу́ны** — вёска за 23 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на поўдзень ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета як уладанне Соф'і Мастоўскай. Паходжанне назвы канчаткова не высветлена. Як варыянт, можна прапанаваць растлумачыць яе ўтварэнне з балцкіх моў, дзе літоўскае *ažuolas* азначае «дуб». Сустракаецца і літоўскае прозвішча *Ажыунас*.

**Ажуро́йсці** — вёска за 34,5 км на захад ад Паставаў, за 4,5 км на поўдзень ад Лынтупаў каля вытокаў ракі Лынтупка. Назва мае балцкія карані і складаецца з дзвюх частак: у літоўскай мове *aži* азначае «за», а *raistas* — «забалочаны лясок». Такім чынам, назва вёскі ўказвае яе месцазнаходжанне «за забалочаным ляском».

**Азёркі** — вёска за 4 км на поўнач ад Паставаў каля возера Азёркі. У пачатку XX стагоддзя ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета была засценкам — уладаннем Пшаздзецкіх. Назва паходзіць са славянскіх моў, хоць падобная аснова сустракаецца і ў суседніх балтаў: літоўскае *ežeras*, латышскае *ezers* — «возера». Першапачаткова яна азначала мясцовасць з групай невялікіх па плошчы азёр, якія сапраўды маляўніча раскінуліся на поўнач ад Паставаў, а пазней перайшла і на вёску.

**Аке́лы —** вёска за 20 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на поўдзень ад Камаяў, за 1 км на поўнач ад возера Вялікія Швакшты. Назва паходзіць ад старажытнага імя *Акіла* (*Акула*), што азначае «арол». У цяперашні час на Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Акелан*, *Акулаў*.

**Ала́шкаўшчына** — вёска за 25 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 7 км на захад ад Белек на правым беразе ракі Дзісна. Вядома з XIX стагоддзя. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў. У фінскай мове *ala* — «тэрыторыя», *alanko* — «нізіна»; у эстонскай *alang* — таксама «нізіна». Асновы з падобным значэннем сустракаюцца ў вепскай, карэльскай, марыйскай мовах. Тлумачэнне сэнсу назвы добра стасуецца з геаграфічнымі асаб-

лівасцямі вёскі: яна месціцца на Полацкай нізіне ў даліне ракі Дзісна. Фармант *-шчына* сведчыць пра тое, што першапачаткова назва абазначала мясцовасць.

**Але́шына** — вёска за 23,5 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Варапаева. Вядома з 1861 года як маёнтак у Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва з'яўляецца тыпова славянскай. У беларускай мове *алешына* — гэта *вольха*. Наяўнасць альховых зараснікаў нарадзіла адпаведную назву мясцовасці, а пазней — і вёскі.

**Аліхве́ры** — вёска за 26 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 9 км на поўнач ад Варапаева на паўднёвым беразе возера Трумпічы. Вядома з 1873 года як уласнасць Тызенгаўзаў. Назва патранімічная, утворана ад царкоўнаславянскага імя *Еливферий*, якое прайшло шэраг трансфармацый у рускай (*Алифер*) і беларускай (*Альфер*, *Аліхвер*) мовах. Заўважым, што ў беларускай мове адносна часта сустракаецца пераход «ф» у «хв», што і зафіксавана ў назве. На Пастаўшчыне прозвішчы *Аліхвер*, *Альфер* з'яўляюцца даволі распаўсюджанымі.

**Аляхні́шкі** — вёска за 12 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Належала Мілеўскім. Назва паходзіць ад імя *Аляхно* — формы кананічнага хрысціянскага *Аляксей*, што значыць «абаронца». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Аляхновіч*, *Алешка*, *Аляшкевіч*.

**Андро́ны** — вёска за 15 км на паўночны ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Паловіца. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Назва паходзіць ад імя Андрон, якое з'яўляецца ўсечанай формай поўнага імя *Андранік*, што значыць «пераможца мужоў». Ужывалася ў размоўна-побытавой сферы як зварот да людзей сярэдняга ці старэйшага ўзросту. Прозвішча *Андрон* зараз шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне; сустракаюцца таксама *Андронаў*, *Андрановіч*.

**Андрушы́шкі** — вёска за 21 км на захад ад Паставаў, за 12 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў, за 1 км на захад ад возера Вялікія Сурвілішкі. Вядома з пачатку XX стагоддзя як засценак у Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, які належаў Даўгя-

лам. Назва патранімічная, паходзіць ад імя *Андруша* — формы кананічнага хрысціянскага *Андрэй*, што значыць «мужны, храбры». З асновай *Андруш-* на Пастаўшчыне сустракаецца шэраг прозвішчаў: *Андрушкевіч*, *Андрушка*, *Андрушчанка*.

**Анку́ды (1)** — вёска за 27 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева; вядома з 1873 года ў маёнтку Руцкое Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Длужнеўскім. Назва патранімічная, паходзіць ад імя або мянушкі *Анкуд*, пра што сведчаць прозвішчы *Анкуд*, *Анкудовіч*, якія даволі часта сустракаюцца на Пастаўшчыне. Само імя (мянушка) неславянскае, прыйшло да нас верагодна з фіна-ўгорскіх моў, дзе *куд* — «жытло», «шалаш», «хата», а *ан*, верагодна, прыстаўка адмаўлення. Такім чынам, можна рэстаўрыраваць старажытнае імя: *Анкуд* значыць «бяздомны», «не маючы жытла».

**Анку́ды (2)** — вёска за 28 км на ўсход ад Паставаў, за 5,5 км на ўсход ад Варапаева. У пачатку XX стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Тлумачэнне гл. *Анкуды* (*1*).

**Апі́дамы** — вёска за 28 км на захад ад Паставаў, за 9 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Адназначнага тлумачэння паходжання назвы не існуе. Як варыянт, можна звязаць яе ўтварэнне са старажытнагрэчаскім імем *Апід*. Тапаністы звязваюць назву вёскі з лацінскім *апід* — «пчала».

**Асінагарадо́к** — вёска за 36 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км ад чыгуначнай станцыі Навадруцк. Вядома з 1567 года як маёнтак Жабаў, пазней — Друцкіх-Любецкіх. Назва складаецца з дзвюх частак: *асіна* — назва дрэва і *гарадок* — старажытнае ўмацаванае паселішча. Сапраўды, у вёсцы знаходзіцца высокая гара — гарадзішча, а паводле легенды, у сярэднявеччы на асіне з'явіўся абраз Маці Божай, у гонар чаго і была пабудавана на гары царква.

**Асі́ннікі** — вёска за 27 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 6 км на захад ад станцыі Полава. Вядома з 1873 года як засценак, які належаў Тызенгаўзам. Назва ўтварылася ад пароды дрэва *асіна* і спачатку адносілася да ўрочышча, а пазней перайшла на вёску.

**Аўла́сы** — вёска за 3 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 0,5 км на ўсход ад ракі Спарыца. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай валасці Вілейскага павета як засценак. Назва паходзіць ад царкоўнаславянскага імя *Уласій* (*Власий*) — «невук», якое ў беларускай мове змянілася на *Аўлас*.

Паводле меркавання лінгвіста І. Яшкіна, назва можа паходзіць і ад дыялектнага *аўлус* — фальварак без жыхароў, які належаў да якога-небудзь маёнтка; незаконна адаранае поле; дармавая маёмасць.

Зараз на Пастаўшчыне даволі шырока сустракаюцца прозвішчы *Аўлас*, *Аўласевіч*.

## Б

**Багдано́ва** — вёска за 12 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўночны захад ад возера Лучай. Вядома з пачатку XX стагоддзя як засценак, які належаў барону Клейгісу. Назва паходзіць ад імя *Багдан*, якое ў XVI–XVII стагоддзях адносілася да паганскіх імён, а пазней было прынята хрысціянскай царквой. Імя перакладаецца як «Богам дадзены», «Пасланец Бога». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Багдан*, *Багданаў*, *Багданёнак*, *Багдановіч*.

**Багдзю́ны** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 3 км ад чыгуначнай станцыі Гадуцішкі. Назва, верагодна, паходзіць ад мясцовай формы імя *Багдан* — *Багдзя*, адкуль і атрымліваецца лагічны рад: Багдан — Багдзя — Багдзюн — Багдзюны.

**Ба́кавічы** — вёска за 7 км на ўсход ад Паставаў на левым беразе ракі Лучайка. Вядома з XVII стагоддзя як уладанне Зяновічаў. Пазней належала Тызенгаўзам. У 1873 годзе была ў Пастаўскай валасці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць ад царкоўнаславянскага імя *Аввакум*, якое ў беларускай мове набыло форму *Абакум*, з якой у сваю чаргу ўтварыліся больш спрошчаныя *Бак*, *Бака*, *Бакан*. Імя стала асновай прозвішчаў *Бакавіч*, *Бакуновіч*, *Бакула*, якія зараз сустракаюцца на Пастаўшчыне.

**Балаі́** — вёска за 28 км на паўночны ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Паловіца. Вядома па крыніцах з 1873 года як

уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва ўтварылася ад балцкай асновы *bala* ў значэнні «балота», «мокрае месца». Сапраўды, вёска знаходзіцца сярод балот Дзісенскай нізіны. Ад назвы вёскі ўтварылася прозвішча *Балай*, якое шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

Магчымае паходжанне назвы з татарскай мовы, у якой *бала* азначае «дзіця», а *-ай* — памяншальны суфікс. Такую прозвішча-мянушку мог мець хтосьці з першажыхароў вёскі.

**Барав́ое** — вёска за 27 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева на беразе возера Баравое. Назву атрымала ад наймення маляўнічага возера, якое раскінулася сярод вялікага ляснога масіву — *бору*.

**Барадзін́о** — вёска за 16 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 9 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. У крыніцах сустракаецца з пачатку XX стагоддзя. Назва, верагодна, паходзіць ад славянскага *бара*, *бар*, што азначае «вільготнае месца паміж узгоркамі; балота». У польскай мове *barzina* — «балота». Існуе легенда, што назву вёсцы даў нейкі памешчык ў памяць пра бітву паміж рускімі і французскімі войскамі каля вёскі Барадзіно пад Масквой у 1812 годзе.

**Бар́анавічы** — вёска за 6 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на левым беразе ракі Лучайка. У 1715 годзе мела назву Баранаў, належала Тызенгаўзам. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі паходзіць ад прозвішча *Баранаў*, якое ўтварылася ад паганскага імя-мянушкі *Баран*. На Пастаўшчыне шырока распаўсюджаны прозвішчы *Баранаў*, *Баранскі*, *Бараноўскі*.

**Бараўќі** — вёска за 10 км на поўнач ад Паставаў каля ракі Лучайка. У крыніцах сустракаецца з пачатку XX стагоддзя. Назва паходзіць ад прозвішча *Бароўка*, якое ўтворана ад славянскай асновы *бор* у значэнні «сухі хвойны лес». Прозвішча *Бароўка* — адно з самых распаўсюджаных на Пастаўшчыне. Таксама сустракаюцца *Баравік*, *Баравы*, *Баравікоў*, *Баравінскі*, *Бароўскі*, *Бароўскіх*.

**Барс́учы Мох** — вёска за 12 км на паўночны ўсход ад Паставаў. Знаходзіцца ў лясным забалочаным масіве Варапа-

еўская Дача. Спачатку назва адносілася да ўрочышча, а пазней перайшла на вёску.

**Барэ́йкі** — вёска за 43 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 11 км на поўнач ад Варапаева на левым беразе ракі Галбяіца. Вядома па крыніцах з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Барэйка*, якое прыйшло з балцкіх моў, дзе *baras* — «вялікі лес».

**Бацві́навічы** — вёска за 25 км на поўдзень ад Паставаў. Вядома з першай паловы XX стагоддзя. Назва, верагодна, паходзіць ад царкоўнаславянскага імя *Варфаламей* (*Баўтрамей*), якое ў будзённым жыцці прайшло шэраг змяненняў. Яны маглі выглядаць наступным чынам: Баўтрамей — Баўтрук — Бат — Бацвін. На магчымасць такіх трансфармацый указвае наяўнасць славянскіх прозвішчаў Бацвінаў, Бацвіннік, Бацвілоўскі. Але такія прозвішчы на Пастаўшчыне не сустракаюцца, і гэта зніжае вартасць прапанаванай версіі. Можна зрабіць дапушчэнне, што *Бат*, *Бацвін* — гэта імёны паганскія і ў пазнейшы час не ўжываліся. Як версію можна прапанаваць паходжанне назвы ад славянскіх слоў *батва*, *бацвінне* ў сэнсе «густая расліннасць».

**Бая́ры** — вёска за 36 км на паўднёвы захад ад Паставаў каля возера Вялікія Швакшты. У крыніцах згадваецца ў пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад гістарычнага тэрміна *баяры* — «радавітыя дваране, буйныя памешчыкі».

**Бе́лае** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўночны ўсход ад Варапаева. Вядома ў крыніцах з пачатку XX стагоддзя ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Вёска знаходзіцца на беразе возера *Белае*, ад якога і атрымала назву. Найменне возера адлюстроўвае колер вады ў вадаёме.

**Бе́лішкі** — вёска за 46 км на захад ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Лынтупаў. Вядома з канца XIX стагоддзя як уладанне Бішэўскага ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Утваральнай асновай назвы маглі стаць як балцкія, так і славянскія тэрміны. У латышскай мове *belute* —

«яма з вадой», «лужына»; у беларускай *бель* — «балота з беразняком», «невялікае балота», «забалочанае нізкае месца». Вёска сапраўды знаходзіцца каля балота. У Пастаўскім раёне такую ж тапанімічную аснову маюць вёскі *Белькі і Бяляніўкі*.

**Бе́лькі** — вёска за 45 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км ад чыгуначнай станцыі Полава. Вядома па крыніцах з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Тлумачэнне назвы: гл. *Белішкі*.

**Бержала́ты** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 12 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў на мяжы з Літвой. Назва паходзіць з балцкіх моў, дзе літоўскае *beržėlis* — «бярозка», *berzalotas* — «беразняк».

**Бі́рвіта** — вёска за 19 км на поўнач ад Паставаў каля сутоку рэк Мядзелка і Бірвіта. У пачатку XX стагоддзя — фальварак Пшаздзецкіх у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі паходзіць ад наймення ракі. Тлумачэнне назвы знаходзім у тунгуска-маньчжурскім і фіна-ўгорскіх мовах: *біра* (эвенк., эвен.) — «рака», *віт* (мансі)— «вада». Прыблізнае значэнне назвы — «мнагаводная рака». Раней яно, магчыма, і было так. Беларуская «Бірвета» мае тапанімічную радню ў далёкім Забайкаллі: р. Вялікая Біра і Малая Біра — прытокі Амура, заліў Бірая на Байкале, г. Бірабіджан — сталіца Яўрэйскай АВ РФ і г. д. Ёсць «радня» і па суседству: возера Бірутэ ў Браслаўскім раёне.

**Бію́ці** — вёска за 15,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Груздава. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць з балцкіх моў, дзе літоўскае *bijoti* — «баяцца». Адсюль *біюць* — «баязлівы чалавек».

**Бо́цвіны** — вёска за 6 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Тлумачэнне назвы: гл. *Бацвінавічы*.

**Бу́да** — вёска за 32 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 12 км на паўночны ўсход ад Варапаева каля сажалак рыбгаса «Навінкі». Назва з’яўляецца гістарычным тэрмінам, які адлюстроўвае гаспадарчую дзейнасць людзей: *буда* — гэта «месца, дзе

выпальваўся паташ», «паташны завод». Вёска знаходзіцца ў лясным масіве і, напэўна, ўзнікла на месцы невялікага заводзіка.

**Бу́дзева** — вёска за 5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад тэрміна *буда* — «паташны завод». Па гістарычных звестках, у маёнтку Паставы ў XVIII–XIX стагоддзях сярод іншай прадукцыі вырабляўся паташ. Вельмі верагодна, што завод знаходзіўся ў Будзеве.

**Бульбу́нава** — вёска за 15 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 0,5 км на паўночны ўсход ад возера Бульбінаўскае. Назва паходзіць ад прозвішча *Бульбенаў*, якое сустракаецца на Пастаўшчыне.

**Бу́цавічы** — вёска за 13 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3 км на ўсход ад Камаяў. Вядома з 1873 года як уладанне Суліstроўскіх у Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Буцавіч*, утворанага, верагодна, ад старажытнаславянскага імя *Будзімір*, якое ўжывалася ў спрошчаных формах *Бут*, *Буц*, *Будзька*. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Будзіч*, *Буднікаў*, *Будзько*, *Будзянскі*.

**Буча́лішкі** — вёска за 6 км на паўночны захад ад Паставаў каля мяжы з Літвой. У аснове назвы ляжыць старажытны славянскі тэрмін *бучала* (*бучыла*) у сэнсе «гразкае, топкае балота», «дрыгва», «яма з вадой». Пад балцкім уплывам назва набыла літоўскі канчатак. У Пастаўскім раёне шырока распаўсюджана прозвішча *Бучэль*.

**Бяду́нкі** — вёска за 17 км на паўднёвы захад ад Паставаў за 5 км на ўсход ад возера Вялікія Швакшты. У крыніцах згадваецца ў пачатку XX стагоддзя. Назва адлюстроўвае гаротны стан вясковых жыхароў.

**Бяля́нішкі** — вёска за 37 км на захад ад Паставаў, за 9 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У канцы XIX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, уваходзіла ў маёнтак Пад’ельнякі і належала Здзяхоўскім. Тлумачэнне назвы: гл. *Белішкі*.

**Бяна́паль** — вёска за 9 км на захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Камаяў. Назва складаецца з дзвюх частак. Першая, *бяна-*, уяўляе сабой скажонае імя *Беня* — форму кананічнага хрысціянскага *Бенедыкт* (*Банэдык*). Другая частка азначае «*поле*». Вёска вырасла на месцы «Бенедыктава поля».

## В

**Вайцяхі́** — вёска за 28 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 11 км на поўнач ад Варапаева паміж возерам Трумпічы і ракой Галбяіцай. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага імя *Война*, якое асабліва распаўсюджана ў палякаў. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Вайцяшонак*, *Вайцяхоўскі*.

**Вайшкіло́г** — вёска за 30 км на захад ад Паставаў, за 5 км на ўсход ад Лынтупаў. Назва складаецца з дзвюх частак: літоўскага імя *Vaišys*, *Vaiša* і асновы *лог* у значэнні «даліна», «шырокая нізіна». Узнікла як назва мясцовасці, якая належала Вайшку.

**Вайшку́ны** — вёска за 30 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў каля возера Балдук (Блакітныя азёры). Вядома з 1873 года ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад літоўскага імя *Вайшыс*, *Вайша*, *Вайшкун* (*Vaišys*, *Vaiša*). Як варыянт можа разглядацца паходжанне назвы ад літоўскага *vaikaitis* — «унук».

**Вало́дзькі** — вёска за 8 км на поўнач ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. Назва паходзіць ад імя *Валодзька* — формы старажытнаславянскага імя *Уладзімір*, што азначае «ўладар свету». Прозвішча *Валадзько* шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Вало́жына 1-е** — вёска за 15 км на паўночны ўсход ад Паставаў каля Валожынскага возера. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва мае славянскае паходжанне. У беларускай мове *валога* — «вільготнае, дрыгвістае месца». Сапраўды, каля вёскі знаходзяцца вялікія балоты з азёрамі, на якіх вядзецца здабыча торфу.

**Вало́жына 2-е** — вёска за 16 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 2 км на ўсход ад вёскі Валожына 1-е. Тлумачэнне назвы: гл. *Валожына 1-е*.

**Варано́ўка** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 11 км ад чыгуначнай станцыі Навадруцк. Назва мае ў аснове фіна-ўгорскі корань *вар* (*ор*) са значэннем «глыбокі яр», «лагчына». Геаграфічна вёска ляжыць у паніжэнні паміж значнымі ўзвышшамі. Пацвярджэннем такой версіі можа быць і тэрмін з рускай мовы *воронка* — «паглыбленне, упадзіна», які, верагодна, таксама ўтварыўся ад той жа угра-фінскай асновы. Верагодна, першапачаткова назва адносілася да ручая.

**Варано́ўшчына** — вёска за 7 км на паўднёвы захад ад Паставаў на заходнім беразе возера Вялікія Споры. Назва першапачаткова адносілася да мясцовасці вакол ракі Вараноўка, на што паказвае фармант *-шчына*, а пазней перайшла на вёску. Гл. таксама *Вараноўка*.

**Варапа́ева** — гарадскі пасёлак за 23 км на ўсход ад Паставаў; чыгуначны вузел (лініі на Лынтупы, Друю, Крулеўшчызну). Вядомы з 1800 года як уладанне графіні Пшаздзецкай. Назва ўтворана ад прозвішча *Варапай* або *Варапаеў*. У аснове ж прозвішча ляжыць састарэлая славянская аснова *вароп*, што значыць «разбой», «рабаўніцтва». Па іншай версіі *Варапай* — «сляпы чалавек».

**Варкацı́шкі** — вёска за 21 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Гадуцішак. Назва, верагодна, паходзіць ад фіна-ўгорскай асновы *vara* ў значэнні «гара, узвышша, узгорак».

**Варо́ны** — вёска за 16,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 5 км на поўдзень ад Лучая. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, узнікла ад мянушкі *Варона*, якую меў хтосьці з першапасяленцаў. Магчыма, яна таксама звязана з супрацьпастаўленнем жыхарам суседняй вёскі Сакалы. На Пастаўшчыне сустракаецца шмат прозвішчаў з асновай *воран*: *Варанец*, *Варановіч*, *Варанько*.

**Ва́севічы** — вёска за 19 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Варапаева. Вядома з 1861 года ў Лучайскай

воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад імя *Вася* — формы кананічнага праваслаўнага імя *Васілій*, што азначае з грэчаскай «царскі». Васевічы — нашчадкі Васіля.

**Васіле́ўшчына** — вёска за 24 км на ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на поўнач ад Варапаева. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад кананічнага праваслаўнага імя *Васілій* і спачатку распаўсюджвалася на мясцовасць, якая належала жыхару з імем *Васіль*. На Пастаўшчыне сустракаецца шмат прозвішчаў, якія ўтвораны ад гэтага імя: *Васілевіч*, *Васільеў*, *Васілеўскі*, *Васін*, *Васьковіч*, *Васюковіч*.

**Васілі́ны** — вёска за 19 км на поўнач ад Паставаў на правым беразе ракі Дзісна. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Мясцовая легенда тлумачыць паходжанне назвы ад імён першапасяленцаў *Васіля* і *Лены*, аднак трэба меркаваць, назва з'яўляецца старажытнай даславянскай, верагодна угра-фінскай. Яна складаецца з дзвюх асноў: *vesi* — «вада» і *linna* — «умацаванае месца», «замак». Такім чынам, атрымліваецца зразумелае тлумачэнне: «замак каля ракі». Параўнаем з назвай эстонскай сталіцы *Таллінн*, дзе «лінн» — «замак». Праўда, пакуль што рэштак старажытнага паселішча ў Васілінах не выяўлена.

**Усто́чныя** (да 1964 года — **Цуцкі**) — вёска за 10 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на ўсход ад Камаяў. Назва ўтворана штучна ў 1964 годзе, калі па Беларусі ішла хваля перайменавання «немілагучных» назваў.

**Ваўкі́** — вёска за 37 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км ад чыгуначнай станцыі Навадруцк, на шашы Віцебск–Вільня. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад наймення драпежніка *воўк*. Магчыма, такую мянушку (або прозвішча) мелі жыхары вёскі. На Пастаўшчыне шырока распаўсюджана прозвішча *Воўк*, а таксама сустракаюцца *Ваўкоў* (рус. *Волков*), *Ваўкавыцкі*.

**Валкі́** — вёска за 9 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўднёвы захад ад Навасёлак. Паколькі суседні прыпынак цягніка на чыгунцы мае найменне *Валькі*, то можна лічыць, што і паселішча так раней называлася. Назва паходзіць ад слова *воля*, *вольны*. Так

называліся населеныя пункты, якія ўзнікалі на новым месцы, а іх жыхары на некалькі год вызваляліся ад падаткаў у казну. Сінонім назве *Слабада*.

**Ве́йсішкі** — вёска за 30 км на захад ад Паставаў, за 7,5 км на поўнач ад Лынтупаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць ад славянскага *весь*, што азначае «невялікае сельскае паселішча; вёска». Магчыма паходжанне і ад літоўскага прозвішча *Veisys*.

**Верацэ́і** — вёска за 36 км на ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на ўсход ад чыгуначнай станцыі Навадруцк. З 1863 года вядома сяло Верацеі і маёнтак Ф. Куркоўскага. Назва паходзіць са славянскіх моў. У беларускай *верацея* — «узгорак, узвышша сярод балот, якое прыдатнае для апрацоўкі».

**Весялу́ха** — вёска за 7,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка. Вядома з 1905 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Верагодна, назва характарызуе вясёлы (бяспечны) вобраз жыцця яе жыхароў. Г. Жаброўскі ў сваёй манаграфіі «Міхнічы» піша: «Побач з Савічамі ляжыць вёска Весялуха, дзе жыхары мелі па пары гектараў, а іх продкі не хацелі разрабляць вялікае поле».

**Ве́штарты** — вёска за 13 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лучая. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Вештарт*, якое ўтварылася ад літоўскага дзеяслова *veršti*, што значыць «імкнуцца наперад, прабівацца праз перашкоды, жадаць быць вольным». Гэта прозвішча зараз сустракаецца на Пастаўшчыне.

**Ві́длы** — хутар за 13 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7,5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Назва паходзіць з балцкіх моў. У літоўскай *vidùs* — «сярэдзіна», *lenke* — «лагчына», *lanka* — «сенажаць». Атрымліваем прыдатнае тлумачэнне: «вёска, што ляжыць паміж лагчынамі». Сапраўды, паселішча знаходзіцца паміж ракой Вараноўкай і ручаём, які каля вёскі ўпадае ў раку. У вакольных вёсках назва часцей ужываецца ў форме *Відляне*, што набліжае яе да балцкай першаасновы.

**Вілéйты** — вёска за 12 км на паўночны захад ад Паставаў на правым беразе ракі Камайка. Назва ўтварылася з трох фіна-ўгорскіх асноў: *віл* + *лей* + *ты*, дзе *віл* — «старыца, азярцо на пойме ракі», *лей* — «рэчка, яр», а *ты* — «возера». Такім чынам, атрымліваецца «водная» назва з сэнсам «возера-старыца на пойме ракі». Геаграфічны аналіз добра пацвярджае прапанаванае тлумачэнне: рака Камайка, якая цячэ каля вёскі, патрапляе ў неглыбокую катлавіну, у выніку чаго цячэнне яе замаруджваецца і яна ўтварае шматлікія меандры і старыцы. На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Вілейта*.

**Вíршалы** — вёска за 24 км на захад ад Паставаў. Назва паходзіць з балцкіх моў. Літоўскае *віршуне* мае значэнні «верх», «вяршыня», «выток ракі». Гэткі ж сэнс мае і латышскае *virsune*. Сапраўды, вёска знаходзіцца на ўзвышшы каля вытоку ручая, што ўпадае ў раку Яновіцу.

**Вóйнеўка** — вёска за 15 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на захад ад Варапаева. Вядома з 1905 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Можна прапанаваць два варыянты тлумачэння паходжання і сэнсу назвы: 1) ад старажытнаславянскага імя *Война* (у Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Войніч*); 2) ад фіна-ўгорскіх асноў *oja* (эст.) — «ручай» і *neva* (фін.) — «балота». Славянскі фармант *-ка* характэрны для невялікіх населеных пунктаў. Геаграфічна вёска знаходзіцца каля ладнага па памерах балота, па якім цячэ рачулка. З гэтага вынікае, што назва магла ўтварыцца наступным чынам: спачатку існавала фіна-ўгорскае найменне ракі (урочышча) *войнева*, у сэнсе «забалочаны ручай» або «балота з ручаём», а пазней яно перайшла на бліжэйшы хутар, атрымаўшы характэрны канчатак.

**Вóлахі** — вёска за 3 км на паўночны захад ад Паставаў каля ракі Мядзелка. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць ад наймення народа: *волахі*, *валахі* — жыхары старажытнай дзяржавы Валахіі, якая знаходзілася на поўдні Румыніі. Яны маглі патрапіць на Пастаўшчыну ў якасці палону, які захапілі полацкія князі ў час ваенных паходаў у паўднёвыя землі. Зараз на Пастаўшыне сустракаецца прозвішча *Волах*.

**Во́льсе** — вёска за 10 км ад Паставаў. Вядома з 1873 года ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва славянская, паходзіць ад народнага тэрміна *вольс* — «зараснік вольхі».

**Вы́гары —** вёска за 31 км на захад ад Паставаў, за 10 км на поўнач ад Лынтупаў. Назва славянскага паходжання, якая азначае «месца, выпаленае сярод лесу». Сапраўды, вёска амаль з усіх бакоў абкружана вялікім лясным масівам.

**Вя́заўшчына** — вёска за 17 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Камаяў каля ракі Караліноўка. Вядома з 1873 года як уладанне Сулістроўскіх, пазней — засценак Буйко. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад найменне ўрочышча, адметнасцю якога былі дрэвы *вязы*.

**Вялі́чкі** — вёска за 36 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўночны захад ад Лынтупаў. Вядома з 1790 года. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі паходзіць ад мянушкі жыхара *Вялічка*, які меў, напэўна, вялікі рост. Зараз на Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Вялічка*.

**Вярда́шышкі —** вёска за 39 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. Назва, верагодна, паходзіць ад фіна-ўгорскай асновы *vara* ў значэнні «гара, узвышша, узгорак».

**Вярці́нскія** — вёска за 31 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўночны захад ад Казлоўшчыны. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Луцкай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі паходзіць ад прозвішча *Вярцінскі*, якое шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Вярэ́нькі** — вёска за 14 км на поўдзень ад Паставаў. Назва паходзіць ад беларускага сялянскага тэрміна *вярэнька*, які мае два значэнні: 1) каробка, плеценая з лубу, бяросты, лазы для пераноскі прадуктаў і гародніны; 2) ганчарны выраб — маленькая гліняная місачка з увагнутымі беражкамі для кармлення дзяцей. Верагодна, хтосьці з першажыхароў вёскі меў такую мянушку. Зараз на Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Вярэнька*.

## Г

**Гаду́цішкі (Гадуці́шкі)** — вёска за 16 км на захад ад Паставаў на мяжы з Летувой. Вядома з сярэдзіны XVI стагоддзя, у 1861 годзе — казённае мястэчка. У 1886 годзе была цэнтрам Гадуцішскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад літоўскага прозвішча *Гайдыс* (*Gaidys*), што азначае «певень».

**Гайдукі́** — вёска за 38 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 14 на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. *Гайдук* — слуга, выязны лакей часоў прыгоннага права. Ад венгерскага *hajduk* — паганяты. Прозвішчы *Гайдук*, *Гайдуковіч*, *Гайдукоўскі* і зараз сустракаюцца на Пастаўшчыне.

**Гайлю́ны** — вёска за 38 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў каля ракі Пяляка. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Гайлюн*, якое ўтварылася ад літоўскага імя *Гайлюс* (*Gailius*), што азначае «багульнік». Гэта прозвішча даволі шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Галаты́льцы** — вёска за 12 км на паўночны захад ад Паставаў, за 8 км на паўночны ўсход ад Гадуцішак на правым беразе ракі Камайка. Назва паходзіць ад прозвішча *Галатылец*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі, дзе *гала* мае значэнне «голы», а *тылец* (*тыл*) — «задняя частка чалавечага цела» (напрыклад, патыліца). У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Галатылец*.

**Гала́шышкі** — вёска за 29 км на захад ад Паставаў, за 11 км на поўнач ад Лынтупаў на мяжы з Літвой. Назва патранімічная, паходзіць ад літоўскага прозвішча *Galash* (*Галаш*).

**Галбе́я (Го́лбія)** — вёска за 25 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 8 км на поўнач ад Варапаева каля возера Галбея. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўза ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, у 1902 годзе — фальварак К. Пшаздзецкага. Назва вёскі ўтворана ад назвы возера. *Хол* у тувінскай мове азначае «возера», а *бі*, *бія* — «рака». Такім чынам атрымліваем: «рака, якая ўтварае возера». Геаграфічна гэта абсалютна дакладна, але выклікае сумненне сувязь назвы з мовай народа, які жыве

ў далёкім Забайкаллі. Магчыма, падобныя тэрміны існавалі і ў фіна-ўгорскіх мовах.

**Гара́наўшчына —** вёска за 34 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 16 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Назва славянскага паходжання, адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць вёскі: яна ляжыць на ўзгорках, што ўзвышаюцца сярод балот. У аснове назвы — геаграфічны тэрмін *гара*.

**Гаўры́лавічы —** вёска за 18 км на ўсход ад Паставаў на ўсходнім беразе возера Лучай. Вядома з 1873 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва ўтворана ад кананічнага імя *Гаўрыла* (*Гавриил*), якое меў хтосьці з жыхароў, а нашчадкаў яго называлі Гаўрылавічамі. Зараз на Пастаўшчыне сустракаецца шэраг прозвішчаў, якія ўтвораны ад імя *Гаўрыла*, што з яўрэйскай мовы значыць «муж Божы, моц Божая»: *Гаўрылаў*, *Гаўрыленка*, *Гаўрылін*, *Гаўрыловіч*, *Гаўрыльчык*.

**Гво́здавічы —** вёска за 18 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 2 км на поўдзень ад Камаяў. Вядома з пачатку ХХ стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Па сваёй форме назва патранімічная і ўтворана, верагодна, ад прозвішча *Гвозд* або *Гваздовіч*. На Пастаўшчыне зараз сустракаюцца такія прозвішчы, як *Гвозд*, *Гваздзеўскі*, *Гваздоўскі*. Магчыма, асновай назвы вёскі стаў старажытнаславянскі тэрмін *гвазда* ў значэнні «гразь», «багна». Сапраўды, на захад ад вёскі знаходзіцца даволі вялікае і гразкае балота.

**Гі́нькі —** вёска за 33 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. Назва паходзіць ад прозвішча *Гінько*, якое ўтварылася ад літоўскага імя *Gintautas* (*Гінтаўт*). Прозвішча *Гінько* вельмі распаўсюджана на Пастаўшчыне. Сустракаюцца таксама прозвішчы *Гінявец*, *Гінтаўт*.

**Гіруці́ —** вёска за 36 км на захад ад Паставаў, за 2,5 км на захад ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, уваходзіла ў маёнтак Раманішкі, які належаў Ксаверыю Даўгялу. Назва паходзіць ад прозвішча *Гіруць*, якое, у сваю чаргу, утварылася ад літоўскага слова *giria* — «лес».

На Пастаўшчыне сустракаецца даволі многа прозвішчаў з асновай *гір*: *Гіруць*, *Гірін*, *Гір'ят*, *Гірдзей*, *Гірстун*.

**Глі́нскія** — за 37 км на паўднёвы ўсход ад Пastaваў, за 13 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. Вядома з 1873 года ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча пасяленцаў — *Глінскіх*. Гэта прозвішча і зараз сустракаецца на Пастаўшчыне.

**Глі́ншчына** — вёска за 23 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на захад ад Дунілавічаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Вёска знаходзіцца на ледавіковых марэнных узгорках, для які характэрны *глiністыя глебы*, што і стала асновай для ўтварэння назвы ўрочышча, а затым і вёскі.

**Го́гава** — вёска за 10 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Лучайка. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва патранімічная, паходзіць ад імені *Гога*, якое з'яўляецца мясцовай трансфармаванай формай кананічнага імя *Георгій*, што значыць з грэчаскай «земляроб».

**Гражу́лі** — вёска за 31 км на захад ад Паставаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета як вёска і засценак Нарвойта. Назва паходзіць з літоўскай мовы, дзе *gražu* азначае «прыгожа, цудоўна».

**Гро́дзі** — вёска за 19 км на захад ад Паставаў каля возера Янкішкі. Назва, верагодна, паходзіць ад славянскай асновы *град* (польскае *grúd*) у значэнні «ўмацаванае месца», «замак». Параўнаем з назвай горада *Гродна*. Ад паселішча ўтварылася прозвішча *Гродзь*, якое сустракаецца зараз на Пастаўшчыне.

**Гро́цкаўшчызна** — вёска за 35 км на захад ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Лынтупаў. Назва ўтворана ад славянскай асновы *груд*: у польскай мове *grad* — «узвышша», «сухое месца сярод балота». Сапраўды, вёска ляжыць на невялікім узвышшы ў вялікім лясным масіве каля ладнага па памерах балота.

**Гру́здава** — вёска за 15 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. Былое мястэчка. Паходжанне назвы мясцовыя жыхары выводзяць ад грыбоў *груздоў*. Маўляў, у часы, калі вакол паселішча спрэс цягнулася пушча, тут іх расло вельмі багата. Насельнікі

вёскі і ваколіц назапашвалі грузды на зіму, што давала ім магчымасць выжыць у пару няўроду ці бяскорміцы. Больш верагоднай можна было б прызнаць версію пра ўтварэнне Груздава ад слова *груд* — «узгорак», «курган», што добра стасуецца з рэльефам мясцовасці, бо цэнтральная частка вёскі ўзвышаецца над ваколіцамі на 15–20 м. У польскай мове ёсць слова *gruz*, якое мае значэнні «шчэбень» і «разваліны», «руіны». Звернем увагу і на тое, што «шчэбню» ў беларускай мове адпавядае сінонім «друз». Гэта сведчыць пра тое, што і польскі, і беларускі тэрміны маюць агульную славянскую аснову, у якой толькі адбылося чаргаванне блізкіх гукаў. У літоўскай мове таксама ёсць блізкае па значэнні слова *gruzdas* — «будаўнічае смецце, друз».

**Гры́дзькі** — вёска за 8 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на захад ад Навасёлак. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага тэрміна *грыдзь* — так у даўнія часы называлі ваяроў малодшай княжацкай дружыны.

**Грынва́льды** — вёска за 34 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на поўнач ад Казлоўшчыны каля возера Грынвальды, былы маёнтак. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць з нямецкай мовы, дзе *grün* — «зялёны», *wald* — «лес». Магчыма, вёска названа ў гонар знакамітай Грунвальдскай бітвы 1410 года.

**Грэ́йцева** — вёска за 12 км на ўсход ад Паставаў, за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад Навасёлак. Вядома з 1873 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва патранімічная, паходзіць ад літоўскага імя *Greitas*, што азначае «хуткі».

**Гу́біна** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 1 км ад чыгуначнай станцыі Навадруцк. Існавала ў 1860-я гады. Назва, верагодна, паходзіць ад старажытнаславянскага тэрміна *губа* ў значэнні «сядзіба», «двор», «хата», «мыза» (паводле У. І. Даля). Прозвішча *Губін* на Пастаўшчыне не сустракаецца, хаця ў даўнейшыя часы чалавек з такім прозвішчам мог тут жыць і ад яго імя магла пайсці назва.

**Гудэ́лішкі (Гудзе́лішкі)** — вёска за 28 км на захад ад Паставаў, за 11 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў на мяжы з

Летувой. Назва паходзіць з балцкіх моў. У літоўскай *gùdas* — «чужы». Гудамі продкі летувісаў называлі славян (беларусаў), якія для іх былі чужынцамі. З гэтага вынікае, што вёска здаўна была населена славянамі-крывічамі. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы з асновай *гуд*: *Гудас*, *Гуданец*, *Гудоўшчыкаў*.

**Гумбя́ны** — вёска за 29 км на захад ад Паставаў, за 5 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад літоўскага апелятыва *gumbinas* — «узгорачак». Яна вельмі дакладна характарызуе геаграфічную асаблівасць паселішча: невялікая вёсачка займае верхнюю частку невялікай гары.

**Гуме́ннікі** — вёска за 18 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 12 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Назва ўтворана ад асновы *гумно* — «вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту збожжа».

**Гу́рніца** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Лынтупаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва ўтворана ад польскага слова *góra* (*гура*) — «гара», што дакладна адлюстроўвае галоўную асаблівасць мясцовасці — наяўнасць высокіх узгоркаў, сярод якіх і помнік гісторыі — курган «магіла рыцара».

**Гу́та** — вёска за 24 км на ўсход ад Паставаў, на рацэ Галбяіца каля возера Галбея. Вядома з 1905 года, калі купец Каган купіў у графа Пшаздзецкага ўчастак лесу і ў 1913 годзе пабудаваў шклозавод. Славянскі прамысловы тэрмін *гута* паходзіць ад нямецкага *hütte* ў значэнні «пабудова», «плавільня», «металургічны завод». У Беларусі гэты тэрмін адносіўся пераважна да шклозаводаў. Да нядаўняга часу ў вёсцы Гута знаходзіўся шклозавод.

**Гу́тары** — вёска за 6 км на ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад тэрміна *гута* ў значэнні «шклозавод»; *гутар* — чалавек, які працаваў на гэтым заводзе. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Гутар* (вельмі шырока), *Гутараў*. Разам з гэтым нельга выключаць і версію паходжання назвы ад беларускага дзеяслова *гутарыць* — «размаўляць». З гэтага вынікае і мянушка: *гутар* — «чалавек, які любіць пагаварыць».

**Гэ́йбавічы (Ге́йбавічы)** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў. Вядома з 1873 года як уладанне Сулістроўскіх у Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва патранімічная, паходзіць ад прозвішча *Гейбавіч*, якое ўтварылася ад літоўскага імя *Geibas*, што азначае «слабы, хілы». На Пастаўшчыне і зараз сустракаюцца прозвішчы *Гейбавіч*, *Гайбовіч*.

## Д

**Дамуці́** — вёска за 38 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на поўдзень ад Лынтупаў. Вядома з 1790 года. З 1843 года была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, належала Юрыю Бішэўскаму. Назва паходзіць ад славянскай асновы *дом* — «хата», «жылая пабудова». Вядомым мядзельскім краязнаўцам Іванам Драўніцкім запісана легенда пра паходжанне назвы вёскі ад выразу *Dama mutis*, што азначае «жанчына-маці» — так называлі каралеўну Бону Сфорцу, маці караля Жыгімонта Аўгуста.

**Да́неўцы** — вёска за 21 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 18 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя. Верагодна, назва паходзіць ад імя *Дань*, якое з'яўляецца формай кананічнага імя *Данііл* (*Даніла*), у літоўскай мове *Danys*, што азначае *«суддзя Божы»*. На гэта падказваюць прозвішчы *Дань*, *Данькоў*, якія сустракаюцца на Пастаўшчыне. Нельга выключаць і паходжанне назвы ад слова *даніна* — натуральны або грашовы падатак, які ў старажытныя і сярэднія вякі збіраўся князем, феадалам са сваіх падданых. Такім чынам, назва вёскі падкрэслівае залежнае становішча яе жыхароў ад уладальнікаў.

**Даравóе** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. Вядома з 1781 года як сяло ў Дунілавіцкім маёнтку, у 1861 — як вёска Дарава. У 1873 годзе была ў Норыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Верагодна, назва паходзіць ад славянскага *дарыць* і адлюстравала факт пераходу паселішча ў якасці падарунка, *у дар*, да новага ўладальніка.

**Да́шкі (1)** — вёска за 20 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Варапаева. Вядома з 1905 года як вёска

і засценак у Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад беларускага слова *дах* у значэнні «хата», «жыллё», «прытулак». Запазычана з нямецкай мовы, дзе *Dach* — «страха». Назва *Дашкі* даволі распаўсюджаная на Беларусі. У Пастаўскім раёне ёсць аж пяць такіх вёсак. Ад гэтай асновы утворана і назва вёскі *Дашчынкі*. На Пастаўшчыне распаўсюджаны прозвішчы *Дашкевіч*, *Дашчынскі*.

**Да́шкі (2)** — вёска за 6 км на ўсход ад Паставаў. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Паходжанне назвы гл. *Дашкі* (*1*).

**Да́шкі (3)** — вёска за 5 км на захад ад Паставаў. Паходжанне назвы гл. *Дашкі* (*1*).

**Да́шкі Вялі́кія** — вёска за 14 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 9 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Паходжанне назвы гл. *Дашкі* (*1*).

**Да́шкі Малы́я** — вёска за 2 км на захад ад вёскі Дашкі Вялікія. Паходжанне назвы гл. *Дашкі* (*1*).

**Да́шчынкі** — вёска ў Навасёлкаўскім сельсавеце. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад беларускага слова *дах* у значэнні «хата», «жыллё», «прытулак». На Пастаўшчыне распаўсюджаны прозвішчы *Дашкевіч*, *Дашчынскі*.

**Дварча́ны (1)** — вёска за 6 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 1,5 км на паўночны захад ад возера Світа. Назва паходзіць ад славянскай асновы *двор* у значэнні «маёнтак, памесце». Мясцовая легенда расказвае пра тое, што на месцы вёскі стаяў калісьці раней панскі двор, сам яго ўладальнік быў злым і жорсткім гаспадаром. За гэта яго і празвалі «чорным» (па-польску «чарны»), а маёнтак сталі зваць *двор чарны*. З часам назва паступова змянілася і ператварылася ў Дварчаны.

**Дварча́ны (2)** — вёска за 38 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. Вядома з пачатку XX стагоддзя як цэнтр Дварчанскай сельскай акругі Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе тут знаходзіўся флігель і вадзяны млын Бішэўскага. Паходжанне назвы гл. *Дварчаны* (*1*).

**Дземяшы́** — вёска за 23 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на захад ад Варапаева. Вядома з 1905 года як вёска і выселкі ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва патранімічная, паходзіць ад імя *Дземяш*, якое з'яўляецца мясцовай формай імя *Дзям'ян* (кананічнае — *Даміан*, што азначае *«які належыць багіні Дамініі»*). У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Дземяшонак*, *Дземяшкевіч*, *Дзяменцьеў*, *Дзямчук*.

**Дзеравя́нкі** — вёска за 8 км на поўдзень ад Паставаў на ўсходнім беразе возера Доўжа. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўза ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча мясцовых жыхароў Дзеравянка, якое ўтворана ад славянскага слова *дзярэўня* — «ралля, месца, якое расчышчана ў лесе пад земляробства, зямельны надзел, хутар». Можна меркаваць, што *дзеравянка* — гэта чалавек, які займаўся расчысткай лесу пад раллю. Зараз гэта прозвішча — адно з самых распаўсюджаных на Пастаўшчыне.

**Дзе́ткава (Дзе́дкава)** — вёска за 15 км на поўнач ад Паставаў каля ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Можна меркаваць, што назва ўтварылася ад той жа старажытнаславянскай асновы *дзет*, што і *дзяцінец* — так у даўнія часы называлася ўмацаванае месца паселішча. Пакуль што рэшткаў старажытных умацаванняў каля вёскі не выяўлена, аднак тое, што яна знаходзіцца ў месцы злучэння дзвюх у мінулым суднаходных рэк (Мядзелка і Лучайка), дзе трэба было мець астрог для кантролю за водным транспартным шляхам, робіць прапанаваную версію даволі прываблівай.

**Дзядзе́нкі Го́рныя** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на ўсход ад Дунілавічаў. Назва паходзіць са славянскіх моў. У польскай *dziad* мае значэнні «дзед, стары» і «бедны, незаможны». Адсюль, Дзядзенкі — гэта паселішча беднякоў. Прыметнік «Горныя» падкрэслівае геаграфічна вышэйшае размяшчэнне вёскі («па гары») у параўнанні з суседнімі Дзядзенкамі Дольнымі, якія ляжаць у нізіне («па долу»).

**Дзядзе́нкі До́льныя** — вёска за 1 км на поўнач ад вёскі Дзядзенкі Горныя. Тлумачэнне назвы гл. *Дзядзенкі Горныя*.

**Дзяўгу́ны** — вёска за 22 км на захад ад Паставаў, за 14 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1821 года. Назва паходзіць, верагодна, з балцкіх моў. У літоўскай *dievas* азначае «Бог, Гасподзь», *dievukas* — «бажок, кумір»; слова *kūnytis* мае значэнне «ўвасабляцца, ператварацца». З гэтага вынікае, што *дзяўгун* (*dievas kūnytis*) — «увасабленне Бога». Так маглі называць жрацоў-вайдэлотаў, а на месцы сучаснай вёскі магло знаходзіцца капішча або свяцілішча. Гэта пацвярджаецца і старажытным гарадзішчам, што ўзвышаецца ў цэнтры Дзяўгунаў.

**Дзяўгу́цішкі** — вёска за 37 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3,5 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад літоўскага прозвішча *Дзеўгуць*, у аснове якога *dievas*, што азначае «Бог, Гасподзь». Прозвішча *Дзеўгуць* пашырана на Пастаўшчыне.

**До́ўжа** — вёска за 8 км на поўдзень ад Паставаў каля возера Доўжа. Вядома з 1861 года як маёнтак Тызенгаўза. У 1905 годзе — фальварак Пшаздзецкіх. Вёска атрымала сваё найменне ад возера. Назва славянская і сведчыць пра адметнасць гэтага вадаёма — яго *даўжыню*. Сапраўды, пры найбольшай шырыні ўсяго 0,42 км даўжыня возера налічвае 4,89 км. Канчатак *-жа* ў назве ўзмацняе адметную ўласцівасць возера.

**Драбышы́** — вёска за 6 км на захад ад Паставаў. Назва паходзіць ад мянушкі-прозвішча *Дробыш*, якое мае значнае распаўсюджанне на Пастаўшчыне. Само прозвішча, верагодна, паходзіць ад асновы *дробны*, што значыць «невялікі, маларослы». Такую мянушку меў нехта з першажыхароў вёскі. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Дробыш*, *Драбовіч*, *Дробат*.

**Драздо́ўшчына** — вёска за 29 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Норыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі ўтварылася ад наймення ўрочышча, дзе вадзілася многа *драздоў* — лясных птушак атрада вераб'іных. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Дрозд*, *Драздоў*, *Драздовіч*.

**Дразды́** — вёска за 33 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Норыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Іншая назва — Драздоўшчына. Тлумачэнне назвы гл. *Драздоўшчына*.

**Дубра́ва** — вёска за 22 км на паўночны ўсход ад Паставаў каля ракі Паловіца. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўза ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва адлюстроўвае асаблівасці раслінкасці ў ваколіцах вёскі: *дубрава* — «дубовы гай». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Дуброўскі*.

**Дубро́ўшчына** — вёска за 25 км на паўднёвы захад ад Паставаў каля ракі Страча. Вядома з 1921 года як засценак. Назва адлюстроўвае асаблівасці раслінкасці ў ваколіцах вёскі: *дубрава* — «дубовы гай».

**Дукі́** — вёска за 4 км на паўднёвы захад ад Паставаў каля возера Загацце. Вядома з 1873 года ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Тлумачэнне назвы можна звязаць з польскім *duct*, што значыць «просека, мяжа». Вёска знаходзіцца на этнічнай мяжы паміж славянскімі і балцкімі плямёнамі, на што паказваюць назвы недалёкіх вёсак Рубеж, Ліцвінкі, Русакі, Маскалішкі. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Дук*.

**Дуні́лавічы (Дані́лавічы)** — аграгарадок за 25 км на ўсход ад Паставаў. Вядома з 1473 года як уладанне князя Аляксандра Гальшанскага. Назва вёскі патранімічная, сведчыць пра тое, што ў паселішчы пражывалі нашчадкі першапасяленца *Данілы* (кананічнае *Данііл*), што азначае «суддзя Божы». Ад гэтага імя ўтворана шмат прозвішчаў, з якіх на Пастаўшчыне сустракаюцца: *Данілевіч*, *Данілаў*, *Данілейка*, *Даніленка*, *Данільчанка*, *Данілюк*.

## Е, Ё

**Ельнякі́** — вёска за 13 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 5 км на поўнач ад Навасёлак каля ракі Снарыхаўка. Вядома з пачатку XX стагоддзя як засценак Клейгельса. Назва адлюстроўвае асаблівасць вакольнай раслінкасці: наяўнасць *яловых лясоў*, якія і зараз акружаюць вёску.

**Ё́даўцы** — вёска за 14 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3,5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Вядома з 1873 года ў Камайскай воласці Свянцянскага павета, уладанне Суліструўскіх. Назва ўтворана ад літоўскай асновы *juodas* — «чорны».

Падставай для ўзнікнення такой назвы магло стаць імя жыхара (*Ёдас*, *Ёдка*) або чорная зямля гарадзішча, якое, па звестках археолага Л. Побаля, знаходзілася каля вёскі.

**Ё́цішкі** — вёска за 20 км на захад ад Паставаў, за 5 км на захад ад Гадуцішак. Назва паходзіць з балцкіх моў, дзе літоўскае *juočkis* азначае «смуглявы, чарнявы».

## Ж

**Жакí** — вёска за 34 км на захад ад Паставаў, за 4 км на поўнач ад Лынтупаў. Вядома з 1861 года ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад балцкай асновы *šaka* (літ.), *saka* (лат.) — «любое адгалінаванне», напрыклад рукаво ракі, адасабленне ўзгорка. Вёска знаходзіцца на ўзвышанай градзе, якая адыходзіць ад значнага па памерах узвышша.

**Жалязóўшчына** — вёска за 11 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. У 1905 годзе фальварак Бутлера ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва, верагодна, звязана з мясцовасцю, дзе ў старажытнасці вялася здабыча балотнай руды і выплаўка жалеза.

**Жардэ́лі (Жардзéлі)** — вёска за 25 км на захад ад Паставаў, за 10 км на ўсход ад Лынтупаў. У 1905 годзе засценак у Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць з балцкіх моў, дзе *žardiena*, *žardis* — «загарадка для жывёлы, загон». У беларускай мове ёсць словы *жэрдка*, *жардзіна* — «доўгая палка, якая выкарыстоўваецца звычайна для загарадкі».

**Жáрскія** — вёска за 23 км на захад ад Паставаў, за 11 км на ўсход ад Лынтупаў. У 1905 годзе фальварак Асінскага ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Верагодна, назва вёскі паходзіць ад урочышча, дзе ўчастак лесу быў выпалены для сельскагаспадарчай апрацоўкі. Старажытнаславянскі тэрмін *жар* звязаны з працэсам падсечна-агнявога земляробства і якраз адносіцца да гарэлага лесу. У літоўскай мове ёсць слова *žarijos* — «жар». Мажліва і паходжанне назвы ад прозвішча *Жарскі*. Праўда, зараз у раёне людзей з такім прозвішчам няма, але ёсць аднакарэнныя *Жарын*, *Жаркоў*.

**Жарсцвя́нка** — вёска за 24 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 13 км на поўдзень ад Варапаева. Вядома з пачатку ХХ стагоддзя як вёска Дунілавіцкай воласці і засценак Сварцэвічаў. Назва паходзіцца ад беларускага слова *жарства* — «буйны калючы пясок, дробныя каменьчыкі, якія ўтвараюцца ад разбурэння горных парод».

**Жа́ры** — вёска за 17 км на паўднёвы захад ад Паставаў. Вядома з 1921 года ў Камайскай гміне. У 1937 годзе засценак Жарскія. Назва паходзіць ад асновы *жар*. Тлумачэнне гл. *Жарскія*.

**Жвіры́нка** — хутар за 30 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў, былы засценак. Назва паходзіць ад літоўскага *žvyras*, што азначае «гравій, буйны пясок».

**Жвóйрышкі Вялíкія** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 11 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. Вядома з пачатку ХХ стагоддзя ў Лынтупскай воласці. Пазва, верагодна, паходзіць ад літоўскага *žverti*, што азначае «звер». Магчыма, існавала літоўскае паганскае імя *Žvairis* або *Žvojris*.

**Ждані́ы** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 11 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Норыцкай воласці. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага імя *Ждан*. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Жданаў*, *Ждановіч*, *Жданковіч*.

**Жу́кава** — вёска за 31 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Норыцкай воласці. Назва паходзіць ад прозвішча *Жукаў*, якое ў сваю чаргу ўтварылася ад мянушкі *Жук*. Прозвішча з асновай *жук* адно з самых распаўсюджаных на Пастаўшчыне: *Жук*, *Жукаў*, *Жукоўскі*, *Жук’ян*.

**Жукí** — вёска за 9 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 15 км на захад ад Варапаева. Вядома з пачатку ХХ стагоддзя ў Пастаўскай воласці. Тлумачэнне гл. *Жукава*.

**Жу́перкі** — вёска за 29 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на ўсход ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў маёнтку Руцкое Вілейскага павета. Назва паходзіць з балцкіх моў. У літоўскай *aži* азначае «за», *perkasas* — «канал, канава, перакоп». Адсюль вынікае, што жуперкі — гэта месца за канавай.

**Жыгу́ны (Жыгу́ні)** — вёска за 20 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 17 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1873 года ў Камайскай воласці як уладанне Сулістроўскага. Назва, верагодна, паходзіць з літоўскай мовы ад прозвішча *Žygunas*, што азначае «пасланец, хадок». Сярод беларусаў ёсць прозвішчы *Жыгун*, *Жыгуноў*.

Лінгвіст І. Яшкін зафіксаваў дыялектнае значэнне слова *жыгун* — «сухі, цякучы, вельмі тонкі пясок».

**Жылі́нскія** — вёска за 13 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на захад ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Жылінскі*, якое ўтварылася ад мянушкі *жыла*, *жылісты*, што значыць «сухарлявы, мускулісты». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Жылаў*, *Жылевіч*.

## З

**За́балацце** — вёска за 13 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка. У пачатку XX стагоддзя ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча паселішча — знаходжанне *«за балотам»*.

**Забро́ддзе** — вёска за 3 км на паўночны захад ад Паставаў каля ракі Мядзелка. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча — месцазнаходжанне *«за бродам»*, які існаваў праз Мядзелку ў паўночнай частцы Паставаў.

**Зага́чча** — вёска за 5 км на паўднёвы захад ад Паставаў каля ракі Спарыцы. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча — вёска знаходзіцца *«за гаццю»*. Гаць — насціл з бярвення, галля, ламачча для праезду цераз балота або гразкае месца — раней існавала праз раку Спарыца. Яна называлася «Чортаў мост» і была небяспечная для праезду, бо, паводле слоў мясцовых жыхароў, багністая мясцовасць неаднаразова засмоктвала жывёлу, вазы, а ў вайну нават танк.

**Заготско́т** — вёска за 3 км на захад ад Паставаў. Вядома з 1963 года ў Свілельскім сельсавеце. Населены пункт узнік пры жывёлапрыёмным пункце VII «Каапнарыхтпрамгандаль», а назва адлюстроўвае яго функцыю.

**Задзе́ўе** — вёска за 3 км на захад ад Паставаў каля возера Задзеўскае. Вядома з 1873 года ў Ясеўскай воласці. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча — *«за дзеўем»*. Дзеўе — гэта ранейшая назва возера Задзеўскае.

**Закано́ўшчына** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Варапаева. Назва адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць паселішча — месцазнаходжанне *«за конам»*. Старажытнаславянскае *конъ* азначала «рад», «мяжа», «граніца», «канец». З гэтага вынікае, што заканоўшчына — гэта мясцовасць, якая ляжыць за мяжой нечых уладанняў.

**Зале́ссе —** вёска за 28,5 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 13 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў, за 2 км на ўсход ад возера Балдук. Назва паказвае асаблівасць геаграфічнага становішча — *«за лесам»* ад вёскі Станчыкі.

**Зару́ддзе** — вёска за 32 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 15 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. У 1946 годзе ў Ласіцкім сельсавеце. Назва адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць вёскі — яна ляжыць *«за рудой»*. Аснова *руда* сустракаецца як у славянскіх, так і ў балцкіх мовах і мае некалькі значэнняў. Геаграфічны аналіз паказвае, што ў дадзеным выпадку рудой называецца вялікае лясное балота з чырванаватай вадой, у якой утрымліваецца шмат балотнага бурага жалязняку — ліманіту. За гэтым балотам і ляжыць вёска.

**Заро́жжа** — вёска за 28 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 16 км на поўдзень ад Варапаева каля ракі Заражанка. У пачатку XX стагоддзя ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва ўтварылася ад старажытнаславянскага тэрміна *зараза*, які ўжываўся ў значэннях «цяжкапраходная мясцовасць», «лес з ярамі».

**Заро́цкія** — вёска за 24 км на ўсход ад Паставаў, за 1 км на ўсход ад Варапаева. Вядома з 1878 года ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Зарэцкі* («той, хто жыў за ракой»). *Зарэцкі* — прозвішча, якое шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Заха́раўшчына** — вёска за 6 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка. Вядома з 1873 года ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад імя *Захар*,

якое ўтворана ад кананічнага хрысціянскага *Захарый*, што ў яўрэйскай мове азначае «памяць Господняя». На Пастаўшчыне шырока распаўсюджаны прозвішчы *Захарыч*, *Захарэвіч*, *Захарчанка*. Існуе легенда, што першапачаткова вёска называлася Закараўшчына з прычыны таго, што жыхары тутэйшай мясцовасці актыўна ўдзельнічалі ў паўстаннях XIX стагоддзя супраць расійскай акупацыі, за што і былі пакараныя.

**Зэ́нькава** — вёска за 19 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 12 км на паўднёвы захад ад Варапаева каля ракі Смычыца. Назва ўтворана ад кананічнага польскага імя *Зянон* (*Zenon*), што азначае «прападобны». Гэта імя на Пастаўшчыне сустракаецца ў вытворных формах *Зэнька*, *Зэнусь*, *Зэнак*, якія адлюстраваліся ў прозвішчах *Зяневіч*, *Зянкоў*, *Зянько*, *Зянькоў*.

## I

**Ігна́цішкі** — вёска за 34 км на захад ад Паставаў, за 2 км на поўдзень ад Лынтупаў. Вядома з 1873 года як засценак у Лынтупскім маёнтку. Назва патранімічная, утворана ад каталіцкага польскага імя *Ignacy* (кананічнае праваслаўнае *Игнатий*). У размоўнай форме ўжываецца *Ігнацы*. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Ігнацьеў*, *Ігнатовіч*, *Ігнаткоў*.

**Ідалі́на** — вёска за 12 км на поўдзень ад Паставаў каля ракі Мядзелка. У 1921 годзе засценак і вёска ў Манькавіцкай гміне. Назва, верагодна, паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе ў эстонскай *ida* — «усход», а *linn* — «горад, паселішча, замак». Такім чынам, *Ідаліна* — «усходняе паселішча», што можа быць, улічваючы знаходжанне вёскі на ўзгорку каля былой суднаходнай ракі Мядзелка. Мясцовыя жыхары тлумачаць паходжанне назвы ад імя *Ідолка*: так звалі калісьці даўно ўладальніцу гэтага паселішча.

**Інто́ка** — вёска за 11 км на паўночны захад ад Паставаў на мяжы з Летувой. Назва паходзіць ад літоўскага *intakas*, што азначае «прыток». Вёска сапраўды знаходзіцца ў месцы ўпадзення ракі Лігума ў раку Камайка.

## К

**Кабы́льнішкі** — вёска за 36 км на захад ад Паставаў, за 7 км на паўночны захад ад Лынтупаў. Назва паходзіць, верагодна, ад славянскай асновы *кобь* — «чары, чараўніцтва». Сустракаецца і слова *кабыльнік* у значэнні «чараўнік, калдун». Магчыма, назва падказвае месца, дзе ў даўнейшыя часы знаходзіліся капішчы або свяцілішчы. Можна вывесці паходжанне назвы і ад польскага *kobylak*, што азначае «конскае шчаўе». Даўней слова *кабыльніца* азначала «конскі тракт».

**Кавалёва** — вёска за 18 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 13 км на паўночны захад ад Варапаева. Назва паходзіць ад прозвішча або занятку чалавека: *каваль* — майстар, які займаецца коўкай металу. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Кавалёў*, *Кавалевіч*, *Кавалеўскі*, *Каваленка*, *Кавалёнак*, *Коваль*, *Кавальскі*, *Кавальчанка*, *Кавальчук*, *Ковач*.

**Кавалі́ (1)** — вёска за 31 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад Казлоўшчыны. Сяло Кавалі (Кавалёва) належала глыбоцкім кармелітам, у 1740 годзе перайшло ў казну. У пачатку XX стагоддзя вёска была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Кавалёва*.

**Кавалі́ (2)** — вёска за 38 км на захад ад Паставаў, за 4,5 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Кавалёва*.

**Кавалі́ (3)** — вёска за 14 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лучая. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, належала Тызенгаўзу. Тлумачэнне назвы гл. *Кавалёва*.

**Кадукі́** — вёска за 10 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы ўсход ад Кураполля паміж азёрамі Лапухова і Бярозаўка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад мянушкі жыхароў, паселішча якіх узнікла на невысокай выспе сярод балот і азёр. *Кадук* у беларускай мове азначае «чорт, д’ябал».

**Казаро́ўшчына** — вёска за 29 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на паўночны ўсход ад Варапаева каля ракі Чэртка. У пачатку

XX стагоддзя у Пастаўскай воласці. Назва паходзіць ад прозвішча *Казаравец* (*Казаровец*), якое ўтварылася, верагодна, ад формы старажытнаславянскага імя *Казимир*, каталіцкае польскае *Kazimierz*. Першапачаткова яна адносілася да мясцовасці, на што паказвае фармант *-шчына*. У Пастаўскім раёне шырока распаўсюджаны прозвішчы *Казаровец*, *Казура*, *Казаровіч*.

**Казімéрцы** — вёска за 26 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 14 км на поўнач ад Варапаева каля ракі Паловіца. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці як уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага імя *Казимир*, каталіцкае польскае *Kazimierz*. На аснове польскай формы ўтварыліся формы рэгіянальныя: *Казімеж*, *Казімер*, *Казьмер*. У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Казімірскі*.

**Казічы́** — вёска за 5 км на захад ад Паставаў на правым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Козіч*, якое ўтворана ад імя або мянушкі *Каза* (*Казёл*). У старажытнасці гэта імя было пачэсным, бо каза — татэмная жывёла, сімвал урадлівасці. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Козіч*, *Козел*, *Казелька*, *Казельскі*, *Казенка*.

**Казлóўшчына** — вёска за 34 км на ўсход ад Паставаў, за 11 км на паўночны ўсход ад Варапаева на паўночным беразе возера Ласіца. Да пачатку XX стагоддзя вядома як маёнтак Казлоўск князёў Друцкіх-Любецкіх, які да XV стагоддзя належаў Жабам. У аснове назвы — прозвішча *Казлоў*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Казлоў*, *Казловіч*, *Казлоўскі*, *Козел*.

**Казнадзéюшкі** — вёска за 34 км на захад ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад славянскага слова *казнадзей*, якое складаецца з дзвюх частак: *казна* — «грашовыя сродкі, маёмасць» і *дзеяць* — «дзейнічаць, рабіць». Можна параўнаць са словамі *дабрадзей*, *ліхадзей*, *чарадзей*. Адсюль можна вывесці і тлумачэнне тэрміна *«казнадзей»* як «кіраўнік маёмасці, грашовых сродкаў; казначэй». Але ў звязку з прыведзенымі прыкладамі першую частку назвы

можна растлумачыць са славянскага *козні*, што азначае «злыя, нядобрыя намеры» (выразы «строить козни, вражеские козни»). Тады слова набудзе іншы сэнс: *«казнадзей» — «чалавек, які дзейнічае са злымі намерамі»*. Паводле мясцовай легенды, у даўнія часы, калі Лынтупы былі вялікім княжым горадам, то ў прадмесці Казнадзеюшкі захоўвалася казна — грашовы скарб нальшчанскага князя Даўмонта.

**Кале́еўцы** — вёска за 12 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 4 км на захад ад Груздава. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Калей* — формы кананічнага хрысціянскага *Мікалай* (*Николай*), што азначае *«пераможца народаў; народны герой»*.

**Калі́наўка** (да 1966 года **Кукішы, Кукішкі)** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на поўдзень ад Варапаева каля ракі Смычыца. У пачатку XX стагоддзя ў Лучайскай воласці. Назва ўтворана ад слова *каліна* — «кустовая расліна сямейства бружмелевых з белымі кветкамі і чырвонымі горкімі ягадамі». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Каліна*, *Калінін*, *Калінчанка*, *Каліноўскі*, *Калінскі*, *Калінаў*.

**Калі́ты** — вёска за 30 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе фальварак, вёска, засценак, старожка. Назва паходзіць, верагодна, ад прозвішча *Каліта*. Гэта слова ў славянскіх мовах мае значэнні «грошы, багацце» і «паходная сумка, торба». У гісторыі Расіі быў цар Іван Каліта — «грашовы мяшок». Аднак нельга выключаць і магчымасць паходжання назвы ад старaславянскай асновы *кал* у значэнні «гразь, бруд» з улікам таго, што ў польскай мове ёсць дзеяслоў *kalać* — «гразніць, пэцкаць». У фіна-ўгорскіх мовах сустракаецца тэрмін *кал* (хант.) у значэнні «балота». Да такой версіі схіляе тое, што паселішча знаходзіцца ў нізкай забалочанай мясцовасці, за 1 км на захад ад вёскі ляжыць урочышча Каліціна, а недалёка ад яго — моцна забалочанае возера Халосенскае, аснова назвы якога таксама мае корань *хал* (*кал*). У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Каліта*, *Калітскі*, *Каліцкі*.

**Камáі** — вёска за 15 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 19 км на ўсход ад Лынтупаў. Упамінаецца ў пачатку XVI стагоддзя як маёнтак князя Глеба Юр'евіча Пронскага; як мястэчка згадваецца ў 1550 годзе. У 1886 годзе — цэнтр Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *кам* (удм.) — «рака», «плынь». Першапачаткова ўзніклі назвы ракі Камайка і Камайскіх азёр, а ад іх і назва вёскі.

**Кáменка** — вёска за 19 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 9 км на паўднёвы захад ад Дунілавічаў, за 1 км на паўднёвы ўсход ад возера Каменскае. Назва паходзіць ад славянскага *камень* — «усялякая цвёрдая горная парода» і характарызуе асаблівасць мясцовых грунтоў: тутэйшыя ледавіковыя марэнныя ўзгоркі ўтрымліваюць шмат камянёў. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Камянецкі*, *Каменскі*, *Каменка*, *Камінскі*.

**Канябічы** — вёска за 17 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 4,5 км на поўдзень ад Камаяў. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета, належала Сулістроўскаму. Назва, верагодна, паходзіць ад мянушкі *канябіч* — «чалавек, які звязаны з коньмі». Заманлівай падаецца версія тлумачэння наймення вёскі ад лацінскага *Cannabis sativa*, што азначае «дзікія каноплі».

**Карабáніха** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў, за 3,5 км на паўднёвы захад ад Варапаева. Назва паходзіць ад беларускага прыметніка *карабаты*, што азначае «няроўны, скрыўлены, пагнуты». На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Карабановіч*.

**Каралéўцы** — вёска за 21 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5,5 км на захад ад Камаяў, за 1 км на поўнач ад возера Лодасі. Назва паказвае прыналежнасць паселішча — яно было каралеўскім уладаннем.

**Каралí** — вёска за 15 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы захад ад Варапаева, за 1,5 км на захад ад возера Лучай. Назва паходзіць ад прозвішча або мянушкі *Кароль* або ад імя *Караль* (*Карл*). У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Кароль*, *Каралёнак*, *Каралёў*, *Каралеўскі*, *Каралькоў*.

**Каралінóва** — вёска за 15 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў на левым беразе ракі Караліноўка. У 1905 годзе была ў Камайскай воласці Свянцян-

скага павета, належала Ромэрам. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Караль* — польскай формы агульнаеўрапейскага імя *Карл*. *Каралінова* (раней — *Каралінаў*) — «маёнтак, які належаў Каралю».

**Ка́рпавічы** — вёска за 17 км на ўсход ад Паставаў, за 6,5 км на паўднёвы захад ад Варапаева. У 1861 годзе была ў маёнтку Лучай Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Карпавіч* або *Карповіч*, якое ўтварылася ад кананічнага праваслаўнага імя *Карп*, што ў грэчаскай мове азначае «плод». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Карпей*, *Карпік*, *Карпенка*, *Карпаў*, *Карпук*, *Карпукоў*.

**Касцяні́** — вёска за 5 км на паўночны ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай валасці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад імя *Касцень* — формы кананічнага праваслаўнага *Канстанцін*, што ў лацінскай мове азначае «цвёрды, пастаянны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Костач*, *Касценіч*, *Касцень*, *Касцюк*, *Касцюкевіч*, *Касцюкоў*, *Касцючэнка*, *Касцючонак*, *Касцючкоў*.

**Ка́шыцы** — вёска за 5 км на поўдзень ад Паставаў на рацэ Глодаўка. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай валасці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад дыялектнага слова *кашка*, што азначае «лясная расчыстка, вырубка». Тэрмін, напэўна, паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *kaski* (фін., кар.) — «выпаленае месца пад раллю», тэрмін падсечна-агнявога земляробства.

**Ке́бнева** — вёска за 10 км на ўсход ад Паставаў, за 1 км на поўдзень ад Навасёлак. Назва паходзіць ад прозвішча *Кебнеў* (або *Кебіч*), якое, верагодна, утварылася ад дыялектнага заходнярускага *кеп* (Даль), што азначае «хілы, нягеглы; дурны».

**Ке́йзікі** — вёска за 26 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на поўнач ад Варапаева каля ракі Заражанка. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай валасці, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Кейзік*, якое шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне. Прозвішча, верагодна, утварылася ад літоўскага імя *Keizis*.

В. Жучкевічам зафіксавана дыялектнае значэнне слова *кейзік* — «малы, маларослы».

**Ке́ўлічы** — вёска за 35 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 16 км на поўнач ад Варапаева каля ракі Галбіцы. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча або мянушкі *Кеўліч*, якая, верагодна, утварылася ад літоўскага *kiaule*, што значыць «свіння».

**Ко́йры (1)** — вёска за 13 км на поўнач ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. Назва паходзіць ад прозвішча *Койра*, якое ўтварылася ад літоўскага імя *Kajrys*, што азначае «ляўша». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Койра*, *Кайровіч*.

**Ко́йры (2)** — вёска за 29 км на захад ад Паставаў, за 5,5 км на ўсход ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, належала Сырвіду. Тлумачэнне назвы гл. *Койры* (*1*).

**Ко́йры (3)** — вёска за 12 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 2 км на поўнач ад Вярэнек. Тлумачэнне назвы гл. *Койры* (*1*).

**Ко́лаўцы** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Дунілавічаў. Назва, верагодна, паходзіць ад славянскага *кола* — «круг» або *около* — «каля» і характарызуе вёску як паселішча, якое знаходзіцца каля возера Надазерскае. Не выключана, што ў даўнейшыя часы возера называлася Кола або Колаўскае з прычыны амаль правільна выцягнутай катлавіны. У Пастаўскім раёне на адлегласці 15 км на захад ад вёскі Колаўцы ёсць возера *Колаўскае* і ўрочышча *Колава*.

**Ко́саўшчына** — вёска за 33 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 17 км на поўнач ад Варапаева каля ракі Паловіца. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці, належала Тызенгаўзу. Назва, верагодна, утварылася або ад фіна-ўгорскай асновы *kosk* — «водмель», «перакат», «парог», або ад славянскага *каса* — «водмель», «мыс». Як бачым, розныя мовы даюць сэнсава блізкія тлумачэнні. Можна меркаваць, што ўрочышча, у якім пазней з’явілася вёска, вызначалася водмелямі (косамі) на рацэ Паловіца.

**Ко́ўзаны** — вёска за 13 км на ўсход ад Паставаў, за 4,5 км на паўночны захад ад Лучая. У 1873 годзе была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Коўзан*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі. Так называлі чалавека,

які меў *коўзкую* паходку, коўзкія рухі, гэта значыць, што чалавек *хадзіў плаўна*, *лёгка*. На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Коўзан*.

**Краскí** — вёска за 17 км на поўдзень ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Вярэнек, за 1 км на паўночны захад ад возера Кузьмічы. Назва паходзіць ад прозвішча або імя *Краско*, якое ўтварылася ад старажытнаславянскага прыметніка *красны* ў значэнні «прыгожы». У Пастаўскім раёне ёсць шмат прозвішчаў з асновай «крас»: *Краско*, *Красаў*, *Красоўскі*, *Красілевіч*, *Крашчанка*.

**Крáшнева** — вёска за 21 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 19 км на паўночны захад ад Варапаева каля ракі Дзісна. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць з балцкіх моў: літоўскае *kraštas* азначае «бераг», такое ж значэнне мае і латышскае *krasts*. Такое тлумачэнне дакладна адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць вёскі, якая ляжыць на беразе Дзісны.

**Крóлікі** — вёска за 13 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на захад ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. На польскіх картах 30-х гадоў XX стагоддзя назва запісана як *Króliki*, што дае падставы растлумачыць яе паходжанне ад польскага *król* — «кароль». Верагодна, у старажытнасці вёска была каралеўскім уладаннем.

**Крукí 1-я** — вёска за 10 км на захад ад Паставаў, 5,5 км на паўночны ўсход ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Крук*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі. *Крук* — «крывы, скручаны, сутулы або гарбаты чалавек» («хадзіць крукам», «сагнуцца крукам»). Як верагодны варыянт можна разглядаць паходжанне прозвішча і ад польскага *kruk* — «воран; крумкач». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Крук*, *Крукач*, *Крукаў*, *Крукоўскі*.

**Крукí 2-я** — вёска за 16 км на захад ад Паставаў, за 1 км на поўдзень ад Гадуцішак. У пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Крукі 1-я*.

**Круткí** — вёска за 15 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на захад ад Варапаева. З пачатку XX стагоддзя ў Лучайскай воласці. Паходжанне назвы можна растлумачыць як з балцкіх, так і са

славянскіх моў, прычым сэнсавае значэнне назвы амаль супадае. У літоўскай мове *krutis* — «узвышша, узгорак, бераг»; у рускай *круча* — «пригорок, холм». Вёска сапраўды знаходзіцца на ўзгорыстай мясцовасці з моцна перасечаным рэльефам.

**Крыво́е 2-е** — вёска за 33 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на ўсход ад Варапаева каля возера *Крывое*. Вядома з 1873 года ў Норыцкай воласці. Назва паселішча ўтварылася ад назвы возера, якое, сапраўды, мае вельмі складаную форму катлавіны. Да 1977 года існавала вёска Крывое 1-е, якая злілася з Крывое-2.

**Крыві́ Мост** — вёска за 14 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 13 км на паўночны захад ад Варапаева. Назва адлюстроўвае асаблівасці транспартных шляхоў і першапачаткова адносілася да ўрочышча, дзе праз рачулку быў перакінуты мост.

**Кры́ўка** — вёска за 20 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Варапаева. У пачатку XX стагоддзя ў Лучайскай воласці, засценак. Назва ўтворана ад прыметніка *крывы* і адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча паселішча: сама вёска «крывая», бо знаходзіцца каля поймы невялікай ракі, якая ўтварае вялікую луку — «крывуліну».

**Куба́ркі** — вёска за 12 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на левым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, належала Смігельскаму. У 1905 годзе маёнтак Хомскага на рацэ Ржаўка, засценак, вёска і выселак. Назва, верагодна, паходзіць ад літоўскага *kūbrys*, што азначае «ўзгорак, курган». І. Яшкін звязвае паходжанне назвы з дыялектным *кубаркі* — «зараснікі бабоўніку або капытніку».

**Кукля́ны** — вёска за 22 км на захад ад Паставаў, за 13 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад літоўскага *kuklus* — «сціплы, непатрабавальны». Такую, напэўна, характарыстыку ад мясцовых жыхароў атрымалі перасяленцы-старaверы з Расіі, якія заснавалі тут паселішча.

**Кулако́ва** — вёска за 6 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Кулакоў*, якое ўтварылася ад тэрміна *кулак* — так называлі за-

можных сялян-уласнікаў, якія наймалі беднякоў для работы на сваёй гаспадарцы. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Кулак*, *Кулакоў*, *Кулакоўскі*.

**Ку́ндры** — вёска за 13 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 4 км на ўсход ад Кураполля на левым беразе ракі Паловіца. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: у эстонскай *kund* азначае «ралля, разворванне глебы». На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Кундра*.

**Куні́цкія 1-я** — вёска за 28 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 10 км на поўнач ад Варапаева на правым беразе ракі Галбяіца. У пачатку ХХ стагоддзя ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Куніцкі*, якое ўтварылася ад мянушкі або паганскага імя *Куніца*, дадзенага чалавеку за падабенства рыс характару з *куніцай* — невялікай драпежнай жывёлай сямейства куніцавых з каштоўным футрам. На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Куніцкі*.

**Куні́цкія 2-я** — вёска за 30 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўночны захад ад Казлоўшчыны на левым беразе ракі Ласіца. Тлумачэнне назвы гл. *Куніцкія 1-я*.

**Курапо́лле** — вёска за 12 км на поўнач ад Паставаў на рацэ Лучайка. У 1905 годзе маёнтак Пшаздзецкіх і вёска ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва складаецца з дзвюх асноў: *Кура* — верагодна, змененае літоўскае імя *Kuris* (*Kuras*), а *полле* — «зямля, поле». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Куракова*, *Курачэнка*, *Курачонак*, *Кураш*, *Курашэвіч*.

**Курды́** — вёска за 14 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы захад ад Лучая. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Курда*, утворанага, верагодна, ад літоўскага *Įkurdinimas*, што азначае «паселішча». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Курда*, *Курдо*, *Курдзёнак*, *Курдзека*.

**Ку́рсевічы** — вёска за 8,5 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы захад ад Навасёлак. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Курсевіч*, якое ўтварылася ад этноніма *куршы* — найменне старажытна-латвійскай народнасці на захадзе Латвіі.

*Курса* — гістарычная вобласць у Латвіі, якую насялялі раней куршы. На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Курсевіч*.

**Курты́** — вёска за 6 км на паўночны захад ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. У 1873 годзе была ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць з балцкіх моў: у літоўскай *kurtis* азначае «сяліцца, пасяляцца»; *kurti* — «будаваць». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Курто*, *Курцін*, *Курціноўскі*.

**Куры́лавічы (1)** — вёска за 39 км на ўсход ад Паставаў, за 20 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Ваўкалацкай воласці. Назва патранімічная, утворана ад прозвішча *Курыловіч*, якое мае шырокае распаўсюджанне на Пастаўшчыне. У аснове прозвішча ляжыць імя *Курыла*, якое з'яўляецца мясцовай формай кананічнага праваслаўнага імя *Кирилл* (*Кірыла*). У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Курыловіч* (вельмі распаўсюджана), *Курылёнак*.

**Куры́лавічы (2)** — вёска за 8 км на ўсход ад Паставаў, за 3,5 км на паўднёвы ўсход ад Юнек. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Курылавічы* (*1*).

**Куці́шкі** — вёска за 34 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 9 км на поўдзень ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад славянскай асновы *кут* у значэнні «вугал, куток, край». Вёска сапраўды месціцца на куце поля каля вялікага ляснога масіву. На Пастаўшчыне ёсць прозвішчы *Кутуць*, *Куцько*, *Куталёў*, *Куценкоў*.

## Л

**Лазо́вікі** — вёска за 33 км на ўсход ад Паставаў, за 1 км на поўдзень ад чыгуначнай станцыі Навадруцк. Назва паходзіць ад прозвішча *Лазовік*, якое ўтварылася ад назвы расліны *лаза* — «кусты некаторых парод вярбы». Такую аснову ў Пастаўскім раёне маюць прозвішчы *Лазовік*, *Лазінскі*, *Лазікевіч*.

**Ламі́жына** — вёска за 10 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 1 км на паўночны захад ад Навасёлак. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць з балцкіх моў. Літоўскае *lomingas* азначае «нізкі». Адсюль, ламіжына — нізкае месца.

**Лапачóнкі** — вёска за 27 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўночны ўсход ад Варапаева на правым беразе ракі Чэртка. Вядома з 1860 года ў Віленскай губерні. У 1905 годзе — вёска і хутар у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Лапачонак*, якая ўтварылася, верагодна, ад мянушкі *лапатун* — «чалавек, які многа і бесперастанку гаворыць; балбатун». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Лапачонак*, *Лопанаў*.

**Ла́пінцы** — вёска за 14 км на поўнач ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Назва паходзіць ад беларускага *лапіна* — «мясцовасць, якая чым-небудзь вылучаецца на агульным фоне; невялікі кавалак зямлі».

**Лапóсі** — вёска за 12 км на поўнач ад Паставаў, за 2 км на ўсход ад Кураполля на правым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць з балцкіх моў, дзе *lopas* (літ.) — «лапіна, невялікі кавалак зямлі».

**Лапуны́** — вёска за 20 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Камаяў. У 1873 годзе — казённы маёнтак у Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад мянушкі *Лапун*, якая ўтварылася ад дзеяслова *лапаць* — «хапаць, мацаць рукамі». Можа быць, такую характэрную рысу мелі першажыхары вёскі. Магчыма паходжанне назвы і ад слова *лапа* — «ступня або нага некаторых жывёл і птушак», а таксама ў размове «нага або рука чалавека». У Пастаўскім раёне распаўсюджана прозвішча *Лапун*.

**Ла́сіца (1)** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 12,5 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева за 1 км на захад ад возера Ласіца, каля ракі Ласіца. У 1861–1865 гадах маёнтак Акушкі ў Віленскай губерні. У 1886 годзе была ў Норыцкай воласці Вілейскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад наймення ракі, у аснове якой ляжыць фіна-ўгорскае *laas* — «лес». Фармант *-іца* характэрны для вадатокаў. Такім чынам, *Ласіца* — «лясная рэчка».

**Ла́сіца (2)** — вёска за 33 км на ўсход ад Паставаў, за 1,5 км ад Казлоўшчыны, на ўсходнім беразе возера Ласіца. У пачатку

XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Тлумачэнне гл. *Ласіца* (*1*).

**Ла́ськія** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Казлоўшчыны, на левым беразе ракі Ласіца. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад наймення ракі, у аснове якой ляжыць фіна-ўгорскае *laas* — «лес». *Ласькія* — гэта тыя, што жывуць па лесе або каля ракі Ласіца.

**Ла́ўкі** — вёска за 17 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўднёвы ўсход ад Груздава. Назва паходзіць з балцкіх моў: літоўскае *laukas* азначае «поле».

**Лаўры́нава** — хутар за 18 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Лучая, за 1 км на поўдзень ад возера Каменскае. Назва патранімічная, паходзіць ад імя *Лаўрын* — формы праваслаўнага кананічнага імя *Лаўрэнцій*. У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Лаўрыновіч*.

**Лаўцы́** — вёска за 19 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Камаяў. У 1873 годзе вёска ў казённым маёнтку Камайскай воласці Свянцянскага павета. 16 сакавіка 2010 года рашэннем раённага Савета дэпутатаў ліквідавана. Назва паходзіць ад прозвішча *Лавец*, якое ўтварылася ад мянушкі *лавец* — «той, хто стала займаецца лоўляй каго-небудзь ці чаго-небудзь як промыслам». Відаць, уладальнік гэтай мянушкі меў добрыя здольнасці да такога роду дзейнасці. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Лавец*, *Лоўчык*.

**Лашукі́** — вёска за 32,5 км на ўсход ад Паставаў, за 1 км на паўднёвы захад ад Казлоўшчыны, на правым беразе ракі Ласіца. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Лашук*. Магчыма, у яе аснове ляжыць фіна-ўгорскае *laas* — «лес», з чаго вынікае, што *лашук* — «лясны жыхар». Вёска і зараз знаходзіцца сярод вялікага лесу. У літаратуры сустракаецца версія, што прозвішча Лашук утворана ад славянскага *лошадь* (конь). У Пастаўскім і Мядзельскім раёнах пашырана прозвішча *Лашук*.

**Ле́скава** — вёска за 13 км на поўнач ад Паставаў, за 1,5 км на ўсход ад Кураполля. У 1873 годзе знаходзілася ў Пастаўскай

воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва славянская, паходзіць ад асновы *лес*.

**Лі́паўка** — вёска за 9,5 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад Навасёлак. Назва паходзіць ад слова *ліпа* — «лісцевае дрэва сямейства ліпавых».

**Лі́пнікі** — вёска за 4,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, на правым беразе ракі Мядзелка. У пачатку XX стагоддзя знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад слова *ліпнік* — «зараснік ліпавых дрэў».

**Лісі́цы** — вёска за 20 км на ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на паўднёвы ўсход ад Лучая на ўсходнім беразе возера Лісіцкае. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Лісіца*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі, якую атрымаў чалавек за свае «лісіныя павадкі». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Лісіца*, *Лісоўскі*, *Лісовіч*, *Лісіцкі*.

В. Жучкевіч тлумачыць паходжанне назвы ад геаграфічнага дыялектнага *лысіца* ў значэнні «бязлесая паляна, голае ўзвышша».

**Ліцві́нкі** — вёска за 4 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 1 км на паўночны захад ад возера Загачча. У 1873 годзе была ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета. Назва — этнонім, паходзіць ад *ліцвіны* — этнічнай і гістарычнай назвы жыхароў ВКЛ — літоўцаў і беларусаў. У Пастаўскім раёне ад гэтай асновы ўтвораны прозвішчы *Літвін*, *Літвінёнак*, *Літвіновіч*.

**Ло́гавінцы** — вёска за 6 км на ўсход ад Паставаў, за 0,5 км на ўсход ад ракі Лучайка. У 1873 годзе знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад беларускага *лог*, *логавіна*, што азначае «нізіна; шырокі і доўгі яр».

**Ло́дасі** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў на паўночным беразе возера Лодасі. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва вёскі паходзіць ад наймення возера: у фіна-ўгорскіх мовах: *luodo* (кар.), *luoto* (фін.) — «астравок», «камяністая водмель», *lood* (эст.) — «маленькі камяністы

астравок». Геаграфія пацвярджае такое тлумачэнне: на возеры знаходзіцца востраў, які складзены пясчана-камяністым матэрыялам.

**Ло́пуці (Лапуці́)** — вёска за 19,5 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы захад ад Камаяў, за 1 км на ўсход ад возера Лодасі. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *lap*, *lapos* (венг.) — «кавалак зямлі; невялікая раўніна». Блізкае значэнне мае і літоўскае *lopas* — «лапіна; кавалак зямлі».

**Ло́ўкішкі** — вёска за 6 км на паўночны захад ад Паставаў на беразе ручая. Назва паходзіць з балцкіх моў: літоўскае *laukas* азначае «поле».

**Лугі́** — вёска за 22,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Дунілавічаў. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць са славянскіх моў, утварылася ад слова *луг* — «сенажаць, пераважна заліўная, пакрытая шматгадовымі травяністымі раслінамі». Вакол вёскі сапраўды раскінуліся шырокія прасторы лугоў.

**Лукашо́ва** — вёска за 14,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лучая. У 1873 годзе знаходзілася ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. У 1905 годзе — вёска і засценак. Назва патранімічная, паходзіць ад каталіцкага польскага *Łukasz* або праваслаўнага кананічнага *Лука*, што азначае «які нарадзіўся пры ўзыходзе сонца». Ад гэтага імя ў Пастаўскім раёне ўтварыліся прозвішчы *Лукашэвіч*, *Лукашонак*, *Лукашук*.

**Луцк-Казло́ўскі** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўночны усход ад Казлоўшчыны. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць ад славянскага тэрміна *лука* ў значэнні «заліў, затока». Першапачаткова паселішча ўзнікла на беразе возера Царкавішча, каля затокі, «пры луцэ», пазней, за 2 км на захад, бліжэй да Казлоўшчыны, узніклі выселкі. Каб адрозніваць паселішчы між сабой, да назваў дадалі прыметнікі: Луцк-Мосарскі і Луцк-Казлоўскі.

**Лу́чай** — вёска за 18 км на ўсход ад Паставаў паміж азёрамі Лучай і Лісіцкае. Назва паходзіць ад наймення возера, якое ўтварылася ад геаграфічнага тэрміна *лука* — «звіліна», «загін рэчышча». Гэта слова ў блізкіх значэннях сустракаецца ў славянскіх, балцкіх і фіна-ўгорскіх мовах.

**Лы́нтупы (Лынту́пы)** — гарадскі пасёлак за 34 км на захад ад Паставаў на рацэ Лынтупка. Упершыню ўпамінаецца пад 1385 годам. З сярэдзіны XIX стагоддзя — цэнтр воласці ў Свянцянскім павеце Віленскай губерні, маёнтак ва ўладанні Юрыя Бішэўскага, нашчадкі якога валодалі ім да 1939 года. У пачатку XX стагоддзя пабудаваны двухпавярховы мураваны палац, закладзены парк. Ёсць версія, што назва складаецца з дзвюх частак і з’яўляецца балцка-фінскай: *lyntu* (фін.) — «птушка», *upis* (літ.) — «рэчка». Разам атрымліваецца «птушыная рака» — такі сэнс мела назва ракі Лынтупка. Іншая версія лічыць назву балцкай і выводзіць яе са спалучэння двух слоў: *lynas* — «вяроўка, шнур» і *tupas* — «след, адбітак», што дае разам «адбітак шнура» — характэрнае аздабленне керамічнага посуду, які ў вялікай колькасці знаходзіцца ў старажытным курганным комплексе каля Лынтупаў (С. Вітушка).

**Лявóнавічы** — вёска за 10 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5,5 км на паўночны ўсход ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. У 1905 годзе былі Лявонавічы 1-я, 2-я і засценак. Назва паходзіць ад прозвішча *Лявонавіч*, якое ўтварылася ад імя *Лявон* — формы кананічнага праваслаўнага *Леонт*, *Леонтий*, што азначае «леў». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Лявонаў*, *Лявонавец*, *Левановіч*.

**Лявóнкі** — вёска за 12 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5,5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе засценак, уладанне Дзісько. Назва паходзіць ад імя *Лявон* (*Лявонка*) — формы кананічнага праваслаўнага *Леонт*, *Леонтий*, што азначае «леў».

**Ля́хаўшчына** — вёска за 31 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на ўсход ад Варапаева. Назва — этнонім, паходзіць ад слова *лях*,

што азначае «паляк». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Лях*, *Ляховіч*, *Ляхновіч*.

### М

**Мажэ́йкі** — вёска за 6 км на паўночны захад ад Паставаў на паўночным беразе возера Мажэйкі. У пачатку XX стагоддзя была ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць з балцкіх моў ад прозвішча *Мажэйка*. У літоўскай *mažas* — «малы», адкуль *мажэйка* — «нізкарослы, невялікі чалавек». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Мажай*, *Мажэйка*, *Мажаеў*, *Мажукін*, *Мажута*.

**Ма́зурка** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Лынтупаў. Назва-этнонім, паходзіць ад тэрміна *мазуры* — «этнаграфічная група палякаў, якая насяляла паўночнаўсходнюю частку Польшчы». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Мазуркевіч*, *Мазурэвіч*, *Мазурскі*, *Мазорын*.

**Мака́раўцы** — вёска за 3 км на поўдзень ад Паставаў на правым беразе ракі Глодаўка. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад імя *Макар*, якое з'яўляецца формай кананічнага праваслаўнага *Макарий*, што азначае з грэчаскай мовы «шчаслівы, блажэнны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца ўтвораныя ад гэтага імя прозвішчы *Макараў*, *Макаранка*, *Макара*.

**Мака́ршчына** — вёска за 27 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева паміж возерам Белае і ракой Чэртка. У 1873 годзе засценак у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад імя *Макар*, якое з'яўляецца формай кананічнага праваслаўнага *Макарий*, што азначае з грэчаскай мовы «шчаслівы, блажэнны». Вёска ўяўляе сабой, па сутнасці, групу хутароў, што і падкрэсліваецца прасторавым суфіксам *-шчына*.

**Ма́лькавічы** — вёска за 30 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на паўночны ўсход ад Дунілавічаў. Назва паходзіць ад прозвішча *Мальковіч* (*Малькевіч*), якое ўтворана ад мянушкі *малько* ў значэнні «малы». Ад гэтай сэнсавай асновы на Пастаўшчыне

ўтворана шмат прозвішчаў: *Малей*, *Малец*, *Малік*, *Малікаў*, *Малы*, *Малышаў*, *Малыхін*, *Малькевіч*, *Малько*, *Мальцаў*, *Маляўка*.

**Манéўшчына** — вёска за 25 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на поўнач ад Варапаева, на левым беразе ракі Заражанка. У 1873 годзе ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўза. Паходжанне назвы можна растлумачыць з фіна-ўгорскіх моў, дзе аснова *мань* азначае «малы», «маленькі». Рака Заражанка-Галбяіца каля Манеўшчыны значна звужаецца, што, верагодна, і было заўважана старажытнымі людзьмі, якія назвалі гэты ўчастак ракі *манья*, што значыць «малая рака». Пазней назва была зменена славянамі, але захавала ўласцівасць абазначэння мясцовасці, бо фармант *-шчына* характарызуе аб’ект як нейкую тэрыторыю. Паселішча, якое тут узнікла, атрымала назву мясцовасці. Не менш верагодна, што назва ўтварылася ад імя *Манько* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Мануіл*.

**Мáнькавічы** — вёска за 9 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Мядзелка. Вядома з XVI стагоддзя ў Ашмянскім павеце як сяло і маёнтак Шэметаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, маёнтак і сяло князя Друцкага-Любецкага. Назва паходзіць ад прозвішча *Манькові́ч*, якое ўтварылася ад імя *Манько* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Мануіл*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Манькоўскі*, *Манкевіч*.

**Мар’янпóлле** — вёска за 13 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на захад ад Лучая. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва складаецца з дзвюх частак. Першая паходзіць ад імя *Мар’ян* — формы кананічнага хрысціянскага *Марыян* (*Marian*). Другая азначае раллю, палеткі. Такім чынам, назва ўрочышчы гучала як *«Мар’янава поле»*.

**Марачы́** — вёска за 21 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на поўдзень ад Камаяў, за 1 км на поўнач ад возера Вялікія Швакшты. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад славянскай асновы *марочна*, *марачына* ў значэнні «балота, твань; забалочаная мясцовасць». Тэрмін ужываецца пры характарыстыцы глухіх змрочных балот, дзе «не косяць траву, а толькі збіраюць журавіны». На поўдзень

ад вёскі сапраўды ляжыць вялікае балота. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Марачкоўскі*, *Маракін*.

**Мартулí** — вёска за 37 км на ўсход ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Мартуль*, якое ўтварылася ад кананічнага хрысціянскага імя *Марцін* (*Мартын*). У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Марцін*, *Марцінкевіч*, *Марціновіч*, *Мартуль*, *Мартыненка*, *Мартынаў*, *Мартыновіч*, *Мартысюк*.

**Марцінéлевічы** — вёска за 38 км на паўднёвы усход ад Паставаў, за 14 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Марцінелевіч*, якое ўтварылася ад імя *Марцінель* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Марцін* (*Мартын*).

**Маскáлішкі** — вёска за 15 км на поўнач ад Паставаў у сутоку рэк Мядзелка і Лучайка. Назва-этнонім. Раней *маскалямі* ў Вялікім Княстве Літоўскім называлі выхадцаў з Маскоўскай дзяржавы, рускіх. Верагодна, перасяленцы з суседняй краіны аселі ў сярэднявеччы на беразе тады яшчэ суднаходнай ракі Мядзелка. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Маскалёў*, *Маскалевіч*, *Маскаленка*.

**Мáсленікі** — вёска за 37 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на поўдзень ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, уваходзіла ў маёнткі Гейбішкі і Багданішкі, належала Юрыю Бішэўскаму. Верагодна, назва паходзіць ад прозвішча *Масленік*, якое ўтварылася ад занятку жыхара: *масленік* — чалавек, які займаўся вырабам масла. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Маслій*, *Маслаў*, *Маслоўскі*, *Маслюк*.

**Масты́** — вёска за 35 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 5 км на поўнач ад Казлоўшчыны. Назва адлюстроўвае асаблівасць транспартных шляхоў. Вакол вёскі знаходзіцца некалькі ручаёў — вытокаў ракі Плісаўка, праз якія былі пакладзены *масткі*.

**Масці́шча** — вёска за 22 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на захад ад Дунілавічаў. У 1873 годзе ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўза. Назва адлюстроўвае асаблівасць транспартных шляхоў і паходзіць ад беларускага дзеяслова *масціць* — «рабіць насціл з дошак, бярвення; брукаваць дарогу».

**Маце́йкі (1)** — вёска за 24 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Белек каля ракі Паловіца. У 1873 годзе засценак у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад прозвішча *Мацейка*, якое ўтворана ад кананічнага хрысціянскага *Матфей* (*Мацвей*, *Мацей*), што ў яўрэйскай мове азначае «чалавек Божы». Імя ўтварае шмат форм, якія сталі асновай шматлікіх прозвішчаў жыхароў Пастаўшчыны: *Мацкевіч*, *Мацук*, *Мацур*, *Мацюк*, *Мацеша*.

**Маце́йкі (2)** — вёска за 40 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 16 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Мацейкі* (*1*).

**Мацко́вічы** — вёска за 17 км на захад ад Паставаў, за 3,5 км на паўночны захад ад Камаяў. У 1905 годзе — маёнтак у Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Мацковіч*, якое ўтварылася ад імя *Мацко* — формы кананічнага хрысціянскага *Матфей* (*Мацвей*, *Мацей*), што ў яўрэйскай мове азначае «чалавек Божы». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Мацкевіч*, *Мацук*, *Мацур*, *Мацюк*, *Мацеша*

**Мацуры́** — вёска за 14 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўночны захад ад Лучая. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад імя або прозвішча *Мацур* — формы кананічнага хрысціянскага *Матфей* (*Мацвей*, *Мацей*), што ў яўрэйскай мове азначае «чалавек Божы». Прозвішча *Мацур* распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Мацу́ты** — вёска за 8 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 1 км на захад ад Дварчанаў. Назва паходзіць ад мянушкі *мацак*, *мацута*, што азначае «моцны, дужы, здаровы чалавек».

**Міку́лкі** — вёска за 26 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў на паўночным беразе

возера Саранчаны. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад імя *Мікула* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Мікалай*, што азначае «пераможца народаў» і «народны герой». Ад яго на Пастаўшчыне ўтварылася шмат прозвішчаў: *Мікуліч*, *Мікула*, *Мікульскі*, *Нікалаеў*, *Нікалаенка*, *Нікаленка*.

**Мірклішкі** — вёска за 21 км на захад ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Гадуцішак, каля ракі Камайка. Назва, верагодна, паходзіць з балцкіх моў, дзе літоўскае *merka* азначае «стаў, сажалка; вільгаць». Блізкае па значэнні і *mirkti* — «мокнуць».

**Міськія** — вёска за 4,5 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на паўднёвы захад ад Юнькаў. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад імя або прозвішча *Місько*, якое з'яўляецца формай кананічнага хрысціянскага *Міхаіл*, што значыць «роўны Богу, як Бог». В. Міхасёнак, настаўнік і паэт, ураджэнец гэтай вёскі, пісаў, што першапачаткова яна называлася *Мнішкі*, і тлумачыў яе паходжанне ад слова *мніх* — «манах». Вось як ён піша: *«Там, дзе як далонь, раўніна, што распасцёрлася на поўдзень ад Паставаў, у кіламетрах чатырох па дарозе на Савічы пачынае пераходзіць у хвалістыя маляўнічыя ўзгоркі, на левым беразе калісь паўнаводнай рэчкі Рудзіцы — прытоку Лучайкі — і ўзнікла гэтая вёска з цікавай назвай Мнішскія. Яшчэ не так даўно ў пашпартах і метрыках яе жыхароў стаяла: нарадзіўся ў в. Мнішскія. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага «мніх», што азначае манах. А людзі, што адбывалі павіннасць на манастырскіх землях, і былі мнішанскія. Калі ў мінулым стагоддзі была забаронена ўніяцкая рэлігія, асабліва пасля падаўлення паўстання 1863 года, былі зачынены манастыры, а землі, што належалі ім, перададзены дзяржаве, то і сяляне сталі дзяржаўнымі, ці як самі старажылы памятаюць, называлі іх казённымі ў параўнанні з суседняй вёскай Будзева, якая была панская. Такое паходжанне вёскі і сялян. З цягам часу разбураліся сцены храма, што стаяў бліз вёскі ва ўрочышчы Конава або Манастыршчына, паступова змяніла сваё гучанне і назва вёскі»*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Місьнік*, *Місуна*.

**Міхалі́на** — вёска за 27 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 4 км на поўдзень ад Дунілавічаў на рацэ Заражанка. У пачатку XX стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. У 1905 годзе фальварак Карэцкага. Назва паходзіць ад імя *Міхал* — формы кананічнага хрысціянскага *Міхаіл*, што азначае «роўны Богу, як Бог». У Пастаўскім раёне ўтварылася шмат прозвішчаў ад гэтага імя: *Міхалевіч*, *Міхайлаў*, *Міхайлоўскі*, *Міхаловіч*, *Міхаленка*, *Міхаль*.

**Мі́хнічы** — вёска за 8 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 10 км на захад ад Лучая. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад імя або прозвішча *Міхно*, якое ўтворана ад кананічнага хрысціянскага *Міхаіл*, што азначае «роўны Богу, як Бог». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Міхневіч*, *Міхнёнак*, *Міхно*, *Міхновіч*.

**Міцкя́ны** — вёска за 22 км на паўднёвы захад ад Паставаў на паўночным беразе возера Малыя Швакшты. Назва паходзіць ад прозвішча або імя *Міцько* — формы кананічнага праваслаўнага імя *Дмитрий*, каталіцкага польскага *Demetriucz*, *Dymitr*, што азначае «плод зямны». На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Міцэвіч*.

**Мо́льдзевічы** — вёска за 12 км на захад ад Паставаў на рацэ Лігума на мяжы з Летувой. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Мольдзевіч*, якое ўтварылася ад літоўскага імя *Мальдзіс* (*Maldingas*), што азначае «набожны, багамольны».

**Му́ляры** — вёска за 15 км на захад ад Паставаў, за 6 км на поўнач ад Камаяў. У 1898 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. У 1905 годзе называлася Муляры Польныя, належала фон Эксе. Назва адлюстроўвае заняткі жыхароў: *муляр* — «чалавек, які будуе што-небудзь з каменя або цэглы; пячнік». Прыметнік «польныя» мае значэнне «адкрытыя; у полі» супрацьпастаўляючы з Мулярамі Ляснымі. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Муляр*, *Муляронак*.

**Му́ляры Лясны́я** — вёска за 9 км на паўночны захад ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Гадуцішак. У пачатку XX стагоддзя была ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Муляры*.

**Му́мішкі** — вёска за 15 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6,5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. У 1905 годзе засценак Мумішкі, або Казлы. Аснова назвы ўтварылася ад літоўскага слова *miškas* — «лес».

**Му́нцавічы** — вёска за 12 км на захад ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы ўсход ад Гадуцішак. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва, верагодна, паходзіць ад прозвішча *Мунцавіч* (*Манцэвіч*), якая ўтварылася ад імя *Мунька* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Мануіл*.

**Мы́шкі** — вёска за 24 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева на правым беразе ракі Заражанка. У 1781 годзе была ў маёнтку Дунілавічы Ашмянскага павета, сяло. У пачатку XX стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Мышко*, якое шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне.

**Мягу́ны** — вёска за 20 км на захад ад Паставаў, за 6 км на захад ад Камаяў на заходнім беразе возера Вялікія Сурвілішкі. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета, уладанне Чаховіча. Назва, верагодна, паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: у эстонскай *мягі* азначае «гара», таксама і фінскае *mäki*. Магчымы варыянт паходжання і ад славянскай: украінскае *магура* — «гара». Мясцовая версія звязвае назву з даўнімі магіламі.

**Мя́дзелка** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на захад ад Варапаева. У 1873 годзе ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўза. Назва вёскі паходзіць ад наймення ракі і мае фіна-ўгорскія карані: *mets* (эст.), *metce* (фін.) — «лес», *ель* (комі) — «лясны ручай, рэчка». Фармант *-ка* характэрны для паселішчаў. Такім чынам, Мядзелка — гэта вёска на беразе ракі Мядзель або Мядзеліца, што азначае «лясная рэчка».

**Място́чка** — вёска за 8 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад Манькавічаў. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, належала Хлявінскай. *Мястэчка* — гістарычны тып паселішчаў у Беларусі, вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада.

## Н

**Навадру́цк** — чыгуначная станцыя каля аграгарадка Парыж за 34 км на ўсход ад Паставаў, за 11 км на ўсход ад Варапаева. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва з’явілася ў канцы XIX стагоддзя, калі тут была пракладзена чыгунка Новясвянцяны–Беразвечча і збудавана чыгуначная станцыя, названая *ў гонар князя У. Друцкага-Любецкага*, які прычыніўся да будаўніцтва чыгункі і рэстаўрацыі царквы ў суседняй вёсцы Асінагарадок.

**Навасе́лкі (1)** — вёска за 11 км на ўсход ад Паставаў, за 12 км на захад ад Варапаева. Паселішча ўтворана перасяленцамі з другой («старой») вёскі, што і адлюстравалася ў назве: *навасёлкі* — «новае сяло, новае паселішча».

**Навасе́лкі (2)** — вёска за 22 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Камаяў. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Навасёлкі* (*1*).

**Навасе́лкі (3)** — вёска за 25 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 9 км на захад ад Белек на правым беразе Дзісны. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Навасёлкі* (*1*).

**Навасе́лкі (4)** — вёска за 25 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы захад ад Дунілавічаў. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Тлумачэнне назвы гл. *Навасёлкі* (*1*).

**Навікі́** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўднёвы захад ад Казлоўшчыны на паўднёвым беразе возера Навікі. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад тэрміна *навіна*, *новь* у значэнні «неараная зямля, раскарчаваны лес, цаліна» і адлюстроўвае працэс падсечна-агнявога земляробства.

**Наві́нкі** — вёска, цэнтр рыбгаса «Навінкі», за 34 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 6 км на поўнач ад Казлоўшчыны. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета. У 1905 годзе фальварак Навіна. Тлумачэнне назвы гл. *Навікі*.

**Надазе́р’е** — вёска за 14,5 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на захад ад Лучая, за 1 км на захад ад возера Лучай. Назва характарызуе асаблівасць геаграфічнага становішча паселішча: яно ляжыць *«над возерам»*.

**Нару́шышкі** — хутар за 30 км на захад ад Паставаў, за 3 км на ўсход ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад імя *Наруш* або *Нарус*. У літоўскай мове *narus* азначае «лёгкі». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Наруць*, *Нарушэвіч*.

**Невядо́мшчына** (да 1945 г. **Брэскія**) — вёска за 32 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўночны ўсход ад Белек. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва, верагодна, паходзіць ад прозвішча *Невядомскі*, якое сустракаецца на Пастаўшчыне.

**Невя́рышкі** — вёска за 30 км на захад ад Паставаў, за 11 км на поўнач ад Лынтупаў на левым беразе ракі Svіла. Назва паходзіць ад прозвішча *Нявера*, якое, верагодна, утварылася ад адпаведнай мянушкі. *Нявера* — «той, хто не верыць». На Пастаўшчыне ёсць прозвішчы *Невяроўскі*, *Невяркові*, у Мядзельскім раёне — *Нявера*.

**Не́жалішкі** — вёска за 35 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на поўдзень ад Лынтупаў на рацэ Язвінка. Назва, верагодна, паходзіць ад літоўскага *nežalingas* — «бясшкодны».

**Но́вае За́ўліччa** — вёска за 39 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 15 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета былі вёскі Заўліччa і Новае Заўліччa, якія зліліся ў адну ў 1988 годзе. Назва, верагодна, уяўляе сабой скажонае *завалочча*, *заўлочча* і характарызуе вёску як паселішча, якое знаходзіцца *«за волакам»* — у мясцовасці, дзе раней па сушы перацягвалі караблі з аднаго вадаёма ў другі. Вельмі можа быць, што назва падказвае месцазнаходжанне старажытнага воднага гандлёвага шляху паміж басейнамі рэк Віліі (Нёмана) і Дзісны (Заходняй Дзвіны), які праходзіў каля вёскі Гарадзішча паміж рэкамі Сэрвач і Заражанка.

**Но́вы Двор** — вёска за 4 км на захад ад Паставаў, за 1 км на захад ад возера Задзеўскае. Назва паказвае, што паселішча

ўзнікла як выселкі і яго заснавальнікамі былі, верагодна, былыя жыхары *Задзеўя* (*«старога двара»*).

**Но́выя Ясне́вічы** — вёска за 25 км на ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на поўнач ад Дунілавічаў. У 1905 годзе існавалі фальварак Ясеневічы, які належаў Набельскай, і маёнтак Ясеневічы, ці Свідна, які належаў Янішэўскаму. Знаходзіліся ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Ясеневіч*, якое ўтварылася ад назвы *ясень* — «дрэва сямейства маслінавых з перыстым лісцем і цвёрдай драўнінай». На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Ясінскі*.

**Но́ркавічы** — вёска за 10,5 км на захад ад Паставаў, за 7,5 км на паўночны ўсход ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Норка*, якое ўтварылася ад літоўскага прозвішча *Norkus*, якое, верагодна, паходзіць ад *norintis*, што азначае «паляўнічы». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Наркевіч-Ёдка*, *Норкін*.

**Но́рыца** — вёска за 31 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на ўсход ад Дунілавічаў. Вядома з XVIII стагоддзя як уладанне Сулістроўскіх, пазней належаў Лапацінскім, Акушкам. У 1861 годзе — маёнтак Норжыца ў Віленскай губерні, у 1886 годзе цэнтр Норыцкай воласці. Назва вёскі, верагодна, пайшла ад наймення рачулкі, якая праз яе працякае, утвараючы некалькі даволі шырокіх плёсаў, якія пазней былі пераробленыя ў ставы. У аснове назвы ляжыць літоўскае *nara* — «паток, загін ракі, меандр».

**Но́хаўшчына** — хутар за 16 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5,5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў на рацэ Караліноўка. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. У 1905 годзе засценак Ромэра. Дакладна растлумачыць паходжанне назвы пакуль немагчыма. Можна выказаць меркаванне, што яна ўтварылася (па аналогіі з Нагаўкамі і Нагаўшчынай — вёскамі ў Мядзельскім раёне) ад славянскага *нагой* у значэнні «голы». Магчыма, і *нохаўшчына* — гэта «голае месца».

## О

**О́льшнева** — вёска за 29 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3,5 км на паўднёвы ўсход ад Белек. Назва паходзіць ад славянскага тэрміна *ольс*, што азначае «чорнаальховы лес, балота з зараснікам вольхі, часткова бярозы».

**О́цкавічы** — вёска за 13 км на захад ад Паставаў, за 5 км на поўнач ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета. Назва паходзіць ад прозвішча *Оцкавіч*, якое ўтварылася, магчыма, ад імя *Оцка* (*Войцех?*).

## П

**Пагарцы́** — вёска за 12 км на ўсход ад Паставаў, за 5 км на поўдзень ад вёскі Навасёлкі. Вядома з 1873 года як вёска ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад славянскай асновы *гара*. Пагарцы — гэта паселішча, якое размешчана на узвышшы, *«па гары»*.

**Пад'я́сенка** — вёска за 45 км на захад ад Паставаў, за 5 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў на ўзгорку каля невялікага ручая. Назва мае славянскае паходжанне ад наймення дрэва *ясень*. Гэта адметны від дрэў, які сустракаецца ў тутэйшай мясцовасці даволі рэдка, таму для мясцовых людзей служыў добрым арыенцірам. Ад дрэва ўзнікла назва ўрочышча *Ясенка*, а пазней — і вёскі. Прыстаўка *пад-* мае значэнне «перад, каля» і акрэслівае геаграфічнае становішча вёскі.

**Падаля́ны** — вёска за 11 км на поўдзень ад Паставаў, за 1 км на захад ад возера Чэцверць. Назва мае славянскае паходжанне і адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча: *дол* мае значэнні «даліна, нізіна». Вёска сапраўды знаходзіцца ў лагчыне паміж узгоркамі Свянцянскіх град, *«па долу»*.

**Падаляхні́шкі** — хутар за 13 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча: хутар знаходзіцца за 1 км на захад ад вёскі *Аляхнішкі* (гл. *Аляхнішкі*).

**Падвішня́к** — вёска за 26 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 1 км на поўдзень ад возера Лодасі. Вядома з 1905 года як вёска Падвішнякі (уладальнік Сходін) і фальварак (уладальнік

Сарока). Назва паходзіць ад славянскай асновы *вішняк* — «вішні, вішнёвыя дрэвы». Прыстаўка *пад-* акрэслівае геаграфічнае становішча ўрочышча — *«каля вішняку»*.

**Падлявóнавічы** — вёска за 9 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Камаяў. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча: вёска знаходзіцца за 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Лявонавічы, г. з. *«каля Лявонавіч»*, *«пад Лявонавічамі»*. Тлумачэнне назвы гл. *Лявонавічы*.

**Падсóсна** — хутар за 17 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3,5 км на поўдзень ад Камаяў. Назва адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча: хутар знаходзіцца ва ўрочышчы каля адметнай сасны, *«пад сасной»*.

**Палéссе** — вёска за 50 км на захад ад Паставаў, за 8 км ад Лынтупаў. Вядома з 1640 года, калі ў паселішчы была пабудавана капліца. У XIX — пачатку XX стагоддзя належала Кубліцкім і Тышкевічам. Назва мае славянскае паходжанне і адлюстроўвае асаблівасць геаграфічнага становішча вёскі: яна ўзнікла сярод лесу — *«па лесе»*.

**Палхýны** — вёска за 34 км на захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў каля вытокаў забалочанага ручая. Вядома з 1873 года як паселішча ў Свірдунскім таварыстве Лынтупскай воласці, якое належала Рынтаўтам. Назва, верагодна, паходзіць з балцкіх моў ад асновы *palios* (літ.) — «балота».

**Папóўцы** — вёска за 34 км на паўднёвы захад ад Паставаў на паўднёва-заходнім беразе возера Малыя Швакшты. Назва ўтворана ад славянскай асновы *поп* — «святар». *Папоўцы* — гэта адна з плыняў у стараверстве, якая найбольш блізкая да афіцыйнай праваслаўнай царквы. Верагодна, вёска была заснавана раскольнікамі, якія перасяліліся з Расіі ў ВКЛ у XVIII стагоддзі. На Пастаўшчыне існуе некалькі арэалаў рассялення старавераў (Апідамы, Кукляны, Лучай, Белькі).

**Парáскі** — вёска за 9 км на поўдзень ад Паставаў на беразе возера Доўжа. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва мае славянскае паходжанне, верагодна, ад беларускага слова *параснік* — «маладыя парасткі дрэў або іншых раслін». Магчыма, гэты славянскі тэрмін ут-

варыўся ад фіна-ўгорскай асновы *рас* — «гай, дробны лісцевы лес, малады бярэзнік».

**Пастáвы** — горад у паўночна-заходняй частцы Беларусі, за 10 км ад мяжы з Літвой, адміністрацыйны цэнтр раёна. У старажытныя часы на месцы сучасных Паставаў знаходзілася невялікая вёска пад назвай «Пасаднік», якая ўпершыню згадваецца пад 996 годам. У 1409 годзе ўладальнік мястэчка Зяновіч атрымаў ад вялікага князя літоўскага грамату на перавод вёскі ў разрад невялікіх гарадоў з наданнем ёй назвы «Паставы».

Такім чынам, горад мае дзве гістарычныя назвы. Першая — *Пасаднік* — утворана была з прычыны таго, што землі, на якіх знаходзілася паселішча, ляжалі на заходніх межах Полацкага княства і тутэйшай мясцовасцю кіраваў *пасаднік* — намеснік полацкага князя. *Пасадам* таксама называлася гандлёва-рамесная частка горада, якая звычайна знаходзілася на беразе ракі.

Пры пераводзе вёскі ў разрад мястэчак паселішча атрымала і новую назву — Паставы. Тлумачэнняў сэнсавага значэння назвы існуе многа, аднак ні адна з версій пакуль што не можа быць прызнана абсалютна дакладнай. Мясцовы жыхары часцей за ўсё прыводзяць два варыянты тлумачэння. Першы зыходзіць з таго, што горад амаль усю сваю гісторыю развіваўся як вайсковы і большасць яго жыхароў жыла *«па ўставу»*, адсюль, маўляў, і пайшла назва. Другі варыянт грунтуецца на тым, што ў цэнтры горада знаходзяцца два вялікія вадасховішчы-ставы і таму лагічным было ўзнікненне назвы горада як паселішча, якое размяшчаецца абапал ставоў. Гэта версія прыдатна адлюстроўвае адну з галоўных геаграфічных асаблівасцяў Паставаў.

Аднак існуюць і іншыя варыянты. Напрыклад, слова *пастаў* азначае «пару жорнаў у млыне», якія выкарыстоўваліся для памолу збожжа. Крыніцы сведчаць, што пастаўскі вадзяны млын меў два паставы.

Як адзін з верагодных варыянтаў тлумачэння можа быць прынятая версія І. Зямчонка аб паходжанні назвы «Паставы» ад тэрміна, які ўжываўся пры апрацоўцы драўніны. *Пастаў* — гэта «група піл на лесапільных рамах, якія ўстаноўлены ў адпаведнасці са схемай раскрою бярвення». Калі ўлічыць, што яшчэ

ў часы Зяновічаў на беразе ракі Мядзелкі стаяла лесапілка, то вельмі верагодна, што і назва «вырасла» адсюль.

Як бачым, версій паходжання назвы існуе некалькі, але амаль ўсе яны так ці інакш звязаны з ракой Мядзелкай, якая стала калыскай Паставаў.

**Пата́шня** — вёска за 23 км на захад ад Паставаў, за 11 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў на беразе ракі Яновіца. Назва адлюстроўвае занятак мясцовых жыхароў: *паташня* — гэта месца, дзе выпальвалі *паташ* — рэчыва ў выглядзе белага зярністага парашку са шчолачнымі ўласцівасцямі, якое атрымліваецца з попелу. Тэрмін паходзіць ад *potash* (англ.) (*pot* — «гаршчок» + *ash*(*es*) — «попел») — тэхнічная назва карбанату калію, які ўжываецца пры вытворчасці шкла, мыла, для фарбавання.

**Паўкштэ́лы** — вёска за 24 км на захад ад Паставаў, за 10 км на ўсход ад Лынтупаў каля ракі Яновіца. Назва паходзіць ад прозвішча *Паўкштэла*, якое ўтварылася ад літоўскага *paukstis* — «птушка». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішчы *Паўкштэла*, *Паўштэла*.

**Паўлю́гі** — вёска за 31 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 14 км на поўнач ад Варапаева на беразе ракі Голбіца. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета як уладанне Тызенгаўзаў. Назва патранімічная, паходзіць ад кананічнага хрысціянскага імя *Павел*, што з лацінскай мовы перакладаецца як «малы, невялікі». У дадзеным выпадку адбылася трансфармацыя імя: Павел — Паўла — Паўлюк — Паўлюга. Ад імя *Павел* на Пастаўшчыне ўтворана шмат прозвішчаў: *Павалковіч*, *Павялковіч*, *Паўлаў*, *Паўленка*, *Паўловіч*, *Паўлоўскі*, *Паўлюк*, *Паўлюкоў*, *Паўлючэнка*.

**Па́цкавічы** — вёска за 17 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Аржоўка. Назва патранімічная, паходзіць ад прозвішча *Пац* — вядомага ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай магнацкага роду, які валодаў вялікімі маёнткамі на абсягах сучаснай Беларусі. Некаторы час Пацам належалі Паставы, Манькавічы, Лучай. Верагодна, першажыхары вёскі нейкім чынам былі звязаны з Пацамі, магчыма, служылі ў іх.

**Па́шкава** — вёска за 16 км на паўночны ўсход ад Паставаў каля ракі Паловіца. Вядома з 1873 года як засценак Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Назва патранімічная, паходзіць ад *Паша* — формы кананічнага хрысціянскага імя *Павел*, што з лацінскай мовы перакладаецца як «малы, невялікі». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Пашко*, *Пашкоў*, *Пашкевіч*, *Пашкоўскі*.

**Пеляка́** — вёска за 47 км на захад ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў каля ракі Пеляка. Вядома з 1873 года як паселішча маёнтка Раманішкі, якім валодаў Ксаверы Даўгяла. У 1905 годзе тут былі флігель, зімоўе і вадзяны млын. Назва паходзіць з балцкіх моў, у якіх *pelke* (літ.) — «балота».

**Перавó́знікі** — вёска за 5 км на ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка. Вядома з 1873 года як вёска Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Назва мае славянскія карані і адлюстроўвае занятак мясцовых жыхароў. Вёска ўтварылася на месцы, дзе ў даўнейшыя часы існаваў *перавоз* — пераправа праз раку Лучайка на лодках. *Перавознік* — чалавек, які займаўся перавозам.

**Перасле́га** — вёска за 38 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Дунілавічы, за 1 км на паўночны ўсход ад возера Баравое. Назва мае славянскія карані, утварылася ад беларускага дзеяслова *пераслаць* (перасцяліць) у значэнні «перакласці нанава», «зрабіць новы насціл». *Перaслега* — месца, дзе была насцелена гаць або масток праз балота. Сапраўды, пасярэдзіне вёску перасякае забалочаная лагчына з невялікім ручаём, праз які і магла быць перaслега.

**Пе́трышкі** — хутар за 42 км на захад ад Паставаў, за 2 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. Вядомы з 1873 года як засценак маёнтка Раманішкі Ксаверыя Даўгялы. Назва балцкая, патранімічная, утварылася ад уласнага літоўскага імя *Петрас* (*Пятрас*, *Пётр*), што ў грэчаскай мове азначае «камень, скала, уцёс». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Петрушкевіч*, *Петрусевіч*.

**Пе́шкаўцы** — вёска за 50 км на захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў на высокім узгорку. Вядома з

1790 года як вёска ў 55 дымоў Лынтупскай воласці Завілейскага павета, уваходзіла ў Лынтупскі маёнтак. Назва паходзіць са славянскіх моў і адлюстроўвае асаблівасці мясцовых грунтоў. Аснова ўтворана ад слова *пясок*. Першапачаткова, верагодна, назва гучала як Пескаўцы, але пазней трансфармавалася ў Пешкаўцы.

**Піскуны́** — вёска за 33 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 10 км на поўнач ад в. Казлоўшчына на правым беразе ракі Галбяіца за 1 км на захад ад ставоў рыбгаса «Навінка». Вядома з пачатку XX стагоддзя як вёска Луцкай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць, верагодна, ад мянушкі першажыхароў. *Піскун* — той, хто многа пішчыць. Магчыма сувязь назвы вёскі з рыбай уюн, якую на Пастаўшчыне часцей называюць *піскун*. У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Піскуновіч*.

**Пла́ксы** — вёска за 14 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Аржоўка. Вядома з 1873 года як вёска Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, уладанне Тызенгаўзаў. Верагодна, назва паходзіць ад мянушкі першажыхароў: *плакса* — чалавек, які любіць скардзіцца, наракаць, плакацца. На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Плаксееў*.

**Плешкуны́** — вёска за 33 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 11 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Дунілавічы. Вядома з 1873 года ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад славянскай асновы *плеш*, *плешына*, якая мае два значэнні: 1) голае месца сярод поля, лесу; 2) месца на галаве, дзе не выраслі або вылезлі валасы, лысіна. Абодва варыянты могуць разглядацца ў якасці крыніцы ўтварэння назвы. Магчыма яе паходжанне ад мянушкі першажыхара: *пляшкун* — чалавек з плешынай (лысінай) на галаве (прыгадаем беларускія формы: маўчун, храпун, таўстун і г. д.). Нельга выключаць і магчымае паходжанне назвы з літоўскай мовы, дзе *plešinys* азначае «высечанае месца ў лесе», «разараны луг», што сэнсава звязана са славянскім *плешына* — «голае месца на зямлі, дзе няма расліннасці». Ад асновы *плеш* на Пастаўшчыне ўтвораны шэраг прозвішчаў: *Пляшкоў*, *Пляшак*, *Пляшкун*, *Плешавеня*.

**По́жарцы** — вёска за 17 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Аржоўка. Вядома з 1878 года як вёска ў Манькавіцкай

воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць са славянскіх моў ад асновы *жар* — «гарэлы лес», «выпаленае пад раллю месца ў лесе». Тэрмін адлюстроўвае форму падсечна-агнявога земляробства. Славяне, якія каланізавалі тутэйшую тэрыторыю, пасяліліся на *пожары* — месцы, якое было выпалена сярод лесу.

**По́лава** — вёска за 29 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 18 км на поўнач ад Варапаева на беразе ракі Дзісна. Вядома з сярэдзіны XVI стагоддзя ў складзе ВКЛ. У 1873 годзе знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзам. Назва паходзіць ад славянскага тэрміна *палой* у значэнні «пойма, нізкі бераг ракі, заліўны луг». Гэтыя вызначэнні добра стасуюцца з геаграфічнай асаблівасцю вёскі: яна на нізкай Дзісенскай нізіне на беразе ракі Дзісна, на пойме.

**По́пелікі** — вёска за 43 км на захад ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад Лынтупаў на беразе ракі Пеляка. Вядома з 1905 года як засценак Лынтупскай воласці. Назва ўтворана ад наймення ракі і азначае «паселішча каля ракі Пеляка». Найменне ж ракі мае балцкую аснову *pelke* (літ.), што азначае «балота, дрыгва, мокры луг»

**Прамышля́ды** — вёска за 14 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 4 км на поўнач ад вёскі Навасёлкі. У пачатку XX стагоддзя вядома як засценак у Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць са славянскіх моў. У яе аснове ляжыць старадаўні тэрмін падсечна-агнявога земляробства *ляды* — «месца ў лесе, якое расчышчана пад раллю». Першапачаткова мясцовасць, дзе зараз знаходзіцца вёска, называлася *«паміж лядамі»*, але пазней тапонім сказіўся і атрымаліся «прамышляды».

**Пру́днікі** — вёска за 16 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўночны захад ад Варапаева на рацэ Шурыца. Вядома з 1847 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць са славянскіх моў ад асновы *пруд* у значэнні «стаў, запруда».

**Пру́сы** — вёска за 33 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад вёскі Казлоўшчына каля ракі Ласіца. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Луцкай воласці Дзісенскага

павета. Назва-этнонім паходзіць ад наймення групы балцкіх плямён, якія насялялі частку паўднёвага ўзбярэжжа Балтыйскага мора. У XIII стагоддзі былі заваяваны Тэўтонскім ордэнам. На месцы, дзе жылі *прусы*, пазней утварылася дзяржава *Прусія*. Утварэнне назвы вёскі можна звязаць з прозвішчам першапасяленца. У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Прус*.

**Пусто́шка** — хутар за 21,5 км на захад ад Паставаў, за 5,5 км на захад ад Гадуцішак. Назва паходзіць ад славянскага тэрміна *пустошь*, *пустоша* ў значэнні «бязлюднае ўрочышча, неапрацаваная зямля».

**Пу́хаўка** — вёска за 12 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на захад ад Лучая. Назва паходзіць ад беларускага *пухкі*, што азначае «мяккі». Пухаўка — гэта мясцовасць з мяккімі землямі. Сустракаецца і дыялектнае *пухлец* — «рыхлая зямля светлага колеру, шэра-белая глеба».

**Пу́цькава** — вёска за 17 км на ўсход ад Паставаў, за 6 км на захад ад Варапаева. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Пуцька* (*Пуцята*), якое ўтворана ад вызначэння *путны* — «дзелавы, талковы чалавек; майстар».

**Пуця́цішкі** — вёска за 19 км на захад ад Паставаў, за 5 км на паўночны захад ад Камаяў на ўсходнім беразе возера Вялікае Сурвілішскае. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Пуцька* (*Пуцята*), якое ўтворана вызначэння *путны* — «дзелавы, талковы чалавек; майстар».

**Пушкары́** — вёска за 14 км на паўночны ўсход ад Паставаў на паўночным беразе возера Бярозаўка. Вядома з 1873 года як уладанне Тызенгаўзаў у Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва ўтварылася ад мянушкі першажыхара. Верагодна, ён атрымаў яе пасля службы ў войску: *пушкар* — чалавек, нейкім чынам звязаны з гарматамі; артылерыст.

**Пу́шча** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад славянскага *пушча* — «густы лес, лясны гушчар».

**Пятра́гі** — вёска за 11 км на паўночны ўсход ад Паставаў. Вядома з 1718 года як сяло. Назва патранімічная, паходзіць ад кананічнага хрысціянскага імя *Пётр* — «камень, скала» (лац.).

Асновай магло быць як беларускае *Пятро*, так і літоўскае *Пятрас*.

**Пятро́вічы (1)** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км ад вёскі Дунілавічы каля ракі Заражанка. Назва паходзіць ад прозвішча *Пятровіч*, якое ўтварылася ад кананічнага хрысціянскага імя *Пётр*, што ў лацінскай мове азначае «камень, скала». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы, утвораныя ад імя Пётр: *Пятровіч*, *Пятроў*, *Пятроўскі*, *Пятраніс*, *Петрачэнка*, *Петрусевіч*, *Петрушкевіч*, *Пятрушын*, *Петракоў*.

**Пятро́вічы (2)** — вёска за 33 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 19 км на поўнач ад Варапаева на беразе ракі Дзісна. У 1873 годзе знаходзілася ў Пастаўскай валасці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзам. Тлумачэнне назвы гл. *Пятровічы* (*1*).

**Пятро́вічы (3)** — вёска за 37 км на ўсход ад Паставаў, за 11 км на ўсход ад Дунілавічаў. Тлумачэнне назвы гл. *Пятровічы* (*1*).

**Пятро́вічы (4)** — вёска за 23 км на захад ад Паставаў, за 8,5 км на паўночны захад ад Камаяў. Тлумачэнне назвы гл. *Пятровічы* (*1*).

**Пятро́ўшчына** — вёска за 12 км на поўдзень ад Паставаў на беразе ракі Мядзелка. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Манькавіцкай валасці Вілейскага павета. Назва патранімічная, паходзіць ад кананічнага хрысціянскага імя *Пётр* — «камень, скала» (лац.). Фармант *-шчына* сведчыць пра тое, што назва спачатку адносілася да пэўнай мясцовасці, урочышча.

**Пятру́ці** — вёска за 51 км на захад ад Паставаў, за 7 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1873 года ў Лынтупскай валасці Свянцянскага павета як вёска Пятруці 1-я (уладальнік Тышкевіч) і Пятруці 2-я (уладальнік Здзяхоўскі). Назва патранімічная, паходзіць ад кананічнага хрысціянскага імя *Пётр* — «камень, скала» (лац.). Асновай магло быць як беларускае *Пятро*, так і літоўскае *Пятрас*.

## Р

**Рабе́кі** — вёска за 17 км на паўночны ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Паловіца. У пачатку XX стагоддзя знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета. Назва паходзіць ад мянушкі жыхароў: *рабека* — гэта чалавек з рабаціннем, з вяснушкамі. У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Рабека*.

**Равы́** — хутар за 13 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на захад ад Лучая. Назва паходзіць ад славянскага слова *роў* — «доўгае паглыбленне, выкапанае ў зямлі; канава», якое ўтварылася ад дзеяслова *рыць*. Адпаведны геаграфічны тэрмін ёсць і ў літоўскай мове: *ravas* — канава, роў.

**Рага́лі** — вёска за 27 км на захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя вёска ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, флігель Драздоўскага. Назва паходзіць ад асновы *рог* — «месца, дзе сыходзяцца, сутыкаюцца два знешнія бакі аднаго прадмета, вугал». У беларускай мове часта сустракаецца выраз *на рагу* — «у кутку, у вугле чаго-небудзь». У літоўскай мове тэрмін мае падобнае значэнне: *ragai* — «рогі». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Рагалёў*, *Рагальскі*.

**Ра́гелі** — хутар за 18 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 4 км на поўдзень ад Камаяў. Назва паходзіць з літоўскай мовы, дзе *ragelis* мае значэнні «ражок», «мыс», «выступ». Хутар знаходзіцца на развілцы дарог, *на рагу*. На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Рагель*.

**Рагу́нішкі** — вёска за 38 км на захад ад Паставаў, за 4 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя вёска ў Лынтупскай гміне Свянцянскага павета, флігель Шастакова. Назва паходзіць ад літоўскай асновы *ragas* — «рог», што падкрэсліваецца тыповым балцкім канчаткам *-ішкі*.

**Раго́ўскія** — вёска за 27 км на паўночны захад ад Паставаў, за 10 км на поўнач ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета як уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад прозвішча *Рагоўскі*, якое і зараз сустракаецца на Пастаўшчыне. У аснове прозвішча — слова *рог* — «цвёрды выраст касцявога рэчыва на галаве». За гэту адметнасць першапачынальнік роду атрымаў у далёкім мінулым мянушку *Рогаў*,

якая пазней у нашчадкаў займела форму *Рагоўскі*. Магчыма ўтварэнне прозвішча і ад назвы паселішча. У спісе шляхецкіх прозвішчаў сустракаецца *Рагоўскі з Рогава*, *Скарбек-Рагоўскі*.

**Раду́та** — гл. *Рэду́та*.

**Ракі́ты** — вёска за 16 км на поўнач ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. Назва адлюстроўвае асаблівасці расліннасці ў мясцовасці, дзе паўстала вёска: *ракіта* — «дрэва або вялікі куст сямейства вярбовых». Зараснікі такіх дрэў даволі часта сустракаюцца ўздоўж рэк па нізінах. На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Ракіто*.

**Ра́лаўцы** — вёска за 15 км на поўдзень ад Паставаў. У 1905 годзе — засценак у Манькавіцкай воласці Вілейскага павета. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага *рала* — «прылада для апрацоўкі зямлі, саха, плуг». Ад гэтай асновы паходзіць і беларускае слова *араць*. Верагодна, у час асваення гэтых земель славянамі лес спальваўся і раскарчоўваўся, а на яго месцы разраблялася зямля. *Ралаўцы* — «аратыя, людзі, якія абраблялі зямлю». У Пастаўскім раёне зафіксавана прозвішча *Ралавец*.

**Рама́нішкі** — вёска за 36 км на захад ад Паставаў, за 3 км на захад ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, маёнтак Даўгялы. Назва патранімічная, паходзіць ад распаўсюджанага імя *Раман*, што ў грэчаскай мове азначае «моцны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы, якія ўтвораны ад гэтага імя: *Раманенка*, *Раманенкоў*, *Раманаў*, *Рамановіч*, *Раманоўскі*, *Раманчук*, *Раманюк*.

**Рама́шкавічы** — вёска за 17 км на захад ад Паставаў, за 5,5 км на паўночны захад ад Камаяў. Вядома з 1873 года ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, уладанне Чаховічаў. Назва патранімічная, паходзіць ад прозвішча *Рамашкавіч*, якое ў сваю чаргу ўтварылася ад імя *Раман*. Яно мае шмат форм, сярод якіх Рамаш, Рамашка, Ромусь, Ромчык і іншыя. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Рамашко*.

**Раме́йкі** — вёска за 27 км на захад ад Паставаў, за 3 км ад Камаяў. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці

Свянцянскага павета Віленскай губерні. Адназначна вызначыць паходжанне і сэнс гэтай назвы немагчыма. Найбольш верагодна яе можна вывесці ад літоўскага слова *ramiai* — «спакойна, ціха», адкуль *рамейка* — «ціхае і спакойнае дзіця». Цікавым падаецца і іншы варыянт тлумачэння назвы: *рамей* — гэта «візантыец», жыхар Візантыйскай імперыі. З гісторыі вядома, што полацкія князі хадзілі паходамі на Канстанцінопаль і вярталіся адтуль са здабытым багаццем і вялікім палонам. Не выключана, што рамеяў рассялялі на памежжы Полацкай зямлі і некалькі з іх апынуліся на Пастаўшчыне. У раёне сустракаецца прозвішча *Рамейка*.

**Раме́лькі** — вёска за 3 км на поўдзень ад Паставаў. У пачатку XX стагоддзя знаходзілася ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва патранімічная, утворана ад імя *Раман*, якое на Пастаўшчыне сустракаецца ў форме *Ромель*. У Пастаўскім раёне ёсць і такое прозвішча.

**Рача́ны** — вёска за 40 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Лынтупаў. У аснове назвы ляжыць геаграфічны тэрмін *рака* — «водны паток значных памераў», ад якога ўтварылася паняцце *рачына* — «мясцовасць каля ракі, парэчча». Такім чынам, назва адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць вёскі: яна знаходзіцца каля ракі Пеляка.

**Ро́дзі** — вёска за 7 км на паўночны захад ад Паставаў. У пачатку XX стагоддзя знаходзілася ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва патранімічная, паходзіць ад прозвішча *Родзь*, якое ўтварылася ад кананічнага праваслаўнага імя *Радзівон* (*Родион*), што з грэчаскай мовы азначае «герой, гераічны чалавек». Імя ўтварае шматлікія формы, сярод якіх сустракаюцца *Родзя*, *Родзька*, *Родзік* і іншыя. У Пастаўскім раёне ёсць шэраг прозвішчаў, якія ўтварыліся ад гэтага імя: *Радзівонаў*, *Родзь*, *Радкевіч*.

**Ро́скаш —** вёска за 24 км на паўднёвы захад ад Паставаў на паўднёвым беразе возера Вялікія Швакшты. Назва адлюстроўвае прыродную асаблівасць мясцовасці. У беларускай мове *роскошь* — «багацце, пышнасць, разнастайнасць прыроды».

Сапраўды, вёска ляжыць у маляўнічай мясцовасці каля прыгожага, самага вялікага на Пастаўшчыне возера.

**Ро́ўнае По́ле** — вёска за 29 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1640 года, калі ў вёсцы была пабудавана капліца. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва славянская, адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць мясцовасці ў ваколіцах вёскі.

**Рубе́ж** — вёска за 9 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на ўсход ад Камаяў. Назва славянская, паходзіць ад дзеяслова *рубіць* («секчы»). У сярэднявеччы на лініі паміж уладаннямі гаспадароў, якая праходзіла праз лясны масіў, рабілі прасеку, таму тэрмін *«рубеж»* часцей ужываецца ў значэнні «край, мяжа, граніца». Ёсць меркаванне, што ў старажытнасці каля гэтай вёскі некаторы час праходзіла мяжа паміж пераважна славянскімі і пераважна балцкімі паселішчамі.

**Ру́дае** — вёска за 30 км на ўсход ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Варапаева. Вядома з пачатку XX стагоддзя ў Луцкай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе было 3 вёскі з назвай *Рудая*. Мела формы *Руда*, *Рудка*. Назва паходзіць ад славянскага *руды* ў значэнні «рыжа-карычневы, чырванаваты, рыжы». Спачатку назва вызначала асаблівасць мясцовасці, а потым перайшла на вёску. Рыжа-карычневы колер звязаны з афарбоўкай балотнай вады з прычыны таго, што ў ёй знаходзіцца шмат ліманіту — балотнай жалезнай руды. Ад асновы *руды* на Пастаўшчыне ўтворана шмат прозвішчаў людзей: *Руды*, *Рудаў*, *Рудык*, *Рудак*, *Рудзяк*, *Рудніцкі*, *Руднеў*, *Рудкоўскі*, *Рудзік*.

**Ру́дзевічы** — вёска за 13 км на ўсход ад Паставаў. Вядома з 1873 года ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Рудзевіч*, якое ёсць у спісе беларускай шляхты. Гл таксама *Рудае*.

**Ру́дзі** — вёска за 7,5 км на захад ад Паставаў, за 8 км на паўночны ўсход ад Камаяў. Назва паходзіць ад прозвішча *Рудзь*, у аснове якога — мянушка чалавека, які меў адметнасць — быў рудым (рыжым). У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Рудзік*, *Рудзінскі*.

**Ру́дка** — вёска за 30 км на ўсход ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Варапаева. Вядома з 1782 года як фальварак на 77 двароў. Назва паходзіць ад славянскай асновы *руды* — «рыжа-карычневы» і першапачаткова адносілася да рэчкі або да возера, якое мела такі колер вады. Афарбоўка залежыць ад грунтоў, у якіх мелася шмат глiністых часцінак або аржавіння — балотнай руды. Раней каля вёскі знаходзілася цагельня, дзе з мясцовай гліны выраблялі чырвоную цэглу.

**Русакí (1)** — вёска за 19 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Камаяў. Вядома з 1873 года як вёска ў казённым маёнтку ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе вёска і засценак Сівіцкага. Назва-этнонім адлюстроўвае этнічны склад насельніцтва вёскі. Пераважная большасць жыхароў былі *русакамі* — рускімі па нацыянальнасці. Назва сведчыць і пра тое, што ў вакольных вёсках жыло не рускае насельніцтва — магчыма, балты або ліцвіны. Бывала, што русакамі называлі і праваслаўных, якія жылі паміж католікаў-«палякаў». У Пастаўскім і Мядзельскім раёнах вельмі пашыраным з’яўляецца прозвішча *Русак*, сустракаецца таксама *Русакевіч*.

**Русакí (2)** — вёска за 8 км на поўнач ад Паставаў на правым беразе ракі Мядзелка. Тлумачэнне назвы гл. *Русакі* (*1*).

**Ру́сіны** — вёска за 10 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. У 1873 годзе знаходзілася ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, уладанне Хлявінскай. Назва адлюстроўвае этнічны склад насельнікаў паселішча. У старажытнасці *русінам* звалі любога, хто належаў да славянскіх плямёнаў. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Русінаў*, *Русецкі*.

**Рыбча́ны** — вёска за 7 км на поўнач ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. Назва паходзіць ад славянскага дзеяслова *рыбачыць* — «лавіць рыбу». Назва адлюстроўвае занятак жыхароў. Верагодна, тутэйшыя людзі вызначаліся сваімі рыбацкімі ўменнямі, адкуль і пайшла гэта назва-мянушка. *Рыбчане* — людзі, што займаліся рыбай.

**Ры́лькі** — вёска за 16 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. У 1873 годзе — засценак у Манькавіцкай воласці Вілейскага

павета Віленскай губерні, уладанне Тызенгаўзаў. Назва, верагодна, паходзіць ад старажытнаславянскага *рѣлка* — «водмель»; *рель* — «поплаў». Слова сустракаецца ў новагародскіх граматах з XII стагоддзя ў блізкіх значэннях «заліўны сенакосны луг», «невялікае ўзвышша сярод балот». Вёска знаходзіцца каля вялікай забалочанай поймы прытоку ракі Аржоўка.

**Ры́мкі** — вёска за 34 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 19 км на поўнач ад Варапаева. Вядома з 1873 года ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу; у пачатку XX ст. — Пшаздзецкім. Улічваючы тое, што вёска знаходзіцца ў вельмі адметным месцы, як раз у сутоках трох, раней суднаходных, рэк — Дзісны, Паловіцы і Галбяіцы, то можна з вялікай доляй верагоднасці прапанаваць растлумачыць паходжанне назвы ад тэрміна *рым* — «металічнае кола для замацавання тросаў, блокаў, швартовых канцоў, якое ўсталёўваецца ў насавой і кармавой частках караблёў, а таксама на прычалах і набярэжных». Гэта германскае слова магло быць прынесена ў тутэйшыя мясціны ў раннім сярэднявеччы, калі па рэках праходзіў водны гандлёвы шлях з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Нёмана. Не выключана, што назва паселішчу была дадзена вікінгамі, якія ў даўнія часы часта плавалі па рэках паўночна-заходняй Беларусі і Балтыі. У месцы злучэння трох рэк і быў *рым* — «прыстань; месца для прывязвання караблёў да металічных кольцаў». Можна прапанаваць і прасцейшае тлумачэнне назвы: *Рыма* (*Рымка*, *Рымша*) — кананізаванае імя, якое ў лацінскай мове азначае «кінуты». Можа быць, назва вёскі пайшла ад імя першапасяленца з імем Рыма. У Пастаўскім раёне сустракаецца шэраг прозвішчаў, утвораных ад гэтага імя, — *Рымша*, *Рымко*, *Рымовіч*.

**Рынкя́ны** — вёска за 34 км на захад ад Паставаў, за 8 км на поўнач ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Тлумачэнне паходжання назвы можна знайсці ў фінскіх мовах, дзе *rinne* — «схіл, спуск», а *kanta* — «галава, вяршыня». Разам атрымліваецца апісанне адметнасці мясцовасці — «вяршыня схілу». Такое тлумачэнне пацвярджаецца геаграфіяй, бо вёска знаходзіцца на ўзвышшы каля паглыбленай даліны ракі Свіла. Як варыянт,

можна прапанаваць тлумачэнне назвы ад германскай асновы *рынк* — «кола, кольца», якое ў сярэднявеччы трансфармавалася ў *рынак* — «гандлёвую плошчу». Звестак пра тое, што ў даўнейшыя часы Рынкяны былі гандлёвым цэнтрам, на знойдзена, але ўскосныя доказы гэтага існуюць. У адрозненне ад суседніх сельскіх населеных пунктаў, якія размешчаны ўздоўж дарог, Рынкяны вызначаюцца тым, што сюды сходзіцца пяць шляхоў. У Пастаўскім раёне пражываюць людзі з прозвішчам *Рынкевіч*.

**Рэ́дзькаўшчына** — вёска за 35 км на ўсход ад Паставаў каля Варапаева. Назва патранімічная, паходзіць ад прозвішча *Радзька* (*Рэдзька*), якое ўтварылася ад кананічнага праваслаўнага імя *Радзівон* (*Родион*), што з грэчаскай мовы азначае «герой, гераічны чалавек». Імя ўтварае шматлікія формы, сярод якіх сустракаюцца *Радзька*, *Радко*, *Радзько*, *Родзька* і іншыя. Фармант *-шчына* паказвае, што тутэйшая мясцовасць належала гаспадару з імем *Рэдзька*. У Пастаўскім раёне пражываюць людзі, прозвішчы якіх утвораныя ад гэтай формы імя Радзівон: *Радзько*, *Радкевіч*, *Радзьковіч* (дарэчы, у в. Ляхаўшчына, што ляжыць недалёка ад Рэдзькаўшчыны)

**Рэду́та** — вёска за 28 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1790 года як вёска з 13 дымоў. У 1873 годзе вёска ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, уладанне Канткоўскай. Найпрасцей растлумачыць назву з французскай мовы, дзе *redoute* — гэта «палявое земляное ўмацаванне, акружанае валам і ровам», і звязаць яе ўтварэнне з падзеямі вайны 1812 года, калі французскія войскі праходзілі праз гэту мясцовасць ў час паходу на Расію. Існуе легенда, што такую назву вёсцы даў мясцовы памешчык, які сам быў удзельнікам тых гістарычных падзей. Але, верагодна, назва ўтварылася значна раней ад асновы, блізкай да слоў *«род*, *рада*, *радавод*, *радня»*, тым больш што ў вымаўленні яна часцей гучыць як *Радута*. Пра старажытнасць і сакральнасць назвы сведчаць даўнія раннехрысціянскія могілкі і магчымае існаванне капішча. У пачатку XXI стагоддзя на гэтым месцы рупнасцю мастака Алеся Цыркунова ўсталявана каплічная брама.

**Рэ́пішкі (Рэ́пешкі)** — хутар за 28 км на захад ад Паставаў, за 5,5 км на ўсход ад Лынтупаў. Назва паселішча паходзіць ад назвы расліны *рэпік* (рус. *репей*) — «род шматгадовых травяністых раслін сямейства складанакветных, якія маюць звычайна калючкі». Найбольш вядомым прадстаўніком роду з'яўляецца лопух. Урочышчы з такімі раслінамі заўважаліся мясцовымі жыхарамі і часта ўводзіліся ў тапанімію. У Беларусі шырока распаўсюджаны назвы *рэпішча*, *рэпнікі*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Рэпін*, *Рэпнікаў*.

## С

**Сабо́лкі** — вёска за 36 км на захад ад Паставаў, за 3,5 км на паўночны захад ад Лынтупаў на правым беразе ракі Пеляка. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, уваходзіла ў маёнтак Раманішкі Ксаверыя Даўгялы. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *са* (*шо*, *соо*, *суо*) мае значэнне «балота», а *бола* — «паселішча». Разам атрымліваецца «паселішча на балоце», што адпавядае геаграфічнай характарыстыцы мясцовасці. Падобнае значэнне слова сустракаем і ў ненецкай мове, дзе *сабол* — «балота, дрыгва».

**Са́вічы** — вёска за 9 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў на правім беразе ракі Лучайка. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Савіч*, якое ўтварылася ад кананічнага праваслаўнага імя *Савва*. Разам з вельмі пашыраным на тэрыторыі Пастаўскага раёна прозвішчам *Савіч* сустракаюцца таксама *Савіцкі*, *Савінскі*, *Савел*, *Савосін*, *Саўчанка*, *Саўчук*.

**Сакалы́** — вёска за 16 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы захад ад Лучая. Назва паходзіць ад прозвішча *Сокал*, якое ўтворана ад мянушкі. Так называлі смелага і прыгожага юнака, мужчыну, параўноўваючы яго з птушкай *сокал*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Сокал*, *Сакалоўскі*, *Саколка*, *Сакалоў*, *Сакольскі*.

**Саку́ны** — вёска за 18 км на захад ад Паставаў, за 1,5 км на ўсход ад возера Янкішкі. Назва паходзіць ад наймення беларусаў-сакуноў, арэал пражывання якіх першапачаткова знаходзіўся

на Палессі ў басейнах рэк Пцічы і Арэсы. Асаблівасцю іх была цвёрдае вымаўленне *-са* (заместа *-ся*) у зваротных дзеясловах (*зваліўса*, *пабіўса*, *ганарыўса* і г. д.). Верагодна, тутэйшыя жыхары вёскі таксама вызначаліся такой адметнасцю.

Магчыма звязаць паходжанне назвы са скіфскім народам *сакі* — групай плямёнаў-качэўнікаў, якія жылі ў VIII–IX стагоддзях у Заволжы і якія прасоўваліся з іншымі народамі на захад.

**Салаўí** — вёска за 7 км на паўднёвы захад ад Паставаў. Назва паходзіць ад прозвішча *Салавей*, якое ўтворана ад адпаведнай мянушкі. Так называлі чалавека, які меў прыгожы, чысты, пераважна высокі голас. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Салавей*, *Салаўёў*, *Саловаў*.

**Салаўíха** — вёска за 21 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 4 км на захад ад Дунілавічаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе засценак Пяткевіча, Шырневіча і Яцыны. Тлумачэнне назвы гл. *Салаўі*.

**Саранчáны** — вёска за 25 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 10 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў на ўсходнім беразе возера Саранчаны. У 1861 годзе была ў Свянцянскім павеце Віленскай губерні, маёнтак Канткоўскага. У пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад наймення возера і мае фіна-ўгорскі радавод: *ara* (фін., карэл.) — «балота, вялікае балота, мора, забалочаная рэчка». Другая частка слова — *чаны* — мае, напэўна, значэнне «возера». Такім чынам, сэнс назвы можа гучаць як «забалочанае возера». Сапраўды, возера мае невялікую глыбіню (макс. 3,5 м) і моцна зарастае.

**Сарапóны** — вёска за 15 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы захад ад Лучая. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні, уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад імя *Сарапон*.

**Сарóкі** — вёска за 32 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Варапаева паміж возерам Сарокі і ракой Ласіца. Назва паходзіць ад прозвішча *Сарока*, якое, верагодна, утварылася ад мянушкі. Напэўна, чалавек, якога ёй «узнагародзілі», любіў

пагаварыць, «сакатаў, як сарока». У Пастаўскім раёне шырока распаўсюджаны прозвішчы *Сарока*, *Сарокін*. Магчымае і паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *sara* (карэл., фін.) — «балота, забалочаная рэчка». Побач з вёскай знаходзіцца невялікае возера і рэчка.

**Саро́чына** — вёска за 9 км на поўдзень ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе меліся вёскі Сарочына 1-е і 2-е, старожка, засценак князя Друцкага-Любецкага, маёнтак. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *sara* (карэл., фін.) — «балота, забалочаная рэчка». Побач з вёскай знаходзіцца возера Сарочынскае.

**Сасно́ўшчына** — вёска за 35 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 17 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. Назва адлюстроўвае прыродную асаблівасць урочышча, дзе знаходзіцца паселішча: «мясцовасць, дзе растуць сосны». Гэту адметнасць падкрэслівае прасторавы фармант *-шчына*.

**Сверебляўшчы́зна** — вёска за 23 км на захад ад Паставаў, за 10 км на ўсход ад Лынтупаў на правым беразе ракі Яновіца. Паходжанне назвы можна звязаць з літоўскім словам *zvirblis* — «верабей».

**Сві́дна** — вёска за 28 км на ўсход ад Паставаў, за 7,5 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева каля возера Свідна. Вядома ў 1781 годзе як сяло Свірбна ў маёнтку Дунілавічы Ашмянскага павета. У пачатку XX стагоддзя ў Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе засценак Свідна, уладанне графа Тышкевіча. У 1930 годзе меўся цагельны завод, які належаў Тадэвушу Шкорніку. Назва вёскі ўтварылася ад найменне возера, якое мае фіна-ўгорскія карані: *syva* — «глыбокі» і *to* — «возера».

**Свіле́лі** — вёска за 10 км на паўночны захад ад Паставаў. У пачатку XX стагоддзя ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Свілель*, якое ўтварылася ад імя або мянушкі *Свіла*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Свіла*, *Свілель*, *Свілёнак*.

Славянскае дыялектнае *свіль* або *цвіль* азначае «зарастаючае возера».

**Свіні́ца** — вёска за 20 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад Варапева. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва, верагодна, адлюстроўвае адметную асаблівасць тутэйшай мясцовасці — раней тут вадзілася многа дзікіх кабаноў. Дарэчы, і зараз у суседнім лясным масіве Варапаеўская Дача іх таксама шмат.

Больш праўдападобнай можа выглядаць версія паходжання назвы ад дыялектнага слова *свіннік*, што азначае «зараснік цвёрдага сіўцу» — шматгадовай травяністай расліны сямейства злакаў з цвёрдым шчацінападобным сцяблом, якая сустракаецца на дрэннай пашы, лузе.

**Свіра́ны** — вёска за 16 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на поўдзень ад Камаяў. Назва славянская, паходзіць ад наймення пабудовы: *свіран* — «халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў, а таксама рэчаў і падобнага». Верагодна, Свіраны выраслі на месцы гаспадарчых пабудоў маёнтка Каралінова, які належаў Сулістроўскім, а пазней — Ромэрам.

**Свірду́ні (Свірду́ны)** — вёска за 30 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3,5 км на ўсход ад Лынтупаў каля вытокаў ракі Олксна. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, маёнтак Канткоўскага. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе *syva* — «глыбокі», а *duna* — «рака» (Зах. Дзвіна раней называлася Дуна). Зараз праз вёску цячэ невялікая рачулка Олксна і быццам бы няма ніякіх доказаў таго, што яна калісьці была глыбокай. Аднак, геаграфічны аналіз паказвае, што ў даўнія часы рака ў гэтым месцы сапраўды мела значную глыбіню, бо ніжэй па цячэнні каля вёскі Вінцэнтава знаходзіцца прыродная ледавіковая града, якую водны паток марудна, але настойліва перапілоўваў. Урэшце на месцы глыбокага і даволі шырокага ўчастка Олксны засталося толькі балота, у цэнтральнай частцы якога яшчэ трывае невялікае азярцо.

**Сві́ркі** — вёска ў Камайскім сельсавеце. Назва паходзіць ад прозвішча і імя *Свірка* (*Свірко*) — формы імя *Свірыд*, якое ўтварылася ад кананічнага праваслаўнага і каталіцкага *Спірыдон* («кошык»). У Пастаўскім раёне ўтворана шмат прозвішчаў ад гэтага імя: *Свірко*, *Свірыдзенкаў*, *Свірыдаў*, *Свірыдовіч*, *Свірковіч*, *Спірыдовіч*, *Спірыдонаў*, *Спірадовіч*.

**Сві́рплішкі** — вёска за 31 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 2 км на ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, флігель Бішэўскага. Назва, верагодна, мае фіна-балцкае паходжанне. Першапачатковай асновай стаў тэрмін *syva* — «глыбокі». Магчыма, ён быў перанесены з суседняй вёскі Свірдуні. Пазней да яго далучылася балцкае *plešines* — «высечанае месца ў лесе, разараная ніва». Такім чынам, вёска ўзнікла на «глыбокай плешыне сярод лесу». Цікава, што сучаснае месцазнаходжанне паселішча пацвярджае тлумачэнне назвы: яно ляжыць на невялікім лапіку «голай» зямлі сярод спрадвечнага і даволі вялікага ляснога масіву.

**Се́нькішкі** — вёска за 31 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў складзе Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, уладанне Бішэўскага. Назва паходзіць ад кананічнага праваслаўнага імя *Сямён* (*Сімеон*), якое ўтварае шмат форм, у тым ліку *Сеня*, *Сенька*, *Сенік*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Сянько*, *Сенькавец*, *Сенюковіч*.

**Се́ргі** — вёска за 30 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 16 км на поўдзень ад Варапаева. У пачатку XX стагоддзя была ў складзе Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад кананічнага праваслаўнага імя *Сергій*, што азначае «высокі», «шаноўны». Яно ўтварае шмат форм, у тым ліку і *Серга*, *Сярго*, *Сяргуля*, *Сяргуша*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы, утвораныя ад імя *Сяргей*: *Сяргееў*, *Сяргеенкаў*, *Сяргейчык*, *Сяргіенкаў*.

**Сі́маны** — вёска за 15 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 13 км на паўднёвы захад ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні, уладанне Тызенгаўза. Назва паходзіць ад яўрэйскага імя *Сімон*

(*Сымон*, *Шымон*), што азначае «паслухмяны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Сіманёнак*, *Сімановіч*, *Сымановіч*, *Сіманька*, *Сіманайць*, *Сіманчук*.

**Сíманькі** — вёска ў Шыркаўскім сельсавеце. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Сіманька*, якое ўтварылася ад яўрэйскага імя *Сімон* (*Сымон*, *Шымон*), што азначае «паслухмяны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Сіманёнак*, *Сімановіч*, *Сымановіч*, *Сіманька*, *Сіманайць*, *Сіманчук*.

**Сíўцы** — вёска за 5 км на поўнач ад Паставаў на паўночным беразе возера Белае. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Віленскай губерні. У аснове назвы ляжыць каляровая адметнасць: *сівы* — «чалавек з белымі валасамі або з валасамі, якія страцілі сваю афарбоўку». Верагодна, гэтай асаблівасцю вызначаліся жыхары гэтай вёскі.

Паводле іншай версіі, назва паходзіць з беларускай мовы, дзе *сівіца* або *сівец* азначае вільготнае месца з зараснікам *сіўцу* — шматгадовай травяністай расліны сямейства злакаў з цвёрдым шчацінападобным сцяблом, якая сустракаецца на дрэннай пашы, лузе.

У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Сіваш*, *Сівіцкі*, *Сіўко*, *Сіўчак*.

**Скáрпаўцы** — вёска за 23 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы захад ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага тэрміна *скарпа*, які мае значэнне «стромкая вяршыня гары», «круты схіл». Геаграфія пацвярджае такое тлумачэнне, бо сапраўды ў ваколіцах вёскі рэльеф вельмі складаны, узгорысты, са стромкімі схіламі.

**Скварцóва** — вёска за 16 км на ўсход ад Паставаў, за 8 км на паўднёвы захад ад Варапаева каля вёскі Лучай. Назва ўтворана ад прозвішча першапасяленца *Скварцова*. Пасля бунту мясцовых жыхароў, які адбыўся ў Лучаі ў 1905 годзе і ў час якога была разбурана пратэстанцкая кірха, уладальнік тутэйшых зямель барон Клейгельс перасяліў сюды сялян з Расіі. Верагодна,

тады і патрапілі на Пастаўшчыну Скварцовы. Прозвішча гэта сустракаецца і зараз.

**Скру́нды** — вёска за 26 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 9 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў на заходнім беразе возера Саранчаны. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Верагодна, назва ўтворана ад асновы *кру-*, якая сустракаецца ў славянскіх і балцкіх мовах у значэнні «круча, круты»; у літоўскай мове — *krucis*. Геаграфічна вёска знаходзіцца ў даліне ручая, абапал якога падымаюцца крутыя схілы. Нельга выключаць і паходжанне назвы ад балцкага прозвішча *Скрунда*, што ад *skrundele* — «мурашка».

**Скура́ты** — вёска за 12 км на поўдзень ад Паставаў, за 2 км на поўнач ад Вярэнек. Назва адлюстроўвае занятак жыхароў. Яны абраблялі *скуры* жывёл, адкуль і пайшла мянушка-прозвішча. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Скурат*, *Скурка*, *Скур'ят*, *Скурацёнак*.

**Слабада́** — вёска за 13 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на поўнач ад Навасёлак. У пачатку XX стагоддзя была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе засценак барона Клейгельса. Назва вёскі адлюстроўвае асаблівасці даўнейшых эканамічных адносін: *слабада* — гэта паселішча, жыхары якога на пэўны тэрмін вызваляліся ад падаткаў.

**Сліжо́ва** — вёска за 13 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 2 км на захад ад Груздава. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні, належала Хомскім і Козелам. У 1905 годзе — вёска і засценак Палякевіча. Паходжанне назвы можна звязаць з дыялектным словам *слезня* — «крыніца на балоцістым лузе». Пастаянны выхад вады на паверхню робіць глебы вільготнымі, слізкімі, што, магчыма, і дало штуршок для ўтварэння гэтай назвы. Паходжанне назвы вёскі можна звязаць і з прозвішчам *Сліж*, якое ўтварылася ад найменне невялікай рыбы «галец».

**Смыччо́** — вёска за 17 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 2 км на ўсход ад Груздава абапал ракі Аржоўка. У 1905 годзе фальварак Пшаздзецкіх Смыч знаходзіўся ў Манькавіцкай во-

ласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Таксама былі аднайменныя старожка і выселак. Назва паходзіць ад старажытнага славянскага дзеяслова *смыкацца* — «рабіць сутаргавыя рухі». Гэта слова, напэўна, характарызуе адметнасць ракі Аржоўка, якая мела непастаянную плынь, звілістае рэчышча. Цікава, што недалёка ад вёскі, на ўсходняй ускраіне лясной Груздаўскай Дачы, цячэ рака Смычыца, назва якой пацвярджае найменне паселішча.

**Со́ўкі** — вёска за 6 км на ўсход ад Паставаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Соўка*, якое ўтварылася ад імя або мянушкі. Найбольш верагодным падаецца яго ўтварэнне ад дыялектнага дзеяслова *соўкаць* — «песціць, апекавацца, нянькацца». Адсюль і *соўка* — «пястун, распешчаны». Магчымы варыянт паходжання назвы ад імёнаў *Сава і Вячаслаў*, якія сустракаюцца ў формах *Саўка*, *Саўко*. Сустракаецца і версія паходжання ад назвы птушкі *соўка*, якая адносіцца да сямейства сапраўдных соў. У Пастаўскім раёне распаўсюджаны прозвішчы *Соўка*, *Саўкоў*.

**Спо́ры Вялі́кія** — вёска за 10 км ад Паставаў. Вядома з 1557 года як маёнтак Фурсаў. Назва паходзіць ад возера *Споры*. Падобнае найменне мае і рэчка Спарыца, якая злучае азёры і з возера Споры цячэ ў возера Задзеўскае. Калі палічыць, што засяленне гэтай мясцовасці ішло па рацэ, то і назва ракі павінна быць першаасновай. Прыдатнае тлумачэнне даюць славянскія мовы. *Спорная вада* — гэта месца, дзе сходзяцца дзве плыні, «сшибка встречных потоков» (Даль). Сапраўды, недалёка ад возера Задзеўскага ў Спорыцу ўпадала рака Глодаўка. На месцы сутокаў існавала невялікае возера, якое зараз ператварылася ў балота. У гэтым возеры і маглі актыўна праяўляцца буруны, водавароты, інакш кажучы, спорная вада. Нельга выключыць і паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *сора* мае сэнсавыя значэнні «рэчышча ракі», «сутокі рэк», «невялікая рэчка».

**Стане́левічы (Станіле́вічы)** — вёска за 34 км на ўсход ад Паставаў, за 12 км на паўднёвы ўсход ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Норыцкай воласці Вілейскага павета Ві-

ленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Станелевіч*, якое пайшло ад імя *Станіль*, утворанага ад старажытнаславянскага, кананізаванага каталіцкай царквой, імя *Станіслаў* — «стане слаўным».

**Ста́нчыкі** — вёска за 29 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 12 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў каля возера Балдук. У 1920 годзе ў Лынтупскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяводства. Назва паходзіць ад імя *Станчык*, якое ўтварылася ад імя *Станіслаў*. У Пастаўскім раёне пражываюць *Станчыкі*, *Станюшы*, *Станіслававы*.

**Старчу́ны** — вёска за 17 км на захад ад Паставаў каля Гадуцішак. Назва паходзіць, верагодна, ад прыслоўя *старчма*, *старчаком* у значэнні «стаўмя, вертыкальна». Такое тлумачэнне мае абгрунтаванне на мясцовасці. Побач з вёскай у глыбокай даліне цячэ рака Камайка, у якой абрывістыя берагі маюць вышыню 3–6 метраў.

**Стары́ Двор** — вёска за 16 км на ўсход ад Паставаў, за 7 км на захад ад Варапаева каля возера Старадворскае. У 1885 годзе — маёнтак у Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні; меўся вінакурны завод. Назва адлюстроўвае гістарычную адметнасць паселішча: тут знаходзіўся *двор* — рэзідэнцыя ўладальнікаў гэтай мясцовасці. Верагодна, раней вёска называлася проста *Двор*, а пасля таго як частка былых яе жыхароў заснавала новае паселішча — Навасёлкі, то *Двор* стаў *Старым*.

**Стахо́ўскія** — вёска за 35 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 17 км на поўнач ад Варапаева на левым беразе ракі Галбяіца. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Стахоўскі*, якое ўтворана ад імя апостала *Стахія*, што азначае «колас». На Пастаўшчыне сустракаецца прозвішча *Стахоўскі*.

**Сто́нішкі** — вёска за 28 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 7 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад літоўскага *stonijos* — «пастаўнік, загарода для жывёлы ў полі». Зараз недалёка ад вёскі знаходзіцца малочнатаварная ферма.

**Сту́каўшчызна** — вёска за 33 км на захад ад Паставаў, за 4,5 км на поўнач ад Лынтупаў. Назва, верагодна, паходзіць ад фінскага тэрміна *suo* — «балота», якое ў славянскіх мовах трансфармавалася да формы *стук*. Доказам гэтага з’яўляецца і назва балота Стукач каля Вялейкі. З гэтага вынікае, што найменне вёскі ўтварылася ад урочышча, якое знаходзіцца ў забалочанай мясцовасці, што сапраўды так і ёсць. Існуе версія, што назва магла ўтварыцца ад слова *истукан* — «ідал, стод» і магла адносіцца да мясцовасці, дзе месцілася паганскае капішча.

**Су́бачы** — вёска за 25 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 9 км на ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе былі вёскі Субачы Дальнія і Субачы Бліжнія. Назва, верагодна, паходзіць ад стараславянскага геаграфічнага тэрміна *субач* у значэнні «водападзел», «узвышша паміж паніжэннямі». У еўрапейскай частцы Расіі сустракаюцца словы *бачаг*, *бачага*, *буча*, якія тлумачацца як «балота з ручаём», «забалочаная нізіна». У Беларусі сустракаюцца назвы Бачканы, Бачылаўка. Фармант *су-* характарызуе злучэнне аб’ектаў, іх блізкасць. Такім чынам, *субач* — гэта месца, дзе сыходзяцца дзве нізіны, два балоты. Пастаўскія Субачы пацвярджаюць гэта. Вёска знаходзіцца на водападзеле, на ўзгорку, з якога расцякаюцца ручаі на поўнач і на поўдзень. Ад назвы вёскі ўтварылася прозвішча, якое пашырана на Пастаўшчыне і Мядзельшчыне.

**Сурві́лішкі** — вёска за 19 км на захад ад Паставаў, за 7 км на паўночны захад ад Камаяў паміж азёрамі Вялікія і Малыя Сурвілішкі. У 1905 годзе маёнтак Чаховічаў у Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва вёскі ўтварылася ад наймення азёр Сурвілішкі, якія знаходзяцца ў басейне ракі Камайка (цячэ праз азёры) і мае фіна-ўгорскія карані, хоць канчатак у ёй тыпова балцкі. Але ён быў дададзены пазней, а першапачаткова возера называлася *Саравіл*, дзе *sara* (фін., карэл.) — «балота», «забалочаная рака», а *vil* (чуваш.) — «рэчышча ракі», «старыца», «возера ў пойме ракі». Геаграфічны аналіз пацвярджае верагоднасць такога тлумачэння: азёры, па сутнасці, уяўляюць сабой забалочаныя расшырэнні р. Камайка.

Такім чынам, першапачатковы сэнс назвы возера фармуляваўся як «забалочанае возера ў пойме ракі».

**Сухáрышкі** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 9 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета. У 1905 годзе вёска і засценак, які належаў Зубаву. Назва ўтварылася ад славянскага прыслоўя *суха* ў значэнні «сухое месца». Вёска сапраўды знаходзіцца на даволі высокім узгорку ў акружэнні паніжаных далін, па якіх цякуць ручаі.

Паводле легенды, у вельмі даўнія часы, калі Гасподзь хадзіў па зямлі, у тутэйшай мясцовасці быў вялікі няўрод, людзі галадавалі. Сядзеў тады на прызбе хаты бядняк, грыз апошні сухар. Якраз праз вёску праходзіў Бог у вобразе простага чалавека. Бядняк пашкадаваў падарожнага вандроўніка, разламаў сухар і падзяліўся сціплай ежай з ім. Вось таму вёска і завецца Сухарышкі.

**Сяргéевічы** — вёска за 26 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 6 км на поўдзень ад Дунілавічаў. У пачатку XX стагоддзя была ў складзе Дунілавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні каля сплаўной ракі Заражанка. Назва паходзіць ад прозвішча *Сяргеевіч*, якое ўтворана ад кананічнага праваслаўнага імя *Сергій*, што азначае «высокі», «шаноўны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы, утвораныя ад імя Сяргей: *Сяргееў*, *Сяргеенкаў*, *Сяргейчык*, *Сергіенкаў*.

## Т

**Тарáсаўка** — вёска за 9 км на паўночны ўсход ад Паставаў. У 1905 годзе вёска і хутар ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, уладанне Пшаздзецкіх. Назва паходзіць ад імя *Тарас*, якое ўтворана ад кананічнага праваслаўнага імя *Тарасій*, што значыць «усхваляваны, бунтоўны, трывожны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Таразевіч*, *Тарасевіч*, *Тараскевіч*, *Тарасаў*, *Тарашкевіч*.

**Трабýцішкі** — вёска за 33 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3 км на паўднёвы усход ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета, належала

Бішэўскаму. Назва паходзіць ад літоўскага *trabas* — «хата» або ад прозвішча *Trabutis*.

**Тра́пшавічы** — вёска за 19 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 4 км на захад ад Камаяў. Назва паходзіць ад літоўскага *trabas* — «хата» або ад прозвішча *Trabutis*.

**Тру́мпічы** — вёска за 28 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 11 км на поўнач ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва, верагодна, паходзіць ад аглушанай славянскай асновы *друм*, *дром*, што азначае «лясны гушчар», «густы зараснік», «непраходнае балота». Вёска сапраўды знаходзіцца каля забалочанага вялікага ляснога масіву Варапаеўская Дача. Магчыма паходжанне з балцкіх моў, дзе літоўскае *trumpas* азначае «кароткі».

**Труханкі́** — вёска за 15 км на поўдзень ад Паставаў. Назва паходзіць ад прозвішча *Трухан*, якое ўтварылася ад грэчаскага імя *Трахім* (*Трафім*), што значыць «выхаванец». У Пастаўскім раёне ад гэтага імя ўтварыліся прозвішчы *Трафімаў*, *Трахімовіч*, *Трошка*, *Атрахімовіч*.

**Ту́збіца** — вёска за 27 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 1 км на паўднёвы захад ад возера Белькі. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета, належала Тызенгаўзу. Назва вёскі паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: *ту*, *то* (комі, удм.) — «возера», *ба* (самад.) — «рака». Такім чынам, *Тус-ба* — «возера, з якога выцякае рака; праточнае возера». Геаграфічна такое пацвярджаецца: з возера выцякае ручай у раку Паловіца. У Пастаўскім раёне ёсць і возера Тусьба.

**Тумулёўшчына** — вёска за 11 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6,5 км на ўсход ад Камаяў. Карані назва можна знайсці ў лацінскай мове, дзе *tumuli* — «курганы, груды». У Балгарыі *тумулі* — магільныя курганы фракійцаў. Вядомы і дацкія *тумулі* — курганы.

**Ту́рлы** — вёска за 9 км на поўнач ад Паставаў на левым беразе ракі Мядзелка. Назва паходзіць ад прозвішча *Турла*, якое, верагодна, утварылася ад старажытнага імя *Тур*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Турла*, *Туркоў*, *Турлакоў*, *Турон*, *Туронак*.

## Ф

**Фаво́ры** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 7,5 км на ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Адназначна растлумачыць паходжанне назвы пакуль што немагчыма. Можна прапанаваць некалькі версій. Першая: назва паходзіць ад *фавор* (лац. *favor*) — «прыхільныя адносіны знатнай асобы да каго-небудзь». Другая: ад славянскага *фаворкі* (польскае *faworki*) — «сухія галінкі з дрэў або хмызняку». Трэцяя: ад татарскага імя *Фаварыс*, што азначае «рыцар, мужны чалавек, спрытны вершнік».

**Фа́левічы** — вёска за 11 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3 км на поўнач ад Вярэнек. Назва паходзіць ад прозвішча *Фалевіч*, якое ўтворана ад *Фаль* — формы кананічнага імя *Фалалей*, што значыць «квітнеючая масліна». На Пастаўшчыне раней існавала вёска Фалькава. Зараз у Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Фалевіч*.

**Філіпо́ўцы (Піліпо́ўцы)** — вёска за 13 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў каля вытокаў ракі Караліноўка. У 1873 годзе была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад кананізаванага праваслаўнага і каталіцкага імя *Філіп* (*Піліп*), што значыць «аматар коней». У Пастаўскім раёне ад гэтага імя ўтварыліся прозвішчы *Філіпенкаў*, *Філіповіч*, *Філіпаў*, *Філь*, *Піліпенка*, *Піліпёнак*, *Піліпчук*.

**Фра́напаль (Франапо́ль)** — хутар за 11 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на поўдзень ад Навасёлак. Назва складаецца з дзвюх частак. Першая, *франа*, утварылася ад імя *Франак* — польскага каталіцкага *Franciszek*. Другая частка мае значэнне *поле* — «ралля, апрацаваная зямля». З гэтага вынікае, што назва паселішча першапачаткова адносілася да мясцовасці «Франкава поле».

**Фяркі́** — вёска за 20 км на ўсход ад Паставаў, за 3 км на захад ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні, належала Соф'і Мастоўскай.

Назва паходзіць ад імя *Фярко*, якое ўтворана ад кананічнага *Ферапонт*, што значыць «слуга». У Пастаўскім раёне зафіксавана прозвішча *Фярковіч*.

## Х

**Ха́ркі** — вёска за 25 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на паўночны ўсход ад Варапаева на правым беразе ракі Заражанка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад імя *Харко*, якое ўтварылася ад праваслаўнага кананічнага імя *Харытон*, што значыць «дабрадзейны, шчодры». У Пастаўскім раёне ад гэтага імя пайшлі прозвішчы *Харытонаў*, *Харытоненка*, *Харко*, *Харько*, *Харкоў*.

**Хаці́лы** — вёска за 3 км на паўночны захад ад Паставаў абапал ракі Мядзелка. У пачатку ХХ стагоддзя была ў Ясеўскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад славянскага *хата* — жылая сялянская пабудова, зрубленая з бярвення». Ад асновы *хат-* утварылася прозвішча *Хаткевіч*, якое пашырана на Пастаўшчыне.

**Хралы́** — вёска за 21 км на ўсход ад Паставаў, за 2,5 км на паўднёвы захад ад Варапаева. У 1873 годзе была ў Лучайскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні, належала Соф’і Мастоўскай. У 1905 годзе — вёска і засценак. Назва паходзіць ад прозвішча або імя *Хрол*, якое з’яўляецца беларускай формай кананічнага праваслаўнага імя *Фрол*, што значыць «квітнеючы». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Хрол*.

**Хрысто́ва** — вёска за 38 км на ўсход ад Паставаў, за 13 км на ўсход ад Дунілавічаў. У 1861 годзе казённы маёнтак Хрыстова. У 1873 годзе вёска ў Норыцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе — фальварак і вёска. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Хрыста*, якое ўтворана ад кананічнага *Хрыстафор*, што значыць «хрыстаносны; той, хто нясе па жыцці крыж веры, святасці, духоўнасці».

У лесе побач з Хрыстовам ёсць урочышча Горкі. Існуе легенда, што ў XI стагоддзі там быў узведзены манастыр. Першыя манахі-хрысціяне, пахрысціўшы 14 мясцовых людзей, называлі

іх дзецьмі Хрыста. А месца — Хрыстовым. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Хрысталовіч*.

Мясцовыя жыхары расказваюць і такую версію: паселішча гэта было заснавана жыхарамі вёскі Цівунцы Зыгмундам і Юзюком Зямчонкамі. Яны купілі 14 валок зямлі і назвалі мясцовасць Хрыстова.

## Ц

**Цалінó** — вёска за 9 км на паўночны захад ад Паставаў, за 2,5 км на паўночны ўсход ад Ярэва. У 1873 годзе вёска Цылін у Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад славянскага тэрміна *цаліна* — «некранутая, ніколі не араная, але прыдатная для апрацоўкі зямля».

**Цалінóва** — вёска за 13 км на захад ад Паставаў, за 4,5 км на поўнач ад Камаяў. Назва паходзіць ад славянскага тэрміна *цаліна* — «некранутая, ніколі не араная, але прыдатная для апрацоўкі зямля».

**Целякí** — вёска за 9 км на поўнач ад Паставаў на правым беразе ракі Мядзелка. Назва паходзіць ад прозвішча *Цяляк*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі: *цяляк* — тое самае, што і *целяпень*: «непаваротлівы, марудлівы чалавек». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Цяляк* (вельмі шырока), *Цялятнікаў*, *Целіч*, *Целеш*.

**Цё́плыя** — вёска за 12 км на паўночны ўсход ад Паставаў на рацэ Паловіца. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Цёплы*, якое распаўсюджана на Пастаўшчыне. *Цёплы* — гэта чалавек, які вызначаецца душэўнай цеплынёй; ласкавы, добразычлівы».

**Цéшылава** — вёска за 12 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 6 км на захад ад Лучая. Назва, верагодна, паходзіць ад беларускага дзеяслова *цешыцца* — «радавацца, мець асалоду». Вёска сапраўды знаходзіцца ў маляўнічай мясцовасці, якая «цешыць вока».

**Цíвунцы** — вёска за 19 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на захад ад Варапаева. Назва ўтварылася ад пасады або мянушкі

чалавека. *Цівун* — наглядчык за працай сялян у памешчыка ў часы прыгону. З гэтым звязана і паходжанне прозвішча *Цыўнель*, якое пашырана на Пастаўшчыне.

**Цы́рклішкі Вялі́кія** — вёска за 30 км на захад ад Паставаў, за 8 км на поўнач ад Лынтупаў. Назва паходзіць ад літоўскага *čirkšlys* — «плакса, крыкун».

**Ця́буты** — вёска за 14 км на захад ад Паставаў, за 7 км на поўнач ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе — засценак. Назва паходзіць ад прозвішча *Цябут*, якое, верагодна, утварылася ад адпаведнай мянушкі, якая пайшла ад старажытнаславянскага дзеяслова *сцябушыць* — «сцягнуць, украсці». Адсюль *цябут* — гэта той, хто крадзе.

**Цяля́тнікі** — вёска за 12 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 6 км на захад ад Камаяў. Назва паходзіць ад славянскага *цялятнік* — «хлеў для цялят». Гэта невялікае паселішча ўзнікла на месцы, дзе знаходзіліся пабудовы для жывёлы. У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Цялятнікаў*.

## Ч

**Чаранкі́** — вёска за 5 км на ўсход ад Паставаў на левым беразе ракі Лучайка. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Адназначна растлумачыць паходжанне назвы пакуль немагчыма. Можна прапанаваць некалькі варыянтаў, кожны з якіх мае абгрунтаванне. Назва вёскі магла ўтварыцца ад беларускага даўняга слова *чарэнь* — «ляжанка на печы». Вельмі верагодна, што першыя жыхары мелі мянушку *чарэнкі* — «аматары паляжаць на печы». У доўгія зімовыя вечары раней вясковыя людзі так у асноўным і бавілі час. Другі варыянт — паходжанне ад слова *чаранок* — «частка сцябла расліны», «атожылак», «парастак», што магло выкарыстоўвацца для абагуленай назвы нашчадкаў. Паходжанне назвы можна звязаць і з народным геаграфічным тэрмінам *чарэнь* — «тарфяное балота», якое сапраўды знаходзіцца недалёка ад вёскі. А ў польскай мове ёсць слова *czarny* — «чорны». У Пастаўскім раёне шырока распаўсюджана прозвішча

*Чарэнка*, а таксама сустракаюцца *Чарненка*, *Чэрнік*, *Чарноў*, *Чарных*, *Чарнюк*, *Чарняўскі*.

**Чарты́** — вёска за 8 км на паўночны ўсход ад Паставаў на паўночным беразе возера Чарты. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе — вёска і хутар Чарты, ці Засінак (уладанне Пшаздзецкіх). Назва вёскі паходзіць ад наймення возера, а яно мае фіна-ўгорскія карані: *чэр* (комі) — «прыток ракі, рака», *ты* (комі, удм.) — «возера». Сэнс назвы можна растлумачыць як «возера, якое злучаецца ракой з другім возерам». На мясцовасці воз. Чарты злучаецца рачулкай з воз. Тусьба.

**Чарэ́мушнікі Пагарны́я** — вёска за 18 км на паўночны ўсход ад Паставаў на левым беразе ракі Паловіца. У 1905 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. (Тлумачэнне гл. *Чарэмушнікі Падзісенныя*)

**Чарэ́мушнікі Падзісе́нныя** — вёска за 20 км на паўночны ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Дзісна. У 1905 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Паходжанне назвы вёскі можна звязаць з назвай расліны *чарэмшына* (*чаромха*) — «дрэва ці высокі куст сямейства ружакветных з сабранымі ў гронкі белымі духмянымі кветкамі і чорнымі даўкімі на смак ягадамі». Магчыма, гэтыя мясціны вызначаліся чаромхавымі зараснікамі над рэкамі. Як варыянт, паходжанне назвы вёсак можна звязаць з даўнім славянскім словам *чарэмны* — «прыгожы». У Пастаўскім раёне сустракаецца прозвішча *Чарамных*. Другая частка ў назвах адлюстроўвае геаграфічнае становішча паселішчаў: *Падзісенныя* — каля Дзісны, *Пагарныя* — па ўзгорках.

**Чашко́ўшчына** — вёска за 15 км на ўсход ад Паставаў, за 9 км на захад ад Варапаева. Назва паходзіць ад славянскага *чашча*, *чашчобіна* ў значэнні «густы, цяжкапраходны лес; зараснікі кустоўя». Вёска ляжыць на ўскрайку вялікай Варапаеўскай Дачы і ў пачатку асваення гэтай тэрыторыі людзьмі ўяўляла, напэўна, дрымучы гушчар.

**Чашуны́** — вёска за 19 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 11 км на паўднёвы захад ад Белек на правым беразе ракі

Паловіца. Назва паходзіць ад прозвішча-мянушкі *Чашун*, якая ўтварылася ад славянскага дзеяслова *часацца* — «скрэбсціся». Прозвішча *Чашун* шырока распаўсюджана на Пастаўшчыне. Мясцовае паданне тлумачыць назву тым, што мясцовыя жыхары вызначаліся ўмельствам добра часаць (абчэсваць) бярвенне, на чым і зараблялі сабе на жыццё.

**Чо́панішкі** — вёска за 35 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 5 км на поўнач ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, належала Юрыю Бішэўскаму. Верагодна, назва паходзіць ад асновы *чоп*, *чопка*, што ў фіна-ўгорскіх мовах азначае «упадзіна», «глыбокая даліна». У беларускай мове ёсць слова *чоп* у значэнні «чан для вады». Сустракаецца і дзеяслоў *чопкацца* — «ісці па гразі, па балоце». Як бачна, усе тлумачэнні зводзяцца да таго, што аснова *чоп* абазначае паглыбленне, нізіну. Сапраўды, вёска знаходзіцца ў лагчыне паміж узгоркамі.

**Чо́рнае** — вёска за 27 км на ўсход ад Паставаў, за 4 км на ўсход ад Варапаева на ўсходнім беразе возера Чорнае. У 1781 годзе ўваходзіла ў маёнтак Дунілавічы Ашмянскага павета. Назва вёскі паходзіць ад наймення возера, якое атрымала сваю назву за адметны чорны колер вады. Гэты колер стаў асновай і шматлікіх прозвішчаў на Пастаўшчыне: *Чорны*, *Чарневіч*, *Чарненка*, *Чэрнік*, *Чарноў*, *Чарных*, *Чарнюк*, *Чарняўскі*, *Чарняк*.

**Чырво́ны Руча́й** — вёска за 27 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 14 км на паўднёвы ўсход ад Лынтупаў каля ракі Чырвоны Ручай. Назва вёскі паходзіць ад наймення ракі, якая выдзяляецца сваім чырванаватым колерам з прычыны прысутнасці ў вадзе «аржавіння» — злучэнняў жалеза.

**Чычэ́лі** — вёска за 16 км на захад ад Паставаў, за 6 км на паўднёвы захад ад Камаяў. У пачатку XX стагоддзя была ў Камайскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Чычаль*, якое ўтварылася ад адпаведнай мянушкі. Паводле Фасмера, *чычаль* — «голы чалавек». У Пастаўскім раёне ёсць прозвішча *Чычаль*.

## Ш

**Шабаны́** — вёска за 10 км на поўдзень ад Паставаў на заходнім беразе возера Доўжа. У пачатку XX стагоддзя была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча Шабан, якое, верагодна, утварылася ад беларускага *шабуня*, што азначае «жартаўнік, манюка». Пісьменнік У. Ліпскі тлумачыць паходжанне прозвішча ад *шабан* — восьмы месяц у мусульманскім календары. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Шабан*, *Шабацін*, *Шабовіч.*

**Шкіралі́** — вёска за 8,5 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 8 км на ўсход ад Камаяў. Назва паходзіць ад літоўскага імя *Skireikis*, якое ўтворана ад дзеяслова *skirti*, што азначае «аддзяляць». Слова *шкіралі* магло мець значэнне «выселкі».

**Шу́даўцы** — вёска за 32 км на захад ад Паставаў, за 2 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. Вядома з 1790 года. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, належала Бішэўскаму. Назва паходзіць ад літоўскага *šūdas* — «непатрэбшчына, друхлядзь».

**Шу́рпікі** — вёска за 3 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча *Шурпік*, якое ўтворана ад *шурпа*, што азначае «кучаравы». На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Шурпік*, *Шурпіцкі*.

**Шусці́цкія** — вёска за 15 км на поўдзень ад Паставаў, за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад Вярэнек. Назва паходзіць ад прозвішча *Шусціцкі*, якое ўтварылася ад старажытнаславянскага *шуст*, што азначае «ілжэц, манюка». На Пастаўшчыне ёсць прозвішча *Шусціцкі*.

**Шчэ́рбішкі** — вёска за 26 км на захад ад Паставаў, за 7 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча або мянушкі *Шчэрба*, якое ўтварылася ад прыметніка *шчарбаты* — «той, хто мае не ўсе зубы, рэдкія зубы». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Шчэрба*, *Шчэрбік*, *Шчарбіцкі*, *Шчарбовіч*.

**Шылыва́тае** — вёска за 17,5 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 13 км на паўночны захад ад Варапаева. У пачатку XX стагоддзя была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. У 1905 годзе — урочышча барона Клейгельса Шылаваты Камень. Назва паходзіць ад прыметніка *шылаваты*, што азначае «востраканцовы».

**Шымуко́ўшчына** — вёска за 26 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 3 км на паўднёвы захад ад Белек на правым беразе ракі Паловіца. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад прозвішча або імя *Шымук*, якое ўтварылася ад кананічнага каталіцкага імя *Шыман* (*Сіман*), што азначае з яўрэйскай мовы «паслухмяны». У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Шымук*, *Шымковіч*, *Шыман*, *Шымчык*.

**Шына́ўшчына** — вёска за 12 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 3 км на поўнач ад Груздава. Назва, верагодна, паходзіць ад дзеяслова *шанаваць*, што азначае «берагчы, паважаць». Магчыма, назва звязана з капліцай, якая там знаходзіцца. На Пастаўшчыне ёсць прозвішчы *Шынаеў*, *Шынкевіч*.

**Шы́ркі** — вёска за 5 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 0,5 км на ўсход ад возера Споры. У 1873 годзе была ў Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Шырко*, якое ўтварылася ад прыметніка *шырокі*. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Шырко*, *Шырэй*, *Шырокі*, *Шырчанка*.

## Ю

**Юзафіно́паль** — вёска за 17 км на захад ад Паставаў, за 8 км на поўнач ад Камаяў. Назва складаецца з дзвюх частак. Першая паходзіць ад імя *Юзаф* — формы кананічнага праваслаўнага і каталіцкага імя *Іосіф*. Другая азначае раллю, палеткі. Такім чынам, назва ўрочышча мела значэнне «Юзафінава поле».

**Ю́нькі** — вёска за 5 км на ўсход ад Паставаў на правым беразе ракі Лучайка. Вядома з 1630 года як вёска ў Пастаўскім маёнтку. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць

ад імя *Юнь* (*Юнька*), якое з'яўляецца формай кананічнага хрысціянскага Юній.

**Ю́хнава** — вёска за 11 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 2 км на паўднёвы ўсход ад Савічаў. Назва паходзіць ад прозвішча або імя *Юхно*, якое з'яўляецца формай кананічнага імя *Яўфімій*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Юхно*, *Юхневіч*.

**Ю́шкаўшчына** — вёска за 11,5 км на поўдзень ад Паставаў, за 2,5 км на поўнач ад Вярэнек. Назва паходзіць ад імя *Юшка*, якое з'яўляецца формай кананічнага імя *Яўфімій*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Юшко*, *Юшкевіч*.

## Я

**Язы́** — вёска за 11 км на поўдзень ад горада Паставы, на заходнім беразе возера Доўжа. Зараз злілася з вёскай Параскі. Назва паходзіць ад славянскай асновы *яз* — «загароджа, запруда на рацэ». Праз вёску сапраўды працякае невялікая рэчка, якая ўпадае ў возера.

Па версіі мясцовых жыхароў, назва ўтварылася ад наймення рыбы *язь*, якая вясной у вялікай колькасці раней ішла на нераст у рэчку.

**Я́кавічы** — вёска за 15 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3 км на захад ад Вярэнек. Назва паходзіць ад прозвішча *Якавіч*, якое ўтварылася ад імя *Якаў* — формы кананічнага праваслаўнага імя *Иаков*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Якавенчук*, *Якавіцкі*, *Якаўлеў*.

**Які́маўцы** — вёска за 30 км на ўсход ад Паставаў, за 12 км на поўнач ад Варапаева ў сутоках рэк Ласіца і Галбяіца. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад імя *Якім* (*Акім*) — формы кананічнага праваслаўнага імя *Иоаким*. На Пастаўшчыне вельмі пашырана прозвішча *Якімовіч*.

**Яло́вікі** — вёска за 30 км на паўночны ўсход ад Паставаў, за 10 км на паўночны ўсход ад Варапаева на правым беразе ракі Ласіца. У пачатку XX стагоддзя была ў Луцкай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Яловік*, якое магло ўтварыцца рознымі шляхамі: або ад

беларускага прыметніка *яловы* — «які мае адносіны да елкі», або ад мянушкі *ялавы* — «бясплодны». На Пастаўшчыне ёсць прозвішчы *Яловік*, *Яльчык*.

**Яна́нішкі** — вёска за 33 км на захад ад Паставаў, за 6 км на поўнач ад Лынтупаў. У пачатку XX стагоддзя была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні. Назва, верагодна, паходзіць ад імя *Янаній* (*Ананій*), якое ўтворана ад кананічнага Ананія, што значыць «дар Божы», «Боская ласка». Ад гэтага імя на Пастаўшчыне пайшлі назвы *Ананіч*, *Ананкін*, *Ананьеў*, *Янэль*.

**Я́нкішкі** — вёска за 19 км на захад ад Паставаў, за 8 км на паўночны захад ад Камаяў на паўночным беразе возера Янкішскага. Назва мае тыпова літоўскі канчатак, аднак у аснове яе знаходзіцца фіна-ўгорскі корань: *янк* (манс.) — «балота». Такім чынам, *Янкішкі* — «забалочанае возера», а ад назвы возера пайшла назва вёскі.

**Янко́вічы** — вёска за 15 км на захад ад Паставаў, за 2 км на поўдзень ад Гадуцішак. Назва паходзіць ад прозвішча *Янковіч*, якое ўтварылася ад імя *Янка* — формы кананічнага польскага *Jan*, кананічнага праваслаўнага *Иоанн*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Янковіч*, *Янкоўскі*.

**Янчукі́** — вёска за 37 км на паўднёвы ўсход ад Паставаў, за 13 км на паўднёвы ўсход ад Дунілавічаў. У 1873 годзе была ў Ваўкалацкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні. Назва паходзіць ад прозвішча *Янчук*, якое ўтварылася ад імя *Янка* — формы кананічнага польскага *Jan*, кананічнага праваслаўнага *Иоанн*. У Пастаўскім раёне сустракаюцца прозвішчы *Янчуковіч*, *Янчанка*.

**Ярыно́ва (Ерыно́ва)** — хутар за 16 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 3 км на поўдзень ад Камаяў. Назва паходзіць ад наймення ўрочышча, дзе было поле. *Ярына* — гэта аднагадовая сельскагаспадарчая культура, якая высяваецца вясной і дае ўраджай восенню гэтага ж года.

**Ярэ́ва** — вёска за 9 км на паўночны захад ад Паставаў, за 7 км на ўсход ад Гадуцішак. Вядома з канца XIX стагоддзя як

фальварак Юрэва (Яржэва), названы ад імя ўладальніка Юрыя Друцкага-Любецкага.

**Я́сева** — вёска за 15 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 11 км на паўднёвы ўсход ад Камаяў. Назва паходзіць ад імя *Ясь* — формы кананічнага польскага *Jan*, кананічнага праваслаўнага *Иоанн*.

**Я́ськавічы** — вёска за 16 км на поўдзень ад Паставаў, за 3 км на паўночны захад ад возера Нарач. Назва паходзіць ад прозвішча *Яськовіч*, якое ўтварылася ад імя *Ясь* — формы кананічнага польскага *Jan*, кананічнага праваслаўнага *Иоанн*. На Пастаўшчыне сустракаюцца прозвішчы *Ясюкевіч*, *Ясюковіч*.

**Ясюкі́** — вёска за 25 км на ўсход ад Паставаў, за 2 км на ўсход ад Варапаева на беразе возера Ясюкі. У 1873 годзе была ў Пастаўскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні, належала Тызенгаўзу. Назва паходзіць ад імя *Ясь* (*Ясюк*) — формы кананічнага польскага *Jan*, кананічнага праваслаўнага *Иоанн*. У Пастаўскім раёне пашыраны прозвішчы *Ясюковіч*, *Ясюкевіч*, *Ясюнас*, *Ясюлянец*.

**Яўне́лішкі** — вёска за 31 км на захад ад Паставаў, за 4,5 км на паўночны ўсход ад Лынтупаў. У 1873 годзе была ў Лынтупскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні, належала Бішэўскаму. Назва паходзіць з балцкіх моў, дзе літоўскае *jaunas* азначае «малады».

**Я́цавічы** — вёска за 8 км на паўднёвы захад ад Паставаў, за 0,5 км на захад ад возера Світа. Назва паходзіць ад прозвішча *Яцавіч* (*Яцэвіч*), якое ўтварылася ад польскага імя *Яцэк* (*Jacek*). У Пастаўским раёне сустракаюцца прозвішчы *Яцэвіч*, *Яцкевіч*, *Яцэнка*, *Яцына*.

# 2. НАЗВЫ РЭК І АЗЁР ПАСТАЎСКАГА РАЁНА

## 2.1. Гідранімія Пастаўшчыны

Своеасаблівую групу назваў складаюць найменні розных водных аб'ектаў: азёр, рэк і ручаёў, балот, каналаў, вадасховішчаў, ставоў. Спецыялісты абазначаюць іх тэрмінам «гідронімы», які ўтвораны ад грэчаскіх асноў *гідра* — «вада» і *анома* — «імя, назва».

Назвы водных аб'ектаў здаўна выклікаюць цікавасць у даследчыкаў. Гэта звязана з тым, што большасць з іх уяўляе словы-помнікі, якія прыйшлі да нас з глыбокай даўніны. Калі паразважаць над тым, як адбывалася засяленне якім-небудзь племем той ці іншай тэрыторыі, то мы прыйдзем да высновы, што гэта асваенне ішло па далінах рэк. І гэта зразумела, бо ў часы, калі ўся паверхня была занята лясамі, рэкі адыгрывалі ролю дарог, былі шляхамі, па якіх ішоў пошук новых паляўнічых і рыбалоўных




*Азёрныя групы*

угоддзяў. З гэтага разважання можна зрабіць некалькі высноў: па-першае, назвы рэк і азёр з'яўляюцца найбольш старажытнай групай найменняў на пэўнай тэрыторыі; па-другое, большасць гідронімаў утварылася па схеме: вялікая рака — прыток ракі — ручай — возера, і таму ў аднаасноўных назвах рэк, азёр і населеных пунктаў (напрыклад, Камайскія азёры, рака Камайка, вёска Камаі) першакрыніцай варта лічыць назву ракі; па-трэцяе, з прычыны сваёй старажытнасці многія водныя аб'екты прайшлі праз прызму скажэнняў, перайменаванняў і таму аднавіць першапачатковую форму назвы і растлумачыць яе сэнс бывае вельмі складана, а то і немагчыма. Дарэчы, зараз на Беларусі толькі каля паловы гідронімаў мае больш-менш пераканаўчае тлумачэнне.

Праца з назвамі рэк і азёр ускладняецца і тым, што народы і плямёны, якія пакінулі нам найменні водных аб'ектаў, ужо не жывуць на нашай тэрыторыі, а то і наогул зніклі, асіміляваўшыся ў іншых этнасах. Таму не трэба здзіўляцца, што значная колькасць гідронімаў Пастаўшчыны тлумачыцца з моў народаў, якія знаходзяцца сёння далёка ад Беларусі: фінскай, карэльскай, эстонскай, комі, комі-пярмяцкай, мансі, удмурцкай, хантыйскай. Усе гэтыя мовы роднасныя і адносяцца да фіна-ўгорскай моўнай галіны ўральскай моўнай сям'і (угры — даўнейшае найменне венграў). У старажытныя часы, верагодна, прадстаўнікі менавіта гэтай групы засялялі і асвойвалі першымі тэрыторыю раёна.

Пасля фіна-ўгорскіх плямёнаў на Пастаўшчыну, напэўна, прыходзілі балты, але паколькі яны жылі тут нядоўга і карысталіся гідронімамі фіна-ўграў, то балцкіх назваў рэк і азёр (літоўскіх, латышскіх) не так шмат, як гэта даводзяць некаторыя даследчыкі, улічваючы суседства з Летувой і Латвіяй. Балты пакінулі свой адметны след у назвах вёсак раёна, хоць, трэба адзначыць, многія з іх маюць толькі балцкія канчаткі, а аснова фіна-ўгорская ці славянская. Дарэчы, Іван Ласкоў яскрава паказаў, што нават летапісныя плямёны нальшчаны і дзяволтва, якія насялялі захад Пастаўшчыны і ўсход Летувы, з'яўляліся фіна-ўгорскімі.

Паводле сведчання гісторыкаў, дзесьці ў IV–VI стагоддзях нашай эры на тэрыторыі паўночнай Беларусі пачалі рассяляцца

славянскія плямёны, пераважна крывічы. Значная доля славянскіх і падобных на славянскія гідронімаў зразумела кожнаму: шмат стагоддзяў жывуць славяне на гэтай тэрыторыі і таму пакінулі свае сляды ў назвах геаграфічных аб’ектаў, часткова або поўнасцю змяніўшы некаторыя найменні і прыстасаваўшы пад свой моўны лад.

Такім чынам, на Пастаўшчыне зараз існуюць гідронімы трох тапанімічных пластоў: фіна-ўгорскага, балцкага і славянскага. Разам з тым, некаторыя назвы прымальна тлумачацца з германскіх і нават тунгуска-маньчжурскіх моў. Ніжэй падаецца гідранімічны слоўнік, у якім прапануюцца варыянты паходжання найменняў большасці рэк і азёр Пастаўскага раёна. Гэты збор уяўляе сабой перапрацаваныя і дапоўненыя матэрыялы невялічкай аўтарскай брашуры «Адкуль паходзяць назвы. Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна», якую абмежаваным накладам у 2000 годзе выдала грамадскае аб’яднанне «Усяслаў Чарадзей» з Наваполацка.

У тэксце таго выдання разглядаюцца паходжанне і сэнсавае значэнне 82 рэк і азёр, якія поўнасцю або часткова знаходзяцца на тэрыторыі Пастаўшчыны. Новы матэрыял істотна дапрацаваны, дапоўнены і пашыраны. Агульная колькасць водных аб’ектаў павялічана да 117, а колькасць назваў (з улікам ранейшых, зніклых і падвойных) складае каля 180. Выкарыстанне карт расійскіх ваенных тапографаў («трохвёрстак») XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама польскіх карт міжваеннага часу дало магчымасць вызначыць даўнейшыя найменні водных аб’ектаў, што значна пашырыла спектр тапанімічных пошукаў і дазволіла больш дакладна вызначыцца з паходжаннем некаторых назваў.

З прычыны таго, што некаторыя гідронімы дапускаюць тлумачэнне адразу з некалькіх моў, напрыклад Азёркі, Страча, Пліса, Лапухова і іншыя, то размеркаваць назвы па моўных групах паводле іх паходжання дакладна не ўяўляецца магчымым. Але прыблізна гэтыя лічбы можна акрэсліць: з фіна-ўгорскіх моў — каля 50, са славянскіх — каля 70, з балцкіх — каля 10, тунгуска-маньчжурскіх — 2, германскіх — 1.

Найбольш простай па разуменню з'яўляецца славянская група гідронімаў. Некаторыя не патрабуюць нават і тлумачэнняў: Баравое, Амшанае, Дубок, Загацце, Бледнае і іншыя. Частка славянскіх назваў утварылася ад ужо састарэлых слоў, якія выйшлі з ужытку, і таму сучаснікам незразумелая: Заражанка (ад *зараза* — «зараснік, перасечаная мясцовасць»), Язвінка (ад *язва* — «яр», «лагчына»), Волься (ад *вольс* — «альховы зараснік на балоце») і іншыя.

Нашмат больш складанымі для этымалагічнага аналізу з'яўляюцца балцкія і асабліва фіна-ўгорскія назвы. Гэта тлумачыцца тым, што, па-першае, яны вельмі старажытныя; па-другое, моцна скажоныя славянамі і адаптаваныя пад славянскі моўны лад; па-трэцяе, мовы плямёнаў, якія пакінулі назвы, не захаваліся ў чыстым выглядзе, і таму тлумачэнні найменняў трэба шукаць сярод сучасных роднасных моў. Варта адзначыць і яшчэ адну акалічнасць, якая ўскладняе пошукі. Старажытныя людзі ўсё сваё жыццё праводзілі ў прыродзе, і таму яны адзначалі і адлюстроўвалі ў назвах самыя нязначныя асаблівасці геаграфічных аб'ектаў. Тое, што для сучаснага чалавека ўсяго толькі «балота», для старажытнага чалавека мела дзясяткі, а мо і сотні адметнасцяў. Напрыклад, вядомы беларускі тапаніміст В. А. Жучкевіч толькі ў беларускай мове знайшоў шэраг слоў, якія з рознымі адценнямі адпавядаюць паняццю «балота»: валога, дрыгва, гала, нетра, віць, павіцце, мраіва, багна, твань, слата, іржа. А трэба ўлічваць, што такія, і можа нават даўжэйшыя, рады існавалі і ў фіна-ўгорскіх, і ў балцкіх мовах.

Такія ж шматлікія вызначэнні існавалі і для рэк і азёр. Магчыма, некаторыя з іх аднавіць ужо ніколі не ўдасца.

Які ж сэнс укладвалі людзі ў назвы рэк і азёр? Паспрабуем разгледзець гэта для розных моўных груп (зважаючы толькі на гідронімы, якія маюць аднасэнсоўнае тлумачэнне). Прасцей за ўсё разабрацца са славянскімі назвамі. І першае, на што трэба звярнуць увагу, гэта тое, што ў славян словы тыпу «рака», «возера», «балота», «ручай» у само найменне звычайна не ўваходзяць, напрыклад: возера Светлае, рака Аржаўка. А вось у фіна-ўгор-

скіх і балцкіх мовах такія вызначэнні амаль заўсёды з'яўляюцца абавязковым канструкцыйным элементам.

Сярод гідронімаў славянскага паходжання найбольшую групу па сэнсу ўтвараюць назвы, якія паказваюць адметнасць расліннасці вакол аб'екта: Баравое, Амшанае, Белькі, Бярозаўскае, Волься, Дубок, Заражанка. Значнае распаўсюджанне маюць назвы, якія вызначаюць месцазнаходжанне азёр і рэк (Загацце, Задняе, Зароўшчына, Надазерскае), колер вады (Белае, Чорнае, Бледнае, Рудзіца, Аржоўка), прыналежнасць да ўласніка або жыхара (Арцёмаўскае, Бульбунава, Казлоўскае). Адзінкавыя назвы адлюстроўваюць іншыя адметнасці: Язвіка (рэльеф), Каменскае (грунты), Доўжа, Доўгае (форма), Валожынскае, Пліса, Сляпіца, Страча (іншыя характарыстыкі аб'ектаў).

Для назваў, якія маюць фіна-ўгорскае паходжанне, падобны падзел на групы правесці даволі складана. Амаль кожны гідронім утрымлівае частку са значэннем «вада», «рака», «возера», а самі назвы ўяўляюць сабой апісальныя канструкцыі адметнасцяў воднага аб'екта па тыпу «возера, якое…» або «рака, якая…»). Напрыклад, Баб'е — возера, якое мае тарфяністыя сплавінныя берагі, Астуньева — забалочанае возера, якое падобна на раку, Біоста — рака, якая з'яўляецца прытокам другой ракі, Лодасі — возера, якое мае камяністы астравок, і іншыя. Падрабязная інфармацыя пра паходжанне і сэнс гідронімаў Пастаўшчыны падаецца ў «Гідранімічным слоўніку».

## 2.2. Гідранімічны слоўнік

**Азе́ркі** — возера ў басейне р. Мядзелка за 3 км на поўнач ад г. Паставы ў лясным масіве ПастаўскаяДача. Сама назва вельмі пашыраная ва ўсіх суседніх народаў і паходзіць ад адзінага індаеўрапейскага кораня. Мы знаходзім яе ў палякаў (*jezioro*), літоўцаў (*ezeras*), латышоў (*ezers*), украінцаў і рускіх. Назва *азёркі* азначае «мясцовасць з неглыбокімі, невялікімі па плошчы азёрамі». У Пастаўскім раёне гідронім распаўсюджваецца не толькі на само возера, але і на ўсю групу суседніх азёр (Белае, Дубок).




*Схема размяшчэння буйнейшых азёр.*
*1 — Белькі; 2 — Вялікае Камайскае; 3 — Глодава; 4 — Доўжа; 5 — Загацце (Загач); 6 — Задзеўскае (Дзеўе); 7 — Кавалькі; 8 — Ксяндзы; 9 — Пліса; 10 — Лісіцкае; 11 — Саранчаны; 12 — Лучай; 13 — Мажэйкі; 14 — Волься; 15 — Свідна; 16 — Вялікая Світа; 17 — Лодасі; 18 — Вялікія Споры; 19 — Вялікія Сурвілішкі; 20 — Малыя Сурвілішкі; 21 — Трумпічы, 22 — Чэцверць; 23 — Вялікія Швакшты; 24 — Малыя Швакшты*

**Амша́нае (Мша́нае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 25 кіламетраў на ўсход ад г. Паставы, за 0,5 км на поўнач ад в. Ясюкі. Яно атрымала назву ад мясцовасці, у якой знаходзіцца: *амшара* (бел.) — «мохавае балота». Тапанімічная радня: Амшэрнік (Мядзельскі раён), Амшэна (Гарадоцкі раён) і іншыя.

**Аржа́ўка** — рака ў паўднёвай частцы раёна, левы прыток р. Лучайка (бас. Зах. Дзвіны). Назва паходзіць са славянскіх моў, у якіх мае шырокае распаўсюджанне. У беларускай мове *іржа* — «чырвона-буры налёт на паверхні жалеза, які ўтвараецца ў выніку акіслення яго ў паветры і ў вадзе», а таксама «прымесь вокіслаў жалеза ў балотнай вадзе, якае надае ёй буры колер і спецыфічны прысмак». Такім чынам, назва ракі сведчыць пра наяўнасць на яе берагах балотнай руды, якая і надае адпаведны колер вадзе.

**Арцё́маўскае** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на ўсход ад г. Паставы, за 0,5 км на паўночны захад ад в. Малькаві-

чы. Назва патранімічная і сведчыць пра тое, што возера належала чалавеку з імем Арцём або каля таго возера ён жыў.

**Ба́б'е (Бабіна)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 18 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 0,5 км на поўдзень ад в. Гаўрылавічы. У даведніках апошніх гадоў выдання назва возера запісана ў форме *Бабіна*, хоць на картах яна прадстаўлена ў форме *Бабье*. Формы блізкія, але розныя. Трэба лічыць, што першапачатковай формай была *Бабье*, а потым яе перапраўлілі пад граматыку беларускай мовы: «чыё возера? — Бабіна». Аднак, відавочна, назва возера вызначае не прыналежнасць яго да «бабы», а пэўную фізіка-геаграфічную асаблівасць. І гэтай адметнасцю з'яўляецца моцная забалочанасць берагоў, тарфяністае, сплавіннае ўзбярэжжа. Дыялектычнае слова *баба* ў значэнні «дрыгва», «зыбун на балоце» сустракаецца на Украіне. Яно, верагодна, вынік скажэння фіна-ўгорскай асновы *вадзья*, што азначае «азярцо ў дрыгве». Вось што піша пра тэрмін *вадзья* тапаніміст Б. А. Сярэбранікаў: «Даволі глыбокае возера з зыбкімі берагамі. Берагі Вадзы ўяўляюць сабой плывучую дзярніну». Менавіта такім і з'яўляецца возера каля в. Гаўрыловічы. Усе азёры і рэкі з падобнымі назвамі знаходзяцца ў балотах: Абаб'е (Браслаўскі раён), Баб'е (Бешанковіцкі р-н) і інш.

**Балдучы́ца** — возера ў басейне р. Страча, за 32 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, за 1 км на паўночны захад ад в. Вайшкуны. Назва мае памяншальную форму ад Балдук (суседняе возера) і выводзіцца з літоўскага *bala* — «балота», або *baltas* — «белы». У Яраслаўскай вобласці, Паволжжы словам *балда*, *балдовіна* азначаюць зарослае мелкае возера, у якім водзяцца карасі. З коранем *bald* вядома каля 40 латвійскіх тапонімаў, шэраг літоўскіх тапонімаў і старажытнарускіх.

**Барaво́е (Баро́ва)** — возера ў басейне р. Галбяіца за 28 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Дунілавічы, сярод лесу. Сэнс назвы зразумелы: *бор* — «стары густы сасновы лес, які расце на высокім месцы». Азёраў з такой назвай у Беларусі вельмі многа.

**Барaво́е** — возера ў басейне р. Ласіца, за 30 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1 км на захад ад в. Казлоўшчына.

**Бéлае** — возера ў басейне р. Лучайка, за 3 км на поўнач ад г. Паставы, на поўдзень ад в. Сіўцы. Назва ўказвае на колер вады ў возеры і з'яўляецца адным з найбольш распаўсюджаных найменняў азёр Беларусі.

**Бéлае (Бéльскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 3 км на паўночны ўсход ад Варапаева, каля вёскі Белае. У канцы XIX стагоддзя на беразе возера знаходзіўся фальварак «Белый». Верагодна, ад возера назва перайшла на фальварак, а потым па фальварку возера сталі называць Бельскім, што і зафіксавана на картах расійскіх тапографаў («трохвёрстках»).

**Бéлькі** — возера ў басейне р. Паловіца, за 29 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Белькі. Назва мае славянскае паходжанне. У беларускай мове слова *белькі* ўжываецца ў значэнні «балота з бярэзнікам, забалочанае нізкае месца».

**Біóста (Язвíнка)** — рака на захадзе Пастаўскага раёна, правы прыток р. Страча (бас. Нёмана). Першая назва гаворыць пра сваё старажытнае паходжанне з фіна-ўгорскіх моў. *Бі* (самадз.) выступае ў значэнні «вада», «рака», *ас* (хант.) — «рэчка, пратока», *тав*, *тов* (манс.) — «прыток рэчкі, галіна». Дапусціўшы, што ў назве з часам адбыліся скажэнні, можам устанавіць прыблізны сэнс слова *біоста* — «рака, прыток вялікай ракі». Геаграфічна такое тлумачэнне пацвярджаецца: рака ўпадае ў большую раку Страчу.

Другая назва — Язвінка — мае славянскае паходжанне. Аснова яе, слова *язва*, выступае ў значэнні «яр», «лагчына». Таксама *язвіна* — «палонка ў балоце, рацэ». Такім чынам, Язвінка — рэчка, якая цячэ ў лагчыне, у яры.

**Бíрвета** — рака ў Пастаўскім раёне, правы прыток Дзісны (бас. Зах. Дзвіны). Тлумачэнне назвы знаходзім у тунгуска-маньчжурскіх і фіна-ўгорскіх мовах: *біра* (эвенк., эвен.) — «рака», *віт* (мансі) — «вада». Прыблізнае значэнне назвы можа гучаць як «мнагаводная рака». Раней яно, магчыма, і было так. Беларуская Бірвета мае тапанімічную радню ў далёкім Забайкаллі: р. Вялікая Біра і Малая Біра — прытокі Амура, затока Біраая на Байкале, г. Біробіджан — сталіца Яўрэйскай АВ РФ і іншыя. Ёсць «радня» і па суседстве: возера Бірутэ ў Браслаўскім раёне.

**Бле́днае (Бля́да)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 25 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Дунілавічы. Назва паходзіць ад славянскага слова *бледны* — «афарбаваны ў светлы, няяркі колер». Цікава, што ў суседнім Мядзельскім раёне каля воз. Нарач ёсць возера з гэткай жа падвойнай назвай — Бледнае (Бляда).

Другая форма назвы возера з'яўляецца польскім варыянтам наймення. На картах Рэчы Паспалітай 30-х гадоў XX ст. падаецца надпіс «Blade».

**Бо́рак (Бо́рек)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 24 км на ўсход ад г. Паставы, за 1,4 км на поўдзень ад в. Мышкі. На картах у рускім варыянце запісваецца «Борек». На першы погляд назва здаецца простай, бо вельмі прыбліжана да славянскага *бор* — «сасновы лес», але захаваныя націск і форма даюць паставы лічыць, што назва з'яўляецца старажытнай і значна больш складанай. Можна лічыць, што сучаснае найменне возера ўяўляе сабой скажоную фіна-ўгорскую форму «Вор-йок», або «Вор-йокі», дзе першая частка азначае «лес», а другая — «рака». Перанясенне назвы «лясная рака» на возера можа выклікаць пярэчанні, але можна растлумачыць тым, што першапачаткова назва адносілася да рэчкі, якая цячэ праз лес і ўпадае ў возера, а потым перайшла і на само возера. Нельга выключаць і магчымасці ўдзелу ў стварэнні гэтага гідроніма літоўскага слова *akіs* — «вока». І тады мы атрымаем «лясное вока» — прыгожая назва для маленькага ляснога вадаёма.

**Бульбу́нава (Бульбі́наўскае, Ко́йданава)** — возера ў басейне р. Лучайка, за 17 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 1 км на ўсход ад в. Сакалы, сярод лесу. Можна з вялікай доляй упэўненасці лічыць назву патранамічнай і звязаць яе з прозвішчам чалавека, які жыў калісьці на яго беразе, або яно належала гэтаму чалавеку. У міжваенным часе недалёка ад возера стаяла леснічоўка Бульбунава. Зараз у вёсцы Дунілавічы, што знаходзіцца ў 8 км ад возера, жывуць людзі з прозвішчам Бульбяноў.

На карце XIX стагоддзя возера падпісана «Койданава».

**Бяздо́нніца** — ручай ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна ў басейне Зах. Дзвіны, прыток р. Шурыца. Назва славянская, ад-

люстроўвае асаблівасці яго глыбокай даліны. На ручаі ўтворана вадасховішча Старадворскае.

**Бяро́заўка** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 10 км на паўночны ўсход ад г. Паставы. Назва славянская і звязана з тыпам расліннасці (бярозавы лес) на берагах возера. Варта заўважыць, што ў Беларусі такіх назваў вельмі шмат, але толькі на Пастаўшчыне *Бярозаўка* адносіцца да возера, у іншых жа мясцовасцях назву *Бярозаўка* маюць рэчкі і ручаі, а азёры называюцца *Бярозаўскае* або *Бярозавае*. Магчыма, і ў нас назва «Бярозаўка» спачатку адносілася да ручая, які выцякае з возера, а потым перайшло і на само возера.

**Вало́жына (Вало́жынскае)** — возера ў басейне р. Паловіца, за 12 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 2,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Андроны. Уяўляе сабой вадаём, які знаходзіцца ў вялікім паніжэнні сярод балот, берагі спрэс сплавінныя. Назва мае славянскае паходжанне. У беларускай мове *валога* — «вільготнае дрыгвістае месца».

Побач з Валожынскім возерам знаходзіцца Малое Валожынскае.

**Варано́ўка** — ручай у Пастаўскім раёне ў басейне Зах. Дзвіны, упадае ў воз. Споры. У даведніку «Блакітная кніга Беларусі» падаецца як «Воранаўка» са спасылкай, што выток знаходзіцца каля в. Воранава. На самой справе вёскі з такой назвай на Пастаўшчыне няма, а вось у месцы ўпадзення ручая ў Споры ляжыць вёсачка Вараноўшчына. Невялікая, але істотная розніца, якая падштурхоўвае да думкі, што назва паселішча другасная — яна ўтварылася ад наймення ручая. Вельмі верагодна тое, што назва з'яўляецца славянскай і адлюстроўвае колерную асацыятыўнасць «воран» — «чорны». Падставай для гэтага магла быць цёмная вада або берагі з чорнай зямлёй. Але, можа быць, пад гэтай славянскай назвай хаваецца і фіна-ўгорская топааснова *вор-йя-нева*, дзе *вор* — «лес», *йя* — «рака», *нева* — «балота». Атрымліваецца шырока распаўсюджаная для Беларусі характарыстыка «лясная забалочаная рэчка». Да таго, што гэта думка слушная, падштурхоўваюць назвы азёр Ворань (у Лепельскім і Міёрскім раёнах), ракі Ворле ў Віцебскім раёне.

**Варве́рава (Боверово) —** возера ў басейне р. Мядзелка, за 9 км на поўдзень ад г. Паставы. На карце XIX стагоддзя падпісана як «Боверово». Дакладна вызначыць паходжанне назвы складана. Па форме яна адпавядае тапонімам прыналежнасці, аднак корань слова відавочна неславянскі. Магчыма, назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў, дзе фінскае *vaara* азначае «лясны ўзгорак», а *ер* (мар.) — «возера» з фінскага *jarv*, *jarvi*.

**Ві́нгра (Алься́нка)** — ручай, левы прыток р. Мядзелка (бас. Зах. Дзвіны). Знаходзіцца на паўночны захад ад г. Паставы, працякае праз воз. Волься. Дакладна вызначыць паходжанне і сэнс першай назвы ручая даволі складана, але можна меркаваць, што яна мае фіна-ўгорскія карані. Магчыма, першапачаткова назва гучала як *йінк-рам*, дзе *йінк* (хант.) — «вада», *рам* (фін., карэл.) — «балота, якое парасло лесам». Нельга выключаць і іншыя тлумачэнні паходжання назвы.

Другое найменне ручая выразна славянскае. Паходзіць яно ад назвы возера Волься, праз якое працякае. Слова *вольс* абазначае «альховы зараснік на балоце».

**Во́лься** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 8 км на захад ад г. Паставы, каля в. Вялікая Волься. Назва паходзіць ад агульнаславянскага *вольс* — «балота з зараснікам вольхі». Сапраўды, возера ляжыць у адметным паніжэнні, мае забалочаныя берагі, а вольхі і зараз растуць па яго берагах.

**Выга́рка —** возера ў басейне р. Галбяіца, за 23 км на ўсход ад Паставаў, каля в. Гліншчына. Назва паходзіць ад славянскага *выгар* — выпаленае месца, звычайна сярод лесу. Як версію можна прапанаваць паходжанне наймення і ад асновы *гара* ў сэнсе «возера, якое знаходзіцца на гары». Выгарка сапраўды знаходзіцца ў паніжэнні сярод высокіх узгоркаў заказніка «Карагач».

**Галбяі́ца (Галубе́йка, Заража́нка)** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Дзісна (бас. Зах. Дзвіны). Сустракаецца некалькі варыянтаў напісання назвы: Голбіца, Галбіца, Галбейка, Галбеіца. На польскіх картах разам з назвай Галбяіца падаецца варыянт Галубейка. У верхнім цячэнні (да Варапева-Гуты) рака называецца Заражанка (разглядаецца асобна). Тлумачэнне назвы даецца для возера Голбія.

**Го́лбія (Галбе́я, Го́лбія Пярэ́дняя, Лябя́жае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, якая цячэ праз возера, за 25 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Голбія. Тлумачэнне назвы можна адшукаць у мовах народаў Забайкалля. *Хол* у тувінскай мове азначае «возера», а *бі*, *бія* — «рака». Такім чынам атрымліваем апісальную канструкцыю «рака, якая ўтварае возера». Больш дакладнага тлумачэння Голбіі даць немагчыма.

На польскіх картах возера падпісана «Голбія Пярэдняя». Мясцовыя жыхары зрэдку называюць яго Лябяжым.

**Гло́дава —** возера ў басейне р. Мядзелка, за 6 км на поўдзень ад г. Паставы, на ўсход ад в. Сіманькі. У літаратуры сустракаецца спроба растлумачыць паходжанне назвы ад славянскага слова *голад* — маўляў, возера галоднае, бязрыбнае. Але больш рэальным, здаецца, звязаць назву з фіна-ўгорскімі мовамі. Так, у карэльскай мове *ludo*, у фінскай *luoto* маюць значэнне «астравок», «камяністая водмель». У Белазёрскім краі сустракаецца форма *лода* ў значэннях «мелкае камяністае месца ў рацэ», «водмель». Канчатак *-ва* ў фіна-ўгорскіх мовах выступае ў значэнні «вада». Такім чынам, сэнс назвы можа гучаць як «вадаём з камяністымі водмелямі». Такое тлумачэнне мае і геаграфічнае пацвярджэнне. Пры ўжыванні асновы *лодава* ў розных спалучэннях у сказах з’яўляецца перад «л» глухі гук «һ», які і могператварыцца ў «г», тым больш, што такая канструкцыя больш зразумелая славянскаму насельніцтву, чым папярэдняя.

**Глушня́** — возера, за 35 км на захад ад г. Паставы, каля в. Каптаруны амаль на мяжы з Летувой. Маленькае па плошчы, амаль правільнай формы, у атачэнні высокіх кurганоў. Назва славянская, азначае «няпраточнае («глухое») возера». Па словах мясцовых жыхароў, на возеры не бывае хваль, травяныя астравы плаваюць незалежна ад напрамку ветру, а глыбіня настолькі вялікая, што ніхто не дасягнуў дна.

**Глыбо́кае (Шабано́ўскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 24 км на ўсход ад г. Паставы, на ўсходняй ускраіне г. п. Варапаева. Назва мае славянскае паходжанне і адлюстроўвае ягоную адметнасць — глыбіню.

На польскіх картах возера падпісана як «Шабаноўскае», што паказвае яго прыналежнасць да чалавека з прозвішчам Шабан.

**Глыбо́чыца (Мала́я Чэ́цверць, Верзеева)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 9 км на поўдзень ад Паставаў. Назва адлюстроўвае асаблівасць вадаёма — яго глыбіню. На карце XIX стагоддзя яно падпісана «Верзеева». Магчыма, у аснове гэтай назвы ляжыць фінскае *vesi* — «вада».

**Грынва́льды** — возера ў басейне р. Ласіца, за 34 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1,6 км на паўночны захад ад в. Луцк-Казлоўск. Назва паходзіць з нямецкай мовы, у якой *grün* — «зялёны», а *wald* — «лес». Гэта германамоўная назва — адзіная назва такой групы ў раёне. Яе паходжанне можна звязаць з племенем прусаў, якія калісьці, магчыма, кампактна жылі ў гэтай мясцовасці. Пра гэта сведчаць назвы вёсак Прусы і Грынвальды, што знаходзяцца непадалёку ад возера.

Існуе і версія, што назва возеру была дадзена мясцовым магнатам у гонар знакамітай Грунвальдскай бітвы. Побач з возерам знаходзіліся раней фальварак «Гренвальд» і вёска Грынвальды.

**Да́неўскае** — возера ў басейне р. Страча, за 21 км на паўднёвы захад ад Паставаў. Возера называецца па вёсцы Данеўцы, якая знаходзіцца ад яго на адлегласці каля аднаго кіламетра.

**Дзера́зна** — рака на захадзе Пастаўскага раёна, прыток р. Страча (бас. Нёмана). Знаходзіцца ў Пурвінскім балоце. Назва, верагодна, утварылася ад наймення расліны: *дзераза* — травяністая спораваая расліна сямейства дзеразовых з паўзучым або, радзей, прамым сцяблом.

**До́ўгае** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 19 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 2 км на ўсход ад в. Смыччо. Назва славянская, адлюстроўвае выцягнутую форму азёрнай катлавіны.

**До́ўгае** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 29 км на ўсход ад г. Паставы, каля вёскі Жуперкі. Назва славянская, адлюстроўвае выцягнутую форму азёрнай катлавіны.

**До́ўжа** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 7 км на поўдзень ад г. Паставы, каля в. Доўжа. Назва славянская і сведчыць пра адметнасць гэтага возера — яго даўжыню. Сапраўды, пры найбольшай шырыні ўсяго 0,42 км возера мае даўжыню 4,89 км.

Фармант *-жа* ў назве ўзмацняе адметную ўласцівасць возера. Прыгадайма варыянты словаўтварэння: доўгі — даўжэйшы — даўжэзны.

**Дубóк** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 3 км на поўнач ад г. Паставы, сярод ляснога масіву Пастаўская Дача. Назва мае славянскае паходжанне і адлюстроўвае асаблівасці расліннага покрыва вакол возера. Сапраўды, каля вадаёма сустракаюцца дубы, якія і вылучаюцца сярод хваёвага лесу.

Назва мае шмат тапанімічнай радні і ў Беларусі, і за яе межамі: воз. Дубок у Полацкім раёне, Дубаўка — рака ў Гарадоцкім раёне, паўвостраў Дубавы на воз. Мядзел і іншыя.

**Дзіснá** — рака, левы прыток Дзвіны, працякае па паўночнай мяжы Пастаўскага раёна з Браслаўскім і Шаркоўшчынскім. Большасць даследчыкаў выводзяць паходжанне назвы ад славянскага *десна* — «правая». Аднак, згодна з сучасным вызначэннем прытокаў у геаграфіі, Дзісна з'яўляецца левым прытокам Дзвіны. Спецыяльныя даследаванні Н. І. Талстога паказалі, што старажытныя славяне вызначалі прытокі не па плыні, а стоячы тварам да плыні ракі. З такім тлумачэннем можна пагадзіцца, бо амаль ва ўсіх славянскіх краінах ёсць левыя прытокі з такой назвай.

**Дýмбля** — возера і рака ў басейне р. Мядзелка, за 3 км на паўночны захад ад г. Паставы. Моўнае паходжанне назвы невядомае, але ў мясцовым дыялекце слова *думбла* азначае возера з зыбкімі сплавіннымі берагамі, тарфяністым дном. «Думбла» выступае сінонімам слову «багна». У Браслаўскім раёне ёсць возера з гэткай жа назвай і таксама моцна забалочанае.

**Загáцце (Загач)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 3,5 км на паўднёвы захад ад г. Паставы. Назва славянская, адлюстроўвае асаблівасць размяшчэння возера. Яно знаходзіцца *«за гаццю»*. Гаць пралягала праз балота ў даліне р. Спарыца і вяла ад г. Паставы да в. Дукі.

**Задзéўскае (Дзеўе)** — возера ў басейне р. Мядзелка, на заходняй ускраіне г. Паставы. Побач з возерам знаходзіцца вёска Задзеўе. Можна меркаваць, што назва прайшла некалькі этапаў сваёй трансфармацыі. У дакументах сярэднявечча возера назы-

ваецца Дзеўе, а сучасную форму свайго найменння яно атрымала па назве вёскі, раней — мястэчка (Задзеўе — Задзеўскае).

«Дзявочыя» назвы водных аб’ектаў даўно цікавяць даследчыкаў, і на сённяшні дзень існуе некалькі варыянтаў тлумачэння іх сэнсу і паходжання. Вядомы беларускі тапаніміст Р. Аўчыннікава схіляцца да думкі, што такія словы маюць фіна-ўгорскія карані: «...Паходжанне дзвінскіх гідронімаў з асновамі тыпу *дв-/ дзев-/ дзів-/ дзеб-*, мяркуем, ад старажытных апелятываў у значэнні “возера”».

Яшчэ адна версія звязвае паходжанне назвы з найменнем міфічнага жаночага боства, якому пакланяліся нашы далёкія продкі. На сённяшні дзень цяжка сказаць, якое імя насіла крыўская багіня (багіні) вайны і смерці, яе маглі называць абагульнена: *Deive* (багіня), што і адлюстравалася ў вялікай колькасці сакральных аб’ектаў, якія маюць назву з коранем -*дзеў*-.

Возера Задзеўскае і рака Дзявіца, якая выцякае з возера, маюць даволі багатую радню на абсягах не толькі Беларусі, але і на шырокай еўразійскай прасторы. У нашай краіне з асновай *дзяў-/ дзів-/ дзеў-* сустракаецца шэраг водных аб’ектаў. Так, у Аршанскім раёне ёсць возера Дзевінскае, у Лепельскім — Дзявочае. На Полаччыне ляжаць два возеры Дзявічкі. У Слуцкім і Чачэрскім раёнах цякуць рэчкі Дзявіцы, а ў Лепельскім і Ушацкім — Дзівы.

**За́дняе (Го́лбія Паўднёвая, Гуцко́е)** — возера ў басейне р. Галбяіца (працякае праз возера) за 25 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Гута. Назва паказвае на асаблівасць месцазнаходжання возера: яно знаходзіцца *за пярэднім возерам* (Голбіяй Пярэдняй). Варта звярнуць увагу на тое, што возера Задняе ляжыць вышэй па плыні ракі Галбяіцы. Гэта сведчыць пра тое, што асваенне ракі і азёр ішло з боку яе вусця ад ракі Дзісны.

У літаратуры зрэдку возера называюць Голбія Паўднёвая, мясцовыя ж жыхары даволі часта ўжываюць назву Гуцкое, бо на яго берагах ляжыць вёска Гута.

**Заража́нка** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, назва ракі Галбяіца ў верхнім і сярэднім цячэнні. У яе аснове ляжыць старажытнаславянская слова *зараза* ў значэннях «мясцовасць, якая моцна парасла хмызамі», «лес з ярамі і абрывамі».

Сапраўды, рака ў вярхоўях працякае па вельмі перасечанай мясцовасці, па лесе і хмызняках.

**Заро́ўшчына (Жаро́ўшчына)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 24 км на ўсход ад г. Паставы, за 1 км на ўсход ад г. п. Варапаева. На картах XIX стагоддзя і міжваеннага часу возера падпісана як «Жаревщина». Відавочна, гэта першапачатковая назва або змененая форма першапачатковай назвы, якая дайшла да нас. У беларускай мове існуе тэрмін *жар* у значэнні «яр, лагчына, балка». Верагодна, гэта аснова і стала назваўтваральнай. Фармант *-шчына* характарызуе мясцовасць. Такім чынам, найменне Жароўшчына адлюстроўвае месцазнаходжанне возера: яно ляжыць у глыбокім яры.

Вельмі верагодным можа быць і паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *ярв* (эст.), *ярві* (фін., кар.) — «возера». І тады атрымліваецца наступны ланцужок трансфармацыі наймення: «Ярв» — «Жарв» — «Жароўшчына».

Пазней першая літара змянілася, і разам з гэтым змяніўся сэнс назвы. Цяпер яе можна растлумачыць так: Зароўшчына — мясцовасць, якая знаходзіцца *за ровам*.

**Зо́сіна (Лу́чай)** — возера ў басейне р. Лучайка, за 6 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 2 км на ўсход ад в. Сіўцы. Назва ўтварылася ад наймення фальварка Зосін, які знаходзіўся недалёка ад возера. У XIX стагоддзі возера называлася Лучай — яно знаходзіцца на поплаве ракі Лучайкі.

**Кавалькі́ (Кавале́ўскае)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 3,5 км на захад ад г. Паставы. Назва супадае з найменнем шматлікіх вёсак (Кавалі, Кавалькі), дзе мясцовыя жыхары займаліся *кавальствам*. Можна толькі выказаць меркаванне, што назва возера з'явілася шляхам перанясення яе з назвы вёскі. Але вёскі з такой назвай тут не захавалася. На карце канца XIX стагоддзя возера падпісана як «Кавалеўскае», што дае падставы звязаць паходжанне з прозвішчам *Кавалеўскі*, якое пашырана на Пастаўшчыне.

Можна выказаць меркаванне, што пад славянскім найменнем хаваецца балцкая топааснова *valka* ў значэнні «балота», «гразь»,

«стаў», «ручэй», «плынь», якая шырока прадстаўлена ў літоўскіх і латышскіх гідронімах. Але гэта толькі версія.

**Казло́ўскае (Ко́лаўскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 24 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 2 км на паўднёвы захад ад в. Жарствянка, сярод лесу. Паходжанне назвы можна было б звязаць з прозвішчам *Казлоўскі*, але, думаецца, назва была зменена няўважлівымі перапісчыкамі. Відаць, першапачаткова возера называлася Колаўскае, што зафіксавана на карце расійскіх тапографаў канца XIX стагоддзя. Гэта дае падставы лічыць, што аснова назвы мае фіна-ўгорскае паходжанне, дзе *колавец* у марыйскай мове азначае «калодзеж», «крыніца». Зараз возера ляжыць у забалочанай лясной мясцовасці Груздаўскай Дачы, каля яго няма населеных пунктаў.

**Кама́йка** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах. Дзвіны). Тлумачэнне назвы даецца для азёр Камайскіх.

**Кама́йскае Вялі́кае і Мало́е** — азёры ў басейне р. Камайкі (выцякае з Вял. Камайскага), за 17 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, каля в. Камаі. Адразу некалькі геаграфічных назваў гэтага рэгіёна маюць аснову «кам»: Камайскія азёры, р. Камайка, вёска Камаі. У шэрагу прыведзеных назваў найменне вёскі выступае як першааснова, што зусім не характэрна для працэсу ўтварэння назваў. Калі зрабіць дапушчэнне, што назва мае старажытную гісторыю і засяленне гэтай мясцовасці ішло па рэках з нізоўяў у вярхоўі, то трэба прызнаць, што аснова ўсіх прыведзеных назваў *кам* першапачаткова адносілася да ракі. У гэтым выпадку фіна-ўгорскія мовы даюць зразумелае тлумачэнне: *кам* (удм.) — «рака», «плынь». Можна прыгадаць назву ракі Кама, прытока Волгі. Такім чынам, атрымліваецца лагічная схема назваў: рака Кама — возера Камай — азёры Камаі (мн. лік) — вёска Камаі — азёры Камайскія — рэчка Камайка. Першапачатковыя назвы рэчкі і азёр былі перароблены пад славянскую традыцыю — з’явіліся тыповыя адметныя канчаткі: для азёр — *-кія*, для ракі — *-ка*. Падобную сітуацыю мы маем і ў сістэме воз. Лучай – р. Лучайка – в. Лучай.

**Камаро́к** — возера ў басейне ўнутранага сцёку, за 1 км на поўнач ад г. Паставы. Назва, верагодна, паходзіць ад асновы *комка*, што ў слоўніку Даля тлумачыцца як «корч, затопленае дрэва». Азярцо сапраўды мае дрыгвістыя берагі і шмат карчоў на дне.

**Ка́менскае** — возера ў басейне р. Смычыца, за 18 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 1 км на паўднёвы ўсход ад в. Вароны. Паходжанне назвы прасцей за ўсё растлумачыць, вывеўшы яе ад агульнаславянскага *камень* — «возера з камяністым дном». Але форма назвы паказвае больш на прыналежнасць да «каменя», чым на ўласцівасць. Да пошукаў іншага тлумачэння назвы падштурхоўваюць навакольныя назвы: хутар Каменка і рэчка Каменка, якая выцякае з возера. Паколькі назвы рэчак звычайна больш старажытныя, то можна лічыць, што і хутар, і возера атрымалі свае найменні ад ракі. Такім чынам, Каменскае — гэта возера, з якога выцякае р. Каменка. А назва ракі можа мець славянскае паходжанне ад слова *камень* — «камяністая», або ўтварэнне з фіна-ўгорскіх моў, дзе *кам* (удм.) — «рака».

**Каптару́нскія —** азёры ў басейне ўнутранага сцёку, за 35 км на захад ад г. Паставы, каля в. Каптаруны. Ланцужок невялікіх выцягнутых глыбокіх азёр, два з якіх знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, адно — у Летуве. У гэту групу ўваходзіць і азярцо Глушня. Назва паходзіць ад наймення бліжэйшай вёскі, хоць, напэўна, кожнае з азёр мае ўласную балцкую або фінаўгорскую назву.

**Карасёўкі (Карасе́лкі)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 28 км на ўсход ад г. Паставы, на ўсходняй ускраіне в. Чорная. На карце XIX стагоддзя возера падпісана «Караселкі». Знешняе падабенства назвы са словам «карась» робіць вельмі заманлівым растлумачыць яго сэнс як «возера, у якім водзяцца карасі», але няўстойлівасць формы наводзіць на думку, што гідронім мае неславянскую аснову, якую мясцовыя жыхары і картографы спрабуюць падагнаць пад рускамоўны сэнс. Прыдатнае тлумачэнне назвы можна адшукаць у фіна-ўгорскіх мовах. Так, *kaara* мае значэнне «міска, карыта», *ел* — «крыніца», *ёль* — «лясная рэчка, ручай». Возера мае правільную круглую форму, з яго выцякае ручай ў возера Чорнае.

Цікавым падаецца і варыянт тлумачэння паходжання назвы з цюркскіх моў, дзе *кара* — «чорны», а *елга* — «рака». Разам атрымаем «Чорная рака» — назву, якую першапачаткова магла мець рачулка, што выцякае з возера. Калі ж улічыць, што недалёка ад вадаёма ляжыць вёска Чорнае і возера Чорнае, то версія выглядае зусім не беспадстаўнай.

**Карасю́к (Кара́сье) —** возера ў басейне р. Ласіца, за 29 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1 км на захад ад в. Казлоўшчына, каля в. Кавалі. На карце XIX стагоддзя зафіксавана як «Карасье». Таму яго сэнс можна растлумачыць як «возера, у якім водзяцца карасі». Але нельга выключаць і фіна-ўгорскае паходжанне назвы (гл. *Карасёўкі*).

**Карне́еўка** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). Пры ўсім падабенстве назвы да патранімічнай (ад імя *Карней*) усё ж, напэўна, паходзіць яна з фіна-ўгорскіх моў. У хантыйскай *кор* азначае «чыстае балота, плёс», у мансійскай *хоры* — «балота, размешчанае паміж лесам і якім-небудзь вадаёмам». Такім чынам, першая частка тапоніма звязана з балотам, а другая ўяўляе сабой скажоны фінскі тэрмін у значэнні «рака».

**Крыво́е-1 і Крыво́е-2** — азёры ў басейне р. Ласіца, за 32 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Крывое-2. Назва славянская, адлюстроўвае форму азёрнай катлавіны.

**Крыво́е** — возера ў басейне р. Ласіца, за 32 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Навікі. Назва славянская, адлюстроўвае форму азёрнай катлавіны.

**Кру́глае** — возера ў басейне р. Ласіца, за 33 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1,2 км на захад ад в. Казлоўшчына. Назва славянская, адлюстроўвае форму азёрнай катлавіны.

**Кру́глае (Акру́глае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1,2 км на захад ад в. Казлоўшчына. На польскіх картах возера падпісана як «Okrugle». Назва славянская, адлюстроўвае форму азёрнай катлавіны.

**Кру́глае (Па́ркавае)** — возера ў басейне р. Мядзелка, амаль у цэнтры г. Паставы. Назва славянская, адлюстроўвае фор-

му азёрнай катлавіны. Другая назва паказвае на месцазнаходжанне: яно ляжыць на тэрыторыі былога палацавага комплексу Тызенгаўзаў і з’яўляецца часткай сядзібна-паркавага ансамбля.

**Ксяндзо́ўскае (Ксяндзы́)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 4 км на захад ад г. Паставы. У апошніх даведніках назва возера пішацца «Ксензоўскае» (паказваючы прыналежнасць), але мясцовая назва застаецца ранейшай — «Ксяндзы». Як «Ксензовское» возера пазначана на картах XIX стагоддзя. Можна выказаць меркаванне, што ў даўнія часы гэты вадаём і землі вакол яго належалі каталіцкаму касцёлу, а ў народным успрыманні — ксяндзу.

**Лапухо́ва** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 10 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Кадукі, сярод балота, парослага хмызняком. У канцы XIX стагоддзя недалёка ад возера знаходзіўся засценак *Лапухова*. Паколькі вадаёмчык зусім невялікі, забалочаны і знаходзіцца даволі далёка ад значных населеных пунктаў, то трэба меркаваць, што старажытная фіна-ўгорская назва сказілася і змянілася. У венгерскай мове слова *lapa* азначае «балота», горна-марыйскае *лапата*, *лапіта* — «нізіна». З гэтага вынікае, што назву можна асэнсаваць як «забалочанае возера» або «возера ў балоце».

**Ла́сіца** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). У гістарычных дакументах яна згадваецца як «Ласа», што падказвае на фінаўгорскі радавод. У эстонскай мове *лаас* азначае «лес». Значыць, *ласа* — «лясная рэчка».

**Ла́сіца (Лісі́ца)** — возера ў басейне ракі Ласіца, за 36 км на ўсход ад г. Паставы, паміж вёскамі Ласіца і Ваўкі. На карце XIX стагоддзя падпісана як Лісіца. Такую ж назву меў і суседні гаспадскі двор. Тлумачэнне назвы даецца для ракі Ласіца і возера Лісіцкае.

**Ла́сіца** — возера ў басейне ракі Ласіца, за 33 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Казлоўшчына (рака цячэ праз возера). Тлумачэнне назвы даецца для ракі Ласіца.

**Лі́гума** — рака ў паўночна-заходняй частцы Пастаўскага раёна на мяжы з Летувой, правы прыток р. Камайка (бас. Зах.

Дзвіны). Паколькі такая назва сустракаецца ў Летуве (мястэчка, узгорак, лес), то растлумачыць паходжанне наймення ракі можна з балцкіх моў. У літоўскай *lygumai* азначае «раўніна». Таму і Лігума — раўнінная рэчка. Хоць не выключана, што балты запазычылі тэрмін у фіна-ўграў, у якіх *маа* — «зямля».

**Лісíцкае (Лісіца)** — возера ў басейне р. Лучайка, за 18 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Лучай. Непадалёку ад возера знаходзіцца і вёска Лісіцы. Найбольш верагодна, назва звязана з асновай *лес*. Ва ўкраінскай мове яна гучыць як *ліс*. З фіна-ўгорскай асновай такога ж сэнсу розніць толькі адна літара (*ласіца — лісіца*, дзе *лаас* (эст.) — «лес»).

У Пастаўскім раёне ёсць два возеры з найменнем Ласіца, як і дзве вёскі з такімі ж назвамі на іх берагах. Магчыма, што і з гэтым вадаёмам першапачаткова была аналагічная канструкцыя, і толькі пазней «а» змянілася на «і», надаўшы новы сэнс назве.

**Лóдасі (Лóдаскае)** — возера ў басейне р. Страча, за 22 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, каля в. Лодасі. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: *luodo* (кар.), *luoto* (фін.) — «астравок», «камяністая водмель», *lood* (эст.) — «маленькі камяністы астравок». Геаграфія пацвярджае такое тлумачэнне: на возеры знаходзіцца востраў, які складзены пясчана-камяністым матэрыялам.

**Лýчай (Лучáйскае)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 15 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Лучай. З возера выцякае рака Лучайка, правы прыток р. Мядзелка (бас. Зах. Дзвіны). Назва паходзіць ад геаграфічнага тэрміна «лука», які ў блізкіх значэннях сустракаецца ў славянскіх, балцкіх і фіна-ўгорскіх мовах. Асноўныя значэнні слова *лука:* «вялікая, доўгая злучына ракі, дуга, заліў, поплаў». Ва ўтварэнні групы назваў (возера Лучай, рака Лучайка, вёска Лучай) мы назіраем такую ж з’яву, як і з назвай «Камаі». Схема іх развіцця выглядала, магчыма, так: р. Лука — воз. Лучай — в. Лучай — р. Лучайка. Першаасновай назвы магло выступаць і возера, бо яно мае 6 астравоў і шмат заліваў, але рака ў гэтым сэнсе выглядае больш пераканаўча. На геаграфічных картах можна бачыць, што рэчышча Лучайкі ўтварае вялікую луку: у вярхоўях, выцякаючы з возера, яна мае накірунак на поўдзень, але каля вёскі Кубаркі разварочваецца

і рухаецца на поўнач да ўпадзення ў Мядзелку. Такім чынам утвараецца лука, якая і дала назву рэчцы. Падобныя назвы даволі пашыраны ў Беларусі: Лучайка (рака ў Глыбоцкім р-не), Лучка (рака ў Воранаўскім р-не), Лучоса (рака ў Лёзненскім і Віцебскім р-нах).

**Луча́йка** — рака ва ўсходняй і паўночнай частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Мядзелка (бас. Зах. Дзвіны). Паходжанне назвы тлумачыцца для воз. Лучай.

**Лы́нтупка** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Страча (бас. Нёмана). У некаторых выданнях паходжанне назвы выводзіцца ад фінскага *lintu* — «птушка» і літоўскага *upis* — «рака», у выніку чаго атрымліваецца «птушыная рака». Але ў такім тлумачэнні спалучаюцца словы з розных даволі далёкіх моў. Тапаніміст Р. Аўчыннікава мяркуе, што найменне Лынтупка ўтварылася ад карэнных элементаў *лан-/лон-*, і прыводзіць параўнанні з фінскім *ala*, *alanko*, эстонскім і вепскім *alang* у значэнні «нізіна» або літоўскім *lanka* — «луг, лагчына».

**Мажэ́йскае (Мажэ́йкі)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 4 км на паўночны захад ад г. Паставы, каля в. Мажэйкі. Назва вадаёма, верагодна, утварылася ад вёскі, а найменне вёскі — ад прозвішча жыхара Мажэйка. У літоўскай мове *mažas* азначае «малы, невялікі».

**Маскале́ва (Азе́рца, За́дняе) —** возера ў басейне р. Галбяіца, за 26 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1 км на паўднёвы ўсход ад в. Харкі. Назва возера паказвае яго прыналежнасць да «маскаля» — выхадца з Масковіі. У Беларусі, у тым ліку і на Пастаўшчыне, у часы Вялікага Княства Літоўскага асела шмат маскалёў, і не выключана, што назва звязана менавіта з імі. Само ж возера атрымала назву ад лесніўоўкі Маскалёва, якая за польскім часам стаяла на яго ўзбярэжжы. Раней гэты невялікі вадаём называўся проста — Азерца, што зафіксавана на міжваенных картах. На карце XIX стагоддзя возера называецца Задняе.

**Му́лярскае** — возера ў басейне р. Лігума, за 16 км на захад ад г. Паставы. Назва ўтварылася ад найменне вёскі Муляры, якая знаходзіцца ад яго на адлегласці 1 км.

**Мя́дзелка** — рака, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах. Дзвіны). Бярэ пачатак з воз. Мядзел, працякае праз Паставы. Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне: *mets* (эст.), *metse* (фін.) — «лес», *ель* (комі) — «лясны ручай, рэчка». Такім чынам, *Мядзелка* — «лясная рэчка».

**Мя́дзель** — ручай ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне: *mets* (эст.), *metse* (фін.) — «лес», *ель* (комі) — «лясны ручай, рэчка».

**Навікí** — возера ў басейне р. Ласіца, за 32 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Навікі. Тлумачэнне паходжання і сэнсу назвы залежыць ад таго, што перш утваралася — ці назва возера, ці назва вёскі? У дадзеным выпадку можна меркаваць, што найменне вёскі ўзнікла раней, бо славянскае *новы*, *навіна* азначае неараную зямлю, выкарчаваны лес або кустоўе для пасеваў. Можна лічыць, што назва падказвае працэс асваення гэтай тэрыторыі славянамі: спачатку ўзнікла назва ўрочышча, якая пазней перайшла на возера і вёску.

**Надазе́рскае (Ко́лаўцы)** — возера ў басейне р. Ласіца, за 36 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Колаўцы. Назва мае славянскае паходжанне і ўтварылася ад наймення гасподскага двара Надазер’е, што месціўся на яго беразе.

Раней вадаём называўся Колаўцы, што зафіксавана на картах XIX стагоддзя. Такую ж назву мае і вёска на яго берагах. Паходзіць яна, верагодна, з фіна-ўгорскіх моў. У марыйскай *колавец* азначае «калодзеж», але можа ўжывацца і ў значэнні «крыніца». Такім чынам, *Колаўцы* — гэта «мясцовасць, дзе ёсць крыніцы».

**О́лксна (Во́лксна)** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Лынтупка (бас. Нёмана). Назва мае, верагодна, фіна-ўгорскія карані. Першая частка гідроніма, магчыма, утварылася ад фінскага *valkea*, што азначае «белы». Паходжанне другой паловы тапоніма канчаткова не высветлена, хоць і ў Беларусі, і ў Расіі ёсць даволі многа рэк з такой назвай (напрыклад, Цна каля Мінска). Большасць даследчыкаў схіляецца да старажытнапрускай асновы ў значэнні «ціхі». Але, думаецца, радавод іх ідзе з фіна-ўгорскіх моў. Прыгадайма *шош*

(хант.) — «ручай, маленькая рэчка», *шэр*, *сер* (комі) — «рака», *сурэ* (саам.) — «рэчышча ракі». Сугучча гэтых гідронімаў падказвае на магчымасць трансфармацыі іх у «цна», або «сна». З гэтага дапушчэння вынікае, што другая частка назвы ракі тлумачыцца проста як «рака або ручай». І таму найменне *Олксна* (*Волксна*) трэба разумець як «белая рэчка».

**Пало́віца (Палаві́ца)** — рака ў паўночна-ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). Назва складаецца з дзвюх частак: *палой* — «поплаў», «лагчына», «рака, якая шырока разліваецца пад час разводдзяў» і *віц* — «вада». З прычыны шырокага распаўсюджвання слова «палой» у розных мовах цяжка дакладна вызначыць моўную прыналежнасць гідроніма, але другая частка «віц» указвае на яе фіна-ўгорскі радавод.

**Палю́ня** — рака на захадзе Пастаўскага раёна, прыток р. Страча (бас. Нёмана). Знаходзіцца ў Пурвінскім балоце. Назва паходзіць з балцкіх моў. У літоўскай слова *palios* азначае «балота».

**Паскры́нне (1)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Рудка. Верагодна, назва паходзіць ад балцкай асновы *paskry* ў значэнні «карычневы, руды», што адлюстроўвае колер вады ў возеры. Яна сапраўды мае чырванаватую афарбоўку з прычыны гліністых берагоў.

**Паскры́нне (2) (Вішнё́ўка)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Рудка, усходней за возера Паскрынне (1), злучана ручаём з возерам Рудзіца. Раней называлася *Вішнёўка*, што зафіксавана на польскіх картах. Магчыма, і гэта назва адлюстроўвае колер вады: цёмна-чырвоная гліна мае падабенства з афарбоўкай спелай вішні. Хоць нельга выключаць і магчымасць утварэння наймення ад вішнёвых дрэў, якія меліся ў шляхецкім маёнтку, што знаходзіўся на паўднёвым беразе возера.

**Паста́ўскае** — возера ў басейне р. Мядзелка, у межах г. Паставы. Назва ўтворана ад наймення горада.

**Пеляка́ (Пя́ляка)** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Струна (бас. Нёмана). Назва паходзіць

з балцкіх моў: *pelke* (літ.) — «балота, дрыгва, тарфянік». Рака сапраўды цячэ па забалочанай мясцовасці, рэчышча ў значнай ступені каналізавана.

**Плі́са —** возера ў басейне р. Галбяіца, за 37 км на ўсход ад г. Паставы, за 18 км на паўночны захад ад г. Глыбокае, каля в. Луцк-Казлоўск. З возера выцякае р. Плісаўка, правы прыток р. Галбяіца. Назваў азёр і рэк з асновай *пліс* або *плес* у Беларусі шмат. Найбольш распаўсюджаным тлумачэннем гэтай асновы з'яўляецца: «адкрытае, без раслiннасці возера», «ціхае глыбокае месца на рацэ». Паколькі тэрмін ужываецца часцей у назвах рэк, то можна лічыць, што і ў нашай сістэме адбыліся пераходы назвы з аб'екта на аб'ект і невялікая іх змена: р. Пліса — воз. Пліса — р. Плісаўка.

**Про́пасць** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, упадае ў воз. Ласіца непадалёку ад в. Ваўкі (бас. Зах. Дзвіны). Славянскі тэрмін *пропасць* мае некалькі значэнняў: «абрыў», «правал», «лясны гушчар», «непраходнае балота». Відаць, нейкай з гэтых якасцяў і вызначалася раней тая невялічкая рачулка. Яе назва захавалася толькі на карце XIX стагоддзя.

**Рама́нішскае** — возера ў басейне р. Пяляка, за 35 км на захад ад Паставаў. Назва паходзіць ад наймення вёскі Раманішкі, якая знаходзіцца ад яго на адлегласці каля аднаго кіламетра.

**Ру́дзіца (Ру́дніца)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на ўсход ад г. Паставы, каля вёсак Рэчкаўшчына і Ляхаўшчына. Паходжанне назвы звязана са славянскай асновай *руда* — «аржавае балота, вада». Не выключана паходжанне і з балцкіх моў, дзе сустракаецца *rudunas*, *rudyvne* (літ.) у значэнні «балота з чырванаватай вадой, якая ўтрымлівае жалеза». Возера мае руды колер вады з прычыны гліністых берагоў.

**Саранча́ны (Серанча́ны)** — возера ў басейне р. Страча, за 27 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, каля в. Саранчаны. Назва мае фіна-ўгорскі радавод: *sara* (фін., карэл.) — «балота, вялікае балота, мора, забалочаная рэчка». Другая частка слова — *чаны* мае, напэўна, значэнне «возера». Такім чынам, сэнс назвы можна растлумачыць як «забалочанае возера». Сапраўды, возера мае невялікую глыбіню (макс. 3,5 м) і моцна зарастае.

**Саро́кі (Ві́шнеўка)** — возера ў басейне р. Ласіца, за 32 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Сарокі. Назва не звязана з найменнем вядомай усім птушкі сарокі, яе карані сягаюць у фіна-ўгорскія мовы: *sara* (фін., карэл.) — «балота, забалочаная рэчка, мора». Канчатак *-кі* ўласцівы паселішчам. Можна прапанаваць наступную схему ўтварэння назваў: воз. Сара — вёска Сарокі — воз. Сарокі. На карце XIX стагоддзя возера называецца Вішнеўка.

**Све́тлае (Крато́ўшчына)** — возера ў басейне ўнутранага сцёку, за 10 км на поўдзень ад г. Паставы, каля в. Гарані. Сучасная назва адлюстроўвае афарбоўку вады. Найменне «Кратоўшчына» падаецца на карце XIX стагоддзя. Яна паходзіць, верагодна, з балцкіх моў: у літоўскай *krutis* — «узвышша, узгорак», у латышскай *kruts*, *krute* — тое ж самае значэнне. У славянскіх мовах таксама сустракаем блізкае па значэнні слова «круты». Падобна на тое, што назву возера атрымала ад мясцовасці, якая тут мае складаны рэльеф з высокімі ўзгоркамі і глыбокімі лагчынамі.

**Сві́дна** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 25 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Дунілавічы. Варта адзначыць, што спалучэнне *св-* — вельмі пашырана ў назвах рэк і азёр Беларусі (Свіла, Світа, Свідроўка, Свіервіца, Свіліца і г. д.). Як мяркуе беларускі тапаніміст Р. Аўчыннікава, такія назвы маюць фіна-ўгорскае паходжанне. Лічыцца, што элемент *св-* з'яўляецца варыянтам індаеўрапейскай асновы *sou* ў значэнні «цячы, струменіцца». У ханты-мансійскіх мовах *сав*, *сап* азначае «ручай, які выцякае з возера ці балота». Фінскія ж канчаткі *та*, *тав*, *ты* і падобныя маюць значэнне «возера». Такім чынам, у назве «Свідна» першая частка азначае цячэнне, другая — возера. У выніку атрымліваем зразумелае тлумачэнне — «праточнае возера». Сапраўды, у Свідна ўпадае некалькі ручаёў і выцякае ручай у суседняе возера Бледнае (Бляда).

**Сві́ла (Сві́лка)** — рака на захадзе Пастаўскага раёна, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах Дзвіны). Назва мае фінаўгорскія карані. У ханты-мансійскіх мовах *сав*, *сап* (скажонае *-св*) азначае «ручай, які выцякае з возера ці балота», чувашскае

*віл* — «рэчышча, старыца». Славянскае дыялектнае *свіль* або *цвіль* азначае «зарастаючае возера».

**Сві́та Вялі́кая** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 7 км на поўдзень ад г. Паставы, каля в. Сіманькі. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: у ханты-мансійскіх мовах *сав*, *сап* азначае «ручай, які выцякае з возера ці балота», фінскія ж канчаткі *та*, *тав*, *ты* і падобныя маюць значэнне «возера». Такім чынам, у назве *Світа* першая частка азначае «цячэнне», другая — «возера». У выніку атрымліваем зразумелае тлумачэнне — «праточнае возера».

**Сві́тка (Сві́та Мала́я)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 7 км на поўдзень ад г. Паставы, каля в. Сіманькі (гл. *Світа*).

**Сі́рына** — невялікае возера ў басейне р. Паловіца, за 10 км ад г. Паставы, каля в. Кадукі. Назва фіксуецца толькі на карце XIX стагоддзя. Паходзіць яна, верагодна, ад старaславянскай асновы *сыръ* у значэнні «сыры, вільготны». Сустракаецца і *сырына*, *сырынка* — «вільготнае месца».

**Скварцо́ўскае** — возера ў басейне р. Лучайка, за 15 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Скварцова. Назва паходзіць ад фальваркa Скварцова, які знаходзіўся недалёка ад возера.

**Сляпі́ца** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 2 км на поўнач ад г. Паставы, на ўскраіне ляснога масіву Пастаўская Дача. Назва паходзіць ад славянскага слова *сляпы* — «невідушчы». *Сляпіца* азначае «сляпое», «бясточнае», «глухое» возера. Сапраўды, мясцовае возера ляжыць у забалочаным лесе, мае сплавінныя берагі і не мае сцёку.

**Смычы́ца** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток Заражанкі (Галбяіцы) (бас. Зах. Дзвіны). Назва паходзіць ад славянскай асновы ў значэнні «цяжкапраходная мясцовасць». Да такой думкі падштурхоўвае наяўнасць у рускай мове дыялектычнага слова *муча* — «крывун на рацэ», «цяжкапраходная мясцовасць» У беларускай мове сустракаем дзеяслоў *смыкацца* — гэта значыць «рабіць сутаргавыя рухі». Геаграфічны аналіз паказвае верагоднасць такога тлумачэння: рака Смычыца і вёска Смыччо знаходзіцца ў вялікім лясным масіве, які моцна забалочаны і мае складаны рэльеф.

Тапаніміст Р. Аўчыннікава звязвае паходжанне назвы з фіна-ўгорскімі мовамі і лічыць, што імя ўтварылася ад асновы *satanpynas* (латыш.) або *суоннэ* (фін.) у значэнні «балота».

**Снарыхо́ўка (Скары́ха)** — рака ў паўночна-ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток Паловіцы (бас. Зах. Дзвіны). Найбольш верагодна, назва паходзіць з балцкіх моў, дзе *нара* — «паток», «выгін ракі», «меандра». Калі дапусціць, што сучасная назва мае скажоную форму, то можна прапанаваць тлумачэнне яго сэнсу з фіна-ўгорскіх моў, дзе *суо* (фін.) — «балота», *норо* — «лагчына»: «рака, якая цячэ ў забалочанай лагчыне». Геаграфічны аналіз пацвярджае абодва тлумачэнні.

**Спо́ры Вялі́кія** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 5 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, каля в. Шыркі. Падобную назву мае і рэчка Спарыца, якая выцякае ў воз. Задзеўскае. Калі палічыць, што засяленне гэтай мясцовасці ішло па рацэ, то і назва ракі павінна быць першаасновай. Прыдатнае тлумачэнне даюць славянскія мовы. «Спорная вада» — гэта месца, дзе сходзяцца дзве плыні, «сшибка встречных потоков». Сапраўды, недалёка ад воз. Задзеўскае ў Спарыцу ўпадала рака Глодаўка. На месцы сутокаў існавала невялікае возера, якое зараз ператварылася ў балота. У гэтым возеры і маглі актыўна праяўляцца буруны, водавароты, інакш кажучы, спорная вада. Нельга выключыць і паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *сора* мае сэнсавыя значэнні «рэчышча ракі», «сутокі рэк», «невялікая рэчка».

**Спо́ры Малы́я (Спо́ркі, Асцю́цьева)** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 5 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, каля в. Шыркі. На карце XIX стагоддзя падпісана як «Осиюцво», мясцовыя жыхары зрэдку называюць Асцюцьева. Неўсталяванасць і незразумеласць назвы сведчыць пра яе неславянскае паходжанне. Верагодна, аснова прыйшла з фіна-ўгорскіх моў: *ас* — на мове ханты і мансі «рэчка», *ту* (комі, ненец., удм.) — возера, *нева* (фін.) — «балота». У выніку маем складаную канструкцыю *Ас-ту-нева* — «забалочанае возера, падобнае на раку».

**Старадво́рскае** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 16 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Стары Двор. Назва возера ўтва-

рылася ад назвы паселішча. Раней на яго берагах знаходзіўся гасподскі двор Стары.

**Стра́ча** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток Віліі (бас. Нёмана). У аснове назвы ляжыць індаеўрапейскае *streu* — «цячы». Найбольш блізкае з сучасных асноў — гэта латышскае *straume* — «паток», «хуткая плынь». Блізкім з яўляецца і беларускае *струмень*. Геаграфічныя асаблівасці ракі пацвярджаюць назву: Страча — рака бурная, парожыстая, вельмі нагадвае горны паток.

**Сурві́лішкі Вялі́кія і Малы́я** — азёры ў басейне р. Камайка (цячэ праз азёры), за 20 км на захад ад г. Паставы, каля в. Сурвілішкі. Назва мае фіна-ўгорскія карані, хоць канчатак ў назве тыпова балцкі. Але ён быў дададзены пазней, а першапачаткова возера, напэўна, называлася «Саравіл», дзе *сара* (фін., карэл.) — «балота», «забалочаная рака», а *віл* (чуваш.) — «рэчышча», «старыца», «возера на поплаве ракі». Геаграфічны аналіз пацвярджае верагоднасць такога тлумачэння: азёры, пасутнасці, уяўляюць сабой забалочаныя расшырэнні р. Камайка. Такім чынам, першапачатковы сэнс назвы возера фармуляваўся як «забалочанае возера ў пойме ракі».

**Сы́рмеж (Се́рмеж)** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Вялікі Перакоп (бас. Нёмана). Радавод назвы адметна фіна-ўгорскі. На мове комі *сер* — «рака», *мег*, *меж* — «злучына», «мыс», «лука на рацэ». Такім чынам, *Сырмеж* — «звілістая рака». Падобны тэрмін сустракаем ў чувашскай мове, дзе *сырма* — «рака, рэчка».

**Тру́мпіцкае (Тру́мпічы, Тумкачи)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 26 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Вайцяхі. У мясцовых гаворках часта гучыць форма «Тумпіцкае», на карце XIX стагоддзя падпісана як «Тумкачи», а засценак каля возера — «Трулкичи». Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў. Мансійскае *туман*, *тумэн* — азначае «пойменнае возера, праточнае возера». Трумпіцкае возера, сапраўды, ляжыць у паніжэнні; мае нізкія, месцамі сплавінныя берагі пад хмызняком. Другая частка назвы *пі* ўяўляе сабой аглушанае *бі*, што азначае «вада» (самад.).

Як варыянт можа разглядацца і паходжанне назвы з балцкіх моў. Літоўскае *trumpas* азначае «кароткі», што характарызуе або само возера, або вёску Трумпічы, якая знаходзіцца на яго беразе.

**Турча́нка** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна (бас. Зах. Дзвіны), упадае ў возера Ласіца, каля в. Ваўкі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што назвы шматлікіх рэчак з асновай *тур* звязана з найменнем старажытнага быка — тура. Аднак больш верагодным падаецца паходжанне назвы з фіна-ўгорскіх моў, дзе *тур* — «возера», *я* — «рэчка», у выніку чаго атрымліваем празрыстае тлумачэнне «азёрная рэчка», або «рака, якая жывіць возера (Ласіца)». Цікава, што з назвай адбыліся наступныя змены: спачатку рака называлася Тур'я, вёска якая ўзнікла на яе беразе атрымала назву Турчына, а потым ад назвы вёскі ўтварылася сучасная назва ракі — Турчанка.

**Ту́зьба (Ту́сьба, Ту́тьба)** — возера ў басейне р. Паловіца (бас. Зах. Дзвіны), за 9 км на паўночны ўсход ад г. Паставы. На карце XIX стагоддзя падпісана як «Тутьба». Назва бярэ пачатак з фіна-ўгорскіх моў, дзе *ту*, *то* (комі, ненец., удм.) — «возера», *сё* (нянец.) — «пратока», «рака, якая выцякае з возера», *ба* (самад.) — «рака». Такім чынам, *Ту-сё-ба* — «возера, з якога выцякае рака». Геаграфічна такое тлумачэнне пацвярджаецца: з возера выцякае ручай у р. Паловіца.

**Хабе́ні (Ваўко́ўскае)** — возера ў басейне р. Ласіца, за 36 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Ваўкі. Назва паходзіць са славянскіх моў. У царкоўнаславянскай ёсць слова *хабити* ў значэнні «псаваць». Магчыма, раней тэрмін *хабень* адносіўся і да форм рэльефу тыпу «яма», «упадзіна», «заглыбленне». Гэту думку пацвярджае аднакарэннае сучаснае слова *ухаб*.

Зараз возера часцей называюць па бліжэйшай вёсцы — Ваўкоўскае.

**Хало́сінскае (Халасці́нскае, Заро́жскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 28 км на паўднёвы ўсход ад г. Паставы, за 2 км на ўсход ад в. Сяргеевічы. Аснова назвы мае фіна-ўгорскае паходжанне: *кал* (хант.) — «вялікае, чыстае балота, якое пакрыта мохам і травой», *сён* (комі) — «лагчына, невялікае возера». Блізкую аснову знаходзім і ў беларускай мове: *гала* — «паляна

ў лесе», «лясное балота». На Украіне — «лясная паляна, возера ў лесе». Геаграфічна возера месціцца ў паніжэнні і мае нізкія, месцамі забалочаныя берагі.

Апошнім часам усё часцей ужываецца назва «Зарэжскае», верагодна таму, што ляжыць за ракой Заражанкай.

**Ці́менцы (Ці́менец, Олишево)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, за 1 км на паўночны ўсход ад в. Трумпічы. Паходжанне назвы можна звязаць са стараславянскім *ціменне* (*тимение*), якое мае значэнне «балота, гразь, ціна». Возера сапраўды знаходзіцца на поплаве Галбяіцы і моцна зарастае.

Ранейшая назва «Олишево» звязана з *вольсам* — альховым зараснікам. Непадалёку ад возера знаходзіцца вёска Вольшнева (Ольшнева).

**Чарты́** — возера ў басейне р. Паловіца, за 8 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Чарты. Назву можна атаесамляць са славянскімі словамі *чорны* або *чорт*, але, улічваючы панаванне на гэтай тэрыторыі фіна-ўгорскіх гідронімаў, можна прапанаваць і наступнае тлумачэнне: *чэр* (комі) — «прыток ракі, рака», *ты* (комі, удм.) — «возера».

Сэнс назвы можна растлумачыць як «возера, якое злучаецца ракой з другім возерам». На мясцовасці воз. Чарты злучаецца рачулкай з воз. Тузьба.

**Чырво́ны руча́й** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Страча (бас. Нёмана). Назва «каляровая», указвае на афарбоўку вады. Чырвоны колер звязаны з наяўнасцю ў рацэ злучэнняў жалеза.

**Чо́рнае (Чарня́нскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 27 км на ўсход ад г. Паставы, каля в. Чорнае. Назва «каляровая», адлюстроўвае афарбоўку вады ў возеры. Вадаём мае нізкія, пясчана-тарфяністыя берагі, у значнай ступені забалочаныя. Тарфяністыя адклады надаюць цёмны колер вадзе. Назва ўтворана на кантрасце з суседнім возерам, якое называецца Белае (Бельскае).

На карце XIX стагоддзя возера падпісана «Чернянское».

**Чо́рнае** — возера ў басейне р. Мядзелка, на паўночна-заходняй ускраіне г. Паставы. Назва таксама «каляровая», адлюст-

роўвае афарбоўку вады ў возеры. Возера ляжыць у нізіне, мае тарфяністае дно, што і надае цёмны колер вадзе.

**Чо́рны руча́й** — рака ў паўночнай частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Бірвета (бас. Зах. Дзвіны). Назва «каляровая», указвае на афарбоўку вады. Чорны колер тлумачыцца тым, што ручай працякае па лясной забалочанай мясцовасці і ўтрымлівае тарфяністыя адкладанні.

**Чо́ртка (Чэ́ртка)** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, правы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). На карце XIX стагоддзя падпісана як «Чертка», на польскіх картах — «Чортка». Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне. На мове комі *чэр* — «прыток ракі». Напэўна, назва прайшла наступную трансфармацыю: «чэр» — «чэрка» — «чэртка». Фіна-ўгорская назва «абрасла» славянскім рачным канчаткам, а потым у незразумелую славянам назву дадалася літара «т» — і атрымалася «чортава рака».

**Чэ́цверць** — возера ў басейне р. Мядзелка, за 10 км на поўдзень ад г. Паставы, за 1 км на ўсход ад в. Падаляны. Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў: *Чэт*, *шэт* на мове хантаў і мансі азначае «вада», *ведь* на мове мардвы — таксама «вада».

**Шва́кшты Вялі́кія і Малы́я** — азёры ў басейне р. Страча, за 22 км на паўднёвы захад ад г. Паставы, за 8 км на паўночны захад ад воз. Нарач. Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне, на што ўказвае канчатак *-ты*. На мове комі *ты* — «возера», *кш* — суфікс, які шырока пашыраны ў марыйска-мардоўскіх мовах, а *шава* па-макшанску — «сподак», «талерка».

Такім чынам, першапачатковая назва гучала як *шава-кш-ты* і азначала «возера, падобнае на сподак». Сапраўды, і Вялікія, і Малыя Швакшты маюць правільную форму, падобную да круга, і невялікую глыбіню.

Як варыянт можа разглядацца паходжанне назвы ад літоўскага *švakstas* у значэнні «вакса, чорны іл».

**Шу́рыца** — рака ва ўсходняй частцы Пастаўскага раёна, левы прыток р. Галбяіца (бас. Зах. Дзвіны). Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне: *шор* (комі) — «ручай», *шур* (удм.) — «рака».

**Якíмаўцы** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 30 км на паўночны ўсход ад г. Паставы, каля в. Якімаўцы. Уяўляе расшыранае вусце ракі Ласіца. Назва возера ўтворана ад наймення вёскі, у аснове якой — імя пасяленца *Якім* (*Акім*).

**Я́навіца** — рака ў заходняй частцы Пастаўскага раёна, упадае ў воз. Вял. Сурвілішскае (бас. Зах. Дзвіны). Назва паходзіць з фіна-ўгорскіх моў. На мове мансі *янк* — «балота», *я* — «рака»; *віт* — «вада». «Балотная вада, або балотная рака» — такі сэнс мае назва гэтай ракі.

**Я́нкішкі (Я́нкішскае, Гейделис)** — возера ў басейне р. Камайка, за 20 км на захад ад г. Паставы, каля в. Гродзі. Назва мае тыпова літоўскі канчатак, аднак у аснове яе знаходзіцца фіна-ўгорскі корань: *янк* (манс.) — «балота». Такім чынам, *Янкішкі* — «забалочанае возера».

На карце XIX стагоддзя возера падпісана «Гейделис». У літоўскай мове *gaidelis* азначае «певень», сустракаецца і такое літоўскае прозвішча. Магчыма, прозвішча мясцовага жыхара і запісалі расійскія тапографы на карту таго часу.

На паўночным беразе возера знаходзіцца вёска Янкішкі, раней — аднайменны фальварак.

**Ясюкí (Ясюкóўскае)** — возера ў басейне р. Галбяіца, за 25 км на ўсход ад г. Паставы, за 0,5 км на ўсход ад г. п. Варапаева, каля в. Ясюкі. Назва мае фіна-ўгорскае паходжанне: *jootnsuu* (фін.) — «вусце», *я* (фін.) — «рака», *suue* (эст.) — «вусце ракі». Назву возера можна асэнсаваць як «месца, дзе заканчваецца рака».

# 3. НАЗВЫ ВУЛІЦ І ПЛОШЧАЎ ГОРАДА ПАСТАВЫ

## 3.1. Урбанімія Пастаўшчыны

У грамадстве паступова ўмацоўваецца думка, што геаграфічныя назвы, якімі мы карыстаемся штодзённа і якія сталі неад’емнай часткай нашага жыцця, з’яўляюцца гістарычнай каштоўнасцю і духоўнай спадчынай нашага народа. Найменні гарадоў, вёсак, вуліц, урочышчаў і іншых аб’ектаў звычайна ўтвараліся натуральным шляхам у выніку сумеснай дзейнасці людзей і фіксавалі найбольш адметныя іх асаблівасці. Таму, зразумела, назвы, якія гучалі з вуснаў нашых продкаў і сто, і дзвесце, і шэсцьсот гадоў, патрабуюць ад нас, нашчадкаў, ашчадных адносін і аховы.

Аднак натуральны працэс існавання назваў у пэўных гістарычных варунках мог перапыняцца і гвалтоўна змяняцца пад уздзеяннем акупацыйных адміністрацый і варожых да мясцовага насельніцтва ўладаў. На Пастаўшчыне гэта праявілася ў часы Першай і Другой сусветных войнаў, калі тэрыторыя раёна была захоплена германскімі войскамі, і ў міжваенны час, калі мясцовае польскае кіраўніцтва ўвяло ва ўжытак шэраг новых найменняў. Але асабліва моцныя змены урбаніміі (назваў гарадскіх аб’ектаў) адбыліся ў 1939 годзе, калі Заходняя Беларусь была далучана да СССР. Новая адміністрацыя, якая складалася пераважна з выхадцаў з Расіі і ўсходніх раёнаў Беларусі, гвалтам, без уліку нацыянальных і культурна-гістарычных традыцый, без уліку думкі мясцовых жыхароў змяніла большасць назваў вуліц у Паставах і некаторых мястэчках. Працэс іх штучнага ўтварэння прадоўжыўся пасля вайны. У выніку зараз мы маем кангламерат найменняў, сярод якіх пераважаюць назвы вытворча-рэвалюцыйна-савецкай тэматыкі і якія не толькі не звязаны з нашай мясцовасцю, але значная іх частка не мае амаль ніякага дачынення да Беларусі наогул. У выніку штучнага перайменавання толькі 4 вуліцы з забудовы 1939 года сэнсава захавалі

свае гістарычныя найменні: Чыгуначная (Каляёвая), Паркавая, Ціхая, Вакзальная (Дварцовая). Затое большая група назваў астатніх вуліц — гэта або словы-сімвалы рэвалюцыйна-савецкай тэматыкі (Кастрычніцкая, Першамайская, Пралетарская, Камсамольская і інш.), або вытворчай (Заводская з двума Заводскімі завулкамі, Камунальная, Кааператыўная, Меліярацыйная і інш.), або звязаны з прозвішчамі людзей (іх найбольш — 30). З гэтых трыццаці назваў 10 утворана ў гонар удзельнікаў Другой сусветнай вайны, прычым толькі 5 з іх звязаны з Пастаўшчынай, 8 — дзеячаў Кастрычніцкай рэвалюцыі (1 з Пастаўшчыны), 10 пісьменнікаў (6 рускіх і 4 беларускіх) і 2 касманаўты. Назваў, якія б адлюстроўвалі прыродную і гістарычную самабытнасць Пастаўшчыны, амаль не засталося. Падобная сітуацыя існуе і ў іншых населеных пунктах Беларусі.

Разумеючы абсурднасць такога становішча, у многіх гарадах пайшлі па шляху перайменавання вуліц — вяртання ім гістарычных найменняў або змянення ў адпаведнасці з беларускімі традыцыямі і беларускай культурай. Так, найбольш назваў — 58 — было зменена ў горадзе Маладзечна, значная колькасць гістарычных урбанонімаў з’явілася, у тым ліку і за апошні час, на картах Мінска, Гродна, Полацка і некаторых іншых паселішчаў. У Паставах пакуль што гэтага не адбываецца, хоць, зразумела, гарадская тапанімія вартая паступовага і мэтанакіраванага ўпарадкавання.

Наогул, навукоўцы выдзяляюць чатыры галоўныя метады, якія варта выкарыстоўваць пры ацэнцы стану урбаніміі і разглядзе магчымых варыянтаў змянення назваў. Да іх адносяць: метад рэстаўрацыі — аднаўленне гістарычнай назвы вуліцы або плошчы; метад рэканструкцыі — наданне вуліцы назвы па адметным гістарычным аб’екце, які на ёй знаходзіцца або знаходзіўся раней у выпадку, калі гістарычная назва не захавалася; геаграфічны метад — адлюстраванне ў назве пэўных геаграфічных асаблівасцяў аб’екта (накірунак, месцазнаходжанне, адметнасці рэльефу, гідраграфіі і іншых); метад персаніфікацыі (патранімічны) — наданне аб’екту назвы ў гонар пэўнай выдатнай асобы.

Паспрабуем разгледзець вуліцы Паставаў з пазіцый мэтазгоднасці і варыянтнасці перайменавання.

Як і ў часы Тызенгаўзаў, асноўнымі артэрыямі горада з'яўляюцца чатыры вуліцы, якія разыходзяцца ад былой Рынкавай плошчы ў напрамках на чатыры бакі свету. На поўнач ідзе Ленінская (ранейшая назва — Браслаўская), на поўдзень — Савецкая (раней — Віленская), на захад — 17 Верасня (раней — Задзеўская), на ўсход — Чырвонаармейская (раней — Лучайская). Усяго ж на плане Паставаў 1798 года можна налічыць толькі 8 вуліц, бо ўся забудова мястэчка вялася на той час вакол Рынкавай плошчы і на Зарэччы каля францысканскага кляштара (месца сучаснага касцёла). На 1939 год у горадзе мелася ўжо 17 вуліц і 3 плошчы — Рынак Стары (зараз плошча Леніна), Рынак Задзеўскі (зараз плошча Камсамольская) і Новы Рынак (у раёне сучаснай СШ № 2). У пачатку 3-га тысячагоддзя ў Паставах налічвалася 58 вуліц, 15 завулкаў і 5 невялікіх плошчаў.

Назвы чатырох галоўных вуліц горада з'явіліся, верагодна, у XV–XVI стагоддзях і мелі практычнае сэнсавае значэнне — яны паказвалі кірунак на бліжэйшыя адметныя населеныя пункты, з якімі Паставы ў тыя часы звязвалі трывалыя эканамічныя сувязі. Віленская вуліца вяла ў напрамку на былы ваяводскі, пазней губернскі цэнтр, куды часта ездзілі прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі, шляхта, святары, гандляры. Вільня была сталіцай Вялікага Княства, і зразумела, што менавіта там віравала эканамічнае, свецкае і культурнае жыццё. У 1939 годзе Віленскую вуліцу перайменавалі на Савецкую. Яна згубіла сваё сэнсавае значэнне (указанне накірунку) і ператварылася ў назву-сімвал, якая, на думку яе аўтараў, павінна была засведчыць адметнасць сацыялістычных пераўтварэнняў у горадзе. Аднак калі задумацца, то выйшла наадварот. Па правілах тапаніміі ды і па логіцы здаровага сэнсу, калі ў горадзе ёсць адна вуліца Савецкая, то астатнія — несавецкія, ці, можа, наогул антысавецкія. Таму такая назва абсурдная сама па сабе. Хаця яна можа мець сэнс, калі дапусціць, што вуліца Савецкая — нейкі пэўны анклаў, рэзервацыя ў несавецкім горадзе Паставы. Зыходзячы з гэтых меркаванняў, у бліжэйшай перспектыве вуліцы трэба вярнуць былую назву Віленская, улічваючы і тое, што на ёй размешчаны адметны турыстычны і культурны аб'ект — палац Тызенгаўзаў.

Другая па значэнні вуліца горада — Браслаўская — сваёй назвай паказвала накірунак на Браслаў, што таксама мела практычнае значэнне для гандляроў і падарожнікаў. Заўважым, што па дарозе на гэты горад ляжаць такія даволі значныя паселішчы, як Казяны, Відзы, Опса, аднак яны не сталі асновай утварэння вулічнага наймення. Гэта сведчыць пра тое, што менавіта Браслаў у сярэднявеччы быў культурніцка-эканамічным арыенцірам для пастаўчан у паўночным накірунку. У 1939 годзе вуліца атрымала патранімічную назву Ленінская ў гонар кіраўніка партыі бальшавікоў і стваральніка Савецкай дзяржавы У. І. Ульянава. Роля гэтай асобы ў гісторыі спрэчная і неадназначная: адны звязваюць з імем Леніна практыку пабудовы справядлівага грамадскага ладу на аснове ідэй сацыялізму і камунізму, іншыя — стварэнне жорсткага палітычнага рэжыму, наступствамі якога сталі рэпрэсіі, гвалт, забойствы, войны, якія закранулі амаль кожную беларускую сям’ю. Таму варта было б вуліцы вярнуць палітычна нейтральную і маючую практычны сэнс назву Браслаўская.

Трэцяй важнейшай артэрыяй горада была вуліца Лучайская. Яна вяла на бліжэйшае мястэчка Лучай, якое выдзялялася адметным касцёлам Св. Тадэвуша і сядзібна-паркавым ансамблем, што належаў вядомым беларускім магнацкім родам Забжэзінскіх, Глябовічаў, Агінскіх, Пузынаў, Мастоўскіх. Гэтым і вызначалася важнасць Лучая для сярэднявечных Паставаў. У 30-я гады ХХ стагоддзя польская адміністрацыя перайменавала вуліцу, надаўшы ёй назву ў гонар паплечніка Юзафа Пілсудскага міністра ўнутраных спраў Польшчы Браніслава Перацкага, які быў забіты ў выніку тэрарыстычнай акцыі, арганізаванай у Варшаве ўкраінскай патрыятычнай арганізацыяй пад кіраўніцтвам Сцяпана Бандэры. У 1939 годзе гэта вуліца стала Чырвонаармейскай. Зноў жа, новая назва несла пэўную палітычную афарбаванасць, але з тапанімічнага погляду не мела сэнсу, бо па гэтай вуліцы неаднаразова праходзілі не толькі аддзелы Чырвонай Арміі, але (і значна часцей) польскія ўланы, якія размяшчаліся ў кашарах 5-га гарадка, і германскія войскі ў часы Першай і Другой сусветных войнаў. Зараз сучасную назву можна звязаць хіба з помнікам і брацкай магілай салдат, якія вызвалялі горад ад фашыстаў. Але

ўсё ж больш лагічным здаецца вяртанне і гэтай вуліцы яе гістарычнага наймення Лучайская, тым больш, што яна падкрэслівае нашу мясцовую адметнасць і з'яўляецца, напэўна, адзінкавай для беларускіх гарадоў.

Чацвёртая цэнтральная вуліца горада — Задзеўская. Яна вяла ад Рынкавай плошчы на захад на былое мястэчка Задзеўе. Зараз гэта невялічкая вёсачка, якая ўжо амаль знікае, а ў сярэднявеччы тут знаходзілася даволі вялікая і шумнае паселішча з касцёлам, каля якога адбываліся шматлюдныя фэсты на Спаса. Таму не дзіўна, што і назва вуліцы паказвала накірунак на Задзеўе. Сучасная назва 17 Верасня з'явілася ў 1939 годзе як сімвал даты аб'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі пад уладай Саветаў. Сама падзея вельмі важная для краіны, бо злучыла ў адно цэлае кавалкі нашай падзеленай дзяржавы, таму і назва мае права быць, але, думаецца, яе варта перанесці на якую іншую вуліцу, а Задзеўскай усё ж вярнуць яе гістарычнае найменне.




*Забудова мястэчка Паставы ў пачатку XX ст.*

Калі даўнейшыя назвы пастаўскіх вуліц многія жыхары ведаюць, то пра найменні іншых старых гарадскіх артэрый чулі, напэўна, адзінкі. А яны таксама адметныя, цікавыя і, магчыма, вартыя рэанімацыі. Сярод іх у першую чаргу трэба выдзеліць вуліцу Базыльянскую, якая вяла ад цэнтра на поўнач, адгаліноўваючыся ад Браслаўскай. Зараз яна называецца ў гонар рускага савецкага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага, які ні да Пастаўшчыны, ні да

Беларусі ніякага дачынення ня меў. Паколькі гэта назва патранімічная, то варта зазначыць наступную акалічнасць: больш правільна вуліцы, якія называюцца ў гонар людзей падаваць у форме прыметнікаў, якія характарызуюць прыналежнасць, адказваючы на пытанні «якая?», «чыя?» (напрыклад, Купалаўская, Горкаўская і да т. п.). Праўда, не з усіх прозвішчаў можна атрымаць такія формы. Заўважым, што ў побытавых размовах слова «вуліца» часта не ўжываецца, а называецца яе ўласнае імя, што прыводзіць да недарэчных моўных канструкцый: «пойдзем на Горкага», «магазін на Гагарына», «лужына на Крупскай», «праехаў Астроўскага». Атрымліваецца так, што, імкнучыся ўшанаваць імя пэўнага вядомага чалавека, назваўшы ў яго гонар вуліцу, мы несвядома абражаем і шмальцуем памяць пра яго. Магчыма, лепш было б усталяваць помнікі. Ды і ці задумваемся мы над тым, як бы паставіліся класікі, каб яны былі жывыя, да таго, што іх прозвішча напісана на шыльдах дамоў якой-небудзь недагледжанай, неахайнай вуліцы. Але ж памерлыя не пярэчаць, а мы быццам бы цешымся.

Але вернемся да Базыльянскай. Несумненна, гэту назву трэба рэстаўрыраваць, бо яна нагадвае пра адну з адметнасцяў сярэднявечных Паставаў — прысутнасць у мястэчку базыльянаў, манахаў грэка-каталіцкага (уніяцкага) ордэна Святога Васіля (Базыля) Вялікага. І не толькі прысутнасць, а і вельмі значны ўплыў іх на развіццё горада. Фактычна імі быў заснаваны новы раён, які называўся Іасафатава, дзе знаходзіўся базыльянскі манастыр і царква. Пра гэта згадваецца ў прывілеі краля Аўгуста II ад 21 красавіка 1713 года. Пра пастаўскіх базыльянаў вядома пакуль што мала, бо дзейнасць ордэна была прыпынена ў трыццатыя гады XIX стагоддзя, а пабудовы манахаў з цягам часу знішчаны.

Наш горад можа ганарыцца і яшчэ адной арыгінальнай назвай, якая зафіксавана ў Беларусі яшчэ толькі ў Гродна. Гэта — Юрысдыка. Для сучаснага чалавека гэта слова мала пра што гаворыць, хоць тэрмін і вывучаецца ў курсе гісторыі сярэдняй школы. Варта нагадаць, што юрысдыка (або юрыдыка) — гэта адміністрацыйна незалежная, адасобленая частка горада ў Вялікім Княстве Літоў-

скім, на якую не распаўсюджвалася адміністрацыйная і судовая ўлада мясцовага кіраўніцтва. Такім чынам, назва падказвае, што ў нашым горадзе ў сярэднявеччы мелася тэрыторыя, якая жыла па сваіх унутраных правілах і законах. Чаму склалася такая сітуацыя? Тлумачыцца гэта тым, што Паставы заўсёды былі прыватнаўласніцкім мястэчкам і належалі розным магнатам (Зяновічы, Радзівілы, Пацы, Бяганскія, Тызенгаўзы, Пшаздзецкія). Акрамя іх зямлёй у паўночнай частцы паселішча валодалі царква і касцёл. Менавіта там і была Юрысдыка — тэрыторыя, якая жыла па сваіх правілах і не падпарадкоўвалася местачковай уладзе. Зараз гэта вуліца Паўліка Марозава. У часы СССР імя гэтага хлопчыка было сімвалам барацьбы з кулакамі і іншымі класавымі ворагамі, на яго прыкладзе ў школах выхоўвалі юных рэвалюцыянераў і будаўнікоў светлай камуністычнай будучыні. Зараз расійскія гісторыкі ставяць пад сумненне гераізм Паўліка, ацэньваючы тое, што адбылося ў сапраўднасці, як сямейна-бытавую драму крымінальнага характару. Сутнасць падзеі палягала ў наступным. У вёсцы Герасімаўка, што на Урале, у сям'і даволі заможнага Трафіма Марозава, старшыні мясцовага сельсавета, было чацвёра дзяцей, сярод якіх і піянер Паўлік. Бацька кінуў сям'ю, перайшоў жыць да жанчыны па суседству. Займаючы пасаду старшыні, ён прыязна ставіўся да мясцовых жыхароў, дапамагаў перасяленцам, пакрываў заможных гаспадароў («кулакоў»). За гэта яго знялі з пасады і судзілі. На працэсе ў якасці сведкі выступіў і Паўлік, які абвінаваціў роднага бацьку і дзеда ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Вось цытата з яго выступу: «Дяденьки, мой отец творил явную контрреволюцию, я как пионер обязан об этом сказать, мой отец не защитник интересов Октября, а всячески старается помогать кулаку сбежать, стоял за него горой, и я не как сын, а как пионер прошу привлечь к ответственности моего отца, ибо в дальнейшем не дать повадку другим скрывать кулака и явно нарушать линию партии…»

Праз некаторы час, калі аднойчы Паўлік з братам пайшлі ў ягады, дзед разам з Паўлікавым стрыечным братам падпільнавалі іх і зарэзалі. У час суда над забойцамі, растыражыраваны прапагандай, і ўзнік легендарны арэол вакол асобы падлетка,

як нязломнага і самаахвярнага барацьбіта з кулакамі. Г. П. Вішнеўская напісала: «И появляется достойнейший образец для подражания — двенадцатилетний предатель Павлик Морозов, „геройски павший в классовой борьбе», удостоенный за своё предательство памятников, портретов, прославленный в песнях и стихах, на которых будут воспитываться следующие поколения. Павлик Морозов, которого и сегодня миллионы советских детей славят за то, что он донёс на собственного отца и деда. Как в гитлеровской Германии учили немецких детей доносить на своих родителей, так и у нас в России начали сознательно воспитывать поколение стукачей, уже начиная со школы». На падставе ўсяго гэтага ўзнікае пытанне: «Навошта нам у Паставах ушаноўваць памяць сумніўнага "героя" з далёкіх ад Беларусі краёў?» Пытанне, здаецца, рытарычнае.

У вуліцы Паўліка Марозава ёсць і яшчэ адна, неафіцыйная, назва, якая зрэдку гучыць у размовах жыхароў, — Красная. Калі яна ўзнікла невядома, але можна меркаваць, што сэнс яе зводзіцца не да колеру («чырвоная»), а да значэння «прыгожая, пекная». Падобную назву мае мястэчка Краснае каля Маладзечна.

Яшчэ адной важнай вуліцай горада раней (ды і цяпер) з'яўляецца Зарэчная, якая зараз называецца Гагарына. Аргументаў супраць таго, каб у Паставах была вуліца Гагарынская, няма, бо, сапраўды, першы палёт у космас — гэта падзея агульначалавечай вартасці і сам касманаўт — выдатная асоба ў гісторыі зямной цывілізацыі. І ўсё ж лагічна было б і гэтай вуліцы вярнуць яе былую назву. Чаму? Па-першае, яна паказвае месцазнаходжанне і адначасова сведчыць пра тое, што гістарычны цэнтр Паставаў здаўна знаходзіўся на левым беразе Мядзелкі. Па-другое, гэта вуліца — галоўная артэрыя старадаўняга пастаўскага прадмесця, якое мела аналагічную назву Зарэчча. У розныя часы тут знаходзіўся Новы рынак, фальварак, піўзавод Пергамента, польская школа і іншыя адметныя аб'екты. Існавала правільная квартальная забудова з вуліцамі Кляновая, Тапалёвая, Сасновая, Канстанціна Тызенгаўза, Школьная. Паводле прывілея караля Аўгуста II ад 21 красавіка 1713 года, на Зарэччы дазвалялася праводзіць у год два трохдзённыя кірмашы, тры аднадзённыя і

базары па аўторках. На сённяшні дзень планіроўка прадмесця значна зменена і сучасныя вуліцы часткова не супадаюць з даўнейшымі. Тым не менш іх адпаведнасць можна прасачыць. Так, вуліца Таполевая супадае з сучаснай Піянерскай, вуліца Канстанціна Тызенгаўза — з Кляра, Сасновая і Школьная (часткова) — з Крупскай, Кляновая — з Трудавой. Як бачым, ранейшыя назвы былі палітычна нейтральнымі і адлюстроўвалі асаблівасці расліннасці і размяшчэння (каля школы — не супадае з сучаснай СШ № 2). Вуліца Сасновая мела і кірункавае значэнне — яна паказвала напрамак на прыгарадны лес, які і зараз называецца Сасноўка.

Можна лічыць справядлівым, што адна з вуліц на Зарэччы называлася ў гонар вядомага арнітолага і мецэната Канстанціна Тызенгаўза, пры якім Паставы сталі вядомым навуковым і культурным цэнтрам. Але пасля вайны яна атрымала назву ў гонар В. І. Кляра — генерал-маёра, які вызваляў Паставы ад фашысцкіх захопнікаў і якому пастаўлены абеліск на цэнтральнай плошчы горада. Думаецца, гэта правільна, калі прозвішчы вызваліцеляў і абаронцаў нашага краю адлюстроўваюцца ў мясцовай тапаніміцы. Толькі ці варта было мяняць К. Тызенгаўза на Кляра? Пытанне дыскусійнае, і на яго няма адназначнага адказу. Дарэчы, гэту вуліцу ў размовах жыхароў сяды-тады называюць Народнай. Калі і як узнікла такое найменне, пакуль што невядома.

Большасць назваў пасляваенных вуліц на Зарэччы ўвогуле не выклікае вялікіх заўваг, бо ўтвораны яны пераважна ад прозвішчаў асоб, якія або звязаны з Пастаўшчынай, або з’яўляюцца адметнымі дзеячамі гісторыі, навукі, культуры (Кірычука, Сідарэнкі, Ціхана, Веры Харужай, Заслонава, Камарова, Някрасава). Упарадкаванню падлягае назва вуліцы Трудавая, бо паводле артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб найменнях геаграфічных аб’ектаў», які ўступіў у сілу напрыканцы 2010 года, назва аб’екту прысвойваецца на беларускай мове, а затым транслітаруецца на рускую мову і таксама афармляецца сродкамі лацінскай графікі. Па-беларуску «труд» — гэта «праца», таму найменне вуліцы павінна быць «Працоўная», а ў рускамоўным

варыянце «Працовная». А можа лепш было б яе называць, як і раней, — Кляновая?

І яшчэ адна урбанімічная праблема Зарэчча — гэта наяўнасць трох(!) Меліярацыйных вуліц з Меліярацыйным завулкам. Ствараецца ўражанне, што тут створана ўсё магчымае, каб заблытаць не толькі замежных шпіёнаў, але і мясцовых жыхароў. А яшчэ ж і нумарацыя дамоў: 1А, 1Б, 1В, 1Г, 1Е, 5А, 5Б, 5В, 5Г, 5Д, 9А/1, 9А/2. Што ж, будаўніцтва працягваецца, і літар у беларускім алфавіце яшчэ хапае ☺.

Два даваенныя найменні былі звязаны з чыгункай, якая прайшла праз Паставы ў канцы XIX стагоддзя. Адна з іх называлася Дварцова (Dworcowa), другая — Каляёва (Kolejowa). У сучасным урбанімічным ландшафце горада яны захавалі свой сэнс у перакладзе з польскай мовы на беларускую: *dworec* — «вакзал» (вуліца Вакзальная); *kolejowa* — «чыгунка» (вуліца Чыгуначная (Железнодорожная). Дарэчы, і ў рускамоўным варыянце, паводле Закона, назва павінна транслітаравацца і запісвацца як «Чыгуночная», а не «Железнодорожная».

Яшчэ дзве важныя сучасныя вуліцы ў цэнтры горада мелі ў даваенны час іншыя назвы: Камсамольская называлася «11 Лістапада», Кастрычніцкая — «Польна» (Polna). Што яны азначалі? Першая была нададзена ў гонар Дня незалежнасці Польшчы, калі 11 лістапада 1918 года пасля 125 гадоў неіснавання краіна зноў з'явілася на карце Еўропы. Другая ў перакладзе з польскай мовы азначала «Палявая»: за ёй на той час сапраўды знаходзілася поле. Зараз вуліца з такой назвай ёсць у 6-м гарадку.

Такім чынам, з васямнаццаці даваенных вуліц у Паставах толькі дзве (Паркавая і Ціхая) захавалі свае назвы, астатнія ж зменены або перароблены. Значныя трансфармацыі адбыліся і з найменнямі гарадскіх плошчаў — Леніна і Камсамольскай (Рынак Задзеўскі). Цэнтральная плошча Паставаў з даўніх часоў называлася Рынак, Рынкавая, а са з'яўленнем на Зарэччы Новага рынку — Рынак Стары. У міжваенным часе «пры Польшчы» яна называлася ў гонар начальніка польскай дзяржавы — «маршала Пілсудскага». У 60-я гады XX стагоддзя была «плошчай Свабоды», цяпер — «плошча Леніна». Відавочна, што і назва, і

змрочны помнік утвараюць дысананс у архітэктурным ансамблі гарадскога цэнтра. Большасць жыхароў разумее, што найменне плошчы мусіць быць зменена. Толькі якой назвай? З гістарычнага пункту гледжання варта было б вярнуць «Рынак», але даўно прамінулі ўжо часы, калі тут гулі кірмашы і базары, плошча страціла сваё былое функцыянальнае значэнне. Да таго ж у Паставах на сённяшні дзень дзейнічаюць два рынкі, і з’яўленне трэцяга, хоць толькі і ў назве, дадасць блытаніны, асабліва для гасцей горада і турыстаў. Але, можа, «Стары Рынак» было б і нядрэнна.

Такім чынам, разгляд тапаніміі цэнтральных вуліц Паставаў дазваляе зрабіць некалькі высноў: па-першае, палітычныя працэсы на працягу XX стагоддзя моцна паўплывалі на назвы гарадскіх аб’ектаў, прывялі да замены ранейшых гістарычных на штучныя сучасныя, якія ў значнай ступені не адпавядаюць ні нацыянальным, ні культурным традыцыям нашага рэгіёна; па-другое, гарадская тапанімія патрабуе ўпарадкавання з улікам гісторыі ўтварэння найменняў, іх сэнсавага значэння, адпаведнасці нормам беларускага правапісу і Закона «Аб найменнях геаграфічных аб’ектаў», а таксама з улікам думак і меркаванняў мясцовых жыхароў.

Як бачна з прапанаванага матэрыялу, у Паставах значная колькасць назваў вартая змен і ўпарадкавання. Але трэба разумець, што імклівыя змены тапаніміі адбываюцца ў час рэвалюцый або акупацый. У часы мірнага жыцця ўпарадкаванне назваў павінна праходзіць паступова і мэтанакіравана, бо сам працэс звязаны не толькі з заменай шыльдаў на дамах, але і з іншымі шматлікімі аб’ёмнымі матэрыяльнымі і фінансавымі выдаткамі: замена адрасоў у пашпартах і дамавых кнігах жыхароў, замена рэквізітаў, рэкламнай прадукцыі, упаковак для прадпрыемстваў, праходжанне неабходных нарматыўных працэдур у дзяржаўных органах і, магчыма, штосьці яшчэ. Але справу трэба пачынаць, і, спадзяюся, гэты артыкул дасць пачатак абмеркаванню варыянтаў упарадкавання назваў розных геаграфічных аб’ектаў на Пастаўшчыне.

## 3.2. Урбанімічны слоўнік

### *Вуліцы мястэчка Паставы канца XVIII стагоддзя (паводле плана Паставаў 1798 года)*

Пасля далучэння ўсходняй часткі Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі ў час другога і трэцяга падзелу Пастаўшчына апынулася ў межах суседняй дзяржавы. У 1798 годзе быў складзены план мястэчка Паставы — першы афіцыйны дакумент, які адлюстроўваў тагачасны стан паселішча.

Аналіз гэтага плана (а выканаы ён у маштабе 1:10000) дазваляе вызначыць некаторыя асаблівасці населенага пункта. Бачна, што цэнтрам горада з'яўлялася Рынкавая плошча. Яна атрымала назву па сваім функцыянальным прызначэнні: тут перыядычна адбываліся базары і кірмашы. Прамавугольная гандлёвая плошча, забудаваная па праекце Дж. дэ Сака, мела памеры 295 на 93 метры з будынкамі гандлёвых радоў па цэнтры, муравандымі дамамі рамеснікаў і гандляроў па перыметры. Пасярэдзіне плошчы, бліжэй да яе паўднёвага боку, знаходзіўся вялікі, з унутраным праездам, квадратны рынак, на заходнім баку ў цэнтры стаяў двухпавярховы будынак канцылярыі і суда, абапал сіметрычна размяшчалася шэсць дамоў рамеснікаў, а на ўскрайках — двухпавярховы дом урача і гасцініца. У цэнтры ўсходняга боку плошчы знаходзіўся двухпавярховы будынак школы з вежай, абапал якога на аддаленні стаялі




*План Паставаў 1798 г.*

два драўляныя храмы: на поўначы — касцёл, на поўдні — царква. На паўднёвым баку цэнтральнае месца займала кавярня, абапал якой размяшчаліся два аднатыпныя гатэльчыкі. На супрацьлеглым баку знаходзіўся Г-падобны будынак аўстэрыі і тры дамы рамеснікаў. Усяго на плошчы знаходзіўся 21 будынак, каменныя барочныя фасады якіх утваралі суцэльны манументальны архітэктурны ансамбль.

Асноўнымі артэрыямі Паставаў на той час былі чатыры вуліцы, якія разыходзіліся ад Рынкавай плошчы ў напрамках на чатыры бакі свету. На поўнач ішла Браслаўская (сучасная назва — Ленінская), на поўдзень — Віленская (цяпер — Савецкая), на захад — Задзеўская (цяпер — 17 Верасня), на ўсход — Зарэчная, пазней Лучайская (цяпер — Чырвонаармейская). Усяго ж на плане Паставаў 1798 года можна налічыць толькі 8 вуліц, бо ўся забудова мястэчка вялася на той час вакол Рынкавай плошчы і на Зарэччы каля францысканскага кляштара. Вуліцы на той час былі кароткія. Віленская вяла прыблізна да Гарбаркі, далей — каля палацавага комплексу Тызенгаўзаў. Задзеўская заканчвалася дзесьці каля сучаснай Камсамольскай плошчы, Лучайская выходзіла на поле за сучасным раённым домам культуры, Браслаўская існавала толькі да павароту на МСО, Зарэчная працягвалася да сучаснай вуліцы Кляра.

Назвы іншых трох вуліц засталіся невядомымі: гэта пачаткі цяперашніх Кастрычніцкай, П. Марозава і Кляра. У народнай памяці засталіся назвы, якія звязаны з некаторымі з іх. Так, вуліцу П. Марозава зрэдку называюць «Красная», а вуліцу Кляра — «Народная». Аднак вызначыць, калі яны ўзніклі, не ўяўляецца пакуль магчымым.

## *Вуліцы горада Паставы да 1939 года (паводле схемы 1939 года, складзенай Г. Жаброўскім)*



*Схема г. Паставы 1939 г., складзеная Г. Жаброўскім*

Плана г. Паставы перадваеннага часу пакуль што выявіць не ўдалося, але ў працэсе работы была магчымасць выкарыстаць падрабязную схему мястэчка да 1939 года, якая была складзена польскім інжынерам-гідролагам Генрыкам Жаброўскім у маштабе 1:20000. Яе аўтар, ураджэнец вёскі Міхнічы Пастаўскага павета Віленскага ваяводства, доўгі час збіраў матэрыялы па Пастаўшчыне. Напісаў вельмі падрабязную і цікавую кнігу «Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце на Віленшчыне», зрабіў картасхему горада Паставы 1939 года, знайшоў, запісаў і пераклаў на польскую мову народны лучайскі верш «Кірха».

Аналіз схемы паказвае, што ў горадзе Паставы да 1939 года было 17 вуліц і 2 рынкі.

Ніжэй падаецца скарочанае тлумачэнне сэнсавага значэння назваў вуліц горада Паставы паводле схемы Генрыка Жабоўскага 1939 года:

**Віленская** (сучасная Савецкая) — названая так, таму што вяла ў напрамку на былы ваяводскі, пазней губернскі цэнтр. Пачала фармавацца у XVIII стагоддзі, злучыўшы Рынкавую плошчу з сядзібным комплексам Тызенгаўзаў. Забудавана адна- і двухпавярховымі будынкамі пераважна XIX–XX стагоддзяў. Найбольш адметныя аб’екты на вуліцы: былыя яўрэйскія двухпавярховыя будынкі каля плошчы Леніна; прваахоўны комплекс з будынкамі міліцыі, пракуратуры, КДБ і суда; рэшткі сажалкі і былога канала Тызенгаўзаў; гасцініца (у мінулым — павятовае

староства); гарадскі парк Гарбарка; палац Тызенгаўзаў (зараз — раённая бальніца); біблейскі цэнтр «Выратаванне»; АЗС.

**Задзеўская** (сучасная 17 Верасня) — была названа так, таму што вядзе ў напрамку на былое мястэчка Задзеўе. Забудавана адна- і двухпавярховымі будынкамі пераважна XIX–XX стагоддзяў. На ёй знаходзіцца Камсамольская плошча (у мінулым — Рынак Задзеўскі) з адметным будынкам мастацкай школы, далей на захад — сучасны базар, прафтэхліцэй, 6-ы гарадок.

**Браслаўская** (сучасная Ленінская) — была названа так, таму што вядзе ў напрамку на Браслаў, Кураполле, Каз'яны, Дзвінск. Забудавана пераважна аднапавярховымі і двухпавярховымі будынкамі. Найбольш цікавыя ў архітэктуры пабудовы: дамы, дзе размяшчаюцца друкарня і рэдакцыя газеты «Пастаўскі край», раённае спажывецкае таварыства, пашпартны стол і некалькі прыватных будынкаў.

**Лучайская** (сучасная Чырвонаармейская) — была названа так, таму што вяла ў напрамку на мястэчка Лучай. Пачала фармавацца пераважна ў XVIII стагоддзі. Адметнымі аб'ектамі на вуліцы з'яўляюцца: будынак млына (зараз — Дом рамёстваў), мост з плацінай праз раку Мядзелка, лазня, Дом культуры, музычная школа, заводы «Беліт», «Школьнік», шэраг магазінаў.

**Зарэчная** (сучасная Гагарына) — была названа так, таму што вуліца працягвалася ўздоўж правага берага ракі Мядзелка. Забудавана адна- і двухпавярховымі будынкамі пераважна XIX–XX стагоддзяў.

**К. Тызенгаўза** (сучасная Кляра) — была названа ў гонар аднаго з вядомейшых уладальнікаў Паставаў, славутага навукоўца-арнітолага, чалавека, пры якім ў пачатку XIX стагоддзя мястэчка зазнала часы росквіту, Канстанціна Тызенгаўза.

**Таполевая** (сучасная Піянерская) — была названа так, таму што праходзіла ўздоўж пасадкаў таполяў.

**Кляновая** (сучасныя Трудавая, Школьная) — была названа так, таму што праходзіла ўздоўж пасадкі клёнаў.

**Юрысдыка** (сучасная Паўліка Марозава) — назва паходзіць ад наймення часткі гарадской тэрыторыі, якая вызвалялася ад вызначанага роду павіннасцяў — юрысдыкі.

**Базыльянская** (сучасная Максіма Горкага) — была названа так, бо раней у Паставах былі базыльяне — гэта манахі ўсходняга абраду ў каталіцкай царкве.

**Польна** (Ulica Polna) (сучасная Кастрычніцкая) — асновай назвы стала слова «поле», і па-беларуску яна гучала б як «Палявая».

**Каляёвая** (сучасная Чыгуначная) — была названа так, таму што гэта вуліца вяла да чыгункі Новасвянцяны–Беразвечча. Забудавана адна- і двухпавярховымі будынкамі пераважна XIX–XX стагоддзяў. «Каляёвая» па-беларуску азначае «Чыгуначная».

**Паркавая** (сучасная Паркавая) — была названа так, бо каля яе знаходзіцца возера Круглае (ранейшая назва — Паркавае). І знаходзілася яна непадалёку ад парку палацавага комплексу маёнтка Тызенгаўзаў.

**Ціхая** (сучасная Ціхая) — была названа так, бо на гэтай вуліцы заўсёды было ціха. Магчыма, назва з'яўляецца асацыятыўнай, бо на гэтай вуліцы здаўна знаходзяцца старыя гарадскія могілкі.

**11 Лістапада** (сучасная Камсамольская) — была названа так у гонар Дня незалежнасці Польшчы, які быў абвешчана 11 лістапада 1918 года.

**Дварцовая** (сучасная Вакзальная) — была названа так, бо вяла ў напрамку на чыгуначны вакзал. У польскай мове «dworzec» — «вакзал».

**Школьная** (частка сучаснай вуліцы Крупскай) — была названа так, таму што на ёй раней знаходзіўся будынак польскай школы.

**Рынак Задзеўскі** (сучасная Камсамольская плошча) — знаходзіцца ў цэнтры горада, на захад ад плошчы Леніна. Пачала фармавацца у XX стагоддзі. У пасляваенны час на ёй знаходзілася аўтастанцыя. Зараз мае колападобную форму з газонам пасярэдзіне. Ад плошчы адыходзяць вуліцы: 17 Верасня (два радыусы), Кастрычніцкая (2 радыусы), Ціхая. На плошчы знаходзяцца будынкі мастацкай школы, прыватнай аптэкі, кавярні «Хутарок».

**Рынак Стары** (сучасная плошчай Леніна) — знаходзіцца ў цэнтры горада. Названа была так, бо раней на ёй адбываліся базары і кірмашы. Цяпер называецца плошча Леніна.

## *Назвы вуліц горада Паставы пачатку XXI стагоддзя (паводле плана Паставаў 2006 года)*

На сучасным плане горада Паставы 2006 года налічваецца 72 вуліцы і 26 завулкаў. Маштаб плана горада Паставы 1:10000. У выніку перайменавання гістарычныя назвы вуліц былі зменены, з'явілася многа новых, якім надалі штучныя найменні.

Вуліцы горада Паставы па сэнсавым значэнні можна падзяліць на некалькі груп. Першая група — гэта вуліцы, якія былі названы словамі-сімваламі рэвалюцыйна-савецкай тэматыкі: Камсамольская, Кастрычніцкая, Партызанская, Першамайская, Пралетарская, Ленінская, 17 Верасня, Чырвонаармейская, Піянерская, Савецкая, Юбілейная. Другая — гэта вуліцы, якія былі названы ў гонар знакамітых пісьменнікаў: Гогаля, Дубоўкі, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага, Маякоўскага, Някрасава, Астроўскага, Пушкіна, Скарыны, Чэхава, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Гайдара. Трэцяя — вуліцы, якія былі названы словамі вытворчай тэматыкі: Камунальная, Кааператыўная, Меліярацыйная, Заводская. Чацвёртая — вуліцы, якія былі названы палітычна нейтральнымі словамі і адлюстроўвалі некаторыя іх асаблівасці: Зарэчная, Зялёная, Кароткая, Лясная, Лугавая, Набярэжная,




*Схема г. Паставы 1960-х гг., складзеная У. Чантурыя: 1 — лякарня (XVIII ст.); 2, 3, 5 — дамы рамеснікаў (XVIII ст.); 4 — заезны дом (XVIII ст.); 6 — школа (XVIII ст.); 7 — млын (XIX ст.); 8 — царква (канец XIX ст.); 9 — касцёл (канец XIX ст.)*

Азёрная, Паркавая, Пясочная, Палявая, Садовая, Сонечная, Стадыённая, Ціхая, Трудавая, Цвяточная, Школьная, Чыгуначная, Бальнічная, Вакзальная. Пятая — вуліцы, якія названы ў гонар удзельнікаў кастрычніцкай рэвалюцыі, удзельнікаў Першай і Другой сусветных войнаў: Юшкевіча, Станкевіча, Сідарэнкі, Паўліка Марозава, Асяненкі, Матросава, Маркава, Марата Казея, Крупскай, Кірава, Кірычука, Заслонава, Дзяржынскага, Гастэлы, Варашылава, Веры Харужай. Шостая — гэта вуліцы, якія былі названы ў гонар лётчыкаў-касманаўтаў: Камарова, Гагарына, Касманаўтаў.

Ніжэй падаецца тлумачэнне сэнсу і кароткае апісанне вуліц паводле плана горада Паставы 2006 года:

**17 Верасня —** названа па даце 17 верасня 1939 года, калі Чырвоная Армія ўвайшла на тэрыторыю Польшчы і далучыла да СССР Заходнюю Беларусь. Ранейшая назва вуліцы — Задзеўская. Яна вядзе ў напрамку на былое мястэчка Задзеўе. На ёй знаходзіцца Камсамольская плошча (у мінулым — Рынак Задзеўскі) з адметным будынкам мастацкай школы, далей на захад — сучасны базар, прафтэхліцэй, 6-ы гарадок.

**Азёрная** — названа па асаблівасці размяшчэння: каля возера Задзеўскае.

**Астроўскага** — названа ў гонар рускага савецкага пісьменніка Мікалая Аляксеевіча Астроўскага. Ён нарадзіўся 16 верасня 1904 года ў вёсцы Вілія Валынскай губерні. 20 ліпеня 1919 года ўступіў у камсамол, 9 жніўня пайшоў на фронт добраахвотнікам. Ваяваў у кавалерыйскай брыгадзе Г. І. Катоўскага. У жніўні 1920 года быў цяжка паранены ў спіну пад Львовам і дэмабілізаваны. Удзельнічаў у барацьбе з паўстанцкім рухам у часцях адмысловага прызначэння. У 1921 года працаваў памочнікам электраманцёра ў Кіеўскіх галоўных майстэрнях, вучыўся ў электратэхнікуме, адначасова быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. У 1922 годзе ўдзельнічаў у будаўніцтве чыгуначнай веткі для падвозу дроў у Кіеў, пры гэтым моцна застудзіўся, затым захварэў на тыф. Пасля хваробы — камісар батальёна «Всеобуча» ў Бярэздаве, быў сакратаром райкама камсамола ў Бярэздаве і Ізяславе, затым — сакратаром камсамола ў Шапя-

тоўцы. У тым жа годзе ўступіў у ВКП(б). З'яўляецца аўтарам кніг «Повесть о "котовцах"» (1927), «Как закалялась сталь» (1930–1934), «Рождённые бурей» (1936). Памёр 22 снежня 1936 года ў Маскве.

**Асяненкі** — названа ў гонар Васіля Мікалаевіча Асяненкі. Нарадзіўся 31 студзеня 1916 года ў вёсцы Ліпнікі Пастаўскага раёна. Да вайны працаваў у Вілейскім абласным упраўленні НКУС. У Вялікую Айчынную вайну быў намеснікам камандзіра па разведцы атрада імя Суворава, камандзірам атрада «Слава» брыгады імя Варашылава, адначасова з красавіка 1942 года па ліпень 1944 года — сакратаром Пастаўскага падпольнага райкама камсамола. Герой Сацыялістычнай Працы (1966). Узнагароджаны ордэнам Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны І ступені. З 1964 года працаваў першым сакратаром Глыбоцкага райкама партыі, у 1967–1976 гадах старшынёй партыйнай камісіі пры Віцебскім абкаме КПБ. Член ЦК КПБ у 1966–1971 гадах, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947–1951, 1963–1967 гадах. Памёр 13 чэрвеня 1977 года.

**Бальнічная** — названа так, бо размешчаная ў заходняй частцы горада каля былой бальніцы, якая знаходзілася каля сучаснага прафтэхліцэя (не супадае з месцазнаходжаннем сучаснай бальніцы).

**Вакзальная** — названа так, бо ідзе ў напрамку да чыгуначнага вакзала.

**Варашылава —** названа ў гонар савецкага партыйнага, дзяржаўнага і вайсковага дзеяча К. Я. Варашылава. Клімент Яфрэмавіч Варашылаў (23 студзеня 1881 года, сяло Верхняе, Кацярынаслаўская губерня, Расійская імперыя — 2 снежня 1969 года, Масква, РСФСР, СССР) — савецкі военачальнік, дзяржаўны і партыйны дзеяч, удзельнік грамадзянскай вайны, адзін з першых маршалаў Савецкага Саюза. У 1925–1940 гадах — наркам па ваенных і марскіх справах і наркам абароны СССР. У 1953–1960 — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Двойчы Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы. Удзельнік трох рэвалюцый у Расіі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

**Веры Харужай** — названа ў гонар удзельніцы рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, партызанкі, Героя Савецкага Саюза. Харужая Вера Захараўна (1903–1942) — дзеяч рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст, партызан, арганізатар патрыятычнага падполля ў Віцебску ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1960). 3 лютага 1924 года на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, з чэрвеня 1924 г. сакратар ЦК КСМЗБ, член ЦК КПБ(б) і ЦК КСМ Польшчы. У 1925 годзе арыштавана польскімі ўладамі. У верасні 1932 года абменена, прыехала ў Мінск. У 1935 годзе савецкімі ўладамі выслана на «Балхашбуд» (Сярэдняя Азія). Пасля ўз'яднання з Заходняй Беларуссю працавала на партыйнай рабоце. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны закінута ў віцебскае патрыятычнае падполле. Высачана і арыштавана 13 лістапада 1942 года. Пасля жорсткіх катаванняў расстраляна 4 ліпеня 1942 года.

**Гагарына —** названа ў гонар лётчыка-касманаўта СССР, першага чалавека, які здзейсніў палёт у космас. Юрый Аляксеевіч Гагарын (9 сакавіка 1934 года, в. Клушына, Гжацкага р-на Смаленскай вобл. РСФСР — 27 сакавіка 1968 года). 12 красавіка 1961 года на касмічным караблі «Усход-1» стартаваў з касмадрома Байканур і здзейсніў першы касмічны палёт, абляцеўшы зямны шар за 108 хвілін. У 1961 годзе Гагарын паступіў у Ваенна-паветраную інжынерную акадэмію імя Жукоўскага (Масква). Паралельна рыхтаваўся да далейшых касмічных палётаў. Загінуў у авіяцыйнай катастрофе паблізу в. Навасёлава Кіржацкага р-на Уладзімірскай вобл. падчас трэніровачнага палёту на самалёце УТЗ МіГ-15 разам з лётчыкам-інструктарам В. С. Сярогіным. Імем Гагарына названы кратар на зваротным баку Месяца; яго родны горад (Гжацк) перанайменаваны ў Гагарын. Таксама імя Гагарына нададзена ваенна-паветранай акадэміі пад Масквой. Міжнароднай авіяцыйнай федэрацыяй (ФАІ) заснаваны медаль імя Ю. А. Гагарына.

**Гайдара** — названа ў гонар рускага савецкага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў савецкай дзіцячай і юнацкай літаратуры. Аркадзь Пятровіч Гайдар (сапраўднае прозвішча яго — Голікаў) нарадзіўся (9) 22 студзеня 1904 года ў горадзе Льгове Курскай

губерні. Яго бацька быў настаўнікам. У гады Першай сусветнай вайны, калі бацьку забралі на фронт, Аркадзь спрабаваў збегчы за ім, але быў злоўлены і вернуты дахаты. У гады грамадзянскай вайны з 14 гадоў служыў у Чырвонай Арміі. У 15 гадоў камандаваў узводам, а ў 16 — ротай. Пасля заканчэння Вышэйшай стралковай школы ў 1921 годзе стаў камандзірам палка. У 1924 годзе звольніўся з войска з прычыны кантузіі і стаў пісаць кнігі. Першы яго твор «Р. В. С.» выйшаў у 1925 годзе. З таго часу ён стаў вядомы як дзіцячы пісьменнік, які ўслаўляў баявое таварыства, сяброўства і сумленнасць. Найбольш вядомыя яго творы «Школа», «Цімур і яго каманда», «Чук і Гек», «Лёс барабаншчыка», «Ваенная тайна». Аповесць «Цімур і яго каманда» стала знакавай і паклала пачатак так званаму «цімураўскаму» руху, мэтай якога была дапамога пажылым людзям і ветэранам. Аркадзь Гайдар загінуў 26 кастрычніка 1941 года, пахаваны ў горадзе Каневе. Імем Гайдара названы школы і бібліятэкі, вуліцы ў гарадах і мястэчках. Сын Аркадзя, Цімур Гайдар стаў контр-адміралам, а яго ўнук — Ягор Гайдар — самым маладым прэм’ер-міністрам у гісторыі Расіі.

**Гастэлы —** названа ў гонар М. Гастэлы, удзельніка баёў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза. Мікалай Гастэла — савецкі ваенны лётчык, удзельнік трох войнаў, камандзір 2-й эскадрыллі 207-га далёкабамбардзіровачнага авіяцыйнага палка, капітан. Нарадзіўся ў 1907 годзе ў Маскве. Бацька — Франц Гастэла, беларус, родам з вёскі Плужыны (цяпер у Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці). Маці — Настасся Кутузава, руская. Працаваў на Першым дзяржаўным механічным заводзе будаўнічых машын імя 1-га Мая. 26 чэрвеня 1941 года на самалёце ДБ-3ф бамбардзіраваў варожую танкавую калону на дарозе Маладзечна–Радашковічы. Агнём зенітнай артылерыі яго самалёт быў падбіты. Паводле афіцыйнай савецкай версіі, снарад пашкодзіў паліўны бак, і самалёт запалаў. Тады М. Гастэла з іншымі членамі экіпажа — лейтэнантам А. Бурдзенюком, лейтэнантам Р. Скарабагатым, старшым сяржантам А. Калінінам — накіравалі машыну на калону ворага. За гэты ўчынак Гастэла

атрымаў званне Героя Савецкага Саюза, знак «Залатая зорка» і ордэн Леніна (1941, пасмяротна).

**Гогаля** — названа ў гонар рускага пісьменніка Мікалая Васільевіча Гогаля. Нарадзіўся 20 сакавіка (1 красавіка) 1809 года ў сяле Вялікія Сарочынцы (цяпер Міргарадскі раён Палтаўскай вобласці, Украіна). З 1818 па 1819 год вучыўся ў Палтаўскім павятовым вучылішчы. З 1821 па 1828 год — у Нежынскай гімназіі вышэйшых навук. У 1828 годзе Гогаль пераязджае ў Пецярбург. Тут у 1829 годзе ён публікуе свой першы твор — паэму «Ганц Кюхельгартэн». Праз год у часопісе «Отечественные записки» з'яўляецца аповесць «Басаўрук, або Вечар перад Іванам Купалай», першая з цыклу «Вечары на хутары бліз Дзіканькі». У хуткім часе піша камедыю «Рэвізор». Неўзабаве пасля прэм'еры п'есы Гогаль выязджае на даволі працяглы час за мяжу. Ён наведвае Германію, Швейцарыю, Францыю, Італію. У 1842 годзе выйшла ў свет знакамітая паэма-раман «Мёртвыя душы». У 1848 годзе пісьменнік вярнуўся на радзіму, актыўна працаваў над другім томам «Мёртвых душ», але незадоўга перад смерцю спаліў рукапіс. Памёр М. Гогаль у 1852 годзе ў Маскве.

**Дзяржынскага —** названа ў гонар савецкага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, заснавальніка КДБ Ф. Дзяржынскага. Фелікс Дзяржынскі (партыйныя мянушкі: Яцак, Якуб, Пераплётчык, Франак, Астраном, Юзаф, Даманскі) — найбольш вядомы бальшавік беларускага паходжання. З шляхецкага роду Дзяржынскіх. Нарадзіўся ў сям'і шляхціца — настаўніка гімназіі ў маёнтку Дзяржынава Ашмянскага павета. Яшчэ хлопцам, гуляючы са стрэльбай, Дзяржынскі знянацку застрэліў сваю сястру Ванду. Бацькі схавалі гэты факт, каб не ўскладніць сыну далейшае жыццё. У маладосці Фелікс схіляўся да каталіцкага фанатызму, пэўны час хацеў уступіць у ордэн езуітаў ці стаць ксяндзом, але з 16 гадоў перакінуўся ў атэізм. Ён навучаўся ў 1-й Віленскай гімназіі, дзе ўступіў у сацыял-дэмакратычную арганізацыю і на Гедымінавай гары ў Вільні прысягнуў на змаганне супраць манархіі. Сышоў з апошняга класа гімназіі ў красавіку 1896-га, каб прысвяціць сябе партыйнай працы. З 1898 года вёў актыўную рэвалюцыйную дзейнасць у Пецярбургу, Варшаве, Берліне,

Кракаве. Сем разоў арыштоўваўся і трапляў у ссылку, адкуль неаднаразова ўцякаў. 16 кастрычніка 1917 года Дзяржынскі быў абраны ў Ваенна-Рэвалюцыйны Цэнтр, у складзе якога ён стаў адным з асноўных кіраўнікоў Кастрычніцкай рэвалюцыі, арганізаваў захоп пецярбургскіх пошты і тэлеграфа. 7 снежня 1917 года Дзяржынскі прызначаны кіраўніком Ваеннай Надзвычайнай Камісіі (ВЧК) — карнага органа камуністычнага рэжыму, папярэдніка НКУС і КДБ. На гэтай пасадзе ён набыў найбольшую вядомасць. Дзяржынскі стаўся тым, хто вызначыў асноўныя метады будучай карнай працы савецкай дыктатуры. Ён быў арганізатарам «чырвонага тэрору», ініцыятарам начных допытаў, правакацыйных метадаў, практыкі арыштаў закладнікаў і г. д. У 1920 годзе Дзяржынскі кіраваў падаўленнем антыкамуністычных паўстанняў на Украіне, кіраваў тылам Паўднёва-Заходняга фронту Чырвонай Арміі. З 1921 года займаў розныя пасады ў савецкім урадзе, у 1922–1926 гадах быў старшынёй ГПУ (ОГПУ). Памёр у Маскве.

**Дубоўкі —** названа ў гонар вядомага беларускага паэта У. Дубоўкі. Нарадзіўся ён 15 ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю (1918). Настаўнічаў у Тульскай вобласці (1918–1920), служыў у Чырвонай Арміі (1920–1921). Пасля дэмабілізацыі працаваў метадыстам і інспектарам беларускіх школ Наркамата асветы РСФСР і займаўся на творчым аддзяленні Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава, які скончыў у 1924 годзе. Быў сябрам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», першым рэдактарам часопіса «Беларускі піянер» (цяпер «Бярозка»). Працаваў рэдактарам беларускага тэксту «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР» (1922–1925), адказным сакратаром пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР (1923–1924), выкладчыкам беларускай літаратуры Камуністычнага ўніверсітэта народаў Захаду (1924–1927), рэдактарам «Збору законаў і загадаў рабоча-сялянскага ўрада Саюза ССР» (1926–1930). У 1930 годзе рэпрэсаваны. Зняволенне, высылку адбываў у Кіраўскай вобласці,

Чувашыі, на Далёкім Усходзе, у Грузіі, Краснаярскім краі. Пасля рэабілітацыі (1957) жыў у Маскве.

**Завадская** — названа так, бо размешчана каля льнозавода.

**Зарэчная** — названа так, бо знаходзіцца за ракой Мядзелкай, на яе правым беразе.

**Заслонава** — названа ў гонар аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падпольнага і партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны, кіраўніка падпольнай групы на чыгуначнай станцыі Орша, Героя Савецкага Саюза. Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў (25 снежня 1909 года (7 студзеня 1910 года), Асташкаў, Калінінская вобласць — 14 лістапада 1942 года, вёска Купаваць, Віцебская вобласць) — савецкі партызан, герой Вялікай Айчыннай вайны. Камандзір партызанскага атрада і брыгады, з кастрычніка 1942 года — камандуючы ўсімі партызанскімі сіламі аршанскай зоны.

Нарадзіўся ў сям'і рабочага. У 1930 годзе скончыў Вялікалукскую чыгуначную прафтэхшколу. З 1937 — начальнік паравознага дэпо станцыі Рослаў, з 1939 — паравознага дэпо «Орша». У пачатку вайны пры падыходзе нямецкіх войскаў да Оршы эвакуіраваўся ў Маскву і працаваў у дэпо імя Ільіча. У кастрычніку 1941 года па ўласнай просьбе быў адпраўлены ў тыл ворага ў складзе групы чыгуначнікаў. Партызанскі псеўданім — «дзядзька Косця». Стварыў падпольную групу, удзельнікі якой шляхам ужывання «вугальных мін» (міны, замаскіраваныя пад каменны вугаль) за тры месяцы падарвалі 93 нямецкія паравозы. З прычыны пагрозы арышту ў сакавіку 1942 года Заслонаў з групай пакінуў Оршу і арганізаваў партызанскі атрад, які правёў шэраг паспяховых баявых рэйдаў у раёне Віцебск — Орша — Смаленск, знішчыўшы вялікую колькасць варожых салдат і тэхнікі. 13 лістапада 1942 года Канстанцін Заслонаў загінуў у баі з карным атрадам у в. Купаваць Сенненскага раёна.

**Зялёная** — назва адлюстроўвае багатую расліннасць у ваколіцах вуліцы.

**Кааператыўная** — штучная назва ў гонар кааперацыі і кааператараў.

**Камарова** — названа ў гонар лётчыка-касманаўта СССР, інжынера-палкоўніка, двойчы Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Камарова. Нарадзіўся 16 сакавіка 1927 года ў Маскве. Свой першы касмічны палёт Уладзімір Камароў здзейсніў 12–13 кастрычніка 1964 года на борце касмічнага карабля «Восход» разам з касманаўтамі Канстанцінам Феакціставым і Барысам Ягоравым. Гэта быў першы ў свеце шматмесцавы касмічны карабель. Упершыню ў складзе экіпажа былі не толькі лётчык, але таксама інжынер і лекар. Таксама ўпершыню ў гісторыі экіпаж здзяйсняў палёт без скафандраў і выкарыстаў сістэму мяккай пасадкі. 24 красавіка 1967 года Камароў трагічна загінуў пры завяршэнні свайго другога касмічнага палёту.

**Камсамольская** — штучная назва ў гонар камсамольцаў.

**Камунальная** — штучная назва ў гонар камунальных служб і камунальшчыкаў.

**Кароткая** — назва адлюстроўвае адметнасць вуліцы — яе невялікую даўжыню.

**Касманаўтаў** — штучная назва ў гонар савецкіх касманаўтаў.

**Кастрычніцкая** — вуліца названа ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года ў Расійскай імперыі.

**Кірава** — названа ў гонар дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкага Саюза Сяргея Кірава. Нарадзіўся 15 сакавіка 1886 года ў горадзе Уржум Вяцкай губерні. У 1921 годзе выбраны кандыдатам у члены ЦК, становіцца Першым сакратаром ЦК кампартыі Азербайджана. У складзе групы ЦК быў накіраваны ў Ленінград для ідэалагічнай барацьбы з зіноўеўскай апазіцыяй. Узнагароджаны ордэнам Леніна. Забіты 1 снежня 1934 года ў Ленінградзе.

**Кірычука** — названа ў гонар удзельніка вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў В. Кірычука. Ён нарадзіўся 16 студзеня 1924 года ў вёсцы Саватычы Ківерцаўскага раёна Валынскай вобласці ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з сакавіка 1944 года. Наводчык процітанкавага ружжа радавы В. П. Кірычук адзін з першых пераправіўся цераз Заходнюю Дзвіну, агнём прыкрываў пераправу роты. Пры вызваленні Паставаў быў цяжка паранены. Памёр ад ран 13 ліпеня 1944 года.

Пасмяротна атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. У 1964 годзе на магіле пастаўлены помнік — на пастаменце скульптура воіна з прыспушчаным сцягам.

**Крупскай** — названа ў гонар Надзеі Крупскай, расійскай рэвалюцыянеркі, савецкага, партыйнага, грамадскага і культурнага дзеяча, доктара педагагічных навук, ганаровага члена АН СССР, жонкі У. Леніна. Яна нарадзілася 14 лютага 1869 года ў Санкт-Пецярбургу. У красавіку 1917 года дапамагала Леніну ў падрыхтоўцы і правядзенні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Займалася арганізацыяй пралетарскага юнацкага руху, стаяла ля вытокаў Сацыялістычнага звязу працоўнай моладзі, камсамола і піянерскай арганізацыі. З 1917 года з'яўлялася членам Дзяржаўнай камісіі па асвеце. Была членам ЦКК і ЦК ВКП(б). У 1929 годзе заняла пост намесніка наркама асветы РСФСР. Крупская стала адным са стваральнікаў савецкай сістэмы народнай адукацыі, сфармуляваўшы асноўную задачу новай асветы: «Школа павінна не толькі навучаць, яна павінна быць цэнтрам камуністычнага выхавання». Была актывістам савецкай цэнзуры і антырэлігійнай прапаганды. Памерла 27 лютага 1939 года ў Маскве.

**Кулажанкі** — названа ў гонар Генадзя Кулажанкі, які ў пачатку васьмідзясятых гадоў быў першым сакратаром райкама камсамола ў Паставах. Тут ён праявіў сябе як цікавы чалавек, добры арганізатар. Добраахвотнікам паехаў ваяваць у Афганістан, дзе і загінуў.

**Ленінская** — названа ў гонар Уладзіміра Ульянава, больш вядомага пад псеўданімам Ленін, — расійскага камуністычнага тэарэтыка, арганізатара і кіраўніка Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі, першага кіраўніка Савецкай дзяржавы. Ранейшая назва вуліцы — Браслаўская. Вядзе на Кураполле, Казяны, Браслаў, Даўгаўпілс. Забудавана пераважна аднапавярховымі, зрэдку двухпавярховымі будынкамі. Найбольш цікавыя ў архітэктуры пабудовы — гэта дамы, дзе размяшчаюцца друкарня і рэдакцыя газеты «Пастаўскі край», раённае спажывецкае таварыства, пашпартны стол і некалькі прыватных будынкаў.

**Лугавая** — назва адлюстроўвае геаграфічную асаблівасць ваколіц вуліцы.

**Лясная** — назва адлюстроўвае месцазнаходжанне вуліцы і паказвае, што яна знаходзіцца каля лесу.

**Максіма Багдановіча** — названа ў гонар класіка беларускай літаратуры, паэта, перакладчыка, крытыка, празаіка і гісторыка літаратуры М. Багдановіча. Нарадзіўся 9 снежня (27 лістапада ст. ст.) 1891 года ў Мінску ў сям'і настаўніка. У 1902 годзе паступіў вучыцца ў першы клас Ніжагародскай мужчынскай гімназіі. У 10–11 гадоў пачаў пісаць вершы па-беларуску. 6 чэрвеня 1907 года ў газеце «Наша Ніва» апублікавалі першае апавяданне М. Багдановіча «Музыка». У 1909 годзе ў гэтай газеце публікуюцца першыя вершы паэта. Пасля заканчэння гімназіі М. Багдановіч прыехаў на Беларусь. У гэтым годзе паступіў вучыцца ў Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. У 1912 годзе ў газеце «Наша Ніва» публікуецца цыкл яго вершаў пра гісторыю Беларусі. У кастрычніку 1916 года, пасля заканчэння юрыдычнага ліцэя, вярнуўся на Беларусь, у Мінск, дзе ўладкаваўся на працу ў губернскі харчовы камітэт. Прымаў актыўны ўдзел у рабоце Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. Ён з'яўляецца аўтарам паэм: «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» (1914), «Максім і Магдалена» (1915), «Страцім-лебедзь» (1916). Аўтар зборніка вершаў «Вянок». З'яўляецца класікам беларускай літаратуры. М. Багдановіч памёр 12 мая 1917 года.

**Максіма Горкага** — названа ў гонар Максіма Горкага, рускага і савецкага пісьменніка. Сапраўднае імя — Аляксей Максімавіч Пешкаў. Ён нарадзіўся 16 сакавіка 1868 года ў горадзе Ніжні Ноўгарад. Першапачаткова Горкі скептычна паставіўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі, аднак пасля некалькіх гадоў культурнай працы ў Савецкай Расіі і жыцця за мяжой у 1920-я гады (Марыенбад, Сарэнта), вярнуўся ў СССР. Тут ён быў акружаны афіцыйным прызнаннем як «буравеснік рэвалюцыі» і «вялікі пралетарскі пісьменнік», заснавальнік сацыялістычнага рэалізму. Найбольш вядомыя творы М. Горкага: «Макар Чудра», «Песня о Соколе», «На дне», «Дачники», «Дети солнца», «Мать».

**Маладзёжная** — штучная назва, асацыятыўна звязаная з моладдзю.

**Марата Казея** — названа ў гонар піянера-партызана ў час Вялікай Айчынай вайны Марата Казея. Нарадзіўся 29 кастрычніка 1929 года ў вёсцы Станькава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Марат быў разведчыкам штаба партызанскай брыгады імя К. Ракасоўскага. Акрамя разведак, удзельнічаў у рэйдах і дыверсіях. За адвагу ў баях узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені, медалямі «За адвагу» і «За баявыя заслугі». Вяртаючыся 11 мая 1944 года з разведкі і акружаны немцамі, Марат Казей падарваў сябе і ворагаў гранатай. Пасмяротна атрымаў званне Героя Савецкага Саюза.

**Маркава** — названа ў гонар аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Вілейскай вобласці ў гады Другой сусветнай вайны, Героя Савецкага Саюза Фёдара Маркава. Ён нарадзіўся 24 снежня 1913 года ў вёсцы Качанішкі на Лынтупшчыне. За рэвалюцыйную дзейнасць адбываў зняволенне ў Бяроза-Картузскім канцлагеры, віленскай турме. У час вайны — камандзір партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава. Памёр 14 студзеня 1958 года. Яго імем названы вуліцы ў Вілейцы, Паставах, Лынтупах.

**Матросава** — названа ў гонар удзельніка Другой сусветнай вайны, Героя Савецкага Саюза Аляксандра Матросава. Ён нарадзіўся 5 лютага 1924 года ў горадзе Екацярынаслаў. У верасні 1942 года быў прызваны ў войска і пачаў вучобу ў Краснагорскім пяхотным вучылішчы. У 1943 годзе быў адпраўлены на Калінінскі фронт. Служыў у складзе 2-га асобнага стралковага батальёна 91-й асобнай Сібірскай добраахвотніцкай брыгады імя І. В. Сталіна. 27 лютага 1943 года гераічна загінуў у баі ў раёне вёскі Чарнушкі, закрыўшы сваімі грудзьмі амбразуру нямецкага дзота.

**Маякоўскага** — названа ў гонар Уладзіміра Маякоўскага, расійскага паэта, драматурга; футурыста. Ён нарадзіўся 7 ліпеня 1893 года ў вёсцы Багдадзі ў Грузіі. У Маскве Маякоўскі пазнаёміўся з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі, пачаў захапляцца марксісцкай літаратурай, у 1908 годзе ўступіў у РСДРП. Быў прапагандыстам, тройчы арыштоўваўся. У турме ў 1909 годзе Маякоўскі пачаў пісаць вершы. Ён аўтар шматлікіх паэм і вер-

шаў: «Воблака ў штанах», «Флейта-пазваночнік», «Чалавек», «Вайна і мір», «150 000 000», «Уладзімір Ільіч Ленін», «Хорошо!». Застрэліўся 14 красавіка 1930 года ў Маскве.

**Меліярацыйная** — штучная назва ў гонар меліярацыі і меліяратараў.

**Міру** — штучная назва ў гонар міру.

**Набярэжная** — назва адлюстроўвае асаблівасць месцазнаходжання: вуліца размяшчаецца на беразе ракі Мядзелкі.

**Някрасава** — названа ў гонар Мікалая Някрасава, знакамітага рускага пісьменніка, літаратурнага дзеяча. Ён нарадзіўся 28 лістапада 1821 года ў вёсцы Сінькі Падольскай губерні. У 1839 годзе паступіў вольным слухачом на філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Напачатку 1840-х гадоў Някрасаў стаў супрацоўнікам «Отечественных записок». Ён выпусціў у свет шэраг альманахаў: «Статейки в стихах без картинок» (1843), «Физиология Петербурга» (1845), «1 апреля» (1846), «Петербургский сборник» (1846). У гэтых зборніках дэбютавалі Д. Грыгаровіч, Ф. Дастаеўскі, выступалі І. Тургенеў, А. Герцэн, А. Майкаў. З 1846 года Някрасаў быў рэдактарам часопіса «Современник». Самыя знакамітыя творы М. Някрасава: «Русские женщины», «Кому на Руси жить хорошо», «Железная дорога». Памёр М. Някрасаў 27 снежня 1877 года.

**Палявая** — назва адлюстроўвае асаблівасць месцазнаходжання.

**Паркавая** — названа па размяшчэнні непадалёку ад былога парку маёнтка Тызенгаўзаў і возера Круглае (ранейшая назва — Паркавае).

**Партызанская** — штучная назва ў гонар партызанаў.

**Паўліка Марозава** — названа ў гонар Паўліка Марозава, піянера, які выдаў бальшавікам бацьку-кулака. Сапраўднае імя — Павел Трафімовіч. Нарадзіўся 14 лістапада 1918 года ў сяле Герасімаўка Свярдлоўскай вобласці. Быў піянерам, удзельнічаў у барацьбе з кулакамі ў перыяд калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў СССР. Забіты родным дзедам і стрыечным братам. Імя П. Марозава нададзена калгасу ў сяле Герасімаўка, школам,

піянерскім лагерам. Марозаву ўстаноўлены помнікі ў Маскве, сяле Герасімаўка, Свярдлоўску (сучасны Екацярынбург).

**Першамайская** — штучная назва ў гонар сусветнага Дня працы.

**Піянерская** — штучная назва ў гонар піянераў і піянерскай арганізацыі.

**Пралетарская** — штучная назва ў гонар пралетарыяў і пралетарыяту.

**Пушкіна** — названа ў гонар рускага пісьменніка, родапачынальніка новай рускай літаратуры і сучаснай рускай мовы, аўтара шматлікіх вершаў, паэм, празаічных твораў Аляксандра Пушкіна. Нарадзіўся 26 мая 1799 года ў Маскве. Скончыў Царскасельскі (Аляксандраўскі) ліцэй. Пасля заканчэння ліцэя працаваў у калегіі замежных спраў. У 1819 годзе ўступіў у літаратурна-тэатральную суполку «Зелёная лампа». Быў блізкі да дзекабрыстаў. У 1820 годзе пад выглядам службовага перасоўвання быў сасланы на поўдзень (Екацярынаслаў, Каўказ, Крым, Кішынёў, Адэса). У выгнанні напісаў вершы «Кавказский пленник», «Узник», «Бахчисарайский фонтан», «Песнь о вещем Олеге» і многія іншыя; пачаў раман у вершах «Евгений Онегин». 18 лютага 1831 года Пушкін абвянчаўся з Н. Ганчаровай у Маскве. Выдаваў свой часопіс «Сучаснік», дзе друкаваліся такія таленты, як Жукоўскі, Цютчаў, Гогаль, Баратынскі, Вяземскі, Кальцоў. Зімой 1836 ворагі Пушкіна з пецярбургскай арыстакратыі пусцілі ў ход паклёп на яго жонку. Каб абараніць свой гонар, Пушкін выклікаў Дантэса на двубой, які адбыўся 8 лютага 1837 года. Паэт быў смяротна паранены і праз два дні сканаў. Пахаваны каля сяла Міхайлаўскае на могілках Святагорскага манастыра.

**Пясочная** — назва адлюстроўвае асаблівасць мясцовых глебаў.

**Савецкая** — названа ў гонар органаў улады ў часы СССР — Саветаў народных дэпутатаў. Ранейшая назва — Віленская. Вуліца вяла ў напрамку на былы ваяводскі, пазней губернскі цэнтр Вільню. Пачала фармавацца ў XVIII стагоддзі, злучыўшы Рынкавую плошчу з сядзібным комплексам Тызенгаўзаў. Забудавана адна- і двухпавярховымі будынкамі пераважна

XIX–XX стагоддзяў. Найбольш адметныя будынкі на вуліцы: былыя яўрэйскія двухпавярховыя будынкі каля плошчы Леніна; праваахоўны комплекс з будынкамі міліцыі, пракуратуры, КДБ і суда; рэшткі сажалкі і былога канала Тызенгаўзаў; гасцініца (у мінулым — павятовае староства); гарадскі парк Гарбарка; палац Тызенгаўзаў (зараз — раённая бальніца); біблейскі цэнтр «Выратаванне»; АЗС.

**Садовая** — назва адлюстроўвае асаблівасць расліннасці на вуліцы.

**Сідарэнкі** — названа ў гонар Васіля Сідарэнкі, Героя Савецкага Саюза. Нарадзіўся 14 студзеня 1911 года ў вёсцы Касторнае Курскай вобласці. Закончыў 4 курсы Днепрапятроўскага горнага інстытута. У 1943 годзе пайшоў на фронт. У пачатку ліпеня 1944 года каля Паставаў разгарэўся жорсткі бой савецкіх воінаў з гітлераўцамі. Артылерыйскі ўзвод 45-міліметровых гармат, якім камандаваў малодшы лейтэнант В. Сідарэнка, з батальёнам пяхоты адрэзаў шляхі адступлення вялікай групе праціўніка, але і сам быў акружаны фашыстамі. За некалькі гадзін бою байцы адбілі ўсе контратакі, знішчылі каля 120 гітлераўцаў, 6 самаходных гармат, прарвалі кола акружэння і сумесна з падаспелымі чырвонаармейцамі пачалі гнаць ворага на захад.

Пасля вайны жыў у Курску, працаваў старшынёй абкама прафсаюза работнікаў харчовай прамысловасці. Быў ганаровым грамадзянінам горада Паставы, дзе яго імем названа адна з вуліц. Памёр 18 студзеня 1978 года.

**Скарыны** — названа ў гонар беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, вучонага, асветніка, перакладчыка, філосафа Францыска Скарыны. Ён нарадзіўся каля 1490 года ў горадзе Полацку. У 1517 годзе заснаваў у Празе друкарню і выдаў кірылічным шрыфтам «Псалтыр», першую друкаваную беларускую кнігу. Усяго на працягу 1517–1519 гадоў пераклаў і выдаў 23 кнігі Бібліі. У 1520 годзе пераехаў у Вільню — сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, дзе заснаваў першую на тэрыторыі дзяржавы друкарню. У ёй Скарына выдаў «Малую падарожную кніжыцу». У 1534 годзе ён паехаў у Маскоўскае княства, але яго адкуль выгналі як каталіка, а кнігі спалілі. Каля 1535 года

Скарына пераехаў у Прагу, дзе, хутчэй за ўсё, працаваў лекарам. Памёр у Празе ў 1551 годзе.

**Сонечная** — штучная назва, асацыятыўна звязаная з сонцам.

**Стадыённая** — назва адлюстроўвае месцазнаходжанне: вуліца размяшчаецца каля гарадскога стадыёна.

**Станкевіча** — названа ў гонар Антона Станкевіча, рускага і савецкага ваеннага дзеяча, генерал-маёра. Нарадзіўся 13(25) чэрвеня 1862 года ў маёнтку Губіна каля Асінагарадка на Пастаўшчыне. Падчас Першай сусветнай вайны камандаваў палком, брыгадай, дывізіяй. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перайшоў на бок Савецкай улады. У 1919 годзе камандаваў дывізіямі на Паўднёвым фронце. Трапіў у палон. Адмовіўся перайсці на бок белагвардзейцаў і быў імі павешаны. Пахаваны ў Маскве на Чырвонай плошчы каля Крамлёўскай сцяны. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга (пасмяротна).

**Строителей (Будаўнікоў)** — штучная назва ў гонар будаўнікоў (строителей).

**Трудовая (Працоўная)** — штучная назва ў гонар працы (труда).

**Цветочная (Кветкавая)** — штучная назва, якая звязана з кветкамі (цветами).

**Ціхана** — названа ў гонар Антона Ціхана, партыйнага і савецкага дзеяча. Ён нарадзіўся ў 1887 годзе ў в. Альшэўскія Пастаўскага раёна. З 1905 года ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху, займаў высокія пасады ў партыйных і прафсаюзных органах краіны. З 1930 года быў наркамам працы. Арыштаваны і расстраляны 7 сакавіка 1939 года.

**Ціхая** — названа так, верагодна, з прычыны таго, што на вуліцы знаходзяцца старыя гарадскія могілкі.

**Чыгуначная (Железнодорожная)** — назва паказвае накірунак: вуліца ідзе да чыгункі Новасвянцяны–Беразвечча (Лынтупы–Віцебск).

**Чырвонаармейская** — названа ў гонар чырвонаармейцаў, якія вызвалялі Паставы, загінулі і пахаваны на ўсходняй ускраіне горада (у пачатку вуліцы стаіць помнік). Ранейшая назва — Лучайская. Вуліца вяла ў напрамку на мястэчка Лучай. Пачала

фармавацца ў XVII стагоддзі. Забудавана пераважна аднапавярховымі, зрэдку двухпавярховымі будынкамі. Бліжэй да плошчы Леніна знаходзяцца пабудовы XIX — пачатку XX стагоддзя. Адметнымі аб'ектамі на вуліцы з'яўляюцца: будынак млына (зараз — Дом рамёстваў), мост з плацінай праз раку Мядзелку, лазня, Дом культуры, музычная школа, заводы «Беліт», «Школьнік», шэраг магазінаў.

**Чэхава** — названа ў гонар Антона Чэхава, сусветнавядомага рускага пісьменніка. Нарадзіўся 17 студзеня 1860 года ў г. Таганрогу. Закончыўшы гімназію, паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У 1884 годзе пачаў працаваць павятовым лекарам у Чыкінскай лякарні.

Чэхаў з'яўляецца адным з самых вядомых сусветных драматургаў. За 26 гадоў творчасці ён стварыў каля 900 розных твораў. Асаблівую ўвагу звярнулі на сябе «Степь», «Скучная история», «Дуэль», «Палата № 6», «Рассказ неизвестного человека», «Мужики», «Человек в футляре», «В овраге», «Детвора», «Сказки Мельпомены», «Остров Сахалин», «Дом с мезонином», «Ионыч», «Дама с собачкой», «Драма на охоте»; з п'ес: «Иванов», «Чайка», «Дядя Ваня», «Три сестры», «Вишнёвый сад». Памёр 2 ліпеня 1904 года.

**Школьная —** назва адлюстроўвае месцазнаходжанне: вуліца размяшчаецца каля былой польскай школы.

**Юбілейная —** штучная назва ў гонар юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**Юшкевіча** — названа ў гонар Васіля Юшкевіча, генерала-палкоўніка. Нарадзіўся 28 лютага 1897 года ў горадзе Паставы. Закончыў курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу пры Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. Удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, вайны ў Іспаніі ў 1936–1939 гадах. У Другую сусветную вайну ваяваў на Заходнім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. Камандаваў 44-м корпусам, які ў чэрвені 1941 года абараняў Мінск. У бітве пад Масквой камандаваў 31-й арміяй, якая ў снежні 1941 года вызваліла горад Калінін ад фашыстаў. У перыяд Беларускай аперацыі 1944 года камандаваў 3-й ударнай арміяй 2-га Прыбалтыйскага фронту. З 1944 года — камандуючы

войскамі Адэскай, у 1946–1959 гадах — Прыволжскай ваенных акруг. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Узнагароджаны ордэнамі Леніна (двума), Чырвонага Сцяга (чатырма), Суворава, Кутузава. Памёр 15 сакавіка 1951 года ў Ленінградзе.

**Якуба Коласа** — названа ў гонар пісьменніка, класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа (сапр. Міцкевіч Канстанцін). Ён нарадзіўся 3 лістапада 1882 года ў вёсцы Акінчыцы на Стаўбцоўшчыне. Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі настаўнічаў, працаваў у газеце «Наша ніва» ў Вільні. У 1908 годзе за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе і нелегальную работу быў асуджаны на тры гады, адбываў пакаранне ў мінскім астрозе. У верасні 1915 года мабілізаваны ў армію, накіраваны на Румынскі фронт, але цяжка захварэў і быў эвакуіраваны ў горад Абаянь. У 1921 годзе пераехаў у Мінск. Выкладаў у Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме, у Беларускім дзяржаўным універсітэце, чытаў лекцыі на курсах настаўнікаў, займаўся навуковай дзейнасцю ў Інстытуце беларускай культуры. З дня ўтварэння АН БССР (1 студзеня 1929 года) быў яе нязменным віцэ-прэзідэнтам. У Вялікую Айчынную вайну жыў у Клязьме (пад Масквой), Ташкенце (жнівень 1941 — лістапад 1943), Маскве, займаўся творчай і навукова-грамадскай дзейнасцю. У снежні 1944 года вярнуўся ў Мінск. Быў членам ЦВК БССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР, з'яўляўся старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру. Акадэмік АН БССР. Сябра СП СССР з 1934 г. Узнагароджаны пяццю ордэнамі Леніна, ордэнамі Чырвонага Сцяга, Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі. Народны паэт БССР (1926). Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1944).

Якуб Колас напісаў шмат твораў. Найбольш вядомыя: аповесці «У палескай глушы», «На прасторах жыцця», «Дрыгва», паэмы «Сымон-музыка», «Рыбакова хата», «Новая зямля», трылогія «На ростанях» і інш. Многія вершы Я. Коласа пакладзены на музыку. Памёр 13 жніўня 1956 года.

**Янкі Купалы** — названа ў гонар пісьменніка, класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Нарадзіўся 7 ліпеня 1882 года ў фальварку Вязынка Вілейскага павета. Сапраўднае імя — Луцэ-

віч Іван. У 1898 годзе скончыў Беларускае народнае вучылішча, потым вучыўся ў Пецярбургу. З 1913 года працаваў у Вільні супрацоўнікам «Беларускага выдавецкага таварыства», рэдактарам «Нашай нівы» (1914–1915). Потым вучыўся ў Маскве. У студзені 1916 года прызваны ў армію. Служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін у Мінску, Полацку, а таксама ў Смаленску, дзе сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю. У 1919 годзе пераехаў у Мінск, дзе і жыў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Удзельнічаў у стварэнні нацыянальнага тэатра, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Акадэміі навук БССР, у разгортванні выдавецкай справы. У гады Вялікай Айчыннай вайны жыў у Маскве, у пасёлку Пячышчы каля Казані. Абіраўся кандыдатам у члены ЦВК БССР, членам ЦВК БССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Акадэмік АН БССР, АН УССР. Сябра СП СССР з 1934 года. Народны паэт БССР (1925). Узнагароджаны ордэнам Леніна. Аўтар драматычных паэм «Адвечная песня», «Сон на кургане», п’есы «Паўлінка», драматычнай паэмы «На папасе», драмы «Раскіданае гняздо», сцэнічнага жарту «Прымакі», п’есы «Тутэйшыя», драматычнага абразка «На Куццю», шматлікіх вершаў.

Трагічна загінуў 28 чэрвеня 1942 года ў Маскве. Урна з прахам перавезена ў Мінск у 1962 годзе.

# 4. ФАЛЬКЛОРНАЕ ТЛУМАЧЭННЕ НАЗВАЎ

## 4.1. Назвы вёсак у мясцовых гісторыях

Прыемна, калі публікацыі выклікаюць цікавасць у чытачоў. Зараз відавочна, што назвы нашых вёсак, нашых мясцін — гэта той пласт мясцовай культуры, які чакаў свайго вывучэння і абмеркавання.

Пасля публікацыі ў прэсе айканімічнага слоўніка «Назвы нашых вёсак» многія знаёмыя і незнаёмыя жыхары Пастаўшчыны сустракалі, тэлефанавалі, каб задаць пытанні, расказаць нейкія здарэнні, прапанаваць свае варыянты тлумачэння назваў. Некаторыя з іх можна лічыць фантастычнымі і легендарнымі, а іншыя вартыя ўвагі і прызнання ў якасці найбольш верагодных. Але і легенды, і паданні — гэта таксама частка нашай гісторыі і культуры, частка нашай спадчыны.

Цікава, як мясцовыя жыхары тлумачаць паходжанне некаторых назваў. Напрыклад, Алімпіяда Бортнік расказала пра варыянты ўтварэння найменняў у ваколіцах сваёй роднай вёскі Рабекі. Гэтыя версіі яна пачула ад свайго бацькі Івана Іванавіча Мурзёнка і старэйшых жыхароў.

Раней уздоўж ракі Паловіцы цягнулася дрымучая пушча, і першажыхары, каб зарабіць на жыццё і расчысціць зямлю пад ніву, займаліся ляснымі промысламі: хто сек дрэвы, хто карчаваў пні, іншыя пілавалі бярвенне, рабілі з дрэва розныя прылады: лыжкі, міскі, вокны, дзверы, мэблю, бочкі, маслабойкі, калаўроты і шмат яшчэ чаго патрэбнага ў жыцці. У сваіх занятках некаторыя гаспадары дасягнулі высокага майстэрства, сталі спецыялістамі. Так і з’явіліся вёскі. У Рабеках жылі «рубакі» — майстры, што лес seклі («рубілі»), выдзяляліся ўменнем ставіць зрубы. У Чашунах жыхары славіліся на ўсю акругу тым, што ніхто лепш за іх не мог абчасаць бярвенне. Атрымлівалася паверхня роўная, нібы габляваная. Адсюль і Чашуны. Жыхары Кадукоў былі адмыслоўцамі ў вырабе бочак, асабліва кадак. Кадка, або кадушка, — невялікая бочачка для засолу агуркоў або для

прыгатавання квасу. У Пушкарах майстры ўмелі рабіць з дрэва не толькі вялікі скрыні, «яшчыкі», але і маленькія каробкі, якія ў нашай мясцовасці завуць пушкамі. Напрыклад, узяць пушку запалак, каб запаліць у печы.

Прапанавала Алімпіяда Іванаўна і версіі паходжання некаторых мясцовых прозвішчаў. Так, Дубоўскія жылі ў мясцовасці, дзе расло шмат дубоў; родапачынальнік Лапушынскіх пасяліўся каля ручая, у якім разрастаўся лапушнік — купальніца. Прозвішча Касцень пайшло ад назвы расліны касцянка, а Волах — ад васілька, які ў нашай мясцовасці называюць валошкай.

Збігнеў Колас з Пруднікаў не пагадзіўся з варыянтам тлумачэння назвы вёскі Войнеўка і расказаў мясцовае паданне, у якім ёсць важкія доказы іншага варыянта ўтварэння наймення. Як успаміналі дзяды-прадзеды, на тым месцы, дзе цяпер стаіць паселішча, у 1812 годзе адбылася ўзброеная сутычка паміж французскімі і рускімі воінамі («воямі»). У час яе загінула даволі многа напалеонаўскіх жаўнераў, якія былі пахаваны непадалёку ва ўрочышчы Жвіроўня. Там зараз знаходзяцца «французскія магілы». Ну а на месцы, дзе калісьці «ваявалі», пазней узнікла вёска, у назве якой і адлюстраваўся напамін пра тую гістарычную падзею. Старажылы прыпамінаюць, што калісьці даўно на тым месцы знаходзілі «крывыя» пісталеты.

Арыгінальную легенду давялося пачуць пра вёску Дземяшы. Пасля адмены прыгону, а мо і пазней, частку пустуючых земляў, якія належалі ўладальніку Старога Двара, пачалі раздаваць сялянам для апрацоўкі і пад забудову. Была вясна. Мужыкі выехалі ў поле, склалі ў адным месцы мяшкі са збожжам, каб потым набіраць і сеяць. І тут нехта спытаўся: «А дзе будавацца будзем?» На гэта хтосьці адказаў: «А там, дзе мяшкі». Ну ўсе і пагадзіліся. Хай сабе і дзе мяшкі. Адсюль і назва пайшла. Спачатку «Дземяшкі», а потым «Дземяшы». Вось такая нечаканая версія.

Ва ўсходняй частцы Пастаўшчыны недалёка ад Варапаева на правым беразе ракі Заражанкі знаходзіцца невялікая вёсачка Кейзікі. Паходжанне назвы звязваюць з прозвішчам Кейзік, якое даволі шырока распаўсюджана ў тутэйшай мясцовасці. Але як утварылася прозвішча?

Віктар Кейзік, ураджэнец вёскі, лічыць, што сучаснае напісанне прозвішча — гэта скажоны запіс слова «казак»: маўляў, ранейшыя перапісчыкі зрабілі памылку і так з'явілася цяперашняя форма. Ён прыгадвае, што ў дзяцінстве распытваўся ў свайго дзеда пра мінулае вёскі і вось што пачуў. Паселішча ўтварылася ў шасцідзясятыя гады XIX стагоддзя, калі ў тутэйшую мясцовасць прыехаў казак, выкапаў зямлянку і пачаў жыць. А род Кейзікаў, як сцвярджаў дзед, паходзіць з ліцвіноў.

Зусім побач з Паставамі на паўвыспе возера Задзеўскае знаходзіцца населены пункт з нечаканай і зусім нерамантычнай назвай Заготскот. Так ён падаецца ў кнізе «Памяць. Пастаўскі раён», так ён пішацца і ў розных дакументах. Канечне, для паперы ўсё адно, як што называецца, а вось чалавеку, думаецца, не вельмі камфортна адчуваць сябе жыхаром «заготската».

Што гэта за паселішча і адкуль пайшла назва? Утвараюць яго фактычна тры будынкі: даволі высокі двухпавярховы дом з чырвонай цэглы (дарэчы, яго так і называюць у народзе — «чырвоны дом») і дзве доўгія нізкія выцягнутыя ў бок возера пабудовы. Як паведаміў жыхар Паставаў Ірыневуш Сінкевіч, на гэтым месцы да пачатку Другой сусветнай вайны знаходзілася сядзіба пана Грабоўскага, ад якой застаўся сядзібны дом і дзве стайні. Называлася гэта ўсё «Двор Задзеўе». Пасля вайны тут уладкавалі базу, дзе прымалі жывёлу на мяса. У народзе так і казалі: «здаць скаціну на базу». Пазней з гэткай спецыялізацыі і вырасла назва Заготскот.

Назвы — гэта ключы ад нашай спадчыны, якімі адчыняюцца замкі са скарбамі духоўнага багацця нашага народа. Ёсць спадзяванне, што ў бліжэйшым часе нам удасца яшчэ пачуць і прачытаць шмат цікавых гісторый, у якіх будзе тлумачыцца сэнс і паходжанне назваў нашых родных мясцін.

## 4.2. Назвы вёсак у легендах і паданнях

### *«Dama Mutis»*

На захадзе Пастаўскага раёна пасярод вялікай пушчы ляжыць вёска Дамуці. Назва паходзіць ад славянскай асновы *дом* — «хата», «жылая пабудова». Вядомы мядзельскі краязнаўца Яська Драўніцкі запісаў легенду пра паходжанне назвы вёскі ад выразу *Dama mutis*, што азначае «жанчына-маці», — так называлі каралеўну Бону Сфорцу, маці караля Жыгімонта Аўгуста.

Бона Сфорца д'Арагона — неапалітанская прынцэса, польская каралева (1518–1556), жонка караля Жыгімонта I Старога, дачка міланскага герцага Джан Галеацца Сфорца і Ізабелы Арагонскай.

Пасля смерці першай жонкі польскага караля Жыгімонта I Варвары Запольскай Карл V пасватаў Бону за Жыгімонта. Бона славілася сваёй прыгажосцю і выдзялялася вялікай энергіяй. Яшчэ пры жыцці састарэлага мужа фактычна кіравала краінай.

Пры жыцці Жыгімонта I дамаглася абрання каралём Польшчы і каранавання іх дзесяцігадовага сына Жыгімонта Аўгуста. Бона Сфорца выношвала планы аб'яднання пад сваёй уладай, шляхам дынастычных шлюбаў сваіх дзяцей, большай часткі Еўропы. Аднак гэтым планам перашкодзіў таемны шлюб, які пасля смерці першай жонкі Лізаветы Габсбург заключыў Жыгімонт Аўгуст з Барбарай Радзівіл. Пасля каранавання ў 1550 годзе маладая каралева раптам сканала ў 1551; Бона Сфорца падазравалася ў яе атручванні.



*Бона Сфорца*

З-за нязгод з сынам Бона імкнулася пакінуць Польшчу, але Жыгімонт Аўгуст забараняў ёй з'язджаць у Італію, асцерагаючыся з яе смерцю ў іншай краіне страціць вялізную маёмасць і буйныя зямельныя ўгоддзі ў Польшчы і Літве. Толькі пасля адмовы Боны ад

нерухомасці кароль пагадзіўся на яе адʼезд. У 1556 годзе Бона пакінула Польшчу, вывозячы з сабою на 24 вазах золата, срэбра і каштоўнасці.

Бона памерла ў сваім княстве Бары ў Італіі, атручаная, верагодна па загадзе Габсбургаў, сваім жа доктарам.

## *Дварчаны*

Паводле легенды, калісьці на месцы вёскі быў маёнтак. Яго ўладар — злы і жорсткі пан — вельмі дрэнна ставіўся да сваіх прыгонных, груба абыходзіўся з парабкамі і наймітамі. Сам заўсёды хадзіў змрочны, незадаволены, з бізуном у руцэ. Але людзі працавалі на яго, бо не было куды падзецца. За такі дрэнны характар таго ўладара звалі «пан Чарны», што значыць «чорны, змрочны». І маёнтак яго пачалі называць Двор Чарны. З часам найменне трохі сказілася і ператварылася ў Дварчаны.



*Дварчаны*

## *Пра Парыж*

У Пастаўскім раёне ёсць вёска з адметнай назвай — Парыж. Паводле падання, такое найменне ёй даў сам Напалеон Банапарт. А было гэта ў час вайны з французамі 1812 года.

Неяк раніцай жыхары вёскі ўбачылі, што на Сароцкай гары зʼявіўся невялікі атрад казакаў. Відаць, яны меліся там адпачыць, бо рассядлалі коней, расклалі вогнішчы, пачалі варыць кашу. Але потым хутка агонь пагасілі і некуды зніклі.

Пад абед да вёскі падышлі французскія войскі. І ў гэты момант на іх з засады наляцелі казакі. Завязаўся бой. Фран-




*Парыж*

цузы занялі абарону і чакалі падмацавання. Праз дзве гадзіны, калі з боку Ласькіх пачаў набліжацца яшчэ адзін напалеонаўскі атрад, казакам давялося адступіць. Было гэта, верагодна, 4 ліпеня.

Прайшло некалькі дзён, і ў вёску ўвайшлі галоўныя сілы французскай арміі. Якраз на карэце са світай пад'ехаў Напалеон. Быў час абеду, імператару накрылі стол на адным з узгоркаў, дзе ён і прыпыніўся са сваёй світай. Аглядаючы навакольныя краявіды, Банапарт прыйшоў у захапленне ад убачанага.

— Якія маляўнічыя мясціны! — усклікнуў ён. — Тут прыгожа, як у парках Парыжа! Давайце назавем гэту вёсачку так: маленькі Парыж.

Наступнай раніцай вясковых жыхароў сабралі на сход. Пяцёра гвардзейцаў пачалі тлумачыць вяскоўцам, што цяпер іх паселішча будзе называцца Парыж. Размову вялі праз мясцовага пана. Той перакладаў, як мог. А ў канцы весела спытаў:

— Ну як, згодны стаць парыжанамі?

— А што? Парыж, дык Парыж, толькі б кароў не чапалі, — адказалі сяляне.

Як сведчыць паданне, кароў французы ўсё ж забралі на патрэбы арміі, а назва засталася. Пан ад яе быў у захапленні, а сяляне пастунова прывыклі.

## *Барадзіно*

На Пастаўшчыне паміж Дварчанамі і Вярэнькамі ляжыць невялікая вёска Барадзіно. У гістарычных крыніцах яна згадваецца з пачатку XX стагоддзя, хоць утварылася, напэўна, значна раней. Цікавасць выклікае яе назва. Яна, верагодна, паходзіць ад

славянскага *бара*, *бар*, што азначае «вільготнае месца паміж узгоркамі; балота». У польскай мове *barzina* — «балота». А мясцовыя жыхары расказваюць легенду, што назву вёсцы даў нейкі памешчык у памяць пра бітву паміж рускімі і французскімі войскамі каля вёскі Барадзіно пад Масквой у 1812 годзе.



*Барадзіно*

## *Адкуль назва Лучай*

У далёкія часы мясцовасць каля сучасных вёсак Лучай і Гаўрылавічы доўгі час была на мяжы паміж рознымі народамі. Спачатку — крывічоў з балтамі, а потым — з грознымі крыжакамі.



*Лучай*

На крутым усходнім беразе Лучайскага возера, як мяркуюць, менавіта ў тыя часы была ўзведзена памежная вежа, на якой дзень і ноч неслі каравульную службу ваяры-лучнікі. І, напэўна, не адзін раз камусьці з іх прыйшлося выкрыкваць баявы вокліч: «Лучай!», што значыць — трапляй. Ад яго нібыта і ўзнікла назва населенага пункта побач з вежай, а затым — і возера. Месца ж, дзе знаходзілася калісьці вежа, як мяркуюць, з той пары носіць аднайменную назву.

## *Хрыстова*



*Хрыстова*

Каля тысячы гадоў таму назад жыла ў Полацку асветніца — прападобная святая Еўфрасіння Полацкая. Шмат яна рабіла для таго, каб асвета і вера хрысціянская распаўсюджваліся сярод людзей. Яе рупнасцю будаваліся храмы, перапісваліся кніжкі, ладзіліся святы і набажэнствы. Яна ж пасылала манахаў у розныя куткі Полацкага княства, каб мясцовае жыхарства схіляць да хрысціянскай веры.

І вось аднойчы невялікая група з пяці манахаў прыйшла на зямлю Пастаўскую. Яны ўпадабалі ўзгорыстую мясцовасць каля невялікай маляўнічай ракі. Манахі пачалі пілаваць і раскарчоўваць лес ды будаваць манастыр. Зараз гэта месца называецца Горкі, а рака — Турчанка.

Мясцовыя жыхары спачатку насцярожана паставіліся да няпрошаных гасцей, якія пачалі ўладкоўвацца па суседству. У тыя часы на прышлых людзей глядзелі як на ворагаў, бо амаль заўсёды яны з’яўляліся ўзброеныя, нападалі на паселішчы, рабавалі людзей, палілі хаты.

Гэтыя ж іншаземцы нікога не чапалі, зброі з сабой не насілі, хадзілі ў доўгіх чорных сутанах, шмат маліліся. Да мужчын звярталіся са словам «брат», да жанчын — «сястра». Калі ў мясцовых жыхароў здаралася няшчасце, манахі дружна прыходзілі на дапамогу. І рабілі гэта шчыра і сумленна, нібыта родзічы ці сваякі. Пагарэльцам дапамагалі будаваць новае жытло, збядне-

лым і нямоглым прыносілі прадукты, давалі добрыя парады ўсім, хто меў у гэтым патрэбу. Калі ж да каго з тутэйшых чаплялася хвароба, манахі і тут дапамагалі, бо мелі лекі, збіралі зёлкі, умелі лячыць. Мясцовыя жыхары, якія тады былі паганцамі, усё больш разумелі, што Бог у вобразе чалавека, якому маліліся тыя манахі, і мацнейшы і больш справядлівы, чым іх бажкі і духі, якія жывуць у дрэвах, камянях, вадзе, паветры. Людзі пачалі хадзіць да манастыра, глядзець і слухаць, як правяць службы хрысціяне. І вось аднойчы некалькі тутэйшых людзей падышло да настаяцеля і папрасілі іх перахрысціць у веру хрысціянскую. Той наказаў ім пашыць белае адзенне і ў прызначаны час прыйсці да манастыра. Так яны і зрабілі. Праз месяц каля сцен манастыра сабралася чатырнаццаць чалавек з бліжэйшай вёскі. Браты-манахі павялі іх да ракі Турчанкі. Там пад малітвы і спевы мясцовыя жыхары ўвайшлі ў ваду і прынялі абрад хрышчэння. І назвалі тады манахі гэтых людзей «дзеці Хрыста». А сама вёска, у якой жылі тыя людзі і іх нашчадкі, аж да сённяшняга дня завецца Хрыстова.

## *Весялуха*

На правым беразе ракі Лучайкі недалёка ад Савічаў ляжыць невялічкая вёсачка з гарэзлівай назвай Весялуха. Адкуль пайшло найменне паселішча? З якой нагоды весяліліся яго жыхары?



*Весялуха*

Як сведчыць паданне, у сярэдзіне XIX стагоддзя, калі ў ваколіцах Савічаў адбываўся перадзел зямлі, знайшлося некалькі гультаяватых гаспадароў, якія адмовіліся ад сваёй долі, не захацелі абрабляць вялікія палеткі, а пасяліліся бліжэй да лесу на беразе ракі, узяўшы сябе па пары гектараў вор-

най зямлі. А зямля ж — карміліца! Іншыя гаспадары пыталіся: «Чаму ад большых надзелаў адмаўляецеся?» А тыя адказвалі: «Зямлі меней — жыць весялей!» Адгэтуль і пайшла назва вёскі. І хто ведае, мо і не прагадалі першажыхары Весялухі. У той час як сяляне суседніх Савічаў, Міхнічаў і Захараўшчыны выцiскалі з сябе апошнія сілы, каб апрацаваць вялікія палі неўрадлівай зямлі, «вясёлыя» людзі лавілі рыбу, збіралі грыбы-ягады ды палявалі звяроў. І не чапала іх ні польская ўлада, ні савецкая. Што ўзяць? Малазямельныя, бедныя, гультаяватыя. Але вяселяцца і гуляюць. І праўда — Весялуха.

## *Пра паходжанне назвы Камаі*



*Камаі*

Існуе некалькі версій паходжання назвы Камаі. Адна з іх выводзіць найменне ад літоўскага *katanas*, што азначае «аброць», і пацвярджае гэта легендай: у старажытныя часы якійсьці вершнік, ратуючыся на кані праз возера, так моцна нацягнуў лейцы, што яны парваліся. З гэтай прычыны ў возеры затанулі і вершнік, і конь, і аброць.

Другая версія звязвае паходжанне назвы з фінскім словам *kamai*, што азначае «хлам», «буралом». Вельмі верагодна, што рака Камайка, якая мае і зараз даволі хуткае цячэнне, пракладаючы шлях паміж стромкіх узгоркаў Свянцянскіх градаў, у часы паводак магла моцна падмываць берагі і абрушваць грунты з дрэвамі ў рэчышча. Мясцовыя жыхары прыгадваюць, што ў даваенны час у рацэ знаходзіліся 12-метровыя бярвёны моранага дуба-тапельца.

Аднак найбольш верагоднай падаецца іншая версія. Калі зрабіць дапушчэнне, што назва мае старажытную гісторыю і

засяленне гэтай мясцовасці ішло па рэках з нізоўяў у вярхоўі, то трэба прызнаць, што аснова ўсіх прыведзеных назваў *кам* першапачаткова адносілася да ракі. У гэтым выпадку фіна-ўгорскія мовы даюць зразумелае тлумачэнне: *кам* (удм.) — «рака», «плынь». Можна прыгадаць назву ракі Кама, прытока Волгі. Такім чынам, атрымліваецца лагічная схема назваў: рака Кама — возера Камай — азёры Камаі (мн. лік) — вёска Камаі — азёры Камайскія — рэчка Камайка.

## *Мнішскія*

«Там, дзе, як далонь, раўніна, што распасцёрлася на поўдзень ад Паставаў, у кіламетрах чатырох па дарозе на Савічы пачынае пераходзіць у хвалістыя маляўнічыя ўзгоркі, на левым беразе колісь паўнаводнай рэчкі Рудзіцы — прытока Лучайкі — і ўзнікла гэтая вёска з цікавай назвай Мнішскія. Яшчэ не так даўно ў пашпартах і метрыках яе жыхароў стаяла: нарадзіўся ў в. Мнішскія. Назва паходзіць ад старажытнаславянскага *мніх*, што азначае «манах». А людзі, што адбывалі павіннасць на манастырскіх землях, і былі мнішанскія. Калі ў мінулым стагоддзі была забаронена ўніяцкая рэлігія, асабліва пасля падаўлення паўстання 1863 года, былі зачынены манастыры, а землі, што належалі ім, перададзены дзяржаве, то і сяляне сталі дзяржаўнымі, ці, як самі старажылы памятаюць, называлі іх казённымі ў параўнанні з суседняй вёскай Будзева, якая была панская. Такое паходжанне вёскі і сялян. З цягам часу разбураліся сцены храма, што стаяў бліз вёскі ва ўрочышчы Конава або Манастыршчына, паступова змяніла сваё гучанне і назва вёскі».

І стала яна называцца Міськія, або Міські.

*З успамінаў паэта Вячаслава МІХАСЁНКА,*
*ураджэнца вёскі Міськія*

## *Пра вёску Круткі*

Кажуць, што назва вёскі Круткі пайшла ад таго, што ў даўнейшыя часы жылі тут, як цяпер модна гаварыць, «крутыя» мужыкі-гаспадары. Яны круціліся ў гэтым жыцці як маглі і таму шмат што ад жыцця мелі. Прозвішчы ў іх былі звычайныя нашы беларускія, а вось мянушкі выклікалі павагу: Сотнік, Пасрэднік, Аканомчы, Самэрнік. Для нашага сучасніка яны мала пра што гавораць, а вось раней… Ого! Сотнік — афіцэрскі чын у казацкім войску, а ў старажытнай Беларусі — начальнік сотні воінаў. Аканомчы — тое, што і аканом: службовец у маёнтку, які кіраваў гаспадаркай. Самэрнік, або сумарнік, — чалавек, які меў справу з грашыма, рахункавод. Пасрэднік уладжваў дамовы паміж гаспадарамі. Што ні кажы, пачэсныя «пасады» мелі жыхары вёскі. І сапраўды — круткі!

## *Захараўшчына*

Захараўшчына, вёска, што ляжыць за 6 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Паставаў каля ракі Лучайка, таксама мае сваю, яшчэ пакуль слаба вывучаную гісторыю. У дакументах згадваецца пад 1873 годам у Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, але ж людзі пасяліліся тут значна раней. Вядома, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя на месцы вёскі быў маёнтак пана Сенякоўскага.

Захараўшчына — параўнальна невялікая вёсачка на Пастаўшчыне, у якой з кожным годам усё менш застаецца карэнных жыхароў, а ўсё больш прышлых людзей і дачнікаў. Здавалася, сэнс назвы гэтага паселішча празрыста-зразумелы: жыў-быў на свеце нейкі чалавек па імені Захар, прыйшоў ён са сваёй сям’ёй у гэту мясцовасць, збудаваў хату над ракой Лучайкай і пачаў жыць-пажываць ды дабра нажываць. Потым сыны пажаніліся, таксама хаты паставілі, за імі — унукі. Так і вырасла вёска нашчадкаў Захара — Захараўшчына.

Але неяк давялося пачуць і іншую версію ўтварэння назвы. Як казаў адзін мясцовы жыхар, першапачаткова на месцы вёскі над рэчкай стаяў толькі панскі дом, а сялянскіх хат не было. Як

звалася тады тое месца і хто ім валодаў — невядома. Можа, і назвы нейкай адметнай не было: казалі проста «Двор» ці «Маёнтак». Але вядома, што ўладальнікам сядзібнага дома ў сярэдзіне XIX стагоддзя быў шляхціц Сінякоўскі. Пры ім маёнтак стаў багацець; бліжэй да шляхецкай сядзібы пачалі будавацца сяляне. Напэўна, пан Сінякоўскі быў добрым гаспадаром і адданым патрыётам, бо, калі выбухнула паўстанне 1963 года пад кіраўніцтвам Каліноўскага, ён далучыўся да ўдзельнікаў выступленняў супраць Расійскай імперыі. Дзе і як змагаўся Сінякоўскі, нам пакуль што невядома, а вось рускія следчыя гэта выведалі і пасля падаўлення паўстання патрыёта-шляхціца адправілі ў Сібір, а яго маёнтак канфіскавалі. Разам з гаспадаром былі пакараныя і некаторыя жыхары вёскі. Адтуль і пайшла назва «Закараўшчына», якая з цягам часу змянілася на Захараўшчыну.

Пасля 1863 года па загаду Мураўёва-шыбеніка вёска была каланізавана маскалямі-стараверамі. Яны пабудавалі ў Захараўшчыне стараабрадчую царкву, у якой служыў бацюшка. Гэта малельня была цэнтрам ваколічных старавераў аж да 1950 года, пакуль яе не зачынілі. Калі прыйшоў загад разабраць тую царкву, то ніхто з жыхароў і работнікаў не рашаўся гэта рабіць. І тады сам старшыня калгаса ўзлез на страху, скінуў крыж і пачаў разбіраць дах. Толькі пасля гэтага да працы прыступілі работнікі.

У 70-я гады XX стагоддзя ў вёсцы жыла бабка-знахарка, да якой прыязджалі хворыя людзі з розных бліжэйшых вёсак і гарадоў.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

Шматгадовая праца займела свой плён. Яна ўвасобілася ў выданні, якое ўключае тры слоўнікі па розных аб'ектах тапаніміі Пастаўшчыны, іх класіфікацыі, аналіз паходжання назваў і іх сэнсу. Быццам бы зроблена многа, але, калі агледзецца навокал, бачна, што наш край мае яшчэ вялікія пласты недаследаванай тапаніміі. Што я маю на ўвазе? Па-першае, гэта назвы зніклых вёсак, хутароў, леснічовак, засценкаў, фальваркаў. І такіх найменняў назбіраецца, напэўна, каля паўтысячы. А гэта таксама значная скарбонка нашай гісторыі і культуры.

Па-другое, цікавай, але і вельмі складанай, падаецца задача фіксацыі і аднаўлення назваў невялікіх азёр, ставоў, ручаёў. У тапанімічнай літаратуры на іх звычайна не звяртаюць увагі, а на картах яны не падпісаны. І калі даводзіцца ўзгадаць у публікацыі такую рачулку ці азерца, то пішуць проста — Безыменная. А на мясцовасці не было безыменных аб'ектаў. У паселішчах, якія размяшчаліся каля іх, усе адметнасці рэльефу, вод, расліннасці мелі сваё слоўнае абазначэнне.

З назвамі малых азёр і ручаёў цесна звязаны найменні ўзгоркаў, лагчын, ляскоў і пералескаў, балот і іншых урочышчаў. Усе падобныя назвы ўваходзяць у раздзел, які называецца мікратапанімія. Ён вывучае найменні малых геаграфічных аб'ектаў. Вакол кожнай вёскі ўсе адметныя мясціны мелі свае слоўныя абазначэнні, якія ведаў кожны жыхар. Калі казалі пра «выган», «лучыху», «маргі», «хвацень», «рум» ці штосьці іншае, то ўсім было вядома, пра што ідзе гаворка. Але старыя людзі паміраюць, вёскі знікаюць або засяляюцца прышлымі насельнікамі — і назвы знікаюць.

Вялікую частку мікратапонімаў мы ўжо страцілі незваротна, і зараз вельмі важна зафіксаваць і захаваць тое, што засталося. Бо праміне 10–20 гадоў — і ўжо і гэтага не будзе.

Таму хочацца звярнуцца да зацікаўленых чытачоў (а той, хто ўзяў гэту кнігу ў рукі, ужо чалавек неабыякавы да нашай спадчыны) ашчадна і мэтанакіравана збіраць, запісваць, фіксаваць у інтэрнэт-блогах або ў газетах-часопісах назвы нашых мясцін, іх паходжанне, тлумачэнне, форму вымаўлення, арэалы распаўсюджвання. Так мы ўратуем частку нашай моўнай спадчыны, захаваем багацце нашай роднай мовы. І тым самым застанёмся самімі сабой — адметным народам зямной цывілізацыі.

# КРЫНІЦЫ

1. Байкоў, М. Я. Беларуска-расійскі слоўнік. Факсімільнае выданне / М. Я. Байкоў, С. М. Некрашэвіч. — Мінск : Народная асвета, 1993. — 360 с.
2. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія. 3 : Структура ўласных мужчынскіх імён / М. В. Бірыла. — Мінск : Навука і тэхніка, 1982. — 320 с.
3. Горбаневский, М. В. В мире имён и названий / М. В. Горбаневский. — М. : Знание, 1987. — 208 с.
4. Жучкевич, В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. А. Жучкевич. — Минск : Изд. БГУ, 1974. — 448 с.
5. Жучкевич, В. А. Общая топонимика : учеб. пособие для геогр фак. вузов / В. А. Жучкевич. — Минск : Вышэйшая школа, 1968. — 432 с.
6. Ласкоў, І. Дагістарычныя блуканні : Літва і Жамойдзь / І. Ласкоў // ЛіМ. — 1993. — № 18–19.
7. Ласкоў, І. Памяць зямлі / І. Ласкоў // Крыніца. — 1996. — № 7.
8. Ластоўскі, В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Выданне факсімільнага тыпу / В. Ластоўскі. — Мінск : Навука і тэхніка, 1990. — 834 с.
9. Ліпскі, У. С. Мы : Аповесць пра нашы прозвішчы / У. С. Ліпскі. — Мінск : Беларусь, 2006. — 262 с.
10. Лыч, Л. М. Назвы зямлі беларускай / Л. М. Лыч. — Мінск : Універсітэцкае, 1994. — 128 с.
11. Мезенко, А. М. Имя внутригородского объекта в истории : Об урбанонимах Беларуси XIV — нач. XX в. / А. М. Мезенко. — Минск : Вышэйш. шк., 2003. — 301 с.
12. Мікратапанімія Беларусі : матэрыялы. — Мінск : Навука і тэхніка, 1974. — 328 с.
13. Мурзаев, Э. М. География в названиях / Э. М. Мурзаев. — М. : Наука, 1979. — 168 с.
14. Мурзаев, Э. М. Словарь народных географических терминов / Э. М. Мурзаев. — М. : Мысль, 1984. — 653 с.
15. Ожегов, С. И. Словарь русского языка : ок 57 000 слов / С. И. Ожегов ; под ред. чл.-корр. АН СССР Н. Ю. Шведовой. — 18-е изд., стереотип. — М. : Рус. яз., 1987. — 797 с.
16. Памяць : гіст.-дакум. хроніка. Пастаўскі раён. — Мінск : БЕЛТА, 2001. — 688 с.

17. Пракаповіч, І. М. Назвы нашых вёсак / І. М. Пракаповіч // Краязнаўчая газета. — 2010. — № 30–48; 2011. — № 1–10.
18. Пракаповіч, І. М. Назвы нашых вёсак / І. М. Пракаповіч // Пастаўскі край. — 2010. — № 75, 77, 80, 81, 83, 87, 89, 91, 93, 96, 99; 2011. — № 1, 3, 10, 21, 23, 47, 49, 51.
19. Пракаповіч, І. М. Чароўны край — Пастаўшчына : (гісторыка-краязнаўчы курс «Паставазнаўства») / І. М. Пракаповіч. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 304 с.
20. Пракаповіч, І. Назвы вуліц горада Паставы / І. Пракаповіч, В. Літвіновіч. — Паставы : ТБМ-УП «Пастаўская друкарня», 2012. — 44 с.
21. Пракаповіч, І. М. Адкуль паходзяць назвы / І. М. Пракаповіч // Пастаўскі край. — 1996. — 26 чэрвеня; 10 ліпеня; 11 верасня.
22. Пракаповіч, І. М. Дзе нашыя карані? / І. М. Пракаповіч // Сумежжа. — 1993. — 16–31 жніўня.
23. Пракаповіч, І. М. Што ў назве ? / І. М. Пракаповіч // Пастаўскі край. — 1995. — 24 мая.
24. Рылюк, Г. Я. Истоки географических названий Беларуси / Г. Я. Рылюк. — Минск : Веды, 1997. — 176 с.
25. Словарь иностранных слов. — 18-е изд., стер. — М. : Рус. яз., 1989. — 624 с.
26. Стыпула, Р. Польско-русский словарь : ок. 3500 слов / Р. Стыпула, Г. В. Ковалёва. — 6-е изд., стер. — М. : Рус. яз.; Варшава : Ведза Повшехна, 1989. — 864 с.
27. Суперанская, А. В. Что такое топонимика? / А. В. Суперанская. — М. : Наука, 1984. — 182 с.
28. Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1983. — 672 с.
29. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. — Т. 1–5. — Мінск : Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыі. — 1977–1984.
30. Финско-русский словарь : ок. 15 000 слов / сост. М. Э. Куусинен. — 3-е изд., испр. и доп. — Петрозаводск : Карелия, 1993. — 200 с.
31. Эрзянско-русский словарь / под ред. Д. В. Бубриха. — М. : Госизд. иностр. и национальных словарей, 1949. — 292 с.

У працы выкарыстоўваліся слоўнікі і перакладчыкі розных інтэрнэт-рэсурсаў.

# АСНОЎНЫ КАРТАГРАФІЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

1. Goduzischki. 1917. M 1 : 100000
2. Hoduciszki. 1921 r. M 1 : 100000
3. Hoduciszki. 1932 r. M 1 : 100000
4. Kosjany. 1917. M 1 : 100000
5. Koziany. 1932. M 1 : 100000
6. Miadzioł. 1932. M 1 : 100000
7. Postawy. 1932. M 1 :100000
8. Święciany. 1932. M 1 : 100000
9. Świr. 1932. M 1 : 100000
10. Uebersichtskarte von Mitteleuropa Dwinsk (Duenaburg). 1894. M 1 : 300000
11. Uebersichtskarte von Mitteleuropa Wilejka. 1896. M 1 : 300000
12. Wilejka. 1924. M 1 : 300000
13. Карты расійскіх ваенных тапографаў («трохвёрсткі») канца XIX — пачатку XX ст.
14. Пастаўскі павет 1928.
15. Пастаўскі павет 1930 (турысцкая)
16. Поставы. 1930. М 1 :100000 (N-35-30-Г)
17. Поставский район. 2006. М 1 : 100000
18. Тапаграфічная карта Пастаўскага раёна і суседніх тэрыторый М 1 : 100000 (без вых. дадзеных, для службовага карыстання, 70-я гады XX ст.)

# ЗМЕСТ

Усе малюнкі да падраздзела 4.2. «Назвы вёсак у легендах і паданнях» выканала вучаніца 11-га класа Пастаўскай гімназіі Кацярына Дунец.

Аўтар будзе ўдзячны ўсім за заўвагі, удакладненні і меркаванні, якія можна даслаць на адрас: **вул. Паркавая, 52, 211875, Паставы**, або на e-mail: **igarpr@gmail.com**

*Навукова-папулярнае выданне*

**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч

**НАЗВЫ НАШЫХ МЯСЦІН**

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 29.03.2013. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 8,97. Ум. друк. арк. 10,29.
Наклад 400 асобнікаў. Зак. 188.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.